№6 (109)
/лістапад-снежань/ 2020

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Уладзімір Някляеў.**
Ягайла.
*Драматычная паэма ў дзвюх дзеях.* / 5
**Антаніна Хатэнка.**
Лучво. *Вершы.* / 68
**Васіль Жуковіч.**
Лірыка жніўня. *Вершы.* / 105
**Віктар Ярац.**
Уверцюра прадвесня. *Вершы.* / 142
**Андрэй Козел.**
Пошук. *Версэты.* / 164

**Проза**

**Віктар Варанец.**
Сэкс, кнігі і каханне. *Аповесць.* / 48
**Уладзімір Садоўскі.**
Менск 1937. *Урывак з рамана.* / 80
**Янка Вольская.**
Празмернае ўжыванне алкаголю
шкодзіць вашаму здароўю.
*Перадновагодняя аповесць.* / 112
**Алесь Бычкоўскі.**
Час разумнікаў. *Апавяданне.* / 152

**Дэбют**

**Кася Іофе.**
Акварэль у клетачку. *Вершы.* / 168

**Пераклады**

**Аўром Суцкевер.**
Дзіцячыя далонькі. *Апавяданні.*
*Пераклад Фелікса Баторына.* / 176

| | |
|---|---|
| **Тэатр** | **Сяргей Кавалёў.** Шляхціц Завальня, або Беларусь Яна Баршчэўскага. *П'еса ў 2-х дзеях паводле твораў Яна Баршчэўскага.* / 185 |
| **Эсэ** | **Адам Глобус.** Цой. *Словы пра рок-зорку.* / 215 |
| **Запісы** | **Леанід Дранько-Майсюк.** Апошні красавік. *Старонкі з «Памятнай кніжкі».* / 220 |
| **Згадкі** | **Валянцін Акудовіч.** На рыштаваннях горада Сонца. *З новай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)». (Заканчэнне).* / 230 |
| **Прачытанне** | **Алена Лепішава.** Terra Incognita беларускай літаратуры. *Рэфлексія на новыя кнігі Змітра Вішнёва і Альгерда Бахарэвіча.* / 246 |
| **Кнігапіс** | **Бэата Сівэк.** Узровень праўды. *Рэцэнзія на кнігу Людмілы Сіньковай.* / 255 |

Уладзімір Някляеў



...Скажыце мне, вы самі ўсё зрабілі,
Што вы маглі зрабіць?
Айчыну зберaглі,
Каб вас нашчадкі вашы не судзілі?..
Дык вось, мы ўсё зрабілі, што змаглі,
А вы судзіце...

# Ягайла

## *Драматычная паэма ў дзвюх дзеях*

**Дзейныя асобы:**

АЛЬГЕРД, вялікі князь літоўскі.
КЕЙСТУТ, вялікі князь літоўскі, брат Альгерда.
ЯГАЙЛА, кароль Польшчы, вялікі князь літоўскі, сын Альгерда.
ВІТАЎТ, вялікі князь літоўскі, сын Кейстута, стрыечны брат Ягайлы.
СКІРГАЙЛА, брат Ягайлы, князь троцкі, полацкі, намеснік Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім.
СВІДРЫГАЙЛА, вялікі князь літоўскі, малодшы брат Ягайлы.
ЮЛЬЯНА, княжна цвярская, жонка князя Альгерда, маці Ягайлы, Скіргайлы і Свідрыгайлы.
ГАННА, княжна смаленсая, вялікая княгіня літоўская, жонка князя Вітаўта.
ЛЮБОЎ, пакаёўка княгіні Ганны.
АНДРЭЙ, князь полацкі, сын Альгерда ад першай жонкі.
ДЗМІТРЫ, князь бранскі, сын Альгерда ад першай жонкі.
ПРОРА, камендант Крэўскага замка, каморнік Ягайлы.

ВЯСНА, лоўчы Ягайлы.
ГАНУЛЬ, віленскі стараста.
ЛІНДЭН, камандор Тэўтонскага ордэна.
ВАЙДЫЛА, баярын, сваяк Ягайлы.
АЛЯКСАНДР ДАНСКІ, князь маскоўскі.
ПІМЕН, мітрапаліт.
ЯДЗВІГА АНЖУЙСКАЯ, каралева Польшчы.
АЛЬЖБЭТА БАСНІЙСКАЯ, каралева Вугоршчыны, маці Ядзвігі.
ВЭРДЭ ВІСКОНЦІ, аўстрыйская герцагіня.
СТАСЯ, пакаёўка каралевы Ядзвігі.
ЯН РАДЛІЦА, епіскап кракаўскі, канцлер вялікі каронны.
БАДЗАНТА, архіепіскап гнезненскі.
УЛОДКА, кракаўскі чашнік.
КРЫСЦІН, казімірскі дзяржаўца.
ГАНУЛЬ, стараста віленскі.
ГЕНРЫК, князь мазавецкі.
ПЯТРО ШАФРАНЕЦ, кракаўскім падстолі.
БОНЧА, лідскі стараста.
ЛІТВА, прывід.
СОФ'Я ГАЛЬШАНСКАЯ, чацвёртая жонка Ягайлы, каралева Польшчы.
ВОЙЦЕХ ЯСТШЭМБЕЦ, архіепіскап гнезненскі, прымас Польшчы.
ЗБІГНЕЎ АЛЯСНІЦКІ, кракаўскі біскуп.
ДОКТАР.
КСЁНДЗ.
ЦЫРЫМОНІМАЙСТАР.
Вяльможы, госці, стражнікі, слугі.

*Дзея адбываецца ў XIV-XV стагоддзях у Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы.*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ПЕРШАЯ

Крэва. Зіма 1377 года. Пакой у княскай вежы Крэўскага замка. У пакоі вялікі князь *Альгерд*. З'яўляецца *Кейстут*, па якім відаць, што ён з зімовай дарогі.

АЛЬГЕРД
Вітаю цябе, Кейстут! Як дарога?
КЕЙСТУТ
Каб я быў вернікам, сказаў бы –
як да Бога.
АЛЬГЕРД
Такая файная?
КЕЙСТУТ
Кружлівая такая.
Снягамі, як грахамі, замятае,
Куды цябе вядзе, сама не знае.
Скажы мне, брат мой, як жыццё тваё?
АЛЬГЕРД
Жыццё – нібы кап'ё.
Ёсць толькі вастрыё.
Астатняе ў кап'і –
з любога лесу дрэўца.
КЕЙСТУТ
Але ж без дрэўца не ляціць кап'ё.
АЛЬГЕРД
Так, не ляціць. Таму нідзе не дзецца –
А трэба ў гэты лес заходзіць і кружыць,
Блукаць, грыбы збіраць...
І гэта значыць – жыць.
Так дрэўца кожнае жыве...
Любое дрэва.
КЕЙСТУТ
Чаму ты запрасіў сюды мяне?
У Крэва?
Да Вільні з Трокаў мне бліжэй было.
АЛЬГЕРД
Бліжэй было... Ды дзіўнае святло
І неба ў Крэве... Тут мы так любілі
Глядзець увысь з Ярылай гары
І слухаць ганчара старога былі...
*(Змяніўшы інтанацыю.)*
У Крэве мы з табою падзялілі
Зямлю і ўладу, і з тае пары,
Што падзялілі, з тым мы і жылі,
І вернымі былі тут дадзенаму слову.
КЕЙСТУТ
Ты хочаш падзяліць зямлю нанова?

АЛЬГЕРД
Ды не зямлю! Зямлі мне дастаткова!
Ад мора і да мора той зямлі!
КЕЙСТУТ
Тады наўпрост кажы, а не цвялі,
Не напускай туман...
АЛЬГЕРД
Скажа мне, ты Каран
Чытаў?
КЕЙСТУТ
Паганец я. Мне Бібліі хапіла.
АЛЬГЕРД
Але ж татарскі трохі маеш твар.
Дык у Каране Бог – Ён гаспадар,
А не якаясьці няведамая сіла,
Што свет увесь урэшце скалане...
Ёсць гаспадарка, Кейстут, і ў мяне.
І час яе аддаць. Бо хутка я памру...
*(На жэст Кейстута.)*
Памру! Памру... Насмерць стаміўся я
І не трымаю ўжо ў руках кап'я.
Пара аддаць яго гаспадару.
Хачу сказаць, каму...
КЕЙСТУТ
Кажы. Мы тут адны.
АЛЬГЕРД
Ты помніш, бацька наш,
вярнуўшыся з вайны,
Паклікаў нас з табой. Сказаў:
вы два сыны
Мае любімыя, ды ёсць найлюбы сын,
І гаспадарыць будзе ён адзін.
Вялікім князем стаў тады Яўнут.
КЕЙСТУТ
Таму твой сын Ягайла зараз тут?
АЛЬГЕРД
Так, Кейстут. Мой Ягайла тут таму.
Я вырашыў Літву аддаць яму.
КЕЙСТУТ
Ну, што ж, Альгерд. Ягайла –
сын твой крэўны.
Яўнут праз маці князем стаў,
праз Еўну,
Што бацьку ўгаварыла. Гедыміна.
Ёсць маці і ў твайго малога сына...
АЛЬГЕРД
Ты гэта да чаго?
КЕЙСТУТ
Скажы мне без падману:
Хто ўгаварыў цябе?
Ці не твая Юльяна?
АЛЬГЕРД
Юльяна – жонка. І са мной жыве.
Але не ў розуме маім. Не ў галаве.
У галаве маёй Літва. Дзяржава.
Ты – брат мой, і таксама маеш права
На княжанне, і больш за тое, ты
Калісьці гэтым правам паступіўся
І мне яго аддаў... Я не забыўся
Пра гэта, Кейстут! Для мяне святы
Саюз наш братні, у якім Літвою
Мы разам валадарылі апошнія гады,
Ды толькі састарэлі мы з табою.
Кап'ё ступілася.
КЕЙСТУТ
Ягайла – малады.
АЛЬГЕРД
Ты так сказаў...
КЕЙСТУТ
Што я сказаў не так?
АЛЬГЕРД
Ну, неяк так сказаў, нібы крыўдуеш.
КЕЙСТУТ
А ты б не ўскрыўдаваў?..
*(Кліча.)*
Ягайла, чуеш!..
*(З'яўляецца Ягайла.)*
Я ўпершыню на брата ўскрыўдаваў!
Бо брат мой, бацька твой,
вялікім князем стаў
Толькі таму, што я яму памог!
Хоць я не веру ў Бога – бачыць Бог,
Што гэта праўда!
АЛЬГЕРД
Гэта праўда, сын.
КЕЙСТУТ
Ну, вось...Прызнаў.
На тым бадай, амінь.
АЛЬГЕРД
Ды я заўсёды гэта прызнаваў!
Ягайла знаў пра гэта!..
ЯГАЙЛА
Так. Я знаў.
І дзякуй табе, дзядзька. Я пра тое
Не забываў ніколі, і святое
Братэрства ваша стала для мяне!
Я ведаю, як бацьку на вайне
Ты зберагаў, як ратаваў яго...
Без вас абодвух і жыцця майго

Магло б не быць...
Мне гэта не забыць,
Як слоў малітвы, клятвы, запавета...
Як бацьку, буду я цябе любіць,
Да дзён апошніх буду помніць гэта.
КЕЙСТУТ
Сядай, Ягайла! Скончаны дзялёж.
АЛЬГЕРД (*да Кейстута*).
Ты наздзіўляў мяне за ўсё жыццё!
І ўсё ж
Не перастаў ты, брат, мяне здзіўляць!..
ЯГАЙЛА
Дык што? Сталы ў ядальні
накрываць?
КЕЙСТУТ
Чакайце са сталамі...
*(Гукае.)*
Сын!...
ВІТАЎТ, *з'яўляючыся.*
Я тут.
КЕЙСТУТ
Не меншыя правы, чым меў Яўнут
Вялікім князем быць, сягоння
Вітаўт мае.
ЯГАЙЛА
Ён мой стрыечны брат.
І ён мне саступае,
Як ты калісьці бацьку саступіў.
КЕЙСТУТ
Як саступае?
*(Да Вітаўта.)*
Ты з ім гаварыў?
ВІТАЎТ
Так. Гаварыў я з ім. У нас дамова.
КЕЙСТУТ
У вас дамова? І ты мне – ні слова?
Ты сын мой?
ВІТАЎТ
Сын.
КЕЙСТУТ
Не сын ты мне ніякі!
ВІТАЎТ
Чаму не сын?
КЕЙСТУТ, *павёўшы рукой па шыі.*
Бо во як даўся ў знакі!
Аддаў Ягайлу ўладу!
ВІТАЎТ
Для Літвы
Мы хочам жыць з Ягайлам!
*(Да Кейстута з Альгердам.)*
Так, як вы!
Як дзед наш Гедымін
жыў з родным братам!
Ці гэта казкі ўсё?.. Дык вінаваты
Вы самі ў тым, што іх распавядалі!..
КЕЙСТУТ
Не казкі гэта нашы!..
*(Да Альгерда.)*
Бачыш?.. Сталі
Разумныя ўсе надта да пары!
Каранаў начыталіся!..
Не, што ні гавары,
А моладзь зараз нейкая...
ВІТАЎТ
Якая?
КЕЙСТУТ
Ну, не такая як павінна быць!..
Ніколі ні пра што не стаў бы гаварыць
Ні з кім я, не сказаўшы бацьку, з кім!..
АЛЬГЕРД
Ну, значыць гаварыў ты з бацькам
не сваім,
Бо мы з табой рабілі, што хацелі...
КЕЙСТУТ
Я б з'есці штосьці хацеў, пакуль усё
не з'елі.
Віно хоць ёсць?
АЛЬГЕРД
У Крэве ёсць віно.
Ты помніш, Кейстут, як даўным даўно
Пілі мы тут яго – і як нам смакавала!
Як усяго, што ёсць, было нам мала,
Як мы хацелі большага, як мы,
Калі Яўнут зняволіў нас, з турмы
Сюды ўцяклі... Як мы тут слова далі
Літву не прадаваць, і як не прадавалі,
Мы ні яе, ні наш саюз святы,
Як пакляліся ў тым...
*(Да Ягайлы і Вітаўта.)*
Кляніцеся, браты!..
Ягайла, ты кляніся... Вітаўт, ты...
Кляніцеся, што праз усё жыццё
Адзін аднога вы не прадасцё!
ВІТАЎТ
Клянуся, брат!
ЯГАЙЛА
І я клянуся, брат!..
*(Да Альгерда і Кейстута.)*
А вам клянуся не забыць ніколі
Наказ, які пакінулі мне вы:

Улада – не вятры, якіх ці тры, ці болей.
Яна – адна. І ў ёй адзінства волі,
Адзінства сіл вялікае Літвы!
КЕЙСТУТ *да Альгерда.*
Ён так сказаў, як я не чуў даўно...
АЛЬГЕРД
За гэта трэба выпіць!
*(За сцэну.)*
Дзе віно?..
*(Да Кейстута.)*
Давай успомнім брат, часы былыя!..
*(Уваходзіць падчашы з чатырма келіхамі, Вітаўт з Ягайлам цягнуцца да келіхаў, бацькі б'юць іх па руках.)*
Малыя – піць!
ЯГАЙЛА
А княжыць – не малыя?
КЕЙСТУТ *да падчашага, паказваючы на келіхі*
Які з атрутай?
АЛЬГЕРД, *падаючы Кейстуту келіх.*
Гэты, брат, з віном...
Прашу для сына стаць апекуном.
КЕЙСТУТ, *беручы келіх.*
Ну, што ж... Ён не дурнейшы
за Яўнута.
АЛЬГЕРД
За тое вып'ем, што не будзе смута
Душу вярэдзіць болей вам і мне!
*(Да Кейстута.)*
Як бацька нам казаў? Ты не забыўся?..
КЕЙСТУТ
Не.
Казаў нам бацька: ісціна ў віне
Нават тады, калі ў віне атрута!
*(Выпіваюць.)*
ЯГАЙЛА *да Вітаўта.*
Не вып'ем, дык абдымемся, мой брат...
*(Абдымаюцца, доўга стаяць.)*
КЕЙСТУТ
Ну, досыць. А то ўжо ўсяго зашмат.
*(Выходзячы пад рукі з Альгердам і Вітаўтам.)*
Колькі ўсяго было!..
*(Азіраецца.)*
Дзе ўсё яно? Няма...
ЯГАЙЛА *адзін.*
Чаму няма? У Крэве ёсць турма.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ДРУГАЯ

Вясна 1379 года. Крэўскі замак. Пакой у княскай вежы. У пакоі *Скіргайла* і *Свідрыгайла* гуляюць у шахматы.

СВІДРЫГАЙЛА
Ты пешку ўкраў! Бог бачыць круцяля!
СКІРГАЙЛА
Маўчы, цяля малое!
СВІДРЫГАЙЛА
Сам цяля!
*(Да ўваходзячых Ягайлы і Юльяны.)*
Ягайла! Мама! З гэтым круцялём
Я не хачу больш ні гуляць, ні знацца!
ЯГАЙЛА, *уваходзячы з Юльянай*
Чаму мы ў Вільні разам не жывём?
Калі ўжо з Крэва ты
надумаеш сабрацца?..
Ад той пары як бацьку пахавалі,
Штось наўскасяк, не так пайшло
ў сям'і...
СКІРГАЙЛА
Бо ў Лідзе я пасад прасіў! Не далі.
Баярыну. Вайдылу аддалі.
Ён і сястру маю прыхапаў у прыдачу!
Знайшлі ёй мужыка!
Па ім вяроўка плача.
Вунь крук якраз у столі...
ЮЛЬЯНА
Ты ў мяне
Заплачаш зараз!..
*(Да Ягайлы.)*
Так усё, ці не,
А ў замкавых мурах жыву спакойна я.
Тут наша абаронена сям'я,
А каля Вільні Кейстут блізка ў Троках.
Былы твой апякун...
Ты на хвіліну вока
З яго зводзь! Такіх апекуноў
Я б закапала глыбака-глыбока!..
Што б ні казаў ён, ты не слухай слоў,
Бо словы з рота птушкамі ляцяць,
А ў рот яны вяртаюцца валамі!..
Апекуны цяпер сабе мы самі,
Нас больш няма каму апекаваць.
Вядома, калі бацька быў жывы,
Калі стаяў ён тут, як слуп той межавы,
Дык аніхто сюды не сунуў нос...
ПРОРА, *уваходзячы*
Да князя госць...

ЮЛЬЯНА
Каго там чорт прынёс?
ПРОРА
Пасол ад крыжакоў.
Магу яго паслаць.
ЯГАЙЛА
Куды паслаць? Скажы, што я чакаю.
СВІДРЫГАЙЛА
Я са Скіргайлам болей не гуляю!
Няхай у Ліду едзе!
СКІРГАЙЛА
Сам ты едзь...
ЯГАЙЛА
Скіргайла, не стагні!
Ты Полацк будзеш мець!
СКІРГАЙЛА
Калі я буду мець?
ЯГАЙЛА
На лета ўжо сядзець
У Полацку ты будзеш на кані!
СКІРГАЙЛА *да Свідрыгайлы*
Як ты каня пабіў?
СВІДРЫГАЙЛА
Скіргайла, не стагні...
ЛІНДЭН, *уваходзячы*
Вялікі князь!.. Вітаю ўсіх!..
*(Кланяецца.)*
Княгіня...
Ваш сын увесь у вас. А вы ўся
ў вашым сыне.
ЯГАЙЛА
Сам камандор!.. Для нас
вялікі гонар!..
ЮЛЬЯНА
Вось чаму ў лесе нашым
гэткі гоман
Узняўся з рання!..
*(Да Проры.)*
Стол ідзі збяры...
*(Прора выходзіць.)*
ЛІНДЭН *да Юльяны*
Я быў у бацькі вашага ў Цвяры.
Звычайныя там людзі. Не звяры.
Хоць трохі не хапае ім культуры.
ЮЛЬЯНА *з'едліва*
Там гэтак тонка не здзіраюць скуры
З людзей, як вы здзіраеце?..
ЛІНДЭН
Ну, што вы!
У нас даўно шаўковыя абновы.
Са скуры ёсць, але не з чалавечай...
Вам падарунак ад магістра...
*(Падае скураную жаночую торбачку.)*
ЮЛЬЯНА
З вечнай
Авечай скуры?
ЛІНДЭН, *зірнуўшы на Ягайлу*
Не, гэта цяля.
СВІДРЫГАЙЛА *да Світгайлы*
Ты пешку зноў украў!
Бог бачыць круцяля!
ЯГАЙЛА
Дык што занесла вас?
ЛІНДЭН
Па даручэнні я
Валікага магістра. Ён даслаў
Са мною ліст.
ЯГАЙЛА
І што там напісаў?
ЛІНДЭН
Вам прачытаць?
ЮЛЬЯНА
Так, прачытайце нам.
ЛІНДЭН *чытае*
«Вялікі князь! Паведамляю вам
Што Кейстут, троцкі князь,
з сынамі намышляе
Расправу з вамі. З гэтым пасылае
Сыноў сваіх да нас. І з тым нядаўна сам
У Мальбургу ён быў, дзе з намі
гандаль вёў,
Пытаў, за што, за колькі мы гатовы
Дапамагчы яму...»
Далей вітання словы
І пажаданні: мір вам і любоў.
ЮЛЬЯНА
Мір і любоў...
*(Да Ягайлы.)*
А ты пытаў пра Вільню...
*(Ягайла праводзіць рукой па вачах.)*
ЛІНДЭН
Што з вамі, князь?
ЯГАЙЛА
Нічога. Мокра. Вільгаць.
*(Гукае.)*
Вайдыла!
ВАЙДЫЛА, *уваходзячы*
Слухаю...
ЯГАЙЛА
Ты чуў усё?

ВАЙДЫЛА
Я чуў.
ЯГАЙЛА
Збірайся ў Мальбург!
ВАЙДЫЛА
Князь, я палячу,
А не паеду!.. Выведзем начыста
Альгердаў род!..
ЯГАЙЛА
Дамовішся з магістрам
Калі і дзе сустрэцца можам мы...
І як мага хутчэй... Каб да зімы
З усім пакончыць!..
*(Ходзіць па пакоі.)*
Мы вось тут кляліся!
Віно пілі!..
*(Крычыць у вакно.)*
Яны глядзелі ў высі,
Яны тут казкі слухалі і былі,
Пра тое, як у нас
браты братоў любілі!
Я з імі сто разоў на паляванні быў!..
Каб ведаў, дык абодвух бы забіў.
ЛІНДЭН
Вы знаны паляўнічы... Адмысловы...
Магістр казаў, што можа ён на ловы
Да вас прыехаць. Вось і тэкст дамовы
Напісаны... Чытаць?
ЮЛЬЯНА
Чытайце нам.
ЛІНДЭН
Тут шмат казённых слоў...
Бадай, я перадам
Кароткі змест... Лівонія і Прусы
Падтрымліваюць вас.
У іх няма спакусы
Ісці на Вільню. А калі яны
На Трокі раптам пойдуць, на Гародню,
Вы, як вялікі князь, не чыніце вайны,
Яны ідуць па ўсёй Літве свабодна,
І колькі будуць у Літве стаяць,
Не зможа Кейстут ваш пасад забраць.
ЯГАЙЛА
Я паў-Літвы за ўладу не аддам.
ЛІНДЭН
Вам жыць... вялікі князь!
Але ці быць ім вам?
ЯГАЙЛА *да Вайдылы праз доўгую паўзу.*
Ідзі збірайся...
ЛІНДЭН *да Вайдылы.*
Я з табой паеду.
ПРОРА, *уваходзячы.*
Прашу ўсё панства ў залу да абеду!
ЛІНДЭН
А рукі вымыць дзе?..
ВАЙДЫЛА
Я вас магу правесці...
*(Выходзяць. У пакоі застаюцца Скіргайла і Свідрыгайла.)*
СКІРГАЙЛА
Кагосьці хтосьці моцна хоча з'есці...
А я тым часам пешку тваю з'еў!
СВІДРЫГАЙЛА
Ты схапаў зноў яе!
*(Хапае дошку, б'е Скіргайлу па галаве.)*
Бадай ты спруцянеў!..

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ТРЭЦЯЯ**

*Паўзмрок на сцэне.*
*Смех, рогат, свіст.*

ГАЛАСЫ:
Э-гэй! Дзівіся, полацкі народ!
Скіргайла едзе задам напярод!
Нібы з яго каня, ідзе з яго смурод!
Глядзі! Дзівіся, полацкі народ!
Які Скіргайла?
Брат Ягайлы?
Ён!
Скіргайла, вон!
Скіргайла, вон!
Скіргайла, вон!

*На сцэне святло.*
Пакой у замку Кейстута ў Троках.
У пакоі *Кейстут* і *Вітаўт.*

КЕЙСТУТ
Так і пагналі?
ВІТАЎТ
Задам на кані!
А у каня – дрыстун!.. Я рагатаў
тры дні.
Цяпер таго каня Ягайлам люд заве...
Не любяць нешта брата на Літве.
КЕЙСТУТ
Ёсць гнаць за што –
няма за што любіць.

Каб князя ў нас любілі, трэба быць...
Не знаю нават, кім... Самім дабром.
ВІТАЎТ
Валадаром!
КЕЙСТУТ
Ну, так, валадаром...
Нібы і на гары валадары,
А ледзь піхнуў – і коцяцца з гары.
*(Дастаючы пергамен з шуфлядкі стала.)*
Дык мы з табой амаль што пад гарой...
Ягайла заключыў саюз з Ардой.
Яго на гэта змусіла Юльяна,
Каб памагчы Цвяры адбіцца
ад Масквы,
Каб бацьку памагчы...
А для Літвы пагана...
Пагана гэта, Вітаўт, для Літвы.
*(Над мапай на стале.)*
Мамай і Полацк у аблогу возьме.
Нам трэба ратаваць Літву,
пакуль не позна.
У нас на ўсходзе Русь і татарва,
На захадзе ажно гарыць трава
Пад крыжакамі... Ліст мне напісаў
Мой асцяроцкі кум... Ягайла склаў
Дамову з крыжакамі – і таму
Яны не шкодзяць аніяк яму,
А нашы землі паляць і рабуюць...
Калі ж яшчэ й татары залютуюць –
Яны Літву
ажно да Польшчы спаляць!
ВІТАЎТ
Не можа быць!
Шмат пра Ягайлу маняць...
КЕЙСТУТ
Але і праўду кажуць!
ВІТАЎТ
Ён не мог
Пайсці на здраду!
Бацька, бачыць Бог:
Я за Ягайлам ведаю такое,
Што сорамна сказаць,
але не веру ў тое,
Што можа ён Літву прадаць! Не веру!
КЕЙСТУТ
Ну, добра... Кум паабяцаў паперу
Мне паказаць...
Наперад нельга знаць,
Хто хоча нас купіць, а хто прадаць.
ВІТАЎТ
Павер мне ты: Ягайла не святы,
Але не здрайца ён!
КЕЙСТУТ
Я веру, што з табою?..
Але дамовімся: цяпер перада мною
За ўсё, што зробіць ён,
адказваць будзеш ты!
КАМОРНІК, *уваходзячы.*
Да вас Ягайлы зводныя браты.
Андрэй і Дзмітрый.
КЕЙСТУТ *да Вітаўта, даўшы знак каморніку, каб клікаў гасцей.*
Вось у іх спытайся,
Што можа брат іх зводны, а што не?..
Сыны ад першай жонкі
У вайне
З сынамі ад другой – і ім не пападайся
У гэтай братняй сечы пад руку!..
Адно і тое ў свеце!.. І ў раку
Адну і тую ўсе ступаюць двойчы.
А нават і часцей...
*(Да Андрэя і Дзмітрыя.)*
Даўно такіх гасцей
Не бачылі мы тут!..
*(Вітаюцца.)*
АНДРЭЙ
Такіх якіх? Нязваных?
Што за татараў горшыя?
КЕЙСТУТ
Абраных
Быць першымі, і не трываць, каб іх
Трымалі ці прымалі за другіх!
ДЗМІТРЫЙ
Вы нас прымаеце за першых?
КЕЙСТУТ
Так, бо вы
Старэйшыя браты.
І ты, Андрэй, Літвы
Вялікім князем мог бы быць...
АНДРЭЙ
І буду!
КЕЙСТУТ
Дай Бог! Дай Бог...
А колькі могуць люду
Браты твае сабраць,
каб мог ты князем стаць?
АНДРЭЙ
Каб не хваліцца мне,
хай гэта скажа брат.

ДЗМІТРЫЙ
За намі паў-Літвы!
Чарнігаў, Полацк, Бранск –
Увесь русінскі бок!
Ды зараз не аб тым...
Ягайла быў на паляванні. З ім
Магістр тэўтонскі быў. І падпісалі
Яны дамову там...
ВІТАЎТ
Мы разам палявалі!
Магістра не было.
Быў Ліндэн. Камандор.
АНДРЭЙ
Той Ліндэн, камандор,
нішто сабе актор.
Артыст!.. У Крэва ён прывёз
нядаўна ліст,
Які пісаў, ці не пісаў магістр,
Але Ягайлу напалохаў тым,
Што меч ужо занеслі вы над ім
І просіце магістра памагчы
Ягайлу галаву тым мечым адсячы!
КЕЙСТУТ
Крыві мне роднай на маім мячы
Не можа быць...
*(Да Вітаўта.)*
Дамову камандор
Падпісваў?
ВІТАЎТ
Ён не мог. Ні ў замак і ні ў двор
Мы не заходзілі. Абодва не маглі,
Я побач быў... І там яшчэ былі
Вайдыла... з крыжаком...
Не помню я, як зваць...
Ды служкі не маглі дамову падпісаць!
АНДРЭЙ, *падаючы паперу.*
Маглі, ці не маглі, а вось глядзі!..
ВІТАЎТ, *паглядзеўшы і перадаўшы паперу Кейстуту.*
Тут подпіс
Ягайлаў не стаіць...
Але дамова – жах...
Не знаю, што сказаць...
КЕЙСТУТ
Ты ўсё мне скажаш потым.
*(Да Андрэя.)*
Крыжык, імя якога Вітаўт падзабыў...
Ён кім там быў?..
АНДРЭЙ
Вось ён магістр і быў.
КЕЙСТУТ
А за Ягайлу падпісаў...
АНДРЭЙ
Вайдыла.
ВІТАЎТ
Ну ўсё, Вайдыла! Тут – твая магіла.
КЕЙСТУТ
Ды што Вайдыла! Мы яго павесім.
А вось Ягайла...
*(Да Андрэя і Дзмітрыя.)*
Што, браты, замесім?
Якое цеста, каб спячы пірог,
Якім Ягайла падавіцца б мог?
ДЗМІТРЫЙ
На цеста ёсць мука. Нам, князь, рука
Патрэбна вашая...
КЕЙСТУТ
Вось вам мая рука.
АНДРЭЙ
Даеце слова?
КЕЙСТУТ *іранічна.*
Што яшчэ вам даць?
АНДРЭЙ
Чакайце нас!
*(Андрэй і Дзмітрый выходзяць.)*
КЕЙСТУТ
Чакаць?..
Не будзем мы чакаць!

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ЧАЦВЁРТАЯ

1381 год. Вільня, гарадская брама.

ГАЛАСЫ
Літвіны! Вільня! Каля вашай брамы
Князь Кейстут з войскам!
Кейстут? Князь?
Ён самы!
Сын Гедыміна?
Гедыміна сын!
Ён з Вітаўтам?
Так! Тут ён не адзін!
Усе яго сыны на падыходзе!
Ягайлу годзе княжыць!
Годзе! Годзе!
Дык адчыняйма браму, каб не біць
Адзін аднога! Горад не паліць!
Каб не бурыць наш дом!..
*(Рыпенне брамы.)*
Вітаем князя Кейстута!

Чалом!..
Заходзь, наш князь,
у дом гаспадаром!
*(Святло на сцэне.)*

Княскі замак у Вільні. Зала прыёмаў. У дзвярах стражнікі. У зале *Ягайла* і *Юльяна*. Уваходзіць *Гануль*, староста віленскі.

ЯГАЙЛА
Староста, што за шум?
ГАНУЛЬ
У Вільні Кейстут.
ЯГАЙЛА
З кім?
ГАНУЛЬ
Падобна, з войскам.
ЯГАЙЛА
З войскам... А з чыім?
ГАНУЛЬ
Падобна, са сваім.
ЯГАЙЛА
А ў нас свайго няма?
ГАНУЛЬ
Падобна, што няма.
ЯГАЙЛА
Тады, падобна, Гануль, я дарма
Аддаў на войска княскую казну?
ГАНУЛЬ
Дык тут жа не вайна...
ЯГАЙЛА
А што?
ГАНУЛЬ
Дык на вайну
Пакуль што не падобна... Старана
Як бы адна...
ЯГАЙЛА
Дык будзе вам вайна!
КЕЙСТУТ, *уваходзячы*
Хто тут са мной сабраўся ваяваць?
Ягайла? Ты?.. Во лёс мой:
Вільню браць,
Свой горад браць ужо ў каторы раз!
Той раз Яўнута гнаў –
цяпер Ягайлаў час.
ЮЛЬЯНА
А хто тут хто? Хто князь вялікі з вас?
КЕЙСТУТ
Не ведаеш?.. Дык я хацеў якраз
Удакладніць... Сябе я абвяшчаю
Вялікім князем!.. Ведаеш цяпер?
ЮЛЬЯНА
Хто тут вялікі князь і без цябе я знаю!
А ты сюды ўварваўся, як той звер!
Лютуеш тут!.. Якое права маеш?!.
КЕЙСТУТ
Ягайла, а чаму ты не збягаеш?
ЯГАЙЛА
Нікуды я адсюль не пабягу.
КЕЙСТУТ
Не пабяжыш?.. Ты, можа быць, нагу
Падвывернуў? Дык мыліцу дадзім.
І пакульгаеш!
*(Да Юльяны.)*
А ты ўслед за ім!
Не хочаце? Тады іх у цямніцу!..
*(Стражнікі ідуць да Ягайлы.)*
ЯГАЙЛА
Стаяць усім!..
*(Хапае меч з-за спінкі крэсла.)*
Давай!..
КЕЙСТУТ, *беручыся за меч.*
Ты хочаш біцца?
Са мной?
ЯГАЙЛА
Так! На двубой
Цябе я, здрадніка,
прылюдна выклікаю!
КЕЙСТУТ, *набліжаючыся.*
За мною здрада ёсць? Скажы, якая?
ЯГАЙЛА, *робячы выпад.*
Вось гэта! Што стаіць супраць мяне,
Падняўшы меч! Не здрада гэта?!.
КЕЙСТУТ, *б'ючы*
Не!
Бо гэта помста! І якраз за здраду!
Ты крыжакам Літву аддаў за ўладу!
ЯГАЙЛА
Што ты вярзеш? Каму я што аддаў?
КЕЙСТУТ
Я пакажу табе... Глядзі: я меч паклаў.
І ты свой пакладзі...
*(Дае Ягайлу пергамен.)*
Глядзі...
ЯГАЙЛА, *паглядзеўшы пергамен, грэбліва вяртае яго Кейстуту.*
Такіх папер
Я пакажу табе...
КЕЙСТУТ *за сцэну.*
Вайдыла!..
*(Стражнікі ўводзяць Вайдылу.)*

ЯГАЙЛА
Ды не вер
Ты хаму гэтаму!
ВАЙДЫЛА
Чаму я раптам хам?
Баярын я. І зяць яшчэ я вам.
КЕЙСТУТ, *паказваючы дамову*
Свой подпіс на паперы ты прызнаў?
ВАЙДЫЛА
Ягайла загадаў... Я падпісаў...
КЕЙСТУТ *да стражнікаў*
Павесіць!
ВАЙДЫЛА
Не! За што?!. Няма маёй віны!
*(На Юльяну і Ягайлу.)*
Усё – яны!..
ЮЛЬЯНА *да Кейстута.*
Ты міру, ці вайны
З Ягайлам хочаш? Дык яго ў цiскі
Табе не ўзяць!.. Мой бацька –
князь цвярскі!
Ён не чапаў цябе. Але цяпер
Падыме на цябе не толькі Цвер,
Маскву і Кіеў – Русь усю падыме!
КЕЙСТУТ
Ды падымалі ўжо пры Гедыміне!
І зубы абламалі! Збілі рогі!..
Вунь крыжакі прыйшлі на ўсе дарогі,
Як на свае, у Нёмне мыюць ногі,
І чыняць здзек, глумяцца над Літвой!..
І дзе вялікі князь? Дзе сын, Юльяна,
твой?
Калі палаюць вёскі з гарадамі –
На паляванні сын твой з крыжакамі!..
А ты мяне палохаеш Масквой?
ЯГАЙЛА
Твой сын на паляванні разам з намі
Таксама быў...
КЕЙСТУТ
Дык ты і заманіў
Яго туды, каб здраду ён прыкрыў!
Але нічым прыкрыць
не выйдзе здраду,
Як сраку спераду, якая ззаду!..
ВІТАЎТ, *з'яўляючыся з мехам*
Я ў канцылярыі ўсё выграб са сталоў,
Тут цэлы пуд лістоў ад крыжакоў!
Іх можна й не чытаць.
Ва ўсіх адно і тое...
ЯГАЙЛА
Так! Можна не чытаць!
Бо гэта ўсё пустое!..
Ну, хітрыкі... Я не зрабіў благога
Нічога для Літвы...
Клянуся вам: нічога!
Нічога не аддаў! Нікога не прадаў!..
ВІТАЎТ
Ягайла, сціхні!.. Колькі ўжо даваў
Ты гэтых клятваў!
Бацьку, дзядзьку, мне!..
Іх болей, чым каменняў у сцяне
У Крэўскім замку!
Сам ты ўзвёў сцяну
Маны між намі! Праз тваю ману
Мы ў бруд усё ўтаптаныя! У гразь!..
КЕЙСТУТ
Сядзі у Крэве, князь! І з Крэва
не вылазь!
*(Дае знак стражнікам.)*
ЮЛЬЯНА, *ідучы ўслед за Ягайлам.*
Не тое робіш, Кейстут. І не ў час.
АНДРЭЙ, *уваходзячы з Дзмітрыем, да Кейстута.*
Дарма ты, князь, не дачакаўся нас.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ПЯТАЯ

1382 год. Крэўскі замак. Пакой у Кияскай вежы. Раскіданыя рэчы. Ложак каля сцяны, стол з мапай на ім. На ложку *Ягайла*. У пакоі прыбіраецца *Прора*.

ВЯСНА, *з'яўляючыся.*
Мы тыдні тры таму збіраліся на качак.
ПРОРА, *ківаючы ў бок Ягайлы.*
Якія качкі... Гэтакіх гарачак
Не бачыў я... Ужо якія суткі
Пасля Масквы...
ВЯСНА
Паўзуць па Крэве чуткі,
Што ён ажэніцца
з маскоўскаю княжной...
І будзем мы тады з Масквой,
ці пад Масквой?
ПРОРА
Сасватала з княжной яго Юльяна,
Каб Кейстута пагнаць мятлой паганай
Памог нам князь Данскі...
*(Ягайла ўскрыквае.)*

ВЯСНА
Бяруць яго ў ціскі,
Як зубра з двух бакоў
бяруць на ловах...
Не соладка яму ў Маскве
на перамовах
Было, відаць. Ён, мусіць, гэта сніць...
ПРОРА *над сталом з мапай*
Як на пагорку дуб, Літва стаіць
На ўсіх вятрах... І кожны паваліць
Хацеў бы дуба... Тут прысніш такое...
*(Глядзіць на Ягайлу.)*
Ён як бы і не тут... Не ў замку...
Не ў пакоі...
Кідаецца... І б'ецца з кімсьці ў сне...
Крычыць то пра Данскога,
то пра Бога,
А прачынаецца – не пазнае нікога...
ЯГАЙЛА, *ускокваючы*
Ты хто?.. Чаго ты хочаш ад мяне?
ПРОРА *да Ягайлы, накідваючы на сябе апратку князя Данскога.*
Великий князь! Душа моя!.. Садись!
ЯГАЙЛА, *сядаючы на ложку*
Прыехаў я правесці перамовы.
Са мной браты і маці...
*Уваходзяць Юльяна, Скіргайла і Карыбут. Ягайла падымаецца ім насустрач, хістаецца, ледзь не падае, Данскі падтрымлівае яго.*
ДАНСКІ
Ягайло, ты держись!..
Какие *перамовы*, право слово!
Жениться ты приехал? Так женись!
*(Гукае.)*
Эй, Софья! Ты пойдешь
за князя замуж?
СОФ'Я, *з'яўляючыся.*
Как скажешь, батюшка.
ДАНСКІ
Как скажешь... Да уж... Да уж...
Строптива. И умна не по летам.
*(Весела пляскае Ягайлу па плячы.)*
Подумаю, так, может, не отдам!
*(Да Соф'і.)*
Ступай!..
*(Да Ягайлы.)*
Вот мы с тобой один вопрос решили.
Хотя ребром стоял он. Или — или.
Теперь второй. Я знаю, что вы были
У немцев, у поляков... Наплевать.
Мы разом будем бить их, побивать.
ЯГАЙЛА
Я для таго ў Маскве...
ДАНСКІ
Ты здесь искать невест!..
Эй, Пимен?.. Или кто?..
Давай-ка, Пимен, крест!..
*(Вясна, накінуўшы апратку мітрапаліта Пімена, бярэ ў рукі крыж.)*
Ну! Будем целовать.
На верность князю. Мне.
На верность моим детям и жене.
*(Глядзіць на Ягайлу. Той глядзіць на братоў, браты на яго. Да Юльяны.)*
Ульяна, что он медлит? Объясни?..
*(Паказваючы на ўсіх.)*
Они не знали? Думали они,
Что как-нибудь иначе может быть?
Не может быть иначе! И забыть
Вы можете, что может быть иначе!
Не я прошу – вы просите помочь!
И я вам пособляю, а тем паче
Еще и отдаю в придачу дочь.
Отныне целиком, не как-то там отчасти
Вы поклоняетесь Москве,
как высшей власти.
И только так. И всем желаю счастья.
А коли нет, на нет и спроса нет.
И передайте Кейстуту привет.
Он, кстати, присылал ко мне гонцов...
Целуете вы крест в конце концов?
ЮЛЬЯНА
Целуем, князь...
ДАНСКІ
Кто первый целовать?..
*(Юльяна штурхае Ягайлу. Ягайла падыходзіць да крыжа, цалуе.)*
Нет, на коленях... Так...
Чтоб век не забывать
Про этот поцелуй!..
*(Свіргайла на каленях цалуе крыж.)*
Ну, молодца...
*(Цалуе крыж Карыбут.)*
Ну, чудно!..
*(Да Пімена.)*
Зря, что келейно... Надо бы
прилюдно!
*(Паказвае Скіргайлу, Карыбуту і Юльяне, што яны могуць ісці.)*

ПІМЕН, *крыжуючы тых, хто выходзіць.*

Вы приняты в святейшей церкви
лоно.
Благословенно будет лоно оно.
ДАНСКІ
Второй вопрос решили. Будем третий
Решать... касаемый и жития, и смерти.
Сначала я хочу вам дать совет.
Есть Бог на свете, или Бога нет...
*(У Пімена крыж выпадае з рук.)*
Но человеку должно верить в Бога!
И верить истинно! И верить строго!
Поскольку есть помазанники... Власть,
Которая дается от него!
И верить должно в Бога одного!
По православной вере!.. Не греша,
Или греша, жить в ней должна душа!
Лишь в ней она пребудет спасена,
Поскольку истинна она одна!
*(Да Пімена.)*
Я хорошо сказал?
ПІМЕН
Не скажешь лучше.
Лишь в нашей вере можно
наши души
Спасти и царство Божье обрести.
ДАНСКІ
Вот в том Литвы спасенье.
Воскресенье!
Возвысите вы православье в ней –
Возвысите себя в душе моей.
*(Над Ягайлам, які лёг на ложак.)*
Аминь.
На этом дело решено.
ЯГАЙЛА, *кідаючыся ў ложку*
Вакно! Хто-небудзь! Расчыні вакно!
Я задыхаюся!..

*(Прора расчыняе вакно, кідае ў яго княскую апратку. Вясна кідае апратку мітрапаліта, з крыжам не ведае што рабіць, кладзе на падваконнік.)*

ВЯСНА *да Проры*
Падай яму папіць...

ЯГАЙЛА, *папіўшы і сядаючы да стала.*

Як на пагорку дуб, Літва стаіць
На ўсіх вятрах... І кожны паваліць
Хацеў бы дуба...
Тут прысніш такое...
Я быў нібы не тут... Не ў замку...
Не ў пакоі...
А што гэта вы кінулі ў вакно?..
ПРОРА
Сабакам з'есці... Гаўкаюць даўно...
ЯГАЙЛА
Нам князь Данскі сказаў:
«Иного не дано.
Лишь вера. Верность.
Только власть Москвы».
Пасля спытаў...
*(Бярэцца за горла.)*
Во тут сядзіць яно:
«Иль власти над Москвой
хотели б вы?..
Так передайте Кестуту привет».
*(Над мапай.)*
Куды ж пайсці?
Сышоўся клінам свет...
А Кейстута не ўсюды прынялі!
Бунтуе Карыбут на Северскай зямлі.
Мне Кейстут даў загад:
«Ідзі на Навагрэд!»
Кажу: «Паслухай! Карыбут –
мой брат!
А мы не праліваем кроў братоў!»
А ён мне: «Гэта здрадніцкая кроў!»
Усе пераварочвае, як хоча...
Дык я чаго паклікаў вас уночы?
Запомніце: калі б між намі стаўся –
Між мной і Кейстутам –
бязлітасны двубой,
Калі б мы біліся насмерць
паміж сабой,
І каб не я, а ён жывы застаўся,
І ў замку аказаўся, дык у ім
Павінен ён застацца назусім!
Вы зразумелі?
ВЯСНА
Што тут разумець...
ЯГАЙЛА
Калі ўжо смерць, дык толькі
смерць за смерць!
*(Жэстам выпраўляе Прору і Вясну з пакоя.)*
ПРОРА
Усё мы зробім князь. Ты адпачні.
Паспі ты...
*(Выходзяць. Ягайла адзін. Грукат у браму.)*

ГОЛАС ПРОРЫ
Што грукаеце ноччу, езуіты!
О, колькі вас!.. І ўсе вы да карыта?
Не будзе ў нас на ўсіх на вас яды.
А з коньмі дык не хопіць і вады.
ГОЛАС ВЯСНЫ
Куды ты прэш з канём?.. Хто піў тут?
Хто тут быў?
Ягайла! Нехта сокала забіў!..
Я усіх вас за яго!.. Усіх!..
За адно вока!..
ГОЛАС
Ды сам ён на стралу нарваўся, сокал...
ЯГАЙЛА
Ну, свалата!..
*(Да ўваходзячых Скіргайлы і Свідрыгайлы.)*
Як, сокалы, зляталі?
СВІДРЫГАЙЛА
У Рызе з Ордэнам дамову падпісалі!
ЯГАЙЛА *хутка.*
Якая ўмова?
СКІРГАЙЛА
Тая, што казалі.
Жмудзь ім аддаць і ахрысціць Літву.
Пяць тысяч крыжакоў
даюць яны за гэта
У дапамогу нам. І скосім, як траву,
Мы войска Кейстута!
СВІДРЫГАЙЛА
Спякотным гэта лета
Чакаецца...
*(Да Ягайлы.)*
План той жа? Не мяняем?
ЯГАЙЛА, *паказваючы на мапе.*
На Наваград нібыта выступаем,
А самі паварочваем на Трокі.
У Троках мы не мусім мецъ марокі,
Узяць іх нам памогуць крыжакі.
А потым – марш на Вільню.
План такі.
СКІРГАЙЛА
І з намі Бог і Сын, і Дух святы!..
Скажы, а нашы зводныя браты,
Андрэй і Дзмітрый на якім баку?
За Кейстута яны?
ЯГАЙЛА
Ён ціснуў ім руку,
Пакляўся разам з імі Вільню браць –
І слова не стрымаў,
не стаў братоў чакаць.
Цяпер яны не пойдуць за яго.
Я не хацеў бы толькі аднаго...
СВІДРЫГАЙЛА
Чаго?
ЯГАЙЛА
Крыві. Таму на перамовы
Пайсці я перад сечаю гатовы.
СКІРГАЙЛА, *пацепнуўшы плячыма.*
Ягайла, я таксама не за кроў...
Ды толькі толк які ад гэтых перамоў?
Тут з двух адно: або ідзем на бой,
Або не жыць на свеце нам з табой.
ЯГАЙЛА
А раптам нам у тым баі не жыць?
У Кейстута рука не задрыжыць
Ад крыжакоў, ад нашай перавагі...
І ў Вітаўце не стане менш адвагі,
Але яго да нас мы можам заманіць,
Ён не зняверыўся
ў дзіцячых абяцанках,
Ён яшчэ наш, ён з намі тут на санках
Уніз з гары Ярылавай ляціць.
*(Да Свідрыгайлы.)*
Ты пойдзеш да яго.
Я шчырасць не сыграю
Так, як сыграеш ты.
І скажаш, што чакаю
Яго, як брата, я. Што біцца не хачу.
Хачу даць слова сэрцу. Не мячу.
СВІДРЫГАЙЛА
А чаму я?.. Ёсць ты. Скіргайла ёсць.
ЯГАЙЛА
Бо шчырасць, брат мой там,
дзе маладосць.
А Кейстут Вітаўта не пусціць аднаго –
Вось пастка на таго і на таго,
На бацьку і на сына на яго!..
Не той слабы, хто верыць мала ў Бога,
А той, у кім той веры надта многа.
СКІРГАЙЛА
Што ж, можа быць...
А калі будзе ўдача,
Дык што далей рабіць?
У Вільні іх забіць?
ЯГАЙЛА
Калі ты, брат, навучышся любіць?..
У Крэва завязем. А там пабачым.

СВІДРЫГАЙЛА
А скуль тут гэты крыж?
Ты з ім, Ягайла, спіш?..
ЯГАЙЛА
Дзе ж на крыжы заснеш... Мне несці гэты крыж.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ШОСТАЯ

Жнівень 1382 года. Падзямелле Крэўскага замка. Вязніца. У вязніцы *Кейстут* і *Вітаўт*.

КЕЙСТУТ
Мне часта сніцца брат... Альгерд.
І кожны раз між намі,
А мы жывём на розных берагах
Ракі, што працякае ў гэтых снах,
Мае сыны стаяць з ягонымі сынамі
На дзіўнай выспе з дзіўнымі садамі,
Узброеныя дзідамі, мячамі,
І б'юцца на тых дзідах і мячах.
АЛЬГЕРД, *з'яўляючыся прывідам.*
А што ў садах? У дзіўных тых садах?
КЕЙСТУТ
А што бывае ў дзіўных?.. Толькі дзіва.
АЛЬГЕРД
Якое дзіва?
КЕЙСТУТ
Там жывуць шчасліва,
Спакойна людзі. З веку там бяды
Ніхто не ведаў...
АЛЬГЕРД
Дзіўныя сады.
КЕЙСТУТ
Хацеў бы я пажыць у гэткім садзе.
Хоць паўжыцця. Паўгода...
Паўвясны...
ВІТАЎТ
А я дык не.
КЕЙСТУТ
Чаму?
ВІТАЎТ
Бо гэта сны.
На яве аніколі ім не збыцца.
КЕЙСТУТ
Альгерд... Ты мёртвы...
Мёртвым нешта сніцца?..
Хацеў бы я, каб снілася, бо так
Ляжаць, як мы ляжым, у Крэве,
у цямніцы,
Нясцерпна, брат... Глядзі,
як час пыліцца...
Клубіць і не асядзе пыл ніяк.
*(Упадае ў сон.)*
АЛЬГЕРД
Слабы стаў бацька твой...
ВІТАЎТ
Ён праз мяне слабы.
Хоць быў, як дуб.
АЛЬГЕРД
Дык валяцца дубы.
ВІТАЎТ
Так, валяцца. Вунь і цябе зваліла.
А сын твой выстаяў. Скажы, якая сіла
Яму дапамагла? Нячыстая?..
АЛЬГЕРД
Чаму?
Ён сам сабе памог. А ты памог яму.
Цябе любоў да брата падкасіла.
ВІТАЎТ
Але ж і ты ў любові з братам жыў...
АЛЬГЕРД
Я ў той любові з ім шчаслівы быў,
А вы ў сваёй жывеце не шчасліва.
Не прынялі вас дзіўныя сады.
ВІТАЎТ
Але чаму?
АЛЬГЕРД
Дазнаешся тады...
ВІТАЎТ
Калі памру? І перайду на тую,
На цёмную, на вашу старану...
АЛЬГЕРД
Ты, Вітаўт, не памрэш.
Цябе любоў зратуе.
І ты любі яе. Любі яе адну.
ПРОРА, *уваходзячы.*
Устаць! Вялікі князь! Тут князь
да вас вялікі!..
ВІТАЎТ
Ён можа так лічыць...
ЯГАЙЛА, *з'яўляючыся.*
Навошта нам падлікі?
Ні я не вінны вам – ні вы не вінны мне.
Таму і не забілі на вайне
Адзін аднога. Мірна ўсё рашылі.
Ну, пасадзіў я вас... Але ж і вы садзілі
Мяне!.. Тут, праўда, трохі душнавата...
ВІТАЎТ
Ды душна тут! Не можа дыхаць тата.

ЯГАЙЛА
Ты чуеш, Прора? Душна тут!
ПРОРА
Я чую.
Магу старога ўзяць...
Няхай пераначуе
Наверсе... Хай на неба паглядзіць,
Дзе некалі яму і ўсім нам,
грэшным, быць.
ВІТАЎТ
А жонку да мяне ты мог бы, брат,
пусціць?
Ты ж ведаеш, як я яе кахаю.
ЯГАЙЛА
Ды ўсіх да ўсіх пускаць я дазваляю!
Хай размнажаюцца!
*(Да Проры.)*
Чаму ты не пускаў?
ПРОРА
Што размнажацца будуць, я не знаў.
Але ж не тут...
*(Да Вітаўта.)*
Пайшлі! Перавяду
Для размнажэння ў лепшую буду.
ВІТАЎТ
Спачатку бацьку...
ЯГАЙЛА
Мы яго пасля...
А Ганна ўжо чакае...
*(Выводзячы Вітаўта.)*
Вітаўт, я
Таксама закаханы ў Ганну быў...
ПРОРА *да Кейстута*
Ну, што, стары?
Не досыць ты пажыў?..
*(Да ўвайшоўшых Свідрыгайлы і Вясны.)*
Я б справіўся адзін...
КЕЙСТУТ
Як душна мне... Як скрушна...
ПРОРА, *дастаючы вяроўку*
Дык я ж табе казаў, што будзе душна...
*(Душаць Кейстута.)*
СВІДРЫГАЙЛА
Ну, вось і ўсё... Цяпер ён Божы госць...
А я прыду гаспадаром у Трокі.
ВЯСНА
Скажы, стары, да Бога шлях далёкі?..
У Бога сокал ёсць?..
АЛЬГЕРД
У Бога сведкі ёсць.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА СЁМАЯ

1382 год. Крэва, замак. Пакой у Кутняй вежы. Пры пакоі камора. Ложак, стол, крэсла. На ложку *Вітаўт*. На крэсле *Ганна* расчэсвае валасы.

ГАННА
Які Ягайла звер!.. Пачвара ён якая!
ВІТАЎТ
Мне гэты звер сказаў,
што ён цябе кахае.
ГАННА
А мне сказаў, што любіць ён цябе...
Мой Бог!.. Ужо маршчынкі на ілбе...
ВІТАЎТ
Не, ты ў мяне заўсёды маладая!
І болей не прыкідвайся такой:
«Даруй мне, Вітаўт! Сёння з галавой
Не тое штось...»
Што мне да галавы!..
ГАННА
Якія ўсё ж няўрымслівыя вы –
Альгердавічы ўсе! Дзяцей панарабілі!..
Вы жонак хоць сваіх
на пальцах палічылі?
Ці не хапае пальцаў?..
ВІТАЎТ
Ты ў мяне
Адзіная...
ГАННА
Ну, хто б сказаў іначай!..
Але ж усё – не так! Як цені па сцяне,
Сыходзім мы... І дзеці нашы плачуць,
Як адчуваюць нешта... Не кажу,
А яны плачуць... плачуць...
адчуваюць...
І слёзы іх, што соллю высыхаюць,
Я не дарую гэтаму смаўжу!
*(Падымаецца з крэсла, сядае на ложак.)*
Каханы мой, адзіны, любы мой,
Я і сама сабе так адчуваю...
ВІТАЎТ, *гладзячы Ганну па валасах.*
Нібы не тое нешта з галавой?
ГАННА
Ды не жартуй ты!.. Так, нібы з табой
Апошні раз... І як нам быць, не знаю.
І што рабіць?.. Я так цябе люблю!..
ЛЮБОЎ, *выходзячы з каморы.*
Што загадаеце, я тое і зраблю.
ГАННА
Сядзела б ты ў каморы!.. На вяроўцы

Цябе я не цягнула. Пакаёўцы
Што я магу ў вязніцы загадаць?..
ЛЮБОЎ
А я магла б не пакаёўкай стаць?
А вы, як пакаёўка, у каморы
Ці не маглі б тым часам пасядзець?
ГАННА
Ты нешта загаворваешся ў горы...
*(Да Вітаўта.)*
Пра што яна? Ты можаш зразумець?
ВІТАЎТ
Магу. Яна гатовая на смерць
За тое, каб пабыць... са мной...
на тваім месцы...
ГАННА
Любоў, ты звар'яцела?..
*(Да Вітаўта.)*
Ці смяецца
Яна з мяне?..
*(Да пакаёўкі.)*
Ці нешта з галавой
Тваёй усё ж не так?..
*(Сама да сябе.)*
Ці так?..
*(Да Вітаўта.)*
Ты, значыць, ляжаш з ёй,
А я ў каморы сяду?
*(Да пакаёўкі.)*
Ды крывёй
Ты захлынешся зараз тут, курвіна!..
ЛЮБОЎ
На тое ваша воля.
ВІТАЎТ
Ты нявінна?
ЛЮБОЎ
Нявінна, так.
ВІТАЎТ
І разумееш ты,
На што ідзеш?..
ГАННА
Ты, Вітаўт, не святы...
Я ведала... Але што так, пры мне!..
ЛЮБОЎ
Ды князь мяне і пальцам не кране...
ГАННА
Ты мне расказвай!.. Не кране мяне!
Кране!.. Але вунь цені на сцяне,
Як мы... І дзецям бацькі не стае...
ЛЮБОЎ
Шкада дзяцей мне...
ГАННА
Дзеці не твае!..
*(Рашуча.)*
Дык вось: кладзешся... голая ўстаеш...
Сваю апратку князю аддаеш,
А ён табе дае сваю апратку...
*(Да Вітаўта.)*
Я так сказала ўсё?
Не зблытала парадку?..
*(Ідзе ў камору.)*
ЛЮБОЎ
Яна пераступіла праз сябе...
Цераз гардэчу ўсю...
Праз рэўнасці завею...
Цераз усё, што ў ёй...
Я праўда вар'яцею...
Вось як кахае, князь, яна цябе...
Даруй ты мне... я так кахаць не ўмею...
Але хачу... хоць як... але кахаць...
Ты можаш, князь, мяне пацалаваць,
Каб мне ў жыцці
было з чым развітацца...
*(Паўзмрок на сцэне...*
*...Стук у дзверы.)*
ГОЛАС ПРОРЫ
Княгіня! Князь! Даволі! Час збірацца!
*(Адчыняюцца дзверы.)*
Выходзь, княгіня! Пакаёўка дзе?
ГАННА
Ідзе... А што ў цябе на барадзе?..
Ці муха, ці пчала ў цябе тут села?
Уджаліць зараз! Кыш ты!.. Паляцела...
*(Выходзіць з пераапранутым Вітаўтам, дзверы зачыняюцца.)*
ЛЮБОЎ *адна.*
Як дзіўна адчувае сябе цела...
Асобна ад мяне... Ці так, як я хацела,
Зрабіла я? Ці ўсё я так адчула?..
Калі ўсё толькі так,
дык, пэўна, падманула
Сама сябе я... Калі гэты стан,
Які ўва мне, і ёсць усё, што Богам
Паслана можа быць,
тады не так і многа
Бог можа нам пасляць...
І калі больш нічога,
Калі ўсё гэта ўсё...
то ўсё на свеце – зман.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ПЕРШАЯ

Лета 1385 года. 14 жніўня. Вялікая зала ў Княскай вежы Крэўскага замка. У зале *Ягайла* і *Прора* з некалькімі служкамі, якія раўняюць крэслы з двух бакоў стала, прыбіраюць у зале.

ЯГАЙЛА, *гледзячы ў двор замка*
Сягоння ўся Еўропа ў Крэўскім
замку!..
ПРОРА
Ага. І ўжо нагадзіла на ганку
Еўропа нейкая. С сабакамі, катамі...
ЯГАЙЛА
Ды хопіць табе ныць! Еўропа з намі!
*(Гукае ў двор.)*
Прашу, панове, вас!
ПРОРА
За нашае прашу
Яшчэ яны з нас вытрасуць душу.
А колькі піць ім несці!.. Колькі есці!
ЯГАЙЛА
Трасуць таго, хто дазваляе трэсці.
І едуць на такіх!
ПРОРА
На мне ўжо жонка едзе...
ЯГАЙЛА
Гатовы ты з Вясной
пазабаўляць суседзяў?
ПРОРА
Прывёз Вясна
смургонскага мядзведзя.
Нібы вучоны ён. З цыганскіх школ.
ЯГАЙЛА
Вучоны? Дык вядзі яго за стол!
ПРОРА
Куды за стол?
ЯГАЙЛА
Сюды! На перамовы.
ПРОРА
Цяпер?
ЯГАЙЛА
Ды не! Калі падам я знак.
ПРОРА
А як ты падасі?
ЯГАЙЛА
Зарыкаю вось так!
*(Рыкае.)*
ПРОРА
Калі так рыкаеш,
нашто табе мядзведзь?
ЯГАЙЛА
Каб з кім было па-людску пасядзець.
СКІРГАЙЛА, *уваходзячы.*
Што тут за рык?
Паны ў штаны наклалі.
ПРОРА
Дык лепей там. Тут дываны у зале.
ЯГАЙЛА *да Скіргайлы*
Усе прыйшлі, каго мы запрашалі?..
СКІРГАЙЛА
Ну, Польшча ўся прыйшла.
Але не ўся Літва.
ЯГАЙЛА
Літва пакуль – капрызная дзятва...
Вось мы з табой яе і падрасцім.
*(Прыабдымае Скіргайлу.)*
Я стану ў Польшчы каралём,
а ты ў Літве маім
Намеснікам, Літвы вялікім князем!..
І не пытайся, ці туды мы ўлазім? –
Пакінь сумневы і развагі, брат!
Усё разважана! Мне ў Кракаве пасад,
Табе – у Вільні! У стальцы вянец!
І ўсё на тым, Скіргайла! І канец!
СКІРГАЙЛА
Які канец?.. Нават не ўсе браты
Прыехалі! Адны твае сваты!
Ды яшчэ тыя, хто лізаць гатовы
Табе падэшвы, а каню падковы!
І вось табе цукерка на пасля...
Калі палякі выбіралі караля,
Цябе, ці Вітаўта, амаль што напалам
Выходзіла... Ды, дзякуй Богу, нам
Купіць у Радзе галасы ўдалося.
ЯГАЙЛА
Хоць сейбіта няма, а семя не звялося.
Ідзе мой брат за мной
па ўсім маім жыцці...
Ён будзе сёння тут?
СКІРГАЙЛА
Сказаў: абавязкова.
Даў слова падтрымаць нас...
ЯГАЙЛА
Даў ён слова!
Ён хоча мне дарогу перайсці.
*(Да Проры.)*
Твая прамашка! Ты яго ўпусціў!
ПРОРА
Ты не казаў, каб я яго забіў.

ЯГАЙЛА
Я і пра Кейстута нічога не казаў!
А вы яго ўдушылі!
СКІРГАЙЛА
Я не знаў,
Што ты пра Кейстута
Нічога
Не казаў.
ЯГАЙЛА
Ну, добра... Не крыўдуй.
Пара вітаць гасцей.
Літвінаў... і палякаў... і чарцей.
ГОЛАС АНДРЭЯ ПОЛАЦКАГА *ў дзвярах.*
Ягайла!..
ПРОРА
Вось і чорт...
АНДРЭЙ, *уваходзячы*
Ты болей мне не брат!
А нават і не сват!
ЯГАЙЛА
А кім табе я стаў?
АНДРЭЙ
Палякам!
ЯГАЙЛА
Гэта як?
АНДРЭЙ
А так, як падпісаў
Ты з Польшчай унію!
ЯГАЙЛА
Яшчэ не падпісаў.
І, можа быць, не падпішу яе...
А ты чаму адзін? Дзе ўсе браты твае?
АНДРЭЙ
А што ім тут рабіць?
Айчыну прадаваць?
ЯГАЙЛА
Маўчаць!..
Прабач. Яшчэ ты малады,
Не помніш ты...
АНДРЭЙ
Ты на свае гады
Збіраешся ў палякаў жонку ўзяць,
Ці на свае юначыя ўспаміны?
ЯГАЙЛА
Ты думаеш, я так хачу? Павінны
Я ўзяць Ядзвігу, каб узяць карону!
Каб узмацніць Літву!
АНДРЭЙ
Скажы, што прагнеш трону,
Што хочаш каралём
Літвы і Польшчы стаць, –
І я табе паверу!
ЯГАЙЛА
Прызнаваць
Без гэтага не хочуць нас нідзе!
І хто праз нас ні едзе, хто ні йдзе,
Для ўсіх мы дзікуны! Мы барбары!
Паганцы!..
АНДРЭЙ
Дык хай яны свае танцуюць танцы!
А мы не мусім з імі танцаваць!
У нас ёсць моц! Ёсць войска!
Мы іх сілай
Прыцiснем і прымусім нас прызнаць!
А ты ім сракі цалаваць:
ах, пані, бардзо міло!..
Смяюцца ўсе, што жэнішся з малой!..
ЯГАЙЛА
Я з Польшчаю жанюся, а не з ёй!
АНДРЭЙ
Дык ты б з Літвой жаніўся заадно!..
У тым, што робіш ты, двайное дно,
Вялікі князь. Адно святлом заліта,
Другое – цёмнае... І дна няма нібыта...
ЯГАЙЛА
Андрэй, прашу цябе... Застанься тут...
АНДРЭЙ
Што я скажу братам?..
Мы столькі тут пакут
Ператрывалі. Сёння княства наша
Наймоцнае. А вось заварым кашу
З палякамі – падымем крыжакоў,
І зноў вайна, і зноўку смерць і кроў!
ЯГАЙЛА
Скажы братам...
АНДРЭЙ
Ягайла! Без братоў
Здавай Літву, калі здаваць гатоў!
*(Выходзіць.)*
ПРОРА
Ну, чорт сышоў...
Палякаў запрашаць?
ЯГАЙЛА
Калі ўжо танцаваць, дык танцаваць!
Каб толькі не пачаць не з той нагі...
Давайце мне паслоў!
*(Скіргайла выходзіць. Прора ідзе ўслед.)*
Стой, Прора! Дзе сцягі?

ПРОРА
Забыўся, каб мядзведзь мяне задраў!
*(Крычыць за сцэну.)*
Сцягі сюды!..
*(Прыносяць штандары ВКЛ і Польшчы.*
*Заўвага: у тэатры гэта могуць быць сцягі РБ і Еўразвязу.)*
ЯГАЙЛА
Ты дзе іх панабраў?..
ПРОРА
Што? Памяняць?
*(Заўвага: у тэатры можа з'явіцца служка з расійскім сцягам.)*
ЯГАЙЛА
Ды хай ужо стаяць!..
*Уваходзяць паслы Польшчы: кракаўскі чашнік Улодка, завіхосцкі кашталян Мікалай, казімірскі дзяржаўца Крысцін; паслы Венгрыі: чанадскі прэпазіт Стафан і патацкі кашталян Ладзіслаў; з імі літоўскія князі Скіргайла, князь Мсціслаўскі Сямён Лугвен, князь Ноўгарад-Северскі Дзмітрый Карыбут і князь Вітаўт.*
УЛОДКА
Вялікі князь, дазвольце вас вітаць!
Які вялікі дзень
для Польшчы і Літвы!
ЯГАЙЛА *да Улодкі.*
Я рады, што вы тут!..
*(Да астатніх.)*
І вы, і вы, і вы...
Для Польшчы і Літвы
дзень сапраўды вялікі!
Прашу сядаць...
КРЫСЦІН *да Улодкі, сядаючы.*
Ён не такі ўжо дзікі...
УЛОДКА
Маглі б мы пасядзець,
ды справа не чакае.
Дазвольце зачытаць,
што бок літоўскі мае
Зрабіць, каб мог з Ядзвігай ажаніць
Ягайлу Бог, калі Ён пажадае...
*(Чытае.)*
Вялікі князь Ягайла абяцае
Хрысціць Літву і аддае загад
Хрысціць яе на каталіцкі лад.
Вялікі князь Ягайла пакрывае
Выдаткі, страты на зямлі ягонай,
Панесеныя польскаю Каронай.
Вялікі князь Ягайла абяцае,
Што землі ўсёй Літвы
да Польшчы далучае,
І што ніхто ўжо іх не будзе адлучаць...
Вось гэта ўсе мы мусім падпісаць.
*(Да пергамен Ягайлу.)*
Вялікі князь... Прашу...
ЯГАЙЛА
Штосьці з пяром...
Давайце з боку вашага пачнём.
Вы госці...
УЛОДКА
Што ж, давайце... З нас дык з нас...
*(Падпісвае. За ім падпісваюць астатнія паслы.)*
КРЫСЦІН
Такое адчуванне, што сам час
Падпісвае пергамен на вякі...
*ВІТАЎТ, перадаючы ад Крысціна пергамен Ягайлу*
Вялікі князь у нас... І час у нас такі...
*(Ягайла рыкае ў бок Вітаўта. З рыкам з'яўляецца мядзведзь, якога за абарваны ланцуг трымаюць з двух бакоў Прора і Вясна.)*
УЛОДКА
Przepraszam, co to jest?..
*ВЯСНА, робячы выгляд, нібы ўтаймоўвае мядзведзя.*
То страшны звер, панове!
ПРОРА *да Вясны.*
Хто яго выпусціў?!.
Ён жа сядзеў у схове!
На ланцугу! Такі во быў ланцуг,
А ён парваў! Ён перад гэтым двух
Быкоў парваў! У іх такія рогі!
А ён іх – раз!..
*(Да Крысціна.)*
З дарогі, пан, з дарогі!..
Парве звяруга!
КРЫСЦІН
Дык а што рабіць?
ВЯСНА *крычыць за сцэну.*
Музыкі дзе?..
Як музыка гучыць,
Дык ён тады не рве людзей! Танцуе!..
КРЫСЦІН
Пад музыку якую?

ПРОРА
Пад любую!
Давайце танчыць! Граць! Хоць што!
Хоць як!..
Во!.. Кракавяк!.. Ён любіць кракавяк!..
*(З'яўляюцца музыкі. Граюць і пяюць.)*
МУЗЫКІ
Я паляка палюбіла проста так,
Палюбіла я паляка, бо паляк
Не па-руску, а па-польску круціць вус,
Круціць вус паляк не так, як беларус.
А я польку толькі-толькі пакахаў
І з багатага адразу бедным стаў.
Я ёй грошы грудзі поўныя напхаў,
І з грашамі тымі след яе прапаў.
Я мала за рускім замужам была
І я голага яго не бачыла.
А калі мой муж мне паказаўся гол,
Аказаўся ці татарын, ці мангол.
ВЯСНА
Танцуйце ўсе! Калі мядзведзь раве,
Таго, хто не танцуе, разарве!
*(Скокі. Ягайла і Вітаўт адны за сталом. Ягайла падае Вітаўту руку. Вітаўт бярэ пяро, падпісвае дамову, падымаецца і, не паціснуўшы рукі Ягайлу, выходзіць.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ДРУГАЯ

1385 год. 15 жніўня. Крэва. Пакой у звычайнай хаце. У пакоі *Ягайла.*

ВІТАЎТ, *з'яўляючыся.*
Скіргайла мне сказаў, каб я застаўся.
ЯГАЙЛА
А дзе ты начаваў?
ВІТАЎТ
Там, дзе паклаўся.
А ты – у хатцы нашай, дзе дзятвой
Гулялі... Ты ды я... Ды мы з табой.
Так сёння ўсё найшло... так наплыло...
да слёз...
Вось тут маё жыццё... Вось тут
увесь мой лёс.
Ты выглядаеш, бы валун цяжкі
Цягнуў...
ЯГАЙЛА
Які я ёсць, дык я і ёсць такі...
*(Падыходзіць да вакна, глядзіць на раку.)*
Жыццё, як той туман каля ракі,
Які плыве з ракою праз вякі,
І не ўгадаць, дзе ён, а дзе рака...
Чаму ты не паціснуў мне рукі?
ВІТАЎТ
Баяўся, што адсохне...
ЯГАЙЛА
А рука
Была мне, брат, патрэбная твая
Перад палякамі...
ВІТАЎТ
Але ж прыехаў я.
І паказаў: мы разам, заадно.
Што: не відно было?..
ЯГАЙЛА
Занадта, брат, відно.
Нават мядзведзь убачыў...
Дай мне веры:
Пустыя словы ўсе на той паперы.
*(З'едліва.)*
Дарэчы, ты дамову падпісаў,
А я пакуль што – не! Дык хто
Літву прадаў?
ВІТАЎТ
Няёмка ўсім было ад выхадкі тваёй.
Ты што ўчыніў?..
ЯГАЙЛА, *адчыніўшы дзверы, зазірнуўшы за іх і зноў зачыніўшы.*
Паміж табой і мной
Размова... Можа быць, не з Польшчай,
а з Масквой
Больш выгадная будзе ў нас дамова.
ВІТАЎТ
Ты ж слова даў!
ЯГАЙЛА
А што такое слова?
Сказаў – і паляцела вераб'ём...
Я, Вітаўт, не прадам бацькоўскі дом,
Ні студні з жураўлём і ні вядра,
Я трэскі не прадам
з бацькоўскага двара,
З якога не сысці нікуды нам!..
ВІТАЎТ
Чаго ты хочаш?
ЯГАЙЛА
Здагадайся сам.
ВІТАЎТ
Што тут здагадвацца!..
Скіргайла намякнуў...
Маніў, круціў, нібыта лозы гнуў.

Не – каб наўпрост! Усё вакол, каля....
Ну, так і трэба брату караля,
Якога ты намеснікам сваім
Пакінеш у літвінскім краі ўсім.
*(Стаўшы твар у твар.)*
Ты хочаш знаць, ці скіну я яго?..
Цягнуць не стану. Скіну.
ЯГАЙЛА
Хто каго,
Яшчэ пабачым, калі ты вайну
Супраць яго пачнеш!..
ВІТАЎТ
Скажы мне рэч адну...
Ты сто разоў ужо пакляўся мне,
Што Кейстут сам памёр,
не па тваёй віне
Яго не стала, ты яго любіў...
Калі майго ты бацьку не забіў,
Чаму ўтапіў Біруту і дзяцей,
Якіх яму Бірута нарадзіла?
ЯГАЙЛА
Бірута тая знала ўсіх чарцей!
Нячыстая жыла ў той бабе сіла!
Яна вядзьмарыла! З дзяцей
вантробы брала!
ВІТАЎТ
Каб Кейстут чуў цябе,
яго б званітавала.
А, можа, ён і чуе... Калі мы
Здыхалі ў духаце тваёй турмы,
Да нас Альгерд прыходзіў.
Бацька твой...
ЯГАЙЛА
Ён мёртвы быў тады! Ты трызніш,
браце мой.
ВІТАЎТ
І тым не менш, прыходзіў. І ён знаў,
Ён чуў, як ты Вясне і Проры загадаў
Забіць мяне...
ЯГАЙЛА
Няпраўда! Я казаў
Не пра цябе! Пра Кейстута казаў!
І вось што я казаў:
«Калі б між намі стаўся
Двубой, і каб не я, а ён жывы застаўся,
І ў замку аказаўся, дык у ім
Павінен ён застацца назусім!»
Дзе тут загад забіць?..
Каб ён забіў мяне,
Тады яны – яго! А я забіты? Не!
Я не загадваў ім пры мне жывым
Забіць яго! Яно ў галовы ім
Прыйшло самім! Бо людзі –
без галоў!..
ВІТАЎТ
Тады скажы мне: хто забіў Любоў?
Зноў безгаловыя? Ці ты яе забіў?
Табе было дзяцей забітых мала?..
ЯГАЙЛА
Тут як было, калі я не забыў...
У небе сокал быў. І там Любоў лятала.
Убачыў яе сокал. Палюбіў.
Яна яго таксама палюбіла.
І калі нехта ў сокала пусціў
Стралу! – Любоў сабой яго прыкрыла.
Шкада яе. Прыгожая была.
Любоў яе са свету і звяла.
Хіба не так было?.. Ну, можа, і не так...
Ды неяк ты жывы застаўся... Як?..
Дык я таксама не хацеў Біруту
Тапіць!.. Ды ўсе нясуць сваю пакуту.
Так што давай да нашых бараноў
Мы вернемся, забыўшы пра Любоў.
Не будзем спальваць за сабой масты...
*(Сядае да стала, бярэ ў рукі карты.)*
Я ўлады прагну так, як прагнеш яе ты,
І тут – каму якая прыйдзе карта.
Каму – кароль. Каму – валет. І варта
Валету граць на пару з каралём...
*(Тасуе калоду.)*
ВІТАЎТ, *сядаючы.*
Давай... Здавай...
Чакай... Я ўсё ж здыму...
ЯГАЙЛА
Табе адну... І мне адну... Ці, можа,
Наадварот?
ВІТАЎ
Не. Правільна ты здаў.
ЯГАЙЛА
Ну, калі правільна, дык падыграй мне,
Божа!
Што, Вітаўт, у цябе?
ВІТАЎТ, *не глядзячы карту.*
Кароль.
ЯГАЙЛА, *не гледзячы.*
Дык і ў мяне...
ВІТАЎТ
Перавярні...
ЯГАЙЛА
Э, не!..

Спачатку ты... Не я...
ВІТАЎТ
Калода не мая...
ЯГАЙЛА
Без крапу. Новая. А калі б нават крап...
ВІТАЎТ
Што значыць каб?..
ЯГАЙЛА
Нічога. Ты здымаў...
ВІТАЎТ
А каб не зняў?
ЯГАЙЛА
Тады б падтасаваў.
ВІТАЎТ
Ты надта шчыры сёння.
ЯГАЙЛА
Як заўсёды.
ВІТАЎТ
А пакажы мне, браце, ніз калоды.
Ты мухляваў заўжды,
калі быў шчыры.
*(Ягайла падымае калоду.)*
Кароль унізе!
ЯГАЙЛА, *пацепнуўшы плячыма.*
Каралі чатыры.
ВІТАЎТ
Чатыры каралі. Была гульня такая.
Ты помніш?
ЯГАЙЛА
Так. Была. Успамінаю.
Ды наша цікавейшая гульня.
Давай. Глядзі. Ці, калі хочаш, я
Гляджу тваю. А ты маю.
ВІТАЎТ
Давай!
*(Ягала мяняе карты месцамі.)*
Не, пачакай. Сюды.
*(Ягайла перасоўвае карты.)*
Назад.
*(Ягайла зноў перасоўвае карты)*
Не, зноў не так.
*(Ягала мяняе карты месцамі.)*
Назад.
ЯГАЙЛА, *перасоўваючы карты.*
Заблытаць хочаш, брат...
Я ўжо не помню, дзе ў каго якая...
ВІТАЎТ
А я, здаецца, помню...
ЯГАЙЛА
Дык глядзі...
Ды падымай давай!
ВІТАЎТ
Не. Тут мая не тая.
Мая цяпер на месцы, дзе твая.
ЯГАЙЛА, *ускочыўшы*
Тады глядзі маю!
ВІТАЎТ
Чаго ты?.. Сам прапанаваў гульню...
ЯГАЙЛА
Прапанаваў! І скончана гульня!
Твая, мая!..
*(Нервова пераварочвае карту перад Вітаўтам.)*
А гэтая чыя?
ВІТАЎТ
Мая, бо тут кароль.
Цяпер глядзі сваю...
ЯГАЙЛА, *скідваючы карту са стала*
Я й без гульні кароль! Мы скончылі
гульню!
ВІТАЎТ
А мне здаецца: толькі пачалі.
Чатыры каралі...
Твой бацька... Бацька мой...
І ты ды я...
*(Падымае з-пад стала карту Вітаўта, кладзе пад сваю, засоўвае абедзве ў калоду.)*
Ды двое мы з табою...
ЯГАЙЛА
Што там было?..
ВІТАЎТ
Я не гляджу чужое.
Калі мы скончылі, дык я, бадай, пайду.
ЯГАЙЛА
Чакай, я правяду...
ВІТАЎТ
Ды сам я шлях знайду,
Якім ісці. Чаго й табе жадаю.
ЯГАЙЛА
Чакай, пастой.
ВІТАЎТ
Ну, я стаю, чакаю.
ЯГАЙЛА
Брат, мы з табой жывём,
як дым з агнём.
ВІТАЎТ
І хто агонь? Хто дым?..
ЯГАЙЛА
Хоць хто. Але жывём

Адным жыццём. Як у табе жыве
Літва, так і ўва мне... I покуль не сарве
Мяне з жыцця, як ветрам ліст з асіны,
Дзяліць я буду ўсё напалавіну:
Што не змагу аддаць – сабе пакіну,
А што аддаць змагу – аддам Літве.
I выйдзе так: пароўну акурат.
Табе і мне.
ВІТАЎТ
Так не бывае, брат...
Мы крошку аддаем, каб проста
не прапала,
А нам здаецца, што аддалі шмат!..
А ўзятага сабе заўсёды будзе мала.
Мы так жывём, як і да нас жылі...
*(Збіраецца пайсці.)*
ЯГАЙЛА, *паказваючы на картачную калоду.*
Скажы ўсё ж... там былі?..
ВІТАЎТ, *выходзячы.*
Чатыры каралі.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

1386 год. 17 лютага. Каралеўскі палац у Кракаве. Тронная зала. На троне каралева *Ядзвіга*. У зале епіскап кракаўскі, канцлер вялікі каронны *Ян Радліца,* архіепіскап гнезненскі *Бадзанта*, люблінскі стараста *Улодка*, казімірскі дзяржаўца *Крысцін*, кракаўскі *падстолі* Пятро Шафранец, завіхосцкі кашталян Мікалай ды іншая польская знаць, госці з Аўстрыі, Вугоршчыны.

РАДЛІЦА
Ягайла ўчора стаў каталікам.
Праз дзень вянчанне.
Сёння канчаткова
Абгаварыць нам трэба ўсе умовы,
Якія б ён выконваў, даўшы слова
I стаўшы польскім, нашым каралём.
Тваім, Ядзвіга, мужам.
Мы ў наш дом,
У польскі дом літвіна запрашаем,
Бо маем мэту. Далучыць мы маем
Абшары, большыя за нашыя ўтрая.
I як каронны канцлер, шмат што я
Для гэтага зрабіў, і ўдзячны
ўсім панам...
Вам, пане Ўлодка...
Пане Крысцін, вам...
Якія ўцямілі, як сёння гэта нам
Патрэбна, і як заўтра яшчэ болей
Спатрэбіцца. Літва па нашай волі,
Па нашай з вамі веры, па законе
Далучана – і прысягне Кароне!
Ягайла будзе тут, каб прысягнуць
Вам, каралева!..
ЯДЗВІГА
Не хачу я чуць
I бачыць не хачу яго я, Ойча.
РАДЛІЦА
Той, хто на троне, хоча ці не хоча,
А робіць тое, што захоча трон.
Не сёння так прыдумана. Здавён
Так ёсць яно, было і гэтак будзе.
ЯДЗВІГА
Ну, што за людзі вы... ну, што за людзі...
РАДЛІЦА *да Улодкі*
Дамова ў вас? Чаму не падпісаў
Ён у Літве яе?..
УЛОДКА
Ён там не мог. Скакаў.
РАДЛІЦА
Ага... Я ўспомніў. Мне казалі вы...
Цікавы ён, вялікі князь Літвы.
Тут мусіць падпісаць абавязкова!
УЛОДКА
Ён слова даў.
РАДЛІЦА
Do dupy jego słowo.
АЛЬЖБЭТА, *дапамагаючы Стасі прыбіраць на троне Ядзвігу*
Дачка! Мы ўсё з табой абмеркавалі,
Дамовіліся мы пра ўсё з табой.
Не ты адна! Мы ўсе не тых кахалі,
З кім потым век на троне дажывалі!..
ЯДЗВІГА
Ах, Божа мой... мой Божа...
Божа мой...
ВЭРДЭ, *дапамагаючы Альжбэце*
Праз мужа не ідзе жыццё на злом.
Я з тым, каго кахаю, дажываю.
Спачатку – не! Пасля гляджу: кахаю!
Павер, Ядвіся, мне: найлепшы дом
Той, дзе як хочаш круціш каралём!
Ты маладая – і табе круціць!..
ЯДЗВІГА
А жыць мне як... скажыце,
як мне жыць?..
СТАСЯ
Так жыць, як набяжыць... Ну, прыйдзе
муж уночы...

А днём ты будзеш з тым,
з кім ты захочаш.
ЯДЗВІГА
Не ўмею так...
ВЭРДЭ
І я была такая!
Ды навучылася. І во глядзі: жывая!
А муж мой ледзьве дыхае.... Чакаем,
Калі памрэ...
БАДЗАНТА *да Радліцы.*
Ці так мы абстаўляем
Усё, як трэба?.. Можа ўскрыўдаваць
Ягайла...
РАДЛІЦА
Тут і я, і вы, і кракаўская знаць,
І госці знатныя... Не ведаю, хто болей
Тут можа быць...
БАДЗАНТА
Калі яго хрысціў
Я ўчора, ён такім напятым быў,
Як быццам не ў касцёле ён, а ў полі,
Дзе зараз з кімсьці ваяваць пачне.
Магчыма, гэтак падалося мне,
Але Ягайла на мяжы трывання...
ВЭРДЭ, *адышоўшы ад Ядзвігі і гледзячы на яе зводдаль.*
Каханне гэта, Ойча! І жаданне!
Такая прыгажосць! Дык дзе ўтрываць?
ЯДЗВІГА
Я не жадаю... не хачу жадаць...
СТАСЯ
Мы ўсе так кажам... А пасля жадаем
Так, што насмерць!...
ВЭРДЭ
Мы каралеву маем!
Ягайла мусіць гэта зразумець!..
ПАДСТОЛІ
Ён мусіць зразумець,
што хочам мы займець
Яго, як жарабца, для нашай каралевы?
ВЭРДЭ
Фу, пан падстолі! Фу! Дзе выхаванне?
Дзе вы
Такому навучыліся?
ПАДСТОЛІ
У Рыме.
ВЭРДЭ
На што вы намякаеце?
ПАДСТОЛІ
Ды ні на што. З маімі
Хаўруснікамі я вучыўся ў Рыме.
ВЭРДЭ
А гэты ваш намёк празрысты
больш, чым той!
Я італійка, пане! Рым за мной!
І калі што – магу пайсці вайной!
ПАДСТОЛІ
На што я намякаю?.. Божа мой,
Я проста вам сказаў,
што ў Рыме я вучыўся!
ВЭРДЭ
А на каго вучыліся?
ПАДСТОЛІ
Забыўся!..
*(Адыходзіць.)*
КРЫСЦІН *да Вэрдэ.*
Ён у Ягайлы хамства пераняў.
Сказаць вам, як Ягайла нас прыняў?
З мядзведзем!
ВЭРДЭ
Што ж рабіў мядзведзь?
КРЫСЦІН
Скакаў!
ВЭРДЭ
А вы?
КРЫСЦІН
І мы ўсе з ім скакалі!
З музыкамі, якія польку гралі.
*(Спявае.)*
А я польку толькі-толькі пакахаў,
Толькі грошы ёй за пазуху паклаў...
ЯДЗВІГА
Як хораша! Дзе вас вучылі спевам?
КРЫСЦІН
У школе для мядзведзяў, каралева.
ЦЫРЫМОНІМАЙСТАР, *уваходзячы.*
Вялікі князь Ягайла! З ім паслы!..
ЯДЗВІГА
О, Госпадзі! Збавенне мне пашлі!
Няхай бы ён з Масквою ажаніўся!..
КРЫСЦІН
Мядзведзя ўспомнілі –
і вось мядзведзь з'явіўся!
*З'яўляецца Ягайла. З ім пасольства Вялікага Княства Літоўскага: ягоныя браты князі Скіргайла, Свідрыгайла, Віганд, Карыбут, Лугвен, Карыгайла, князь Вітаўт, князь Барыс Карыятавіч, віленскі староста Ганул ды іншыя. Ягайла*

*ідзе да трона, глядзіць на Ядзвігу – і спыняецца пасярэдзіне залы.*

СКІРГАЙЛА *да Ягайлы.*

Ды падыйдзі ты! Пацалуй руку!
Тут так прынята.

ЯГАЙЛА

З ранку часнаку
Я з'еў, бо ў Польшчы нейкая зараза.

СКІРГАЙЛА

Дык пацалуеш – і назад адразу.

ЯГАЙЛА, *падышоўшы і пацалаваўшы руку Ядзвізе, робіць крок назад і прыціскае руку да грудзей.*

Прыміце маё сэрца!..

ЯДЗВІГА

Я прымаю.
Хоць ува мне, здаецца, ёсць яно.
А ад мяне вы мусіце адно
Прыняць прызнанне: я не вас кахаю.
Каханым быў Вільгельм.
Вы будзеце мне мужам.

*Сціснуўшы кулакі, Ягайла паварочваецца, ідзе да выхаду, яго спыняе Скіргайла.*

ЯГАЙЛА *да Скіргайлы.*

Прынізіць так!
Нібы па мордзе гужам!..

РАДЛІЦА

Вялікі князь, чакайце!
Вы не хлопчык,
Што на дзяўчынку
можа ўскрыўдаваць!
Прад вамі каралева!

ЯГАЙЛА *сам сабе*

Курва маць!
Так пасадзілі хлопчыка на копчык!

ЯДЗВІГА

Co nam powiedział książę?

КРЫСЦІН

Ён дзікі ўсё ж, шалёны!

АЛЬЖБЭТА

Jadwiga! Co jest
między nami uzgodnione?

ВІТАЎТ

Ягайла, ты куды?..

ЯГАЙЛА

Я сапраўды шалею...
*(Паварочваецца да Ядзвігі.)*
Прабачце, каралева!.. Разумею
Пачуцці вашы. Сам быў малады.
Цяпер я, можа, так кахаць не ўмею,
І, пэўна, вам Вільгельм мілейшы быў,
Але я адступнога заплаціў –
Аж дзвесце тысяч вашаму Вільгельму!
І ён узяў!..

АЛЬЖБЭТА

Вялікі князь, вы вельмі
Узбуджаны...

ЯГАЙЛА

А хто мяне ўзбудзіў?..
Не вы. Прабачце.
Калі саступіў,
Дык трэба саступаць!..

ЯДЗВІГА

Wilhelm pieniądze wziąłeś?
*(Сама сабе.)*
Курва маць!
*(Да Вітаўта.)*
Князь Вітаўт!..

ВІТАЎТ

Каралева...

ЯДЗВІГА

Вы Вільгельма
Пабачыце?..

ВІТАЎТ

Я думаю, што так.
Ён мне казаў, што будзе на вяселлі.

ЯДЗВІГА

Скажыце вы яму, што ён...

ВІТАЎТ

Што ён?..

ЯДЗВІГА

Што ён мастак
Цудоўны. І ягоную карціну
У каралеўскай спальні я пакіну.

ЯГАЙЛА

Чаго гэта яна з табой?..

ВІТАЎТ

Не знаю.

ЯДЗВІГА

Я вас, князь Вітаўт, часта ўспамінаю.
Ці праўду мне сказалі сёння днём,
Што вы маглі быць польскім каралём?

АЛЬЖБЭТА

Jagaiło polski król! Jagaiło
mąż twój, Jadzya!

ЯГАЙЛА *да Скіргайлы.*

Ну ўсё... Засада, браце... Я ў засадзе...

УЛОДКА

Калі мы ў вас былі, усё было так нова

Для нас! Цікава так было...
Але дамова
Дагутэль не падпісана... Прашу...
ЯГАЙЛА
Дазвольце мне... powiedzieć
jedno słowo.
Вам, каралева, я прынёс душу.
Прынёс я сэрца Польшчы...
А дамову
Я ў спальні каралеўскай падпішу!
*(Выходзіць.)*
ВЭРДЭ
Co za gorąco! Wrząca woda w kadzi!
To jest miłość!..
АЛЬЖБЭТА
Гэта каханне, Ядзя...
Хоць нейкае не польскае каханне.
ЦЫРЫМОНІМАЙСТАР
Усіх чакаем заўтра на вянчанне!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ЧАЦВЁРТАЯ

4 жніўня 1392 года. Зала ў фальварку скарбу ВКЛ на беразе ракі Дзітвы пад Лідай. У зале лідскі староста *Бонча.*

БОНЧА
Што дзеецца на свеце! Гэта жах!
Пасыпаўся з нябёсаў попел, прах!
Па ўсёй Літве знішчаюць старыну!
Ягайла абвясціў крыжовую вайну –
Сам у Літву вярнуўся, як вайна!
Згасіў агонь нязгасны Перуна!
Паўсюль кастры!
Багоў літвінскіх паляць
На капішчах – і паляць нашу памяць!
Людзей, як быдла, гоняць у раку
Хрысціцца! Я такога на вяку
Сваім не бачыў! П'яныя паўсюды!
Давалі ў Вільні боты, світкі люду,
Дык там душыліся па іх! Па тры разы
Хрысціліся!.. Давалі абразы,
Дык хапалі – няма куды павесіць!
Паў-Вільні пахрысцілася за месяц,
Астатнія – хто ў поле, а хто ў лес...
Літву знішчаюць...
Проста ў гліну месяць...
Нас праклялі Ярыла і Вялес...
Адна надзея ёсць:
прагнаў Скіргайлу Вітаўт!
Той не казаў ужо: «Вітаю!»
Толькі: «Вітам!»
Літву стараўся апалячыць так,
Як не стараўся ні адзін паляк!..
От наш народ! От ужо нашы людзі!
Усё адно ім – хоць кладзі на грудзі.
ВІТАЎТ *увайшоўшы з Ганнай*
Ты не хвалюйся...
Выйдзе ўсё, як выйдзе.
БОНЧА
Калі б вы замак не спалілі ў Лідзе,
Дык выйшла б лепш.
ВІТАЎТ
Ну, трэба ж было гнаць
Скіргайлу!..
БОНЧА, *падышоўшы да вакна.*
А Ягайлы не відаць...
*(Дастае шалік з куфэрка.)*
Княгіня, гэта вам прынёс народ.
Лябяжы белы пух.
ГАННА
Ды ён для маладух!
А мне даўно не васямнаццаць год,
Як каралеве Ядзі...
БОНЧА, *зноў зірнуўшы ў вакно.*
Бончаў кот!
Ужо лятуць! Ужо карэта ў садзе!
А колькі іх! І не злічыць... Гурма!
*(Хапаецца за галаву.)*
Пітва дык ёсць на ўсіх –
яды на ўсіх няма.
ВІТАЎТ
Шукай! Палякі любяць закусіць!
БОНЧА, *выходзячы.*
Прасіў жа вас я замак не паліць.
ЯГАЙЛА, *з другога боку сцэны ўваходзячы з Ядзвігай і князем мазавецкім Генрыкам.*
Княгіня!.. Князь!..
ВІТАЎТ, *пацалаваўшы руку Ядзвізе, прывітаўшыся з Генрыкам і абдымаючыся з Ягайлам.*
Як ты жывеш, Ягайла?
ЯГАЙЛА
Як можа жыць кароль?
Спявайма ды гуляйма!
У Кракаве не тое, што ў Прапойску.
Ты войска зноў сабраў?
ВІТАЎТ
Не распускаў я войска.

ЯДЗВІГА
Што вы, браты, адразу пра вайну?
*(Адводзячы ўбок Ганну.)*
Я тут князёўну бачыла адну,
Да вас падобную.
ГАННА
Яна дачка мая.
Мы аддалі яе за князя Васіля
Маскоўскага.
ЯДЗВІГА
А што ў пасаг?
ГАННА
Зямля.
ЯДЗВІГА
А мы жывём з Ягайлам без дзяцей...
АНДРЭЙ, *з'яўляючыся з братам Дзмітрыем.*
Вы, мусіць, зачакаліся гасцей –
І мы прыпёрліся!
Вялікі князь! Кароль!..
Хлеб-соль, кароль вам!..
ЯГАЙЛА *не надта ветліва*
І табе хлеб-соль.
ВІТАЎТ
Тады прашу за стол.
Пакуль што без яды,
Але з вадой.
ГЕНРЫК
Не выпіць шмат вады,
Калі няма яды.
ВІТАЎТ
Накрытыя сталы!
І столькі там яды,
што не з'ядуць валы.
*(Сядаюць. У тарцы стала – каралева Ядзвіга.)*
ЯДЗВІГА
Князь Генрык. Слова вам.
Для ўдакладнення.
ГЕНРЫК, *дастаючы пергамен.*
Я коратка скажу
пра сутнасць пагаднення, –
Якое рыхтавалі мы старанна, –
Паміж Ягайлам, Вітаўтам,
Ядзвігаю і Ганнай.
Пачну адразу зблізку. Не здаля.
*(Глядзіць пагадненне.)*
Князь Вітаўт у Літве –
намеснік караля,
Яму вяртаецца ягоная зямля,
На землі новыя займее ён правы
І можа тытул мець: вялікі князь Літвы
На ўсё яго жыццё. Але па сконе
Зямля і тытулы вяртаюцца кароне.
Для тых, хто мае нейкія сумневы,
Скажу, што гэта – воля каралевы,
Якая мэту мае ў тым адну:
Спыніць братазабойчую вайну.
ЯГАЙЛА
Дадаць хацела б нешта ты, Ядзвіся?..
ЯДЗВІГА
Вайне не скажаш проста так: спыніся.
Тут не адна патрэбна воля. Дзве.
Я веру, што вы спыніце яе,
І я хачу, каб вы ў тым пакляліся
На капішчы,
дзе Зніч гарыць спрадвечны,
Дзе й выбрала я месца для сустрэчы.
ГАННА
Ты што... паганка, Ядзя?
ЯДЗВІГА
Не!.. Яны
Паганцы ў нас з табой. І вера даўніны
Мацнейшая для іх за нашу, Ганна, веру.
ГАННА
Якая вера даўніны? Хімеры!
Знічы ды ідалы! Курганы! Валуны!..
ЯДЗВІГА
Дык я табе й кажу: паганцы ў нас яны.
Няхай клянуцца вечнаму Знічу.
ДЗМІТРЫЙ
Што мы маўчым, Андрэй?
АНДРЭЙ
Я, брат, таму маўчу,
Што слухаю – і чуць іх не хачу.
*(Да ўсіх.)*
Ягайла ўвесь у Польшчы ўжо жыве.
А мы жывем не ў Польшчы. У Літве.
ВІТАЎТ
Ён і ў Літве кароль!
АНДРЭЙ
Пытанне: чый кароль?
Літву жаруць ужо, як воўну моль,
Ксяндзы!.. Народ як голы быў,
так ён і ходзіць голы,
А на Літве кляштары ды касцёлы,
Нібы грыбы растуць...
Ашмяны! Крэва! Солы!
Мы свае песні, мову пагублялі!
Усе князі па-польску мувіць сталі!

Прыйшлі ў касцёл.
Ксёндз даў аплатку. З'елі –
Адразу прывілеі! І лілеі
Ім раздаюць... Вы можаце вярнуць
Зямлю і замкі брату караля,
Але ці вернецца да нас сама зямля?
Літвінская зямелька, а не тая,
Што тут па-польску моліцца, спявае...
ДЗМІТРЫЙ
Я тое самае магу сказаць.
Я не хачу ў сябе жыць па-чужому...
І за сваё мы будзе ваяваць.
Не аддамо сваё ніколі і нікому.
*(Выходзяць.)*
ЯГАЙЛА *услед Андрэю і Дзмітрыю.*
Ніхто не забірае! Аддае!..
ЯДЗВІГА *да Ягайлы*
Мне спадабаліся браты твае.
Я думала пра тое, што яны
Сказалі. Я з вугорскай стараны,
І ў Польшчы я старалася
стаць полькай,
І стала ёй, але ўсе казкі, сны
З той стараны... З яе адной... І толькі...
*(Бярэ пергамен, падпісвае, за ёй падпісваюць усе.)*
Ну, што?.. Ідзіце клясціся, браты,
Пакуль для вас гарыць
ваш Зніч святы.
*(Вітаўт і Ягайла выходзяць.)*
БОНЧА *ўслед Вітаўту і Ягайлу, з'яўляючыся з глечыкам віна і хлебам*
Чакайце! Я пітва прынёс, яды!..
У Ліду збегаў я... Туды... Сюды...
ГАННА *да Ядзвігі.*
Няхай яны адны
паўстануць прад агнём,
А мы з табой пап'ём ды папяём!
*(Да Бончы.)*
Давай усё на стол!..
БОНЧА
Ой, бабанькі, нясу!..
*(Сам сабе.)*
І так нясу, што яйцамі трасу.
ЯДЗВІГА
Што ён сказаў?
ГАННА
Калі нясе, трасе.
ЯДЗВІГА
Я бачу, што нясе. А чым трасе?..
*(Рагочуць.)*
ГАННА
А ты вясёлая!
Не скажаш па табе,
Калі ў цябе карона на ілбе.
ЯДЗВІГА
І па табе не скажаш, калі княжыш...
А як ты ўратавала князя, скажаш?
ГАННА
Давай спачатку вып'ем!
ЯДЗВІГА
Я не п'ю...
ГАННА
Дык ты не пі! Я трохі налію...
ГЕНРЫК, *забіраючы ў Ганны глечык*
Przepraszam, pani, jest mężczyzna tutaj!
*(Налівае.)*
I co to jest?..
*(Нюхае.)*
Па-мойму, барматуха.
Ну, барматнём! За што мы, пані, п'ём?
ГАННА
Давай за тое вып'ем, што жывём!
Зо тое ўсё, што Бог і даў нам, і не даў,
За тое, каб табе дзіцятка Ён паслаў.
ЯДЗІВІГА
За гэта я таксама вып'ю, Ганна.
*(Выпівае.)*
ГЕНРЫК, *выпіўшы, смакуе*
На пах дых жах.. А выпіў – не пагана!
ГАННА *да Ядзвігі*
Тады давай спяём, калі ўжо п'ём!
ЯДЗВІГА
Калі ўжо п'ём, давай тады спяём!
ГЕНРЫК
Але я без музыкі не спяваю...
БОНЧА, *адчыняючы куфэрак*
Спявайце! Я на дудцы падыграю!
*(Грае. Ядзвіга ўскоквае.)*
ГАННА
Вазьмі, Ядзвіга, шалік! Чысты пух!
Для гэтакіх, як ты! Для маладух!
Эх, ножку ўправа! Потым
ножку ўлева!
Літвы княгіня! Польшчы каралева!
*Граюць, пяюць, танцуюць, перамяшчаючыся ў глыбіню сцэны.*
*На авансцэне Вітаўт і Ягайла перад Znічом.*

ВІТАЎТ
Ты помніш, што наш дзед,
князь Гедымін казаў?
Я старыны казаў ён, не знішчаў,
Яна сама сабою аджывала,
Танула ў водах, у кастрах згарала...
Вось так і вечны Зніч
калісьці дагарыць,
Але не нам з табой яго гасіць.
ЯГАЙЛА
Мы можам па мінулым слёзы ліць,
Але зірні наўкол: балота, багна.
Я пагасіць наш вечны Зніч
не прагну –
У вечнай багне не хачу я жыць.
А паў-Літвы яшчэ ўсё ў ёй жыве...
ВІТАЎТ
Ягайла... Ані ў Польшчы, ні ў Літве
Не падыму я меч, каб з тым мячом
Прыйсці аднойчы да твайго парога, –
І ў тым табе клянуся прад Знічом!..
ЯГАЙЛА
І я клянуся ў гэтым перад Богам.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ПЯТАЯ

1399 год. Апошняе лета чатырнаццатага стагоддзя. Крэва, замак. Пакой у княскай вежы. У пакоі *Прора.*

ГОЛАС
Гэй, Прора!
ПРОРА
Што?
ГОЛАС
Тут князь Андрэй! Пускаць?
ПРОРА
Калі гэта князёў вы не пускалі?
ГОЛАС
Чаго яны да нас? Табе сказалі?
ПРОРА
Зноў Свідрыгайла
ўздумаў бунтаваць
У Віцебску. Яны яго сунялі.
Вязуць сюды. Не залівайце роў!..
АНДРЭЙ, *уваходзячы.*
Здароў быў, Прора!
ПРОРА
Будзь і ты здароў,
Бадай бы над табою поп зароў.
АНДРЭЙ
Найшчыра дзякую!
Таго ж табе жадаю...
Браты прыехалі?
ПРОРА
Пакуль няма. Чакаю.
Ты, княжа, не крыўдуй...
АНДРЭЙ
Чаго тут крыўдаваць!
З такім жыццём – чаго яшчэ жадаць?
ПРОРА
Жыццё наша такое, як мы самі.
Не ўмеем жыць. Адна вайна між намі.
АНДРЭЙ
З татарамі ваюем! З крыжакамі!
А што рабіць?..
ПРОРА
Я пра вайну з братамі.
Мы – сведкі, я і ты, і сведка Бог святы,
Што гэтак біць, як б'юць братоў браты,
Ніхто не біў ніколі і нікога!..
І помняць Каіна – і не баяцца Бога.
АНДРЭЙ
Ну, я не столькі сведка, колькі брат...
ПРОРА
Замнога вас, братоў... Бадай, зашмат
На бедную Літву...
АНДРЭЙ
Ты не бурчы, стары.
Калі абрыдла жыць, вазьмі й памры.
ПРОРА, *падышоўшы да вакна.*
Памру... Вунь Свідрыгайла
ў кайданах.
Пры Вітаўце. Ягайле. Пры братах.
Тут Вітаўт пасядзеў –
цяпер сядзець яму.
*(Выходзячы.)*
Чаму я тут?.. Не ведаю, чаму?
АНДРЭЙ
І я скакаў – каня ледзь не загнаў.
Чаго? Хай Свідрыгайла б крыўдаваў
На Вітаўта з Ягайлам без мяне...
Ды што ўжо!.. На вайне, як на вайне.
ЯГАЙЛА, *увайшоўшы з Вітаўтам, Прорам і Свідрыгайлам.*
Андрэй, вітаю! Рады, што жывы.
АНДРЭЙ
А я не рады, што жывыя вы.
ВІТАЎТ
Чаму без брата?

АНДРЭЙ
Надта шмат братоў.
ЯГАЙЛА
Пра гэтай й пагаворым.
*(Да Свідрыгайлы.)*
Ты гатоў?
Ты супакоіўся?.. Ты вокам не касі!..
*(Да Проры)*
Здымі з яго кайданкі...
*(Прора здымае кайданкі.)*
Прынясі
Папіць, паесці...
*(Да Свідрыгайлы.)*
Сёння ты дасі
Тут клятву нам...
СВІДРЫГАЙЛА
А ты мне Вільню даў?..
*(Паказваючы на Вітаўта.)*
Ну, добра: Вільню ты аддаў яму!
А Віцебск?.. Проста лоўчаму свайму
Аддаў ты Віцебск! Спадчыну аддаў
Таму, хто для цябе зайцоў ганяў!
І мне не бунтаваць? Абразу з'есці?
ПРОРА, *з'яўляючыся.*
Сабраў паесці. І гарэлку несці?
СВІДРЫГАЙЛА
А ёсць гарэлка, Прора?
ПРОРА, *выходзячы.*
Не, няма.
ЯГАЙЛА
Тут, Свідрыгайла, файная турма.
СВІДРЫГАЙЛА *да Ягайлы.*
Ты ў Кракаве садзіў мяне.
*(Да Вітаўта.)*
Ты ў Вільні.
Чым лепш у Крэве?
ЯГАЙЛА
Стражнік болей пільны.
ВІТАЎТ
Мы пра цябе клапоцімся, павер ты.
Тут горы. Лес. Тут свежае паветра.
І яйкі... куры... малако... каровы...
ЯГАЙЛА *да Свідрыгайлы.*
Ты чуў?.. Ён тут сядзеў.
Глядзі, які здаровы.
Як быццам з лазні
толькі што вярнуўся.
СВІДРЫГАЙЛА
Ён дыхаў тут. А бацька задыхнуўся.
Дык што са мною будзе? Што і як?..
ЯГАЙЛА
З табой і гэтак можа быць, і так...
Мы з Вітаўтам Літву збіраем у кулак,
З удзельных княстваў
робім мы дзяржаву,
І нам не трэба гэтулькі князёў,
Якія валадараць не па праву –
Па запаветах, чутых ад дзядоў!
Няма дзядоў тых!
Скончыўся той свет!
Сягоння я, кароль –
твой дзед і запавет!
Ты, як малітву, мусіш гэта знаць.
А будзеш бунтаваць ды замінаць,
Дык хоць ты брат...
СВІДРЫГАЙЛА
Што ты махаеш мечам?
Хто даражэй табе?
*(Паказваючы на сябе,*
*потым на Вітаўта.)*
Брат родны ці стрыечны?
Чаму не я, а ён вялікім князем стаў?
ЯГАЙЛА
Бо ён збіраў Літву. Маю малітву знаў.
Уцяміў ён, на чым Літве стаяць!
І хто працягне так, як ён,
Літву збіраць,
Хоць братам ён мне будзе, хоць нікім,
Вялікім князем стане ўслед за ім!
Я ўсё табе сказаў... Ты – выбірай.
СВІДРЫГАЙЛА
Што выбіраць...
Калі бацькоўскі край...
І дзе мне жыць яшчэ...
І паміраць мне дзе...
Я клясціся не буду... На вадзе
Напісаны ўсе клятвы... Ці на гразі...
Але я буду тут вялікім князем!
А, можа, нават буду каралём!
ПРОРА, *уваходзячы.*
Во, медавуха ёсць. І каралям нальём...
*(Ставіць паднос на стол.)*
Частуйцеся...
ВІТАЎТ
Што гэта на падносе?..
ПРОРА
Дык марцыпаны вам... Калі ты пан,
То маеш марцыпан,
як з даўніны вялося.

ЯГАЙЛА
А помніце, як мы да юшкі ў носе
За іх лупіліся? Па праўдзе.
Без падману.
Хто ўсе насы паб'е, таму і марцыпаны!
Ніхто і не злаваў,
забыўшыся пра боль.
СВІДРЫГАЙЛА
Ты раз мне гэтак даў,
што я ўзляцеў пад стол,
Так лупануў, нібы не брат я родны.
Цяпер бы я табе...
ЯГАЙЛА
Давай цяпер! Я згодны!
Давайце ўсе! Двубой высакародны!
Хто ўсім насы паб'е,
той сярод нас кароль.
*(Закасваючы рукавы.)*
Ну, што, браты? Закасвай рукавы!
Біць так, каб не раструшчыць галавы.
І толькі ў нос.
АНДРЭЙ
Але пад носам зубы.
ЯГАЙЛА
Ну, можна па зубах, але не груба.
Хто першы?..
ВІТАЎТ
Маладзейшы хай пачне.
СВІДРЫГАЙЛА
Дык, значыць, я...
А хто супраць мяне?
ВІТАЎТ
Ягайла... Той,
хто ўспомніў пра двубой.
СВІДРЫГАЙЛА, *закасваючы рукавы*
Не, Вітаўт. Я б хацеў пачаць з табой.
ВІТАЎТ
Са мною, дык са мной. Давай!
Ну!.. Нападай!..
СВІДРЫГАЙЛА
Спачатку, Вітаўт, ты мне ў скулу дай,
Каб раззлаваць мяне...
Ты ўсё ж старэйшы...
ВІТАЎТ, *б'ючы.*
На!..
На! На! На! На!..
СВІДРЫГАЙЛА, *павярнуўшыся да Проры.*
Скула ў мяне скрывілася адна?
Ці дзве ён мне звярнуў?..
ПРОРА
Адну. Але да чуба.
СВІДРЫГАЙЛА, *з рыкам кінуўшыся на Вітаўта.*
Цяпер мне напляваць,
ці груба, ці не груба.
Звярну скулу табе і выб'ю зубы!..
Гатова! Юшка!.. Вітаўт, адыходзь.
Андрэй, твая чарга.
АНДРЭЙ
Перапачыў бы хоць.
СВІДРЫГАЙЛА
Нічога. Каралём перапачну.
Ну! Левай! Правай!
Правай! Левай! Ну!
Яшчэ адсюль! Адгэтуль!.. Пацякла...
АНДРЭЙ, *адной рукой трымаючыся за нос, другой мацаючы па кішэнях.*
Насоўка дзе?.. Я браў яе... Была...
ЯГАЙЛА, *падаючы насоўку*
Мне не спатрэбіцца...
Вазьмі, Андрэй, маю.
СВІДРЫГАЙЛА, *падышоўшы да стала і кінуўшы ягаду ў рот.*
Я каралеўскі нос пяшчотна разаб'ю
І ласкава табе я зубы выб'ю...
Ягайла, прапаную просты выбар:
Спачатку зубы, ці спачатку нос?..
Вунь Прора марцыпаны нам прынёс,
Дык пакуль зубы ёсць,
ты з'еў бы марцыпаны...
*(Б'е.)*
Вось так – па праўдзе!
Гэтак – без падману!
Я ўсяк умею – ты мяне вучыў!
І нават гэтак даць, каб ты спачыў,
Магу я, але гэтак біць не стану,
Каб не раструшчылася галава!..
ЯГАЙЛА
Ты раззлаваў мяне!.. І я цябе дастану!..
СВІДРЫГАЙЛА
Давай! Ну, даставай!..
ЯГАЙЛА, *б'ючы.*
Раз-два, раз-два, раз-два!..
І юшка!..
СВІДРЫГАЙЛА, *выціраючы рот.*
Не!.. Гэта маліна з рота...
*(Рыкае, нападаючы.)*
Я зараз адаб'ю табе ахвоту
Маліну трушчыць на маіх зубах!

Ба-бах! Ба-бах, ба-бах!..
Вікторыя, кароль!
Маёй насоўкай выцерці дазволь...
ЯГАЙЛА
Ты мне і праўда зубы выбіць мог...
ПРОРА, *набраўшы вады ў кубак і паліваючы спачатку Ягайлу, пасля ўсім.*
Здурнелі ўсе на свеце, бачыць Бог.
На марцыпаны зубы засталіся?..
ВІТАЎТ, *мыючыся.*
Ты, Свідрыгайла, болей так не біся...
СВІДРЫГАЙЛА
А як мне біцца? Біцца, каб не біць?
Я так не ўмею...
ЯГАЙЛА
Ладна. Будзем жыць.
Я сам прапанаваў, дык што цяпер.
*(Да Свідрыгайлы.)*
Ты толькі так не рыкай. Ты ж не звер.
Культура быць павінна на Літве.
АНДРЭЙ, *мыючыся.*
А гэта праўда, што мядзведзь жыве
З табой у Кракаве?
ЯГАЙЛА
Так, я яго прывёз.
ПРОРА, *выходзячы.*
Мядзведзь у Кракаве!
Зайздросны лёс!
ЯГАЙЛА
Я вас усіх хацеў у Кракаве сабраць.
Каб паказаць вам свет.
Вас свету паказаць.
СВІДРЫГАЙЛА
А то мы там не бачылі чагосьці!
Я ў кракаўскай турме
паўгода парыў косці,
Калі мяне ты ў госці запрасіў!..
ЯГАЙЛА
Вось ты да Вітаўта
нянавісць, злосць таіў...
СВІДРЫГАЙЛА
Я не таіў!
ЯГАЙЛА
Тым больш... А ён мяне маліў
Памілаваць цябе... І за цябе пакляўся
Быць верным мне...
СВІДРЫГАЙЛА
Браты... Навошта здаўся
Я вам усім?
ЯГАЙЛА
Бо мы – твае браты!
Калі адыйдзе Вітаўт, станеш ты
Вялікім князем.
СВІДРЫГАЙЛА
Вы мяне дурыць
Сабраліся? Так танненька купіць?..
Дык я за вас каштую не танней!
ЯГАЙЛА, *схапіўшы Свідрыгайлу загрудкі.*
Як сыйдзе Вітаўт! І не днём раней!
А да таго ні бунтаў, ні вайны!
АНДРЭЙ
Ну, я прыпух ад гэткай навіны.
Набілі морду, кроў дасюль цячэ,
Пасля сказалі, што дадуць яшчэ.
Я, можа, і дурны, але не ем я мух!
І гэту навіну не з'ем, як муху...
ВІТАЎТ
Божа!..
Андрэй! Ва ўсім адзін ты варты двух!
Ды двух князёў вялікіх быць не можа!
Адзінства – шлях Літвы!
Ты на шляху не стой!
Змяцём, Андрэй!
Ты можаш хоць з Масквой,
Хоць з крыжакамі
зноўку дамаўляцца,
Змяцём з Масквой і з крыжакамі!..
АНДРЭЙ
Мне баяцца?..
*(Устае.)*
ВІТАЎТ
Чакай, Андрэй! Прашу цябе застацца!
Праз нейкі месяц б'емся мы з Ардой!
І нам стаяць плячо ў плячо з табой!
Такі наш лёс!..
*(Андрэй налівае кілішак, выпівае і сядае.)*
СВІДРЫГАЙЛА
Вы жартам, ці ўсур'ёз?
ЯГАЙЛА
Пра што ўсур'ёз?
СВІДРЫГАЙЛА
Пра зубы і пра нос.
Хто морды ўсім набіў,
дык той і князь вялікі?..
*(Паўза. Ягайла не вытрымлівае, смяецца. За ім Вітаўт, Андрэй, сам Свідрыгайла. Усе рагочуць.)*

ЯГАЙЛА, *адсмяяўшыся.*
Вось пра мяне ў Еўропе кажуць: дзікі.
А паказаў бы я Еўропе вас...
СВІДРЫГАЙЛА
А выпіць нам не час?
ЯГАЙЛА
Бадай што, час.
АНДРЭЙ
Ды я ўжо выпіў...
ВІТАЎТ
Выпіў ты за нас...
Цяпер мы вып’ем за цябе, Андрэй!
За брата нашага... Жыві і здаравей!
*(Спяваюць.)*
Гой, літвіны, гой,
Сонца над Літвой,
Калі сонца над Літвою,
Час жыта жаць.
Час жыта жаць,
У снапы вязаць,
І цапамі весела на таку скакаць.
Гой, літвіны, гой!
Хмары над Літвой!
Калі хмары над Літвою,
Час ваяваць.
Час ваяваць,
Конікаў сядлаць,
Шаблямі ды дзідамі хмары разганяць.
Гой, літвіны, гой,
Гора за гарой,
Калі гора за гарою, час баляваць.
Час баляваць,
Чаркі падымаць,
Жоначку на ложачку час пакалыхаць.
ЯГАЙЛА
За Крэва п’ю – за княжы мой вянец!
Я некалі зраблю з яго сталец!..
ПРОРА, *уваходзячы.*
Кароль... Ягайла... З Кракава ганец...
ЯГАЙЛА
Што там такое?... Што такое там?..
ПРОРА
Я не магу сказаць...
Няхай ён скажа сам...
ЯГАЙЛА
Чаму не можаш?.. Зуб баліць?
Шчака?!.
*(Прора моўчкі выходзіць. Уваходзіць Ганец.)*
ГАНЕЦ
Кароль, памерла вашая дачка,
Што толькі нарадзілася... І жонка...
ЯГАЙЛА
Што жонка?..
ГАНЕЦ
Захварэла. Смерць дзіцёнка
Яна, магчыма, не перажыве...
ЯГАЙЛА
Маўчы, ганец! Як хочаш жыць,
маўчы!
ГАНЕЦ
Яна прасіла быць... Хоць днём,
хоць уначы...
ЯГАЙЛА
Ніколі ж не прасіла ні аб чым!..
ГАНЕЦ
Паклон прасіла перадаць Літве.
*(Кланяецца. Выходзіць.)*
ЯГАЙЛА
Зноў Бог маё жыццё на часткі рве.
А я ў яго паверыў... І багоў
Паганскіх папаліў... Касцёлаў,
кляштароў
Набудаваў... Я думаў: будзе рады...
А Ён мне зноў пад дых! На крыж мяне
Ён зноў!..
У чым тады Ягоная спагада?
І што тады Ягоная любоў?

### ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ШОСТАЯ

Лета 1399. Каралеўскі замак у Кракаве. Спальня каралевы *Ядзвігі.* У спальні *Ядзвіга* на ложку ў падушках, пакаёўка *Стася,* доктар, ксёндз.

ЯДЗВІГА *да Стасі, якая прыбірае, прычэсвае Ядзвігу.*
Адкуль ты, Стася?
СТАСЯ
З Нальшы, каралева.
ЯДЗВІГА
А дзе ёсць Нальша?
СТАСЯ
Дзе Літва. Дзе Крэва.
ЯДЗВІГА
У Крэве я была. Дванаццаць год таму.
З Ягайлам, з каралём... Я глянуся яму
Такая сёння?.. Толькі, як на троне,

Ты пасадзі мяне...
Вышэй... Прыпадымі...
Сама я не магу... За плечы абдымі...
Дык глянуся такая?.. Побач з ім...
СТАСЯ
Няма на гэтым свеце і на тым
За каралеву прыгажэй красы...
Яшчэ паправім трохі валасы.
ЯДЗВІГА
А ты была на свеце тым?
СТАСЯ
Бывала.
ЯДЗВІГА
І што там бачыла?
СТАСЯ
Не заўважала
Ніякай розніцы. Такі ж набор пакут
І радасцяў людскіх. Што там яно,
што тут:
Спакусаў вельмі шмат,
а грошай вельмі мала.
КСЁНДЗ
Ты б языком падлогу падмятала,
Каб у мяне служыла!..
СТАСЯ
Я павінна
Такое слухаць?.. Я вам не анучка!
Князёўна я! Я Маргера праўнучка,
Які стрыечным братам Гедыміна
І дзядзькам Кейстута з Альгердам
быў!
Я каралю праз Маргера радня!..
ДОКТАР
Ды ціха, ціха! Не бывае дня,
Каб вы не пасварыліся... Забыў
Я зноў праз вас даць зёлкі каралеве.
СТАСЯ, *дапамаючы Ядзвізе выпіць зёлкі.*
Сама я назбірала іх у Крэве,
Дай Божа, каб яны дапамаглі...
КСЁНДЗ
Дзе тое Крэва! На краі зямлі.
Чаго вы, каралева, там былі?
ЯДЗВІГА
Дык там і вы былі.
Касцёл там асвячалі.
Ці вы былі, а дзе былі, не зналі?..
Я чую: ён ідзе... Вышэй, вышэй мяне...
Каб як на троне... Можа, у кароне?
СТАСЯ
Давайце ў ёй, калі ўжо як на троне.
*(Надзявае карону, папраўляе валасы.)*
Ой, ваша прыгажосць Ягайлу скалане!
ЯДЗВІГА
І шалік мой накінь на плечы мне...
*(Стася накідвае на плечы Ядзвігі белы шалік, падараваны Ганнай.)*
ЯГАЙЛА, *з'яўляючыся, да доктара.*
Ці я ўвайсці магу?
ДОКТАР
Вы тут кароль... Вы вольны...
ЯДЗВІГА
Ягайла, гэта ты?
Няхай расчыняць вокны...
ДОКТАР *да Ягайлы*
Не лепшы дзень сягоння. Мокрадзь.
Золь.
ЯДЗВІГА
Мне сёння лепш...
ДОКТАР *да Ягайлы сцішана.*
Баюся я, кароль,
Што лепш апошні раз.
ЯДЗВІГА
Прашу я выйсці вас.
ЯГАЙЛА
Ды ксёндз тут мусіць быць...
ЯДЗВІГА
Кароль!.. Ты можаш
вокны расчыніць?
*(Ягайла робіць знак, каб усе выйшлі. Ксёндз запальвае свечку, усе выходзяць. Ягайла расчыняе вокны.)*
Ты можаш падысці...
Пацалаваць руку...
Калі наеўся нават часнаку.
*(Ягайла падыходзіць, цалуе, адыходзіць.)*
Так, як упершыню... Цяпер як слуп
не стой...
ЯГАЙЛА
Я буду на зямлі і пад зямлёй
Стаяць прад каралеваю маёй.
ЯДЗВІГА
Прысядзь, Ягайла...
ЯГАЙЛА
Дзе ты загадаеш?
*ЯДЗВІГА, здымаючы карону і падсоўваючыся.*
Што ж ты за муж такі, калі не знаеш,

Дзе тваё месца каля жонкі ў ложку?..
ЯГАЙЛА, *сядаючы.*
Спакусліва з-пад коўдры
высунь ножку –
І я ўваскрэсну, як не паміраў!
ЯДЗВІГА
Хто напісаў?
ЯГАЙЛА
Князь Маргер напісаў,
Калі быў малады. Ён у свае гады
Ваяка быў. А заадно й віція...
ЯДЗВІГА
Ён забіваў людзей?.. А ты, Ягайла?..
ЯГАЙЛА
Тыя,
Каго я забіваў, маглі забіць мяне.
ЯДЗВІГА
А страшна на вайне?
ЯГАЙЛА
Спачатку. Потым – не.
ЯДЗВІГА
Як у мяне з табой.
ЯГАЙЛА
Я быў такі страшн*ы*?
ЯДЗВІГА
Быў не такі, як сніўся... Тыя сны
Забыліся... Забыўся нават ён...
ЯГАЙЛА
Вільгельм?
ЯДЗВІГА
Вільгельм...
Ён – мой апошні сон.
ЯГАЙЛА
Я часцяком той сон успамінаў.
ЯДЗВІГА
І раўнаваў?
ЯГАЙЛА
У карты абыграў,
Каб ён і пра мяне не забываў.
ЯДЗВІГА
Ты з ім гуляў у карты?
ЯГАЙЛА
Я гуляю
З усімі і ва ўсё. Нікога не змушаю,
Ён сам прапанаваў. Я з ім гульнуў –
І дзвесце тысяч адкупных вярнуў.
На іх табе пярсцёнкаў накупіў.
ЯДЗВІГА
На дзвесце тысяч?..
ЯГАЙЛА
Не. Астатнія прапіў.
ЯДЗВІГА
Жартуеш... Вось адкуль
палац мой новы...
Ды ўсё адно – палова...
ЯГАЙЛА
А палову
Аддаў я Вітаўту ў казну Літвы.
ЯДЗВІГА
Усё жыццё варагавалі вы...
ЯГАЙЛА
Ды што ты, не... Такая ў нас гульня.
Нам без яе ўжо не прыжыць і дня.
ЯДЗВІГА
Не знала я, што Стася вам радня...
Чаму ты не казаў?
ЯГАЙЛА
Далёкая... Па дзедзе...
ЯДЗВІГА
Дык і на пахаванне ён прыедзе?
ЯГАЙЛА
Хто?
ЯДЗВІГА
Вітаўт.
ЯГАЙЛА
На якое пахаванне?
ЯДЗВІГА
Мне сёння трохі лепш было ад рання,
А зараз зноўку горш...
ЯГАЙЛА
Мая ты яска...
ЯДЗВІГА
Ты б расказаў, кароль,
для яскі сваёй казку
Пра каралеву... Як жыла-была...
Ты мала быў са мной...
ЯГАЙЛА
Даруй... Дзяржава... Справа...
ЯДЗВІГА
Ягайла, гэта я – твая дзяржава.
Я каралева ў ёй...
ЯГАЙЛА
Ты каралева ў ёй...
ЯДЗВІГА
Але Літвой тваёй
Так і не стала... Мусіць, месца мала
Для дзвюх у сэрцы...
ЯГАЙЛА
Ты адна ў ім!

Другой няма! Ніколі не бывала!..
ЯДЗВІГА
Дык вось я і кажу, што месца ў сэрцы
мала.
Таму так цісне. Потым разарвецца
І спыніцца...
ЯГАЙЛА
Не рві маё ты сэрца...
ЯДЗВІГА
Не рваць тваё?.. Дык я тваё й не рву...
Хай б'ецца ў Польшчы...
Вернецца ў Літву...
Ты помніш, мы былі з табой у Крэве...
Быў дождж такі... Залева... І ў залеве
Маланкі бліскалі, качаліся грамы –
Такі быў Божы жах на свеце ўсім, а мы
Стаялі на гары... Забылася, якой...
Як звалася гара?
ЯГАЙЛА
Ярылавай гарой.
ЯДЗВІГА
Ярылавай. Я ўспомніла... І ты,
Хоць побач з той гарой
касцёл стаяў святы,
Сказаў мне распрануцца... Я змагла...
ЯГАЙЛА
Ты, як багіня, на гары была...
ЯДЗВІГА
І ты на той гары, як бог, мяне кахаў...
А калі сціхла ўсё, ты мне сказаў,
Што бога я зачала ад Ярылы...
Ды бога я табе не нарадзіла...
Не нарадзіла нават каралёў...
ЯГАЙЛА, *гладзячы Ядзвігу па валасах.*
Нічога, мая любая, нічога...
ЯДЗВІГА
Нікога я не выпрасіла ў Бога!..
Не ведаю, што я ў жыцці такога
Зрабіла, што пракляў ён нашу кроў?..
ЯГАЙЛА
Ты нарадзіла для мяне любоў...
ЯДЗВІГА
А потым мяне голую павёў
Ты да ракі... Там шмат было народу,
А мне было не сорамна... І ў воду
Зайшла з усімі я...
Зрабіла першы крок
Я да тваёй Літвы... І нехта мне вянок
Надзеў на галаву... Мяне за рукі ўзялі
І павялі... І ціха заспявалі...
*(Спявае ціха.)*
Купалінка, купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?..
ЯГАЙЛА
Чаму ты змоўкла?
ЯДЗВІГА
Бо памерла дочка...
Ты бачыў, у яе такія вочкі,
Як у цябе... Валошкамі цвілі...
Ягайла, каб усе яны былі
Жывымі... нашы дзеці... нарадзілі
Сваіх дзяцей... а тыя ўжо сваіх...
І калі б мы з табой прыйшлі да іх...
Праз пакаленні... разам пасадзілі
Усіх... што б ты сказаў ім?..
ЯГАЙЛА
Я б сказаў
Пра тое, як кахаў цябе... Кахаў
Каханнем тым, што выбрана не намі,
А Богам выбрана, што на сваім вяку
Я праз цябе з віною і грахамі
Прайшоў, нібы праз горную раку,
Дзе берагі іскрылі, як каралі,
Дзе й следу не пакінула брыда!..
Што не баюся Божага суда,
Бо ты мяне абмыла, як вада,
Якою пры хрышчэнні абмывалі.
*(Урываецца сразняк, які тушыць свечку, падхоплівае і выносіць у вакно шалік Ядзвігі.)*
ЯДЗВІГА
Што гэта?.. Хто?.. Мне стала страшна,
мілы.
ЯГАЙЛА
Не бойся. Свечку ветрам загасіла.
*(Абдымае Ядзвігу, бярэ з падушак, люляе.)*
ЯДЗВІГА
Вось мы з табой з'явіліся... жылі...
Скажы... а мы шчаслівымі былі?
ЯГАЙЛА
Чаму спытала ты?
ЯДЗВІГА
Бо паміраю.
Паабяцай, Ягайла...
ЯГАЙЛА
Абяцаю...
ЯДЗВІГА
Глядзі... Там, у вакне...
Там нейкі белы птах...

ЯГАЙЛА
Так, белы птах...
ЯДЗВІГА
Ягайла, ён за мною...
Паабяцай, што як мяне
трымаеш на руках,
Люляеш, як дзіця,
таксама Польшчу будзеш
Трымаць, люляць...
Калі мяне забудзеш,
Яе не забывай...
Хай будзе Бог з табою...
З маёю Польшчай... і тваёй Літвою...
Ягайла...
ЯГАЙЛА
Што?..
ЯДЗВІГА
Якое...
ЯГАЙЛА
Якое – што?..
ЯДЗВІГА
Якое сэрца ўсё ж... малое...
ЯГАЙЛА, *люляючы Ядзвігу, ціха, скрозь слёзы пяе.*
Купалінка, купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?..
ГОЛАС
Памерла каралева! Гэты боль
Не спыніць сэрца Польшчы!
Сэрца б'ецца,
Хоць і баліць...
ЯГАЙЛА
Ядзвігай боль завецца...
ГОЛАС
Няхай жыве кароль
Літвы і Польшчы!..
ЯГАЙЛА, *цалуючы Ядзвігу.*
Хай жыве кароль...
*Мелодыя «Купалінкі», якая ўсё цішэй.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА СЁМАЯ

1434 год. Палац караля ў Гародні. Зала прыёмаў з каралеўскім тронам і сталом для гасцей. Каля расчыненага вакна, у якім на сцішаную мелодыю «Купалінкі» накладваецца салаўіны спеў, – *Прора*, стары слуга вялікага князя *Ягайлы*, цяперашняга караля Польшчы *Уладыслава*. У вакне з'яўляецца *Любоў*, яна ж *Літва* (прывід).

ЛЮБОЎ
Вітаю, Прора! Як жывеш, стары?..
Не пазнаеш?..
ПРОРА
Цьфу, гарам ты гары!
Спалохала!..
ЛЮБОЎ
Не дзіва. З той пары,
Як развіталіся, амаль жыццё прайшло.
ПРОРА
Амаль жыццё... Амаль... Прайшло,
як не было...
Чакай, цябе ж забілі! Цела ў роў
У Крэве кінулі. Ці ты жыва, Любоў?
ЛЮБОЎ
Любоў не памірае. Я жыва.
І я цяпер Любоў, і я – Літва.
ПРОРА
Ты стала прывідам?
ЛЮБОЎ
Я так бы не сказала.
Каб стала прывідам,
Літвой бы я не стала.
А ты кім стаў?
ПРОРА
Кім быў... Служу, каму служыў.
ЛЮБОЎ
І многіх ты на службе задушыў?
ПРОРА
Жыццё ўсё тое ж, дык і служба тая...
Пакуль у свеце ёсць каму служыць,
Заўсёды будзе ў ім каго душыць.
ЛЮБОЎ, *саскокваючы з падваконня і праходзячы да стала.*
А як жыве кароль?
ПРОРА
Жыве і памірае.
ЛЮБОЎ
Ну, так усе жылі. І нават каралі...
ПРОРА
Не думаю, што так усе жылі.
Ён як бы і жывы, ды ў ім
змярцвела кроў,
Душа змярцвела ў спевах «салаўёў»,
Што каралю пяюць пра здраду
каралевы...
Ён звар'яцеў пад гэтыя напевы,
А «птушкі» не стамляюцца спяваць,
Каб зганьбіць каралеву, каб не даць
Сынам яе назвацца каралямі,
Як салаўі завуцца салаўямі,
Хай нават бацька іх не з салаўёў...

Трох жонак меў кароль,
але не меў сыноў.
Чацвёртая нарэшце нарадзіла
За ўсіх траіх. «А скуль такая сіла
З'явілася ў старога караля,
Якога зачакалася зямля?» –
Пытацца сталі ўсе. Маўляў, не Бог,
А нехта іншы ў гэтым дапамог.
ЛЮБОЎ
Але ж сыны падобны да яго.
ПРОРА
Так. І яшчэ да брата аднаго
Стрыечнага...
ЛЮБОЎ
Ну, гэта ты пляткарыш!
Ты князю Вітаўту дасюль
адпомсціць марыш,
Што збег з турмы, цябе абхітраваў!
ПРОРА
За што купіў, за тое і прадаў
Я ўсё, што наспявалі салаўі...
Яшчэ ў Ягайлы дзве дачкі былі,
Якіх дзве першых жонкі нарадзілі,
Але яны нядоўга пражылі,
І кажуць, што адну з іх атруцілі.
Ядзвігу. Ёй Ягайла даў імя
У памяць першай жонкі – і дарма,
Бо маладая мачыха была
Раўнівая, жыцця ёй не давала...
Яна са свету падчарку й звяла,
Каб тая каралеваю не стала,
Каб не паўстала на шляху сыноў...

Хай гэта плёткі ўсё, якіх нямала
Плятуць пра каралеў і каралёў,
Але на белым свеце ўсе пакуты
Ад іх. Ад плётак. Ад людской атруты.
Такі закон.
ЯГАЙЛА *за дзвярыма.*
Гэй, Прора!
ПРОРА
Гэта ён!..
*(Спяшаючы да дзвярэй.)*
Стой! Ты куды, Літва?
ЛЮБОЎ*, сядаючы на трон.*
На польскі трон!
ЯГАЙЛА, *уваходзячы ў расчыненыя Прорам дзверы.*
Ідзі! І каралеву прывядзі.
*(Праходзіць да вакна, у якім гучнее салаўіны спеў; стаіць, слухае.)*
ЛЮБОЎ *напявае.*
Купалінка, Купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка...
ЯГАЙЛА, *павярнуўшыся і падслепавата ўглядваючыся ў Любоў.*
Ядзвіга? Ядзя?.. Не ўставай, сядзі...
Былое бачу, быццам скрозь завею.
Мая Ядзвіся тут?..
ЛЮБОЎ
Не. Тут – твая Літва.
ЯГАЙЛА
Літва? На польскім троне?..
*(Сціскае скроні.)*
Галава
Мне так баліць, што я не разумею...
Ты жонка першая, якую я кахаў?
ЛЮБОЎ
Не. Я Літва, якую ты прадаў
За польскі трон.
ЯГАЙЛА
Ты мне дачка? Ядзвіга?
ЛЮБОЎ
Зацьменне наплыло на розум твой,
як крыга...
Была я маці некалі тваёй,
Была табе і жонкай, і дачкой,
Пакуль ты волі не прыняў чужой –
І для цябе я падчаркай не стала.
ЯГАЙЛА
Як хораша ты зараз праспявала
Купалінку... Яшчэ раз праспявай.
ЛЮБОЎ
Ягайла! Ты прадаў бацькоўскі край!
Там песень для цябе не засталося!
ЯГАЙЛА
У голасе тваім шуміць калоссе...
Даспелае... Час поле дажынаць...
Самому коласам пакласціся
ў пракосе...
ВІТАЎТ, *з'яўляючыся з прымасам Польшчы Войцехам Ястшэмбецам і кракаўскім біскупам Збігневам Алясніцкім.*
Не, каралі не могуць паміраць,
Калі захочуць! А тым болей тут,
Дзе ты згадзіўся на ганебны суд
Над каралевай. Ён яшчэ ідзе...

ЯГАЙЛА
І што яна сказала на судзе?
ЯСТШЭМБЕЦ
Што каралю не здраджвала ніколі
Ні па сваёй, ні па чыёйсьці волі.
Так, пане біскуп?
АЛЯСНІЦКІ
Так. І паклялася ў тым,
Што верная была. Але затым
Кляліся сведкі ў іншым, і казалі,
Што ў спальні Соф'і ўсё ж
яны бывалі,
Што не любіла Соф'я адзіноты,
Што больш у ёй прывабнасці,
чым цноты, –
І гэта сёння чулі ўсе ў судзе...
ЯГАЙЛА
Якія сведкі? Хто яны? І дзе?!.
Назваць усіх мне зараз! Паіменна!
І ўсіх на кол!
АЛЯСНІЦКІ
Там рыцары, кароль.
І калі ты дазволіш...
ЯГАЙЛА
Не!
ЯСТШЭМБЕЦ
Дазволь
Усіх іх выслаць з Польшчы патаемна,
І каралеву выслаць разам з імі,
З усімі служкамі і лёкаямі ўсімі.
ЯГАЙЛА *істэрычна.*
Куды?!.
ВІТАЎТ
У Друцк! Адкуль яе ты ўзяў.
ЯГАЙЛА
А хто мне ў Друцку ўзяць яе сказаў?
Хто мне яе сасватаў?
ВІТАЎТ
Я сасватаў.
ЯГАЙЛА
І падзяліўся ёй са мной як з братам!
ВІТАЎТ
Што ты вярзеш?
ЯГАЙЛА
Ты мне за бацьку помсціш!
А я не забіваў яго! Ты помніш,
Як кляўся я табе: «Не забіваў!»
ВІТАЎТ
Я жонкі свайго брата не жадаў!
Ягайла! Ты апошні розум страціў,
Калі шукаеш здраду жонкі ў браце!
Ды я не прагну помсты. Бачыць Бог,
Я сто разоў табе адпомсціць мог
У бітвах тых, дзе мы да спіны спіна
Стаялі ад відна і да цямна!..
ЯСТШЭМБЕЦ
Там, дзе не можа разлучыць вайна,
Там лёгка можа разлучыць жанчына.
*(Расчыняюцца дзверы, у якія Прора прапускае Соф'ю.)*
АЛЯСНІЦКІ
Вось і яна...
СОФ'Я
Каго я разлучыла?
Касцёл з царквою?
АЛЯСНІЦКІ
Польшчу і Літву!
СОФ'Я
Літвінка я! І я Літвой жыву!
*(Да Ястшэмбеца.)*
І калі ойча выслаць мяне хоча
Туды, дзе я жыву,
дык калі ласка, ойча!
ЯСТШЭМБЕЦ
Я служка Божы. Я не высылаю
Нікога і нікуды...
СОФ'Я *да Ягайлы.*
Заклінаю
Паверыць мне, кароль!
Няма за мною здрады!
А вышліце мяне, палякі будуць рады,
Бо гэта стане доказам віны,
Нявернасці маёй, і нашыя сыны
Па спадчыне не стануць каралямі!
ЛЮБОЎ
Якія спрэчкі дзіўныя між вамі...
АЛЯСНІЦКІ
А гэта пані – хто?
СОФ'Я
Літва мая.
Калі вы суд наладзілі, дык я
Паклікала яе на дапамогу,
Бо давяраю толькі ёй і Богу.
АЛЯСНІЦКІ
Але не давярае Польшча вам.
Ні вам і ні паганскім тым багам,
З якімі ладзіце вы гульбішчы і танцы!
Паганцы вы!
ЛЮБОЎ
І што, калі паганцы?

Затое на каленях не стаім
Ні перад кім!.. Навошта ж, ойча, вы
Паганца-караля ўзялі з Літвы,
А потым і літвінку-каралеву?
Бо на сваіх у вас няма спадзеву!
Бо, каб не мы, дык быў бы вам канец
Пад Грунвальдам!.. І чым,
святы айцец,
За гэта вы аддзячылі? Паклёпам!
На каралеву рынуліся скопам,
Каб не пусціць на трон яе сыноў!

І Вітаўт пра карону Польшчы зноў
Задумаўся сівою галавой...
Усёй крывёю зжыўшыся з Літвой,
Ты вырашыў памерці з Польшчай,
княжа?
Яна ўжо ў ложак да цябе не ляжа,
Халодным будзе польскі ложак твой.

А ты, кароль?.. Стаіш тут, як пабіты!
Літве ты здрадзіў! Мне!
*(У бок Соф'і.)*
Яна – табе!
І квіты!
А то прывыклі: толькі вам гуляць!..
ВІТАЎТ
Ты, Соф'я, ведала, каго ў падмогу
зваць.
*(Да Любові.)*
Скажы мне, дзе цябе я бачыць мог?
Не помню...
ЛЮБОЎ
Але гэта помніць Бог.
ВІТАЎТ
Дазволь сказаць два словы ў абарону...
Я для Літвы хацеў здабыць карону –
Не для сябе. І ў гэтым прысягаю!
ЛЮБОЎ, *сыходзячы з трона.*
Я і ў вянцы някепска выглядаю!
*(Да Ягайлы.)*
А ты карону жонцы перадай.
Яна тут пастаіць за наш крывіцкі
край,
За Крэва крэўнае, за родныя
Гальшаны,
І каралеўскі род наноў пачне
з Гальшан!..
ЯСТШЭМБЕЦ
У вас, прабачце мне, у галаве туман...
ЛЮБОЎ
Уся гісторыя і лепіцца з туману!
Хіба не так?
ЯГАЙЛА, *сядаючы на трон*
Наўкол – адзін падман...
Не веру вам! Нікому! Здрада ўсюды!
Усе вы здрайцы тут. Усе вы – юды!
*(Па чарзе да Соф'і і Вітаўта.)*
Ты прадала! І ты мяне прадаў!
Ты здрадзіла ў каханні! Ты – у бойцы!
СОФ'Я
Кароль!.. Гасподзь цябе вар'яцтвам
пакараў...
ЛЮБОЎ
Для тых, хто здраджваў сам і забіваў,
Усе на свеце здрайцы і забойцы.
ЯГАЙЛА
Каго забіў я?
ЛЮБОЎ
Ты забіў Любоў!
ВІТАЎТ
Я ўспомніў! Божа мой!..
ЛЮБОЎ *да Ягайлы.*
Паслухай салаўёў,
Яны табе пра гэта праспяваюць!
ЯГАЙЛА
Забіў Любоў?.. Адно і тое зноў
Сабакі брэшуць, людзі паўтараюць:
Прадаў Літву!.. А дзе была б Літва,
Каб з Польшчай я не падпісаў угоду?
Каб з Захаду тэўтонцы, а з Усходу
На нас Арда напала і Масква,
Дык дзе была б Літва, пытаю я,
І Польшча дзе была б?.. Нідзе!
Нас бы не стала!
Была б з усходу руская зямля,
А з захаду тэўтонская!.. Ці мала
Было дзяржаў, якіх прапаў і след,
Бо пыхі шмат было, а сілы не хапала,
Каб выжыць, не пакінуць гэты свет!..
ЛЮБОЎ
Ды я і без цябе нікуды б не прапала!
І Соф'я без цябе не прападзе!..
*(Да Ястшэмбеца.)*
Што б ні казалі пра яе ў судзе,
Але ў яе – усе правы на трон,
Калі ваш суд не плюне на закон,
Паверыўшы тым плёткам,
што за тронам!

ЯСТШЭМБЕЦ
Правы на трон акрэслены законам:
Па спадчыне перадаецца ён.
Калі ж нашчадкаў не займелі вы,
У каралеўскай рады ёсць правы
Галасаваннем выбраць караля.
ЯГАЙЛА
Абраны ўжо кароль! І гэта – я!
ЯСТШЭМБЕЦ, *працягваючы руку да Алясніцкага, які падае яму пергамен.*
Вы Унію, кароль,
дасюль не падпісалі!
Ні ў замку крэўскім, ні, як абяцалі,
У спальні каралевы! Тут няма
Пячаткі вашай! Вітаўта пячатка!
ЯГАЙЛА, *устаючы з трона*
Вы хочаце пачаць усё спачатку?
Ці хочаце сказаць мне, што дарма
На радзе за мяне галасавалі,
Што лепш бы брата каралём абралі?..
Дык я паўвека ваш кароль! І кропка!
ЯСТШЭМБЕЦ, *кладучы пергамен на стол.*
Але без подпісу дамова – пшык...
падробка...
І можа суд дамову не прызнаць,
Або прызнаць яе –
як з Вітаўтам угоду,
Якую князь вялікі можа падпісаць
Як валадар Літвы...
*(Бярэ са стала і падае Вітаўту пяро.)*
ЯГАЙЛА, *становячыся насупраць Вітаўта.*
Якую асалоду
Магу ў жыцці я мець пад самы скон!
Ну, брат, давай!.. Прадай Літву
за трон!
ЛЮБОЎ
Хачу, каб вы ўсе ведалі... Дзіця
Ад Вітаўта ў мяне...
ВІТАЎТ
Не можа быць!.. Хаця...
СОФ'Я
Князь Вітаўт!.. Вы ж старэйшы
за Ягайлу!..
ЛЮБОЎ *наіграна да Соф'і.*
Што ж ганіш ты майго?
Хіба твайго я ганю?
АЛЯСНІЦКІ
Прашу на хвілю змоўчаць мілых дам.
*(Паўза.)*
ВІТАЎТ, *ломячы пяро*
Я ні Літву, ні брата не прадам!
ЯГАЙЛА, *узяўшы са стала абломленае пяро.*
Тады пад Уніяй я стаўлю подпіс сам.
*(Падпісвае пергамен. Дастае з шуфлядкі і кладзе на стол яшчэ адзін звітак.)*
А гэты ліст – дадатак да дамовы:
Нашчадкам мной пакінутае слова.
*(Падае пергамен Ястшэмбецу.)*
Вось згода з вамі.
*(Падае звітак і працягвае руку Вітаўту.)*
Вось згода між братамі,
Паміж нашчадкамі, паміж сынамі...
ВІТАЎТ, *павагаўшыся, бярэ звітак і паціскае руку Ягайлу.*
Каб не была Літва ў руках чужых...
ЯГАЙЛА
Мы будзем вечна ў ёй гаспадарамі!
Каб мае дзеці сталі каралямі,
Я прызнаю
усіх іх
за сваіх!
Я веру каралеве!..
ЛЮБОЎ
Ён не псіх...
ЯСТШЭМБЕЦ
Я сам вар'ятам хутка стану з вамі.
Нашто тады наладзілі вы суд?
ЯГАЙЛА, *падымаючы рукі ўгору.*
Пра гэта там скажу...
*(Цяжка ідзе да трона, сядае.)*
Хоць, зрэшты, можна й тут...
Цікава стала мне: а што гэта за люд,
З якім я жыў?
Хто быў са мною побач?
Жыццё маё даўно зайшло за поўнач,
І ранку ў ім ужо не наступіць,
Атручана яно і здрадамі, і помстай,
І найдзіўней з таго ўсяго, што помню:
Як соладка было атруту піць
З рук тых людзей,
якіх любіў найболей,
Праз боль якіх я сам канаў ад болю...

Я быў не тым, кім свет мяне лічыў,
І, можа быць, не так жыццё пражыў,

Як мусіў бы пражыць,
і будучыя суддзі
У часе тым, дзе ўжо мяне не будзе,
Пачнуць судзіць мяне і вінаваціць,
Што страціў тое я,
што мог не страціць,
Згубіў усё, што не згубіць я мог, –
І калі я ступлю за цемру, за парог,
Дык не знайду, зірнуўшы ў небыццё,
Чым апраўдацца ў смерці за жыццё...

Хіба што запытаюся я ў іх,
У часе тым, у суддзяў новых тых:
Скажыце мне, вы самі ўсё зрабілі,
Што вы маглі зрабіць?
Айчыну зберaглі,
Каб вас нашчадкі вашы не судзілі?..
Дык вось, мы ўсё зрабілі, што змаглі,
А вы судзіце...
*(Праз доўгую паўзу.)*
Вітаўт...
*(Вітаўт падыходзіць да трона.)*
Мне пара...
Мне сёння снілася Ярылава гара,
Зімовая, і мы з табой на санках
Ляцім з яе – і марым аб каханках,
Аб жонках,
што народзяць дзетак нам...
Усё збылося... Дзякуй салаўям...
*(Салаўіны спеў у вакне.)*
ВІТАЎТ, *заплюшчваючы Ягайлу вочы.*
Заціхлі салаўі. Апошні праспяваў.
ЛІТВА, *цалуючы Ягайлу, ціха.*
І ўсё ж, Ягайла, ты мяне прадаў...
ЯСТШЭМБЕЦ
Памёр кароль...
*(Да Соф'і з паклонам.)*
З хвіліны гэтай вы
І Польшчы каралева, і Літвы!
СОФ'Я *да Вітаўта.*
Вялікі князь!.. Што там?..
У звітку тым?
ВІТАЎТ, *разгарнуўшы звітак, да Соф'і.*
Усім чытаць? Ці вам?..
ЯСТШЭМБЕЦ
Цікава ўсім,
Што ён сказаў, сыходзячы да Бога...
ВІТАЎТ, *пачакаўшы, пакуль Соф'я згодна кіўне і паказваючы разгорнуты пергамен.*
Тут чысты ліст... І подпіс...
Больш нічога...
АЛЯСНІЦКІ
Ён і па смерці ўсіх нас абхітрыў!
ВІТАЎТ, *скручваючы пергамен.*
Што ж, некалі, як жыў ён, кім ён быў,
Напіша нехта за яго самога.

*Кастрычнік 2019 – кастрычнік 2020, Лунд (Швецыя) – Крэва – Мінск.*

Віктар Варанец



…Кнігі – гэта душа чалавецтва.

А душа не прадаецца…

# Сэкс, кнігі і каханне

***Аповесць***

А пачалося ўсё з дачнага буму. Жылі сабе людзі, жылі, ды раптам усім закарцела мець свае шэсць сотак зямлі з невялічкай хаткай і гучнай назвай – да-ча. І закруцілася, і панеслася. Пахапалі нішчымную зямліцу, на якой і пацелі кожны выхадны, прычым з добрай волі. Мае бацькі трымаліся досыць доўга. Вясковыя дзеці, яны выдатна ўяўлялі сабе, што такое праца на гэтай самай зямлі. Але пачуццё калектывізму адолела нарэшце і іх. Праўда, бацька яшчэ вагаўся, і ў якасці кантрольнага стрэлу маці павезла яго (ну і мяне, малога) на лецішча да знаёмых, каб паглядзеў, пазайздросціў людзям...

Ехаў я з вялікай неахвотай, паколькі пражыў усе свае шаснаццаць год у Гродне і з пагардай, як і ўсе гарадскія дзеці, ставіўся да вясковай працы. А дача хіба не тая ж вёска?

Гаспадары лецішча сустрэлі нас з абдымкамі і пацалункамі, як самых родных людзей. Хутка я зразумеў

чаму. Мы былі першымі наведвальнікамі іх участка і першымі сведкамі іх працоўнага подзвігу. На гэтым невялічкім кавалачку скамянелай гліны яны ўмудрыліся разбіць градкі, пасадзіць дрэвы і ўзвесці двухпавярховую шпакоўню. Гэтыя ўжо немаладыя людзі прымусілі зрабіць нас восем кругоў па ўчастку, выслухаць бясконцую гісторыю пра самаахвярную працу, кіслую глебу, каштоўны тарфянік і цуды дачнай архітэктуры. Нарэшце селі за стол пад сеткай чэзлага вінаграду. Гаспадар наліў мужчынам гарэлкі, дамам – нейкай вішнёвай наліўкі і ў задуменнасці паглядзеў на мяне.

– Сашу кампоту, – тут жа падала голас маці.

Гаспадар узяў пляшку з наліўкай і шчодра плюхнуў мне ў шклянку.

– Кампоту! – панічна ўсклікнула маці.

– Дык гэта амаль кампот, – зарагатаў мужчына.

– Тады і мне такога ж кампоту! – пачуў я за спінай дзявочы голас.

Да стала з роварам у руках набліжалася такая нішто сабе дзяўчына ў сукенцы ў гарошак.

– Гэта наша дачка Наста, – з гонарам сказала гаспадыня. – Вучыцца ў дзявятым класе і на адныя пяцёркі. Будзе паступаць у медыцынскі.

– Той яшчэ будзе доктар, – усміхнуўся Настчын бацька. – Сядай каля кавалера, а то ён нейкі пахмурны ўвесь час.

Наста хуценька плюхнулася на лаву, і я адчуў, як яе сцягно агнём апаліла маю нагу. Гаспадар сказаў першы тост, і далей усё пачалося нанова: размовы пра ўгнаенні, расаду, агуркі. Наста нахілілася да мяне.

– Пайшлі на рэчку, а то звар'яцеем ад гэтага калгасу.

Я згодна кіўнуў галавою. Мы ўсталі і выйшлі з-за стала. Здаецца, ніхто гэтага і не заўважыў.

– Паедзем на ровары, – загадала дзяўчына. – Ты круціш педалі, а я паказваю дарогу.

Я, не ведаючы што адказаць, зноў моўчкі хітнуў галавою.

– А ты не нямко выпадкам? – зацікавілася Наста. – Хоць імя скажы сваё.

– Саша, – буркнуў я, злуючыся і на сябе, і на гэтае нядобрае дзяўчо.

– Ужо лепей, – лагодна ўсміхнулася Наста. – Паехалі, Саша.

Яна ўладкавалася на раме, і я пачаў разганяць ровар па зарослай травою дарозе. Вецер гуляў Настчынымі валасамі, і яны гарэзліва казыталі мне нос і шчокі. Ад дзяўчыны пахла нечым прыемна-хвалюючым, і я добра разумеў, што трэба нешта сказаць, і абавязкова разумнае, але ў галаве была суцэльная пустэча. Хвілін праз пяць мы ўбачылі вузкую, метры на тры, рачулку з берагамі, густа зарослымі бэзам. Наста саскочыла з ровара, вымавіла: “Кроч за мной”, – і пайшла кудысьці праз хмызняк. Я ледзьве прабіўся з роварам. І праз імгненне мы апынуліся на маленькай утульнай палянцы, з трох бакоў акружанай кустамі бэзу. А крыху ніжэй белы пясочак ласкава песцілі хвалі рачулкі.

– Будзем купацца! – зноў загадала дзяўчына, скінула з сябе сукенку і ў чырвоным купальніку кінулася ў празрыстыя хвалі ракі. Я прысеў на беразе і пачаў назіраць за ёй. Тым больш, што гэта мне падабалася. Наста тым часам вынырнула, павярнулася тварам да мяне і гучна пракрычала:

– Чаго сядзіш? Марш у ваду!

– Ды плаўкі не захапіў, – крыху саромеючыся, адказаў я.

– Лезь у трусялях! Хто тут цябе ўбачыць.

Я падняўся і замёр, не ведаючы, што рабіць. Але гэта ведала Наста. Яна выскачыла на бераг, рыўком сцягнула з мяне шаравары і штуршкамі пагнала

ў ваду. Мы пачалі плаваць, ганяцца адно за адным, дурэць на ўсю галаву. А затым, стомленыя і задаволеныя, ляжалі на цёплым пясочку і глядзелі ў блакітнае неба. Нечакана рука дзяўчыны лягла на маю руку. Я знерухомеў. А Наста, нават не паварочваючы да мяне галавы, паклала маю руку на свае досыць развітыя грудзі. У мяне ажно высахла ў роце. Грудзі былі мяккавата-пругкія, жывыя. Наста павярнулася да мяне бокам, уважліва паглядзела ў вочы і прыпала сваімі вуснамі да маіх. Я, здаецца, страціў прытомнасць.

– Саша! Наста! – пачуліся галасы нашых бацькоў. Мы спалохана ўскочылі і пачалі нацягваць свае майткі. Першай з палянкі выскачыла дзяўчына. Далей з роварам з'явіўся і я.

– Саша, у нас цягнік праз паўгадзіны. Што ты сабе думаеш? – з дакорам прамовіла маці. Але думаць я ўжо не мог. Я быў закаханы.

Наступны раз я сустрэў Насту, калі паступіў на філфак Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Я стаяў каля стэнда з раскладам заняткаў. І ўбачыў яе. Наста павольна ішла па калідоры, засяроджана гартаючы нейкую кнігу. Калі дзяўчына параўнялася са мной, я ціхенька вымавіў:

– Прывітанне, Наста.

Яна на імгненне перавяла позірк на мяне, штучна ўсміхнулася і пакрочыла далей. Але праз пару крокаў спынілася, павярнулася і пачала пільна ўглядацца ў мой твар.

– Саша? – нарэшце запыталася яна.

– Так, Саша, – адказаў я.

Наста падышла бліжэй.

– Якім цудам ты тут?

– Вучуся на першым курсе філфака. А ты?

– А я на другім гістарычнага.

– А як жа медыцынскі?

Наста ўсміхнулася:

Нерэалізаваная мара бацькоў.

Гучна зазвінеў званок на заняткі.

– Мы павінны сустрэцца, Саша, – камандным голасам абвясціла дзяўчына. – У суботу прыйдзеш да мяне ў госці гадзін гэтак у восем вечара. Вось адрас.

Яна выцягнула з кішэні нейкую картку, сунула яе мне ў рукі і пабегла далей па калідоры. Я зірнуў на картку: “г. Гродна, вул. Старамыская, 12. Забягаліна Анастасія Іванаўна”. Гэта ж трэба, нават візітоўку мае.

Ці трэба казаць, з якім нецярпеннем і хваляваннем я чакаў суботы. Гэта былі самыя доўгія два дні ў маім жыцці. І дома, і на занятках перад вачамі стаяў адзін і той жа малюнак: мы з Настай ляжым на беразе маленькай ракі...

Нарэшце надышла доўгачаканая субота. Я паведаміў бацькам, што іду на дзень нараджэння сябра, прыстойна апрануўся і выйшаў на вуліцу. Трэба было вырашыць два важныя пытанні. Першае: ці будуць бацькі Насці ў хаце? Адсюль выцякае другое: купіць торт ці бутэльку віна? І памыліцца нельга ні ў якім разе. Таму пачаў няспешна разважаць. Калі бацькі ў хаце і мяне трэба ім паказаць, то навошта прызначаць час ажно на 20 гадзін? Зручней запрасіць на абед. Калі мы павінны пайсці ў якое кіно, тым больш бессэнсоўна запрашаць мяне дахаты: пакуль прывітаемся, бацькі запытаюць пра мяне, маіх бацькоў, пройдзе торба часу. Наўрад ці Наста так змянілася, што палюбіла сямейны экстрым. Хутчэй за ўсё бацькоў дома няма. Таму трэба браць віно. І я пакрочыў да крамы.

Старамыскую, 12 я знайшоў досыць хутка, і без чвэрці восем стаяў каля двухпавярховага дома дзевятнаццатага стагоддзя пабудовы, калі верыць шыльдачцы на сцяне. Хвілінак пяць вырашыў пачакаць, каб ужо не падумала, што так хачу яе пабачыць. І стаў павольна прагульвацца па вуліцы. І тут страшная думка захлынула мяне: "А чым мы будзем увесь вечар займацца з Настай?"

Тэарэтычна да сэксу я быў падрыхтаваны даўно: выслухаў шмат парад і тлумачэнняў ад вопытных таварышаў, прагледзеў некалькі фільмаў адпаведнага зместу па відэа. Але вось практычны мой вопыт быў роўны нулю. І гэта мяне моцна хвалявала. Калі ў Насты такі ж вопыт, як і ў мяне, то, па-першае, ці захоча яна на першым спатканні заняцца сэксам? Я, напрыклад, палезу да яе, а яна дасць мне ў морду і выставіць за дзверы. А калі я не палезу, а ёй хацелася б? Падумае, што імпатэнт, і зноў жа выставіць за дзверы. А як даведацца, хоча яна ці не? У фільмах усе хочуць...

Паглядзім з іншага боку. Наста ўжо з вопытам. Я да яе лезу, але не так, як правільна трэба. Яна рассмяецца: "Дык ты яшчэ ў дзявоцкасці!" і адправіць дадому спаць. Яшчэ лепей.

Ад такіх думак я ажно ўзмакрэў. Зірнуў на гадзіннік: 20.10. А бог ты мой, спазняюся! Я ўзляцеў на другі паверх і націснуў гузік званка. Дзверы тут жа адчыніліся. На парозе стаяла Наста ў кароткіх шорціках, маечцы і прыветліва ўсміхалася.

– Спазняецеся, малады чалавек.

– Заблукаў трохі, – разгублена схлусіў я. Наста адышла ўбок і рукою запрасіла праходзіць у хату. Што я і зрабіў.

– А дзе даме кветкі? – зноў запытала дзяўчына. Я машынальна працягнуў ёй пакет з бутэлькай віна. Яна зазірнула ў пакет і гучна зарагатала:

– А вы практычны малады чалавек. Адчуваецца вопыт...

Мы прайшлі ў гасцінны пакой, дзе ўжо быў сабраны невялічкі журнальны столік. На ім стаяла бутэлька "Марціні", на талерцы ляжалі маленькія бутэрброды з ікрой, у вазе адсвечвалі жоўтымі бакамі мандарыны.

– Сядайце, Аляксандр, – Наста паказала мне рукой на крэсла. – А ваша віно мы пакінем да наступнага разу.

Яна адкрыла дзверцы блока, паставіла туды пакет, зачыніла і села ў крэсла насупраць мяне. Затым адкрыла "Марціні" і напоўніла фужэры амаль да верху.

– А я пра цябе, Саша, чамусьці не раз ўспамінала. Здавалася, і сустрэліся адзін раз, і прабылі разам усяго нічога. А вось запаў у душу. Таму і здзівілася, калі ўбачыла ва ўніверсітэце. Здзівілася і ўзрадавалася. Давай вып'ем за гэтую неспадзяваную сустрэчу.

Мы дзынкнулі фужэрамі і выпілі да дна. Напой падаўся прытарнасалодкім. Дзяўчына пільна глядзела на мяне, амаль не міргаючы.

– А што ты так глядзіш на мяне? – пацікавіўся я.

– Як так? – перапытала Наста.

– Нейк наскрозь.

– Гляджу і думаю, ці гэта ўсё той жа наіўны хлопчык з майго дзяцінства? Я тут жа пасуровеў.

– Ніякі я не наіўны і не хлопчык!

Узяў бутэльку і напоўніў фужэры. Наста засмяялася, запляскаўшы ў далоні.

– Той жа, той жа. Вось, і вусны надзьмуў, і бровы насупіў – такі дарослы і сур'ёзны. Ну добра, скажы ты тост.

Тост у мяне быў падрыхтаваны з учарашняга дня. Я падняўся і, максімальна надаючы голасу мужнасці, прамовіў:

– За кабет, якія робяць сапраўдных мужчын шчаслівымі!

І нагбом выпіў. Наста зноў чамусьці засмяялася, крыху адпіла са свайго фужэра і ўзяла мяне за руку.

– А сапраўдныя мужчыны танцуюць?

– Так, танцуюць. Але звычайна пад музыку, – адказаў я.

– Для вас любы капрыз, пане! – весела прамовіла дзяўчына, падышла да музычнага цэнтра і націснула кнопку. Пакой напоўніўся цудоўным голасам Джо Дасэна. Я падняўся з крэсла і адчуў, як марціні гуляе з маім вестыбулярным апаратам. Наста падышла да мяне, абняла, прытулілася. І мы пачалі наш павольны танец. Цяжка сказаць, колькі ён цягнуўся: адну песню ці пяць? Здаецца, я ўвогуле крыху прыдрамаў, пакуль не пачуў Настчын голас.

– Саша, а я табе падабаюся?

– Вельмі. А я табе?

– Не.

Я тут жа прачнуўся.

– Як гэта не?

Наста зірнула мне ў вочы і нейкім амаль трагічным голасам сказала:

– Я ў цябе, здаецца, закахалася.

Я адчуў, як радасць і самазадавальненне расцякліся па маім целе, дасягнулі галавы і выбухнулі яскравым феерверкам. Мне захацелася сказаць штосьці прыемнае і дзяўчыне.

– Ведаеш, і я ў цябе закахаўся яшчэ там. На пляжы. Ты прыгожая!

Наста сумна паглядзела на мяне, пакачала галавой і сказала:

– Дурненькі ты яшчэ. Сядзі тут.

І пхнула мяне ў крэсла. А сама выйшла з пакоя. Я нічога не разумеў. Таму вырашыў асвяжыць галаву глытком марціні, які ўжо не здаваўся такім агідным.

У пакой увайшла Наста. На ёй быў нейкі стракаты кароценькі халацік. Яна ўзяла мяне за руку і павяла ў другі пакой. Гэта была спальня з шырокім ложкам і разабранай ужо пасцеллю. Наста павольна пачала расшпільваць гузікі на маёй кашулі, затым на штанах. А я ніяк не мог уцяміць, што рабіць маім рукам: паўтараць рухі Насты не атрымлівалася, паколькі ў яе няма гузікаў. Але тут я намацаў паясок на таліі і пачаў яго ліхаманкава развязваць...

Я ціхенька расплюшчыў адно вока і агледзеў пакой. Электронны гадзіннік насупраць паказваў 23.00. Божухны, яшчэ толькі адзінаццаць вечара. А мне падалося, што прайшло цэлае жыццё. Такога, што вырабляла са мной у ложку Наста, я не бачыў нават на відэа. Я ўзносіўся да нябёс і абрушваўся ў прорву, мне хацелася рагатаць, і раптам я траціў прытомнасць. Вось гэта быў сэкс. І цяпер я ведаў дакладна, што кахаю ў гэтым свеце дзве рэчы: Насту і сэкс. Паступова расплюшчыў другое вока і ўбачыў, што Наста ляжыць на баку і з усмешкай пазірае на мяне.

– Ты чаго? – на ўсялякі выпадак строга запытаўся я.

– З хрышчэннем цябе! – урачыста прамовіла дзяўчына.

– З якім хрышчэннем? – не зразумеў я.

– Ты стаў сапраўдным мужчынам.

– Ты думаеш... – хацеў запярэчыць я, але Наста прыкрыла мой рот сваёю маленькай пяшчотнай далонькай і працягнула:

– Я ўпэўнена, што я ў цябе першая, і цяпер ты не забудзеш мяне ніколі, нават калі і пакахаеш іншую.

Яна ўстала з ложка, неверагодна прыгожая ў сваёй безабароннай галізне. Узяла з паліцы цыгарэту, закурыла і павярнулася да мяне.

– Гэтую кватэру мне здымае адзін заможны, але далёка не малады дзядзечка. За гэта ён прыязджае сюды два разы на тыдзень, па аўторках і пятніцах, займацца сэксам. Хаця які там сэкс, хутчэй добрая імітацыя з абодвух бакоў. Ён жа дае мне грошы на дробныя выдаткі.

Мяне ажно затрэсла.

– Навошта ты мне гэта расказваеш?

– Таму што я кахаю цябе і не хачу, маленькі мой, каб паміж намі існавалі такія вось таямніцы.

– Тады кінь яго. Сёння ж. І паедзем да мяне.

Наста зноў засмяялася.

– Ах ты, мой рыцар! Канечне, я яго кіну. Але не сёння і нават не заўтра, паколькі не ўсё так проста. Хутка я змагу табе ўсё расказаць. І тады мы зможам жыць разам, калі ты гэтага захочаш.

Я нічога не разумеў. У вачах стаяў стары пузаты дзядзька, якога я неяк бачыў у лазні, і падбіраўся да маёй Насці.

– Я разбяруся з гэтым паганцам, – рашуча заявіў дзяўчыне.

– Гэта бандыт, Сашачка, і так проста з ім не разбярэшся. Пакуль. Але ўсё будзе добра, толькі вер мне.

Яна затушыла цыгарэту, падышла да мяне і прыпала вуснамі. Свет зноў закруціўся ў маёй галаве.

Раніцай мы дамовіліся сустрэцца з Настай праз тыдзень, паколькі ў яе была запланавана паездка ў Мінск. Я хацеў было напрасіцца ехаць разам, але дзяўчына строга абарвала мае прапановы.

– Саша, калі ты хочаш і надалей бачыць мяне, ніякіх сюрпрызаў, кшталту сачыць за мной, ездзіць за мной і так далей. Абяцаеш?

Што было рабіць. Я даў слова. Ці трэба казаць, як я чакаў наступную суботу. Дні цягнуліся павольна, шэра, незапамінальна. У пятніцу перад першай парай у аўдыторыю зайшоў нейкі барадаты хлопец і гучна крыкнуў:

– Зямніцкі ёсць?

Я па-школьнаму ўзняў руку ўгору. Хлопец падышоў да мяне і працягнуў канверт.

– Прасілі перадаць.

Я сеў за парту, адкрыў канверт, адтуль выпала візітоўка Насты. На адваротным баку было размашыста напісана: “Саша, мне пагражае небяспека, і я вымушана тэрмінова з’ехаць з краіны. На Старамыскую не хадзі – небяспечна. Мяне ты ва ўніверсітэце не бачыў. Візітоўку знішчы. Бывай, каханы, я буду помніць пра цябе! Твая Наста”. Я падняў вочы. Хлопца, што прынёс канверт, нідзе не было. Вакол хадзілі студэнты ў чаканні пачатку заняткаў. Усё было як заўсёды, але без маёй Насці...

Прайшло дзесяць гадоў. Я скончыў універсітэт, аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю і ўладкаваўся на працу на кафедры сусветнай літаратуры, дзе чытаў студэнтам курс старажытнай літаратуры. А ў вольны час спрабаваў пісаць аповесці і апавяданні на гістарычную тэму. Нягледзячы на свае 28, сям’ёю так і не абзавёўся, час ад часу сыходзячыся і разыходзячыся з чарговымі кандыдаткамі на ролю жонкі.

Вечар пятніцы, калі ўсе добрыя людзі ідуць у тэатры, рэстараны ці

проста ў госці, я вырашыў прабавіць у сваёй аднапакаёвай кватэрцы, што атрымаў мінулым годам у спадчыну ад памерлай цёткі. Трэба было тэрмінова напісаць артыкул у сур'ёзны часопіс, і адкладаць ужо не было куды. Таму згатаваў сабе тэрмас моцнай кавы, абклаўся кніжкамі і прыступіў да працы. Але ўжо хвілін праз трыццаць мой творчы настрой быў добра-такі папсаваны званком у дзверы.

– І каго там халера нясе? – прамармытаў я ўслых і пацягнуўся адчыняць дзверы. На парозе стаяла шыкоўная бландзінка гадоў трыццаці з боскай фігурай і шырокай галівудскай усмешкай. Гэта ж дзе такія нараджаюцца?

– Вы да каго? – ледзь прашаптаў я, паколькі паветра ў лёгкія набраць забыўся.

– Да цябе, Сашачка! – адказала прыгажуня.

– Да мяне? – яшчэ змог прасіпець я, адчуваючы, як сінее мой твар.

– Так, мілы, да цябе, – ужо больш рашуча заявіла жанчына і, адсунуўшы мяне ўбок, увайшла ў кватэру. – Глыбей дыхай!

Я зачыніў дзверы і паплёўся следам, упэўнены, што гэта нейкая памылка. А госця прайшла на кухню, паставіла на стол досыць аб'ёмісты пакет і перайшла ў гасцінна-спальны пакойчык. Няспешна агледзелася, нешта хмыкнула, затым скінула жакет і павярнулася да мяне. Цяпер я стаў аб'ектам яе разгляду. Яна з цікавасцю паглядзела на мае выцягнутыя спартыўныя нагавіцы, майку-алкагалічку і тапкі з пушыстымі бамбонамі і падняла вочы на твар. І раптам я адчуў, як нешта ёкнула ў маім сэрцы: настолькі знаёмымі падаліся яе вочы і твар.

– Наста?

– Ну нарэшце! – з усмешкай уздыхнула дзяўчына. – Я што, так моцна змянілася за гэтыя дзесяць год?

Яна падышла да мяне, абхапіла рукамі галаву і так моцна прыпала сваімі вуснамі да маіх, што я нават адчуў смак крыві. Праз хвіліну Наста адштурхнула мяне.

– А цяпер пазнаў?

Я моўчкі кіўнуў галавою, не ў моцы што-небудзь сказаць.

– О, – працягнула мая госця, – дык тут клініка. Трэба ратаваць ахвяру.

Яна дастала з пакета бутэльку віскі, нейкія скруткі з ежай, напоі. Затым выцягнула з буфета шклянкі, талеркі, расклала па іх закуску і лінула ў шклянкі па добрай порцыі алкаголю. Падала адну шклянку мне, другую ўзяла сабе.

– За сустрэчу, – прамовіла тост і кульнула свой віскі. Я зрабіў тое ж і нарэшце адчуў, што мяне адпусціла. Я сеў за стол, падсунуўшы другое крэсла дзяўчыне.

– Як ты знайшла мяне? – пацікавіўся я, вярнуўшы здольнасць гаварыць.

– Ну, Сашачка, ты ж не законспіраваны Джэймс Бонд, – засмяялася Наста. – Таму і адшукаць цябе працы не было. Зайшла ва ўніверсітэт, каб даведацца, куды цябе ў свой час размеркавалі на працу, як бачу, вісіць партрэт майго Санчыка сярод іншых выкладчыкаў універсітэта. Я тады накіравалася ў аддзел кадраў і папрасіла даць твой адрас. Але нейкая старая грымза заявіла, што адрасы і тэлефоны чужым не даюць. Тады пайшла на кафедру. А там сядзеў прыемны малады чалавек па імені Пеця, які ахвотна даў твой адрас і нават папрасіў мой тэлефончык. І вось я тут. І мне здаецца, што гэта неблагі тост?

Цяпер ужо я ўзяўся за бутэльку.

– Анастасія, давай тады вып’ем за цябе, котку, якая прыходзіць і адыходзіць, калі хоча.

І залпам кульнуў вогненную вадкасць. Затым узяў нейкі кавалак сыру і пачаў грызці, адчуваючы, як чорная хваля злосці напаўняе мяне знутры. Наста нібы адчула гэта. Яны крыху прыгубіла віскі. Кінула ў рот ягадку вінаграду і перасела мне на калені.

– Я ведаю, што вельмі вінаватая перад табой. Але я ўсё растлумачу, мой каханы Сашачка. Хадзем са мной.

Яна паднялася, узяла мяне за руку і павяла да ложка. Пасадзіла, а сама пайшла ў ванны пакой. Неўзабаве пачуўся шум вады. Я сядзеў, і розныя пачуцці накрывалі мяне адно за адным. Я падняўся, падышоў да стала, наліў яшчэ крыху віскі, выпіў і стаў глядзець у акно. Неўзабаве шум вады сціх, а праз якую хвіліну я адчуў яе вільготную руку на сваёй шыі. Я рэзка павярнуўся. Наста стаяла перада мною абсалютна голая, і рэдкія кропелькі вады каціліся па яе дасканалым целе. Нейкая звярыная апантанасць ахапіла мяне. Я схапіў дзяўчыну на рукі і кінуў на ложак. Адным рухам садраў з сябе ўсё адзенне і літаральны накінуўся на нечаканую госцю. Маё вар’яцтва нібы перадалося і Насце. Мы кідалі адно аднаго на падушкі, спаўзалі на падлогу і зноў вярталіся на ложак, драпалі скуру і рвалі на шматкі бялізну. Адпачыўшы дзве-тры хвіліны, зноў пачыналі гэтае сэксуальнае вар’яцтва.

Толькі з першымі промнямі сонца развеялася нашае ачмурэнне. Я, стомлены і неверагодна шчаслівы, ляжаў у ложку, назіраючы, як Наста курыць на падваконніку, час ад часу скідваючы попел у карабок з запалкамі.

– Чаму ты не пытаешся, куды я знікла мінулым разам на 10 год? – нечакана запытала дзяўчына.

– А якая цяпер розніца? – пацiснуў я плячыма.

Наста вельмі ўважліва паглядзела на мяне, села побач і ўзяла ў рукі маю руку.

– Саша, мы не павінны адно аднаму хлусіць. Я ведаю: ты быў раз’юшаны з прычыны майго знікнення, потым ты ненавідзеў мяне, а цяпер робіш выгляд, быццам нічога гэтага і не было. Чаму?

– Ну, не ведаю, – разгублена прамармытаў я. – А і праўда, чаму ты тады збегла ад мяне?

– Ну вось бачыш, – усміхнулася Наста, – табе не абыякава. Схадзі, калі ласка, запар нам кавы, а я прыму душ. Размова будзе доўгай і сур’ёзнай.

Праз дзесяць хвілін мы сядзелі за сталом, пілі каву, і я ўважліва слухаў гісторыю Насты.

– Я табе расказвала, што пазнаёмілася з адным далёка не маладым чалавекам, які аплочваў мне кватэру і іншыя выдаткі. Праз дзень пасля нашай сустрэчы ён прыехаў да мяне, але не адзін, а з нейкім сябрам. Мікалай, так звалі майго спонсара, прыцягнуў дзве торбы з ежай, напоямі і папрасіў накрыць стол. Пакуль я займалася гаспадаркай, яны пра нешта гучна спрачаліся ў зале. Час ад часу да мяне сталі далятаць словы “гэта паўлімона баксаў”, “мытня”, “архангел”. Неўзабаве стол быў сабраны, і я паклікала мужчын. Я чакала, што размова працягнецца, але пры мне яны толькі жартавалі, сыпалі камплiменты і налягалі на каньяк. Праз некаторы час, ужо на добрым падпітку, мужыкі выйшлі на балкон пакурыць. Я прыпала да форткі на кухні і ўся ператварылася ў слых. Гэтым разам я пачула значна больш. Мікалай катэгарычна заявіў, што тавар пакуль паляжыць у

яго, паколькі так больш надзейна. А праз тыдзень-другі сам і рэалізуе без дапамогі архангела. Саід (так звалі нашага госця) атрымае свае 30 адсоткаў. Саід якую хвіліну памаўчаў, пэўна, разважаючы, а потым і кажа: “А твая гаспадыня вельмі прыгожая дзяўчынка!” Мікалай задаволена засмяяўся і адразу ж прапанаваў: “Хочаш, бяры яе хоць зараз, я сабе яшчэ знайду!” Тут ужо засмяяўся і Саід: “Ну, калі гаспадар такі шчодры, дык на гэту ноч я б пазычыў яго тавар”. Я ўся ажно закіпела. Свалата, гэта ж яны мной гандлююць. Я тут жа дастала з аптэчкі клафелін і накапала кожнаму ў келіх. А тут і яны вярнуліся. Мікалай абняў мяне і прашаптаў на вуха:

– Ёсць, котка мая, адна справа.

Я ўжо ведала, што за справа, таму гасцінна запрасіла за стол:

– Справа справай, а выпіць за гаспадыню самы час!

І вось гэтыя кавалеры, пахістваючыся, дружна ўзнялі чаркі і загулі:

– За прысутных тут дам!

Як ты разумееш, неўзабаве яны ляжалі на падлозе, як дзве вялізныя свінні, і нешта праз сон парохквалі. А мне трэба было збіраць рэчы і бегчы адтуль. І тут я ўспомніла іх размову. Я накіравалася ў залу. На журнальным століку ляжаў чырвоны “дыпламат”. Паспрабавала яго адчыніць, але безвынікова: замкі не паддаваліся. Тады я вярнулася на кухню, вывернула кішэні ў Мікалая. На падлогу выпалі партманэ, звязка ключоў і нарэшце маленькі ключык ад чамаданчыка. Гэтым разам усё пайшло лепей. Я лёгка адчыніла замкі, падняла крышку чамадана і ўбачыла некалькі загорнутых у белыя чыстыя анучкі квадрацікаў. Калі разгарнула, то перада мною ляжалі чатыры невялічкія карціны. Я прачытала подпісы: Каровін, Сяроў, Суцін, Шагал. З іх усіх я дзесьці чула толькі прозвішча Шагала. Таму і ўзяла яго. Са сцenкі зняла прыблізна такую ж па памерах карцінку з нацюрмортам бог ведае якога аўтара і разам з астатнімі паклала на месца ў “дыпламат”. Зноў замкнула на ключ, а ўсю Мікалаеву маёмасць вярнула на месца. Схапіла свой чамадан і кінулася на вакзал. Спачатку думала ехаць у Маскву: вялікі горад, лёгка схавацца, але падумала, што Мікалай там хутчэй за ўсё і будзе мяне шукаць, паколькі не раз расказвала яму пра сваю мару перабрацца ў Маскву. Трэба бегчы на Захад. У тую ж Польшчу для пачатку. І я паехала ў Варшаву.

– Пачакай, – улез я ў апавяданне, – а як жа ты правезла Шагала?

– Дурням шанцуе, – усміхнулася Наста. – З перапуду ў гэтай мітусні я тут жа і забылася, што вязу карціну. А на мытні пакапаліся ў дамскай сумачцы, а чамадан папрасілі адчыніць і тут жа зачыніць. У Варшаве я сустрэлася з адным знаёмым, ён калісьці фарцаваў у Гродне заходнімі шмоткамі, і папрасіла дапамагчы прадаць карціну.

– А што за карціна? – зноў улез я.

– “Кветкі ў вакне”.

– Ого! На аўкцыёне тысяч на 400 даляраў пацягне.

– Так, – уздыхнула Наста, – пацягне, але, як ты разумееш, я, па-першае, гэтага не ведала, а па-другое, не на аўкцыёне яе прадала. Далі мне 40 тысяч зялёных, і я падзякавала Богу, што не забілі. Ну а праз тры месяцы аформіла ліпавы брак з адным італьяшкам, які закахаўся ў мяне без памяці, атрымала пашпарт і выехала ў Рым. Там наладзіла невялічкі бізнес: антыкварную лаўку.

– Ты разбіраешся ў антыкварыяце? – здзівіўся я.

– Зусім крышачку. Але мне зноў пашанцавала: па дарозе ў Рым я сустрэла аднаго дзядка – сапраўднага спецыяліста ў гэтай справе. Гэты

стары габрэй з’ехаў з Савецкага Саюза яшчэ з першай хваляй эміграцыі. Але нешта не прыжыўся ў Ізраілі і пачаў пераязджаць амаль штогод з краіны ў краіну. Дарэчы, у цягніку мы і пазнаёміліся. Арон Ізотавіч, нягледзячы на свае 70 гадоў, яшчэ не страціў імпэту да жанчын. На гэтым я яго і злапала. Ён адпрацаваў у мяне чатыры гады, пакуль не адышоў у лепшы свет. Ну, а за гэты час і я крыху набіла руку ды і Арону знайшла змену ў асобе аднаго аспіранта, таксама эмігранта з Саюза.

– Ну а што Мікалай? Няўжо не шукаў цябе, а асабліва адабранага Шагала?

– Ведаеш, – Наста закурыла новую цыгарэту, – упэўнена, што шукаў. Але дзе і як, адказаць не магу, паколькі ніякай інфармацыі не атрымлівала. Так, першы год у Рыме вельмі баялася, усё чакала, што знойдзе. А потым неяк супакоілася, пачала і забываць пра ўсё гэта. Ну, а праз два гады даведалася ад аднаго нашага земляка, што Мікалая забілі ў бандыцкіх разборках, якіх, як памятаеш, хапала ў 90-я.

Наста замаўчала, гледзячы на мяне і, пэўна, чакаючы маёй рэакцыі на расказанае. Я падняўся.

– Запарыць табе яшчэ кавы?

Дзяўчына кіўнула галавой, не зводзячы з мяне вачэй. Я паставіў на агонь чайнік, насыпаў у кубкі кавы і стаў чакаць, пакуль закіпіць.

– Добра, – перарваў я маўчанне, – а як ты змагла перадаць мне паперу з папярэджаннем?

– Па дарозе на вакзал забегла ў інтэрнат і папрасіла аднакурсніка.

– А сама чаму не падышла?

– Таму што зусім не было часу на тлумачэнне сітуацыі. А пры сустрэчы, згадзіся, без гэтага было б не абысціся.

Я наліў кіпень у кубкі і зноў сеў насупраць Насці.

– Ну а цяпер раскажы самае галоўнае: што табе патрэбна ад мяне? І, калі ласка, не выдумляй пра каханне-чаканне. Я ўжо не той закаханы першакурснік, якім быў дзесяць год назад.

– А хіба табе было дрэнна са мной гэтай ноччу? – крыху какетліва запытала яна.

– Мне было вельмі добра, – сумленна адказаў я. – І не адмоўлюся ніколі паўтарыць гэтае вар’яцтва. Бо ў ложку ты неверагодны майстар. Але давай пакуль пра справу.

Наста самазадаволена пацягнулася, як котка, глытнула крыху кавы і пайшла ў вітальню, дзе ляжала яе сумачка. Яна выцягнула нейкі сшытак і вярнулася на кухню.

– Табе што-небудзь гавораць гэтыя назвы? – запытала Наста і пачала чытаць з сшытка: – Ціт Лівій “Гісторыя”, Святоній “Жыццё дванаццаці цэзараў”, Тацыт “Гісторыя”, Піндар “Песні”...

– А таксама “Камедыі” Арыстафана, “Араторыі і паэмы” Кальва і нават, магчыма, “Historiarum” Цыцэрона, – перабіў я дзяўчыну.

У яе ажно засвяціліся вочы.

– І ты таксама ведаеш гэтыя кнігі? Значыць, гэта не падман? Так, мілы?

– Наста, – вырашыў я прыцішыць імпэт дзяўчыны, – гэта ўсё назвы кніг з так званай бібліятэкі Івана Жахлівага. Але гэта толькі легенда, паколькі ніхто тых кніжак не бачыў.

Але Наста мяне, здаецца, ужо не чула. Яна ўзяла мяне за руку і пяшчотна-ўзбуджаным галаском папрасіла:

– Сашачка, мілы, раскажы мне гэтую легенду. Ну калі ласка.

– Добра, – пагадзіўся я, – слухай. Але папярэджваю: ведаю я не багата, паколькі гэтым пытаннем не займаўся. Дык вось. Першапачаткова бібліятэка належала візантыйскім імператарам і збіралася на працягу шэрагу стагоддзяў. Пасля падзення Канстантынопаля кнігі былі вывезены ў Маскву як пасаг візантыйскай царэўны Соф'і Палеолаг, якую выдалі замуж за маскоўскага князя Івана III. У Маскву Соф'я трапіла ў 1472 годзе і ўбачыла амаль вынішчаны пажарам 1470 года горад. Ёй стала страшна за свае кнігі, і таму загадала захоўваць іх у скляпеннях пад царквою Раства Багародзіцы ў Крамлі. І ведаеш, гэта была своечасовая мера перасцярогі. Ужо ў наступным 1473 годзе новы пажар ахапіў Маскву. Выгарэў нават увесь Крэмль, але кнігі ў мурах засталіся некранутымі. Затым бібліятэка перайшла ў рукі Івана Жахлівага. Той быў заўзятым кніжнікам і праз эмісараў скупляў рэдкія кнігі па ўсім свеце. Дарэчы, лічыцца, што ў калекцыю Жахлівага трапіла і легендарная бібліятэка Яраслава Мудрага. Вось такая легенда.

Наста слухала мяне, як зачараваная.

– Дзяўчынка, – крыкнуў я, – прачніся! Гэта толькі прыгожая легенда. Ніхто ніколі не бачыў гэтай бібліятэкі.

– Ах, Саша, – уздыхнула Наста, – ну нельга быць такім скептыкам. Вось паслухай.

Яна зноў зашамацела сваім сшыткам.

– Нехта Франц Ніенштэт у сваёй “Лівонскай хроніцы” прыводзіць словы пратэстанцкага пастара Ёгана Ветэрмана з Дзерпта, які па запрашэнні Івана Жахлівага перакладаў у Маскве кнігі: “кнігі, як найкаштоўнейшыя скарбы, захоўваліся замураванымі ў двух скляпеністых падвалах”. А яшчэ прафесарам Дабелавым у архівах Пярну быў знойдзены спіс старажытных кніг з гэтай бібліятэкі. Што ты на гэта скажаш, даражэнькі мой вучоны?

– Ну, па-першае, Дабелаў змог паказаць толькі копію спіска, паколькі арыгінал нібыта загадкава знік. Па-другое, яшчэ ў 1601 годзе канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега шукаў гэтую бібліятэку, аднак безвынікова. А яшчэ былі Газскі мітрапаліт Паісій Лігарыд, харвацкі вучоны Юры Крыжаніч. І ўсё марна.

– Ага, Сашка, – узрадавана крыкнула Наста, – вось я і злапала цябе. Ты таксама цікавіўся гэтай бібліятэкай, адсюль і ведаеш столькі падрабязнасцей. Я правільна разлічыла, калі даведалася, дзе і кім ты працуеш. Не можа Сашка прайсці міма такога багацця!

– Ну вось, – сумна адзначыў я, – значыць, і сапраўды ніякай рамантыкі, ніякага кахання з твайго боку няма. Голы прагматычны разлік.

– Сашачка, – зашчабятала Наста, перабраўшыся да мяне на калені. – Ну ты ж разумны дарослы мужык. Ты ўсё зразумееў, і таму давай адкінем непатрэбную лірыку. Справа каханню не перашкода, як і сэкс, тым больш што ў цябе нядрэнна атрымліваецца. Павер майму вопыту.

“Умее, халера, падласціцца”, – падумаў я, адчуваючы, як слоўны ялей прыемна расцякаецца ў грудзях.

– Ну добра, Наста, – прадоўжыў я, – з гісторыяй разабраліся, а што з рэчаіснасцю? Бібліятэка ж знікла. І дзе яна – невядома! Ці твой чароўны сшытак і гэта ведае.

– Не ўсё, але тое-сёе ведае, – годна адзначыла дзяўчына. – Імя Уладзіслава Вазы што-небудзь гаворыць табе?

– Канечне, як і любому адукаванаму беларусу. Уладзіслаў Ваза – цар маскоўскі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі. А што?

– Нічога, проста ў мяне ёсць сведчанне litaradcy Уладзіслава манаха Пятра Бахрэвіча, што за час панавання на маскоўскім троне Ваза знайшоў і патаемна вывез з Масквы частку гэтай бібліятэкі.

– Дык ён жа малы яшчэ быў?

– Ён, можа, і малы, а вось атачэнне караля было дарослае і разумнае.

– Добра, – пагадзіўся я, – дапускаю такую магчымасць. І куды кнігі звезлі? У Варшаву, Гародню? І галоўнае: дзе іх схавалі?

– Тады зазірнем у чароўны сшытак, – загадкава ўсміхнулася Наста. – Вось што там піша айцец Бахрэвіч: “І было загадана будаўнікам у хуткім часе пабудаваць у мястэчку Сапоцкін, што пад Гародняю, драўляную царкву з мураванымі скляпеннямі. У 1612 годзе мяне адправіў мой пан перавезці частку духоўных скарбаў з неспакойнай Масквы ў гэты Богам абраны лясны куточак нашага краю. З Боскай ласкаю і пад надзейнай вартай ахоўнікаў мы без перашкод дабраліся да Сапоцкіна і схавалі кнігі ў мурах. Прыйдзе час, і нашчадкі спасцігнуць усю мудрасць старажытных манускрыптаў”. Ну што скажаш, пане вучоны?

– Гэта пра наш Сапоцкін? – яшчэ не верачы пачутаму, запытаў я.

– Ну а пра які яшчэ? – здзекліва запытала Наста.

– Пачакай, – я ўскочыў і рушыў у залу. Там знайшоў энцыклапедыю Гродзенскага раёна і пачаў шукаць Сапоцкін.

– Ёсць! Слухай. “Каля 1612 года ў Сапоцкіне была ўтворана ўніяцкая парафія. Хутка пабудаваная ўніяцкая царква ў Сапоцкіне была спачатку драўлянай, а каля 1780 года адзін з прадстаўнікоў рода Гасеўскіх, тагачасных уладальнікаў мястэчка, “зафундаваў” (гэта значыць выдзеліў сродкі на будаўніцтва) каменную царкву і забяспечыў яе ўсім неабходным. Сапоцкінская Успенская царква да 1875 года была ўніяцкай, пасля стала праваслаўнай. Ужо ў пачатку XX стагоддзя будынак царквы па прызначэнні не выкарыстоўваўся, нейкі час у ім размяшчаўся склад канторы па нарыхтоўцы тытуню. Каля 1970-га года царква была разбурана, застаўся адзін падмурак, побач з якім размясціўся сапоцкінскі дзіцячы садок”.

– Такім чынам, – рэзюмавала Наста, – нам трэба ехаць у Сапоцкін.

– Пачакай, – я сеў за стол і паказаў рукою, каб села і дзяўчына, – перш, чым рушыць у чарговае падарожжа па скарбы, растлумач мне, калі ласка, адкуль гэты сшытак у цябе і хто яго аўтар?

– Ну Сашка, ну якая табе розніца, хто, што і адкуль? Прынёс нейкі стары ў мой магазінчык гэты рукапіс. Там нават вокладкі не было. Я і браць не хацела, але пагартала аркушы і раптам убачыла назвы родных мясцін: Гародня, Сапоцкін. Ну і купіла. А калі прачытала ўвесь рукапіс, зразумела, якая ўдача прывалiла. Адразу ж успомніла пра цябе. Задаволены?

– Так, задаволены, – пагадзіўся я. – Збірайся ў дарогу. Сапоцкін чакае нас.

Сапоцкін – невялічкае мястэчка. І патрэбны садок мы адшукалі вельмі хутка. А за ім на адлегласці метраў 30-40 убачылі і рэшткі былой царквы. Але больш за ўсё нас зацікавіў вялікі жоўты намёт, што стаяў амаль на руінах разбуранай пабудовы. Мы пераглянуліся з Настай і моўчкі накіраваліся да няпрошаных гасцей. Тыя, відаць, жылі тут не адзін дзень, бо каля намёту на драўляных жэрдках была расцягнута вяроўка, на якой сушыліся нейкія шкарпэткі, кашулі. Тут жа было выкладзенае камянямі

кастрышча. Я нахіліўся і зазірнуў у намёт. У атрутна-зялёных спальніках пахропвалі барадаты мужчына і прывабная маладая бландзінка. Следам за мной сваю галаву ўперыла і Наста і тут жа гучна заверашчала:

– Скаціна!

Парачка імгненна расплюшчыла вочы.

– Наста? – здзіўлена запытала галава барадатага.

Тая адкрыла рот, каб адказаць, але ад абурэння толькі пачырванела ўся, з горла пачуўся нейкі сіп, і тады з перакошаным ад злосці тварам яна вырвала пярэднюю стойку палаткі. Я ледзьве паспеў выскачыць. Пабудова імгненна абвалілася, і мы некалькі хвілін назіралі, як у ёй валтузяцца дзве постаці. Нарэшце яны выпаўзлі на белы свет.

– Ты што, зусім звар'яцела? – закрычала бландзінка.

– А табе, гляджу, не сядзіцца ў хаце? – на тых жа нотах запытала Наста.

– Дзяўчаты, супакойцеся, – паспрабаваў зрабіць крок прымірэння барадаты, але тут жа атрымаў адчувальны ўдар Насты ў пахвіну. Мужык са стогнам склаўся напапалам і ціха заенчыў.

– Ты што робіш, сука? – заверашчала яго напарніца і кінулася на Насту. Я толькі і паспеў паставіць ёй падножку. Дзяўчына крыху ўзляцела ў паветра і абрынулася на зямлю. Наста тут жа ўскочыла ёй на плечы, схапіла за валасы і пачала біць ілбом аб зямлю. Я кінуўся раздымаць жанчын.

Калі хвілін праз дваццаць мы, цяжка дыхаючы, змаглі ўсё ж усесціся на траўку вакол колішняга вогнішча, выгляд у кожнага быў непрэзентабельны: разадранае адзенне, гузы, сінякі, кровападцёкі на тварах, руках, нагах.

– Можа, нарэшце, нехта растлумачыць мне, за што б'ёмся? – запытаўся я.

– Пазнаёмся, – з нянавісцю ў голасе адгукнулася Наста. – Мой памочнік па бізнесе, Мойша, той самы аспірант, што прыйшоў на змену Арону. А гэта яго бл...дзюшка Мэры. Што ты тут робіш, сабака?

Мойша паглядзеў на мяне журботнымі яўрэйскімі вачыма, нібы шукаючы падтрымкі, і цяжка ўздыхнуў:

– Я прыехаў на сваю радзіму аддаць даніну памяці продкам.

– Якую радзіму? – зноў заверашчала Наста. – Ты ж родам з Віцебска. Яшчэ хваліўся далёкімі каранямі з Шагалам.

– Ах, Анастасія, мы, габрэі, маем багата сваякоў. І мой прадзядуля Ізя жыў калісьці тут, у Сапоцкіне. Ён трымаў добры шынок. І цяпер я шукаю сляды яго магілы і яго шынка.

– Злодзей ты, – не супакойвалася Наста. – Я ведаю, што ты шукаеш. І я папярэджвала цябе, што гэтая бібліятэка мая і каб ты не сунуў у гэтую справу свайго доўгага носа.

– І калі гэта яна стала тваёй? – здзекліва запытала Мэры.– Можа, ты яе і сабрала?

– Мойша, скажы гэтай сваёй лярве, каб прыкрыла пашчу! – зноў пачала закіпаць Наста.

Мне надакучыла гэтая лаянка, таму я гучна рыкнуў:

– А ну сціхлі ўсе!

Надзіва жанчыны і праўда змоўклі, уперыўшы ў мяне позіркі.

– Мы можам лаяцца суткі, але справа не зрушыцца з месца. У нас ёсць усяго два варыянты разгортвання далейшых падзей: абодва бакі прызнаюць, што прыехалі сюды па бібліятэку, працуюць разам і пароўну дзеляць прыбытак. Або вайна працягваецца, кожны шукае самастойна, падстаўляючы нагу канкурэнту. Такім чынам стаўлю на галасаванне: мір ці вайна?

– Прыемна чуць словы разумнага чалавека, – згодна заківаў галавою Мойша. – Чатыры галавы значна лепей чым дзве, а мір куды больш прыемны за вайну. Што нам дзяліць, апроч гэтых некалькіх кніг?

– А чаму я павінна дзяліць іх са зладзеямі? – узвілася Наста. – Трасцу ты атрымаеш, а не кнігі. Вось гэта бачыў?

Яна сунула хлопцу пад нос дуліну, ускочыла на ногі і рушыла прэч.

– Перамовы зайшлі ў тупік, – развёў я рукамі і кінуўся даганяць Насту.

Жыць у палатцы Наста не захацела, і таму мы папыталіся ў мясцовых жыхароў, ці не здае хто кватэру ці пакойчык з асобным уваходам. Надзіва, прапановы пасыпаліся як з рога. І ўжо праз паўгадзіны мы з Настай засяліліся ў невялічкі летні домік, які за досыць сціплы кошт здала нам бабуля Леакадзія. Асабліва ўзрадаваў нас той факт, што з вокнаў дома былі бачны рэшткі царквы і ненавісная жоўтая палатка. Гаспадыня выпаліла для нас лазню, прынесла кавалак вэнджанага сала, дзясятак курыных яек, агуркоў, цыбулі. Мы хуценька сабралі на стол, упрыгожылі бутэлькай марціні і пайшлі парыцца.

Рамантычны вечар пры свечках пераўзышоў усе чаканні яшчэ і з тае прычыны, што неўзабаве пайшоў дождж. Наста не-не ды кідала вочы на правіслую палатку канкурэнтаў, і па яе прыгожым твары прабягала зласлівая ўсмешка.

Мы ляжалі ў ложку і слухалі, як кроплі дажджу рытмічна выбіваюць па даху маршавы дроб. Раптам Наста ўскочыла, села верхам на мяне і строга запытала:

– Аляксандр, ці ёсць у нас план?

Я са шкадаваннем паглядзеў на яе прыгожыя агаленыя грудзі, падцягнуты жывот, цяжка ўздыхнуў і скінуў дзяўчыну з сябе. Нацягнуў трусы, насунуў на ногі пантофлі і сеў за стол. Дзяўчына з цікавасцю назірала за мной. Я выцягнуў з сумкі, што вісела на крэсле, сшытак, дастаў ручку і гучна скамандаваў:

– Чаго разляглася? Хуценька сюды.

Наста накінула на плечы халацік і села побач.

– Глядзі, вось гэта прыблізны план царквы. Я перамаляваў яго з карты ў абласным архіве. Каля ўсходняй сцяны паказаны ўваход у скляпенні. І гэта адзінае месца ў царкве, дзе штосьці магчыма схаваць.

– Цудоўна, – Наста чмокнула мяне ў шчаку. – Заўтра рушым у падзямелле.

– Пачакай, – паспрабаваў суцішыць я дзяўчыну. – Па-першае, не забывай, што каля нас будуць круціцца канкурэнты. І ад іх не схавацца. А па-другое, і гэта, на маю думку, самае важнае, на карце ўваход у падзямелле намаляваны значна пазней за саму карту.

– Ну правільна, – запярэчыла Наста, – кнігі схавалі значна пазней, чым была пабудавана царква.

– Так яно так, – адказаў я. – Але, па-першае, хто будзе хаваць скарбы ў адзіны падвал, які яшчэ і намаляваны на карце. Згадзіся, калі ён адзін, дык там і капусту захоўвалі. І старыя рэчы, і шмат чаго іншага. Гэта значыць, народ там заўсёды круціўся. У такім месцы хаваць скарб вельмі рызыкоўна. А па-другое...

– Ды дастаў ты ўжо гэтым сваім "па-першае, па-другое". Зануда! – надзьмула вусны дзяўчына і зноў уляглася ў ложак.

– А вось калі б у цябе было больш цярпення, дык даведалася б яшчэ штосьці цікавае, – падбухторыў я.

– Няўжо з'явілася "і па-трэцяе"? – з'едліва запытала Наста.

– Уяві сабе, што з'явілася, – сціпла пацвердзіў я.

Дзяўчына недаверліва павярнулася да мяне:

– Выдумляеш...

– А вось і не. На адвароце карты быў напісаны верш.

– І што?

– А ты паслухай: "багацця не бывае ў скляпеннях. На прасторы,

Калі ты здольны крокаў дваццаць адысці.

На лес зірнеш і першым ценем ляжаш у разоры -

Душу і цела разам зможаш там сабе знайсці".

– Божухна, – здзівілася Наста, – нейкі дзесяцістопны ямб. І што нам з таго верша?

– А ты прыслухайся і ўключы галаву. Аўтар так і гаворыць: "багацця не бывае ў скляпеннях". Значыць, няма чаго і лезці туды.

– А калі аўтар гаворыць пра духоўнае багацце і душэўную свабоду? – запярэчыла дзяўчына.

– А ты паглядзі ў акно. Крокаў за сто ад царквы пачынаецца лес.

– Ага, а ў вершы дваццаць крокаў.

– Дык за столькі год маглі і ссекчы лес. А, па-другое, можа, аўтар меў на ўвазе цень не ад дрэва, а лес – гэта накірунак.

– Зноў ты са сваім "па-другое", – зморшчылася Наста. – Нейкія тампліеры атрымліваюцца.

– А чаму б і не, – паціснуў я плячыма. – У сярэднявеччы народ любіў паэтычныя таямніцы. Вось раніцай сходзім і праверым гэты зарыфмаваны маршрут. Толькі важна, каб твой Мойша не ўбачыў.

– Так, – пацвердзіла Наста, – з Мойшам трэба канчаць.

– Як канчаць? – спалохаўся я.

– Не бойся, гэта мой клопат. А ты кладзіся спаць. Я на хвілінку.

Наста абула гумавыя боты, надзела бабульчыну фуфайку, схапіла сумачку і выскачыла з пакоя.

"Сапраўдная вар'ятка! – падумалася мне. – Але якая сэксапільная!"

Хвілін праз пятнаццаць вярнулася зледзянелая Наста і хуценька скочыла да мяне пад коўдру.

Я прачнуўся ад нейкага шуму за вакном. Гадзіннік на сцяне паказваў чатыры раніцы. Сонца толькі-толькі пачало асвятляць неба. Я падняўся з ложка і падышоў да вакна. Каля жоўтай палаткі стаялі два АМАПаўцы з аўтаматамі, а паміж імі паўраздзетыя Мойша і Мэры са сцятымі кайданкамі рукамі перад сабой. Крыху воддаль стаялі чорнага колеру "УАЗік" і міліцэйская "Лада", якую падпіралі два міліцыянеры. Я асцярожна прыадчыніў акно і ўвесь ператварыўся ў слых. З палаткі вылез чалавек у цывільным касцюме. Ён нешта ціха сказаў міліцыянерам, і тыя накіраваліся да нашага доміка.

– Наста, прачынайся, – я сцягнуў коўдру з каханкі, – да нас міліцыя ідзе.

– І няхай ідзе, – сонна прамармытала дзяўчына. – А я хачу спаць.

Ну што было рабіць? Нацягнуў на сябе штаны, кашулю, і ў гэты момант пачуў настойлівы стук у дзверы. Затым прагучаў голас:

– Адчыніце, калі ласка, гэта міліцыя.

Я адчыніў дзверы. Адзін з гасцей, старшы лейтэнант, паказаў мне адкрытае пасведчанне, але што там было напісана, прачытаць я не паспеў. Другі ж у званні капітана падазрона агледзеў мяне і строга запытаўся:

– Вы некуды сабраліся?

– Так, – пагадзіўся я, – прайсці з вамі ў якасці панятога.

Мая ініцыятыва, верагодна, не спадабалася прысутным. Капітан нейкім загадкавым голасам пацікавіўся:

– А адкуль вы ведаеце, што нам патрэбныя панятыя?

– Ну, для гэтага не абавязкова быць Шэрлакам Холмсам. Па-першае. Вы так шумелі падчас захопу злачынцаў, што разбудзілі ўсю акругу. Па-другое, мне нічога не заставалася, як глядзець на ўсё гэта праз акно. І калі вы пакрочылі ў накірунку майго дома, я адразу ж зразумеў, што вам патрэбна.

– Не трэба разумнічаць, – невядома для чаго буркнуў капітан. – З вамі яшчэ хто пражывае?

– Так, мая дзяўчына, але яна не хоча прачынацца.

– Як гэта не хоча? – тут жа абурыўся старшы лейтэнант. – Супрацоўніцтва з органамі ўлады – канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна!

– Ну калі абавязак... – пачуўся з пакоя голас Насці, – тады я гатова.

Дзяўчына выйшла да нас у кароценькіх шортах, нейкай футболцы з глыбокім выразам. Хлопцы ажно аслупянелі. Задаволеная зробленым эфектам, Наста ўзяла пад руку капітана і пранікнёна загадала:

– Вядзіце мяне, мой генерал!

Капітан імгненна адскочыў ад такой спакусы, аблізаў перасохлыя вусны і хрыпла вымавіў:

– Апраніцеся.

Пакуль мы крочылі да палаткі, усе мужчыны зачаравана не зводзілі вачэй з Насці. І толькі Мэры фыркнула і дэманстратыўна адвярнулася ад нас.

– Панятыя, – загаварыў чалавек у цывільным, – вы зараз прысутнічаеце пры вобыску палаткі падазраваных. Уважліва за ўсім сачыце.

Ён тут жа нырнуў у палатку, а праз імгненне вылез з заплечнікам ў руках. Затым разаслаў нейкую цырату на траве і высыпаў усё змесціва з заплечніка на цырату. Мы ўбачылі нейкую мужчынскую кашулю, пару шкарпэтак, распячатаны пачак прэзерватываў, два кавалкі мыла, запячатаную зубную шчотку і нейкі маленькі празрысты пакецік з белым парашком унутры. Чалавек, усміхаючыся ва ўвесь рот, надзеў хірургічныя пальчаткі, асцярожна ўзяў за ражок пакецік і, павярнуўшыся да затрыманых, пацікавіўся:

– А што ў гэтым пакеціку?

– Гэта не наш пакецік, – бялеючы на вачах, запярэчыў Мойша.

– А заплечнік ваш? – зноў запытаўся следчы.

– Мой.

– Значыць, усё што ляжыць у вашым заплечніку з'яўляецца вашым. Лагічна?

– Але я не ведаю, адкуль ён там узяўся! – амаль закрычаў хлопец.

– Ну а калі не ведаеце, чый пакецік і што ў ім, дык чаго так хвалюецеся?

Мойша разгублена прабегся вачамі па тварах прысутных і спыніўся на Настчыным. Яна не хавала здзекліва-іранічнай усмешкі.

– Я ведаю, грамадзянін начальнік! – зноў закрычаў Мойша. – Там, у пакеціку, наркоцік, які вось гэтая сучка падкінула мне!

І ён паказаў скаванымі рукамі на Насцю.

– Чаму менавіта яна, а не старшыня мясцовага сельсавета? – здзекліва запытаў следчы.

– Яна мяне ненавідзіць! Я вам усё раскажу, толькі затрымайце і гэтых дваіх!

– Ага, ужо дваіх.

Следчы падышоў да Мойшы і паклаў яму руку на плячо.

– Слухай, хлопец, гэта добра, што ты сам пагадзіўся ўсё расказаць. Суд гэта ўлічыць. Але давай без казак, праўду і толькі праўду. Панятыя, падпішыце пратакол, а гэтых, – ён кіўнуў на Мішу і Мэры, – у аддзел.

Мы моўчкі пілі з Настай каву і глядзелі праз акно на тое месца, дзе яшчэ нядаўна месцілася палатка Мойшы. Першай не вытрымала дзяўчына.

– Так, – перапыніла яна працяглае маўчанне, – гэта я падкінула ім гераін. Але я іх папярэджвала: не стойце на маім шляху. Яны абрабавалі мяне, укралі рукапіс і яшчэ дазволілі сабе паздзекавацца. Не, мілыя, са мной не варта звязвацца.

Я адставіў кубачак і з цікаўнасцю паглядзеў на сваю каханку. Кожнага дня я адкрываю ў ёй усё новыя і новыя якасці.

– А як жа ты змагла іх падкінуць? – пацікавіўся я.

Цяпер ужо Наста з цікавасцю паглядзела на мяне.

– Слухай, я была ўпэўнена, што ты зараз выбухнеш маральнымі пастулатамі, этычнымі нормамі і іншым інтэлігенцкім шалупіннем. А цябе толькі цікавіць сам працэс?

– Так, – пакорліва пагадзіўся я, – толькі працэс.

– Цікава, вось што робіць з недапечаным інтэлігентам сустрэча з чалавекам справы. Ты, мілы, робіш поспехі.

– Ну а што наконт працэсу?

– Ну, тут і зусім проста. Я падгледзела, што гэтым халодным і дажджлівым вечарам Мойша са сваёй паненкай пайшлі начаваць на вышкі да суседзяў. Не ведаю, дамовіліся яны з гаспадарамі ці так, патаемна, але факт ёсць факт. Вось я і скарыстала з магчымасці, а потым патэлефанавала ў міліцыю. Вынік выдатны – канкурэнтаў няма.

– А не шкада людзей? За наркату ім ушпіляць гадоў па 5-7 айчыннай турмы. Не перажывуць.

– Ах, – спакойна адмахнулася дзяўчына, – было б каго шкадаваць. Ды і не пасадзяць, думаю, іх. Яны ж грамадзяне іншай краіны. Умяшаецца пасольства, адвакаты. Тым больш, што яны гераін і не збывалі, і не ўжывалі. Скажуць, у лекавых мэтах вазілі пры сабе. Забудзь. Лепш падумаем, што рабіць далей.

– А што тут думаць: апранаемся, бярэм рыдлёўкі і ідзем капаць. Якраз хутка першы цень з’явіцца.

Мы прыйшлі ў час: сонца паступова выпаўзала з-за гары, шчодра адорваючы святлом і цяплом ўсё жывое. Мы адмералі ад рэшткаў фундамента царквы дваццаць крокаў, пасля чаго я стаў тварам да лесу. Сонца якраз пачало свяціць мне ў спіну. Неўзабаве на зямлі з’явіўся і мой цень. Наста тут жа пабегла далёка наперад, каб дакладна адзначыць, дзе ён закончыцца. Але яна не ўлічыла рэльеф мясцовасці – цень быў вельмі непрацяглы час і не дасягнуў і паўметра. Менавіта туды з размаху я ўтыкнуў рыдлёўку.

– Ну што, сяброўка, тут і пачнем?

Дзяўчына, не адказаўшы нават і слова, мітусліва пачала капаць зямлю. Улічваючы, што грунт быў моцна ўбіты і высахлы, я вырашыў, што прасцей будзе выкарыстаць у гэтых умовах дасягненні чалавечага розуму. І пайшоў пазычаць у гаспадыні лом. Калі вярнуўся назад з нялёгкай

прыладай працы, Наста зняможаная ляжала ў цяньку, са слязьмі на вачах пазіраючы на свае рукі.

– Мазолікі баляць? – спагадліва запытаўся я.

– А што рабіць, калі мужчыны швэндаюцца дзесьці, а не займаюцца справай?

Я паплаваў на далоні і ўзяўся за лом. Справа пайшла хутчэй. Збіўшы верхні пласт спрасаванай зямлі, далей я ўжо капаў мяккі і пухкі чарназём, за ім жоўценькі пясочак. Паколькі я не быў упэўнены, што мы дакладна вызначылі месца пошуку, прыйшлося пракопваць двухметровыя роўчыкі ўперад і ўбакі. Пасля чатырох гадзін цяжкай працы з двума перакурамі мая рыдлёўка нарэшце бразнула аб нешта металічнае.

– Знайшлі! – радасна закрычала Наста, забыўшыся нават пра свае сцёртыя рукі.

Я пачаў раскопваць вакол, і неўзабаве мы ўбачылі верхнюю частку досыць шырокіх металічных дзвярэй, што стаялі пад вуглом у градусаў 30. Наста ад узрушэння ажно пацалавала іх. Я з хвіліну пераводзіў дых і затым хуценька пачаў закідваць уваход зямлёй.

– Ты што робіш, вар'ят! – заверашчала Наста.

Я моцна прыціснуў яе да сябе, закрыўшы рот рукою.

– Ціха, – прагаварыў лагодна. – Цяпер дзень, людзі, табе патрэбны лішнія сведкі? А вось уначы будзе куды спакайней. Праўда?

Дзяўчына кіўнула галавой, і я адпусціў яе. Наста села на траву, з хвіліну глядзела на мяне і нечакана расплакалася.

– Я так стамілася і мне так балюча, – праз слёзы замармытала яна.

Я падышоў, пагладзіў яе па галаве, дапамог падняцца, і мы паволі папляліся дахаты.

Калі ўжо добра сцямнела і ў вокнах суседніх дамоў згасла святло, мы з Настай рушылі па скарбы. Я хуценька адгроб зямлю ад уваходу і з усяе сілы пацягнуў да сябе клямку дзвярэй. Яны гучна зарыпелі і падаліся на мяне.

– Адчыняюцца! – усхвалявана ўскрыкнула мая напарніца.

Перад намі была чорная пустэча. Я схіліўся над уваходам і запаліў ліхтар. Уніз вяла драўляная лесвіца.

– Ну што там? – нецярпліва запытала Наста.

– Бездань і паўструхлелая драбіна, – стрымана адказаў я.

– Усё роўна трэба лезці! – рашуча заявіла дзяўчына.

Я ўзяў альпінісцкі трос, які быў спецыяльна набыты дзеля гэтай справы на гарадскім кірмашы, і замацаваў карабін на клямцы дзвярэй. Другі канец троса прапусціў праз металічнае кальцо на сваім рамяні і кінуў уніз.

– Чакай тут! – загадаў дзяўчыне. – Калі спушчуся, крыкну. Замацуеш паясны карабін на тросе і тады пачнеш спускацца. Я ўнізе буду нацягваць трос і страхаваць цябе.

– Добра, – пакорліва пагадзілася Наста.

Я пачаў павольна спускацца па драбіне, стараючыся ступаць на краі лесвіцы. Тым не менш дзве ці тры прыступкі рассыпаліся пад нагамі, але я моцна трымаўся за трос і праз пару хвілін спусціўся ўніз, намацаўшы нагамі круглыя камяні. Я адчапіў трос і крыкнуў Насці:

– Спускайся!

Неўзабаве спусцілася і яна. Я пасвяціў наперад. Досыць высокая галерэя, выкладзеная каменнымі круглякамі, цягнулася далёка наперад і хавалася

ў змроку. Я дастаў з заплечніка больш кароткі трос, зачапіў адзін канец за свой пояс, а другі – за Настчын.

– Трымайся ад мяне не бліжэй, чым на тры крокі, – кінуў я дзяўчыне і рушыў наперад. Тунэль быў на дзіва сухі і без звычайнага для такіх месц паху затхласці. Дарога крута забірала ўправа. Метраў праз пяцьдзясят мы ўперліся ў цагляную сцяну. Я адчапіў ад пояса невялічкую кірку, што разумна прыхапіў з сабою, і з размаху ўдарыў па сцяне. Тая адразу ж трэснула. Гэта падбадзёрыла мяне, і ўдары пасыпаліся адзін за адным. Хвілін праз дзесяць утварылася дзірка, праз якую можна было прасунуць руку. Што я і зрабіў, а затым моцна рвануў цагліны на сябе. Вываліліся чатыры. Цяпер я дзёр іх дзвюма рукамі. Расхістаўшы сцяну, я з разгону пхнуў яе плячом. І сцяна пасыпалася, падняўшы клубы пылу. Калі ж пыл асеў, мы ўбачылі, што выйшлі да нашага першапачатковага месца. Зверху падаў свет, па драбіне слаўся трос. Наста істэрычна зарагатала. Я сеў і задумаўся. Клад дзесьці тут, я перакананы. Але дзе? Павінна ж быць нейкая зачэпка.

– Наста, ты пасядзі, а я прайдуся яшчэ раз і ўважліва агледжу.

Напарніца абыякава кіўнула галавою. А я зноў рушыў у дарогу. Гэтым разам я не столькі глядзеў пад ногі, колькі разглядаў сцены і столь тунэля. І мае намаганні былі аплочаны. Прамень ліхтарыка неўзабаве высвеціў на адной з цаглін сценкі невялічкую выяву разгорнутай кніжкі. Гэта знак! Я зноў узяўся за кірку. Пасля пятага ці шостага ўдару цэгла асыпалася, і я ўбачыў нішу, у якой стаяў досыць вялікі куфар. Я сцягнуў яго на падлогу. Тут было кілаграмаў сто вагі. Я адчыніў куфар і ўбачыў акуратна ўкладзеныя старажытныя фаліянты: Арыстафан, Тацын, Дантэ...

Больш за гадзіну мы з Настай перацягвалі гэтыя кнігі на паверхню. На майго кампаньёна было глядзець адно задавальненне: расчырванелая, рухавая, са шчаслівай усмешкай на твары, яна не ведала стомы, завіхаючыся каля кніг. Усяго ў куфары былі схаваны 32 кнігі. І якія кнігі! Мы акуратна расклалі іх на падлозе, крэслах, канапе па ўсёй кватэры і доўга стаялі моўчкі, у захапленні ад убачанага. Першай маўчанне перарвала Наста.

– Як ты лічыш, на якую суму тут кніжак?

– Думаю, як мінімум на мільён. Але ці варта прадаваць такі бясцэнны скарб?

– А што з ім рабіць? – пацікавілася Наста.

– Чытаць, выстаўляць у музеях, ганарыцца, што гэта тваё.

– Ну, даражэнькі, – засмяялася Наста, – як ты кажаш, па-першае, яны не нашы, а дзяржаўныя, паколькі кожны знойдзены клад належыць дзяржаве. Па-другое, без спецыяльных умоў захавання яны спарахнеюць праз месяц, і мільён ператворыцца ў гурбачку смецця, а па-трэцяе, ганарыцца мільёнам куды цікавей, чым нейкімі рукапіснымі паперкамі.

– Добра, – раззлаваўся нарэшце я, – а дзе ты прадасі гэтыя кнігі? Не, нават не так: а як ты вывезеш гэтыя кнігі, паколькі ў нас іх не прадасі. Хто купіць?

– Ты, Сашачка, яшчэ дзіця дурненькае. Думаеш, я б узялася за гэтую справу, не прадумаўшы ўсе хады? Пакупнікі знойдзены даўно, а вывезуцца дыпламатычнай поштай, якую ніхто не даглядае. Ты нават не ўяўляеш, якія людзі чакаюць у Еўропе гэтыя кніжкі.

Я сумна паглядзеў на дзяўчыну:

– Не ўсё можна змераць далярам, Наста. Кнігі – гэта душа чалавецтва. А душа не прадаецца.

Наста загадкава ўсміхнулася, узяла мяне за руку і сваім фірмовым, грудным голасам адказала:

– Бог з імі, кнігамі. Пазней прыдумаем, што з імі рабіць. А зараз мы з табой пераможцы. І гэта трэба адзначыць. Збіраем святочны стол.

Да перамогі Наста таксама была падрыхтавана. У адной з яе шматлікіх торб была бутэлька віскі, бляшанкі з рознымі морапрадуктамі, аліўкамі, паштэтамі. Мы хуценька ўсё расклалі па аднаразовых талерках і напоўнілі свае кілішкі.

– Ведаеш, Сашка, – неяк ну вельмі пранікнёна загаварыла Наста, – я вельмі ўдзячна лёсу, што калісьці ён звёў мяне з табой. Чамусьці так здарылася, што ўсё лепшае ў маім жыцці адбываецца выключна пасля нашых сустрэч. Ты – сапраўдны талісман, які прыносіць шчасце. За цябе, Санечка!

Я сціпла прыплюшчыў вочы, адчуваючы, як расце маё мужчынскае эга. Мы выпілі.

– Ой, – войкнула Наста, – я ж лімончык забылася нарэзаць. Прынясі, калі ласка, з кухні.

Я падняўся і рушыў па лімон. Але ні на стале, ні ў торбе не знайшоў.

– А дзе той лімон? – гучна крыкнуў я.

– А ў сумцы няма? – крыкнула ў адказ дзяўчына.

– Няма!

– А можа, я ўвогуле яго забылася пакласці? Бог з ім, Саша, давай яшчэ вып’ем.

Я вярнуўся ў пакой. Наста стаяла каля стала і трымала поўныя кілішкі. Адзін працягнула мне.

– Скажы што-небудзь, – пяшчотна папрасіла яна.

– Давай, Наста, вып’ем за нас, за тое, каб ты больш нікуды не знікала, бо я, здаецца, усё ж кахаю цябе.

Наста пацалавала мяне ў вусны, і мы выпілі да дна. А затым... я страціў прытомнасць. Калі ж прыйшоў у сябе, то ўбачыў, што ляжу ў ложку, клапатліва прыкрыты коўдрай. Страшна балела галава. Я павольна падняўся і агледзеўся. На непрыбраным ад хуткага свята стале дабавілася нейкая кніга і невялічкі белы аркуш паперы. Насці не было. Але я нават і клікаць не стаў. Я дакладна ведаў, што яе няма. Падышоў да стала і пачаў чытаць ліст.

“Мілы Санечка, я ведаю, што ты мне гэтага не даруеш, але пастарайся хаця б зразумець. Я не змагу жыць тут, у краіне. Я іншая. І ведаю, што ты не зможаш жыць там. І прадаць кнігі ты не пагодзішся, паколькі гэта супярэчыць тваім прынцыпам. А мне для майго бізнесу патрэбны грошы. І таму нам ніяк не выпадае быць разам, хаця я гэтага вельмі хацела б! Хаця, хто ведае? Ніколі не гавары ніколі. На памяць пра сябе пакідаю табе кніжку. І не думай пра мяне дрэнна. Кахаю цябе. Твая Наста”.

Я ўзяў у рукі кнігу. Гэта былі “Лівонскія хронікі” Германа Вартбергскага. Я адклаў яе і яшчэ раз перачытаў ліст. Вось і канец нашым прыгодам. Амаль як у класічных раманах. Але я быў упэўнены, што пройдзе зусім няшмат часу, і я зноў убачу Насцю. Так, відаць, ужо наканавана лёсам. І шчаслівая ўсмешка з’явілася на маім твары.

Антаніна Хатэнка



...Мы ляцім. Быццам птахі ўгору,
бліскавічна па-над Радзімай.
Нехта згорана крылы згорне.
Нехта нашы штандары ўздыме...

# Лучво

### *АДПЛАТА*

Да сустрэчы маёй з сабою
цёмна-цёмна. Куды ісці?
Заблудзіліся мы абое –
Я ў бяссмерцці і я ў жыцці.

Толькі бліскае ў коўзкім змроку
блізка, быццам – рукой падаць –
занямогла ў бяссвецці зорка,
мігатлівая, як вада.

Як вада па вясне, сыходзіць
жывадайнасць. Глыбей, глыбей.
Ой, чаму ж мне халодна ў родзе
на шляху да самой сябе?

Як сустрэнемся ўрэшце недзе,
спадарожніцы – я і Я,
дай нам, Божа, сысціся ў Ведзе,
не раскроіцца надвая!

Дай нам, Божа, адна з адною –
мне часовай і вечнай мне –
не знядужаць былой віною,
не згібець на былой вайне.

Адплачу і адплачу ўдосталь.
Запытаю ў самой сябе:
як стрывалі мы гэту ростань –
у змірэнні ці ў барацьбе?

...З кроплі веры – ні менш ні болей:
"як у Небе, так на Зямлі"
рэкі шчасця й азёры болю
Я і я ў Акіян вялі.

*11.04.2020*

## *ДАЛЯГЛЯД*

*Уладзімеру Караткевічу*

У зазімку шэрым, аж срэбным,
у хусце туману і дум
нікому зусім непатрэбнай
да роднае пушчы іду.

Як птушкі чубатыя, дрэвы,
здаецца, за хмары лятуць.
Глухая ў міжчассі пярэрва.
Палессе. Дзівак на плыту.

У свеце дзірванна, дрыгвяна.
Куды ён, самотнік, плыве?
А я куды госцяй нязванай
іду па зляжалай траве?

Куды яго вынесе плыня,
той плыт, праз вятры і віры,
як з'едліва немач нахлыне
і ў зазімку дзень дагарыць?..

Тут прагная багна навокал.
Хмызы, як звяры, з берагоў.
І нерушы пільнае вока:
каго ў ноч прыбіла, каго?

“А я ўсё шукаю Радзіму! –
засмучана ўсклікнуў дзівак. –
У шызых дымох перадзім’я
знядужала, мабыць, Літва...”

“І я ўсё лаўлю адгалоскі
бадзяжнага рэха Літвы.
...Аскепкаў раструшчаных роскід.
І поцем дрыгвы нежывы”.

Ахутвала шэрань Палессе.
Дамоў два блуканцы ішлі.
Па лёсе, нібыта па лесе,
па самым краёчку зямлі...

*06.12.2019*

## *СНЕГАЛЁТ*

Будзе падаць снег.
Не! Ляцець праз час.
Праз цябе й мяне –
ачужэлых нас.
Паўз чужынцаў нас
шчасце прамільгне.
Плачна вечар згас –
спамяні мяне.
Спамінай мяне
зімы навылёт.
Снег у плыткім сне
паснаваў і злёг.
Паснаваў і злёг
ціха, звечана
на быллё й галлё,
бы на плечы нам.
І на плечы нам
і на ростані –
памяць нечая
снегалётная.
Снегалётныя,
снегападныя
нашы потаі
сню ці згадваю?
Будзе падаць снег.
Пахмурнее час.
Цэлы век міне.
Можа, знойдзе нас.

*13.02.2019*

## КРЫЖАХОД

*“...што на ўсход шляхам чорным кладзецца”*
*“на ўсход, на ўсход, на збыт, на звод”*

**Янка Купала**

Пазбіраліся ўсе крыжы –
і з пагостаў і з раздарожжаў:
“Не тужы, зямля, не тужы!
Выпраўляемся ў стан варожы.
Бараніцца. I бараніць
свет, аблытаны зманам ліній,
вечны бор, спілаваны ў пні,
асвячоны крывёй калінай.
З хітрых ліній нямой вайны
агаломшана б’юць салюты.
Мы адны тут. Зусім адны
ацалелыя ў байцы лютай.
А пакуль разрываюць нас
нібы жылле ў тваім улонні,
разняволеная вайна
ўсё ўпільноўвае і палоніць –
думкі, потайкі, нават жаль,
сны і ўцвілую з болю памяць,
што бруілася ў нас, крыжах,
што ўздымалася па-над намі.
Ты даруй нам, зямля, даруй.
Адлятаем, як птахі ў вырай.
Тут і згадкі пра нас памруць,
калі згуба з карэннем вырве”.
...Падаліся на ўсход крыжы.
Хто ў чароды да іх пастане?
Як трывожна зямля дрыжыць,
прадчуваючы павяртанне!..

*10.05.2019*

## ОДУМ

*Марыі Вайцяшонак*

Задумліва прысеў на прызбе снежань.
Снавалі думкі ў ранні, як відзежы.
З-пад воблакаў, нібы з-пад парасонаў,
пламенне вызірала ў дзень спрасоння.
З блакітнасці імглістае вясёла
над вершаліннем загараўся золак.
Блукалі цені ў веццевай мярэжы.
Сядзеў на прызбе й думаў-думаў снежань.
Ані зіме ні восені не верыў,

пазамыкаўшы весніцы і дзверы
перад гадамі, перад халадамі,
як вараннё, кружлялымі над снамі.
Але гады ўзыходзілі ў вясёлку,
а ў халадох ані было не золка.
І хоць шапні той снежань, хоць галёкні,
жыццё святочна ўсплёсквалася ў вокнах.
Жыццё ў камлях пялёхалася сонна,
пад снегавым гуляла парасонам.
Бруяла сонца з белага бязмежжа.
І абдымала і любіла снежань.
Было так цёпла ўхутацца ў радзюжку.
І згадкі, згадкі ў ветравеі гушкаць.
Сядзець у хаце, вечарамі ўгрэтай,
і гаварыць і гаварыць да свету.
Глядзець, глядзець на полымя ў агмені.
І слухаць, слухаць, як лятуць імгненні
ў далёкі лес, узвершаны як вежы.
...Прысеў на прызбе і шчаслівіў снежань.

*02.12.2019*

## НАСУПЕРАК

Нема ўначы
Плошча ўва мне крычыць,
скурчана і збалела.
Плошча – Душа без цела.

Плошчы крыўдлівы Прывід
зломвае, крышыць, крывіць
час мой, надзею й праўду.
Плошча, даруй нам здраду!

Вецер па Небе хвошча.
Боязь даруй нам, Плошча!
Даўка ўначы
Плошча ўва мне маўчыць.
Долю (ды й сцяг) раздзерла
Плошча – Душа без веры.

Ходзяць па Плошчы здані.
Плямкаюць: “Волі дай нам!”
Туляцца ўтульна ў цемры:
“Мы ж яшчэ не памерлі...”

Хіжа ўначы
гострыць чужак мячы.
У вечары крывыя

сэрца і песню вырве,
слова й хрыбет раструшчыць,
высеча люд, як пушчу.

Вынішчыць, стопча, спаліць
гонар і шлях і памяць.
Будуць гарланіць п’яна
прышлыя жах-іваны.
Згоняць шчасліва ў лагер
сейбітаў і тулягаў.
Збройна ўначы
ўздымецца Слуцкі чын –
перамагчы ці згінуць...
Плошча – вайны Багіня,
аберажы адважных!
Неба кілімам ляжа
воям наўпрост пад ногі!
Плошча, пашлі ім змогі
Волю харобра ўзрошчваць!
Абарані нас, Плошча,
і загаі нам раны!

Злітуйся з кволых скрайніх –
з хісткіх нямоглых зданяў,
зблудлых без роду-звання!
Выбач саслаблым, Плошча!
Выбач, даруй знявекам!
Будуць вылюльваць лекі
Свіцязь і Радагошча...

*30.11.2019*

## У ПЛЫНІ

Вятры куляюць
любові човен.
Скрыгоча наледзь:
свет знічак повен.
Ноч тыя знічкі
збірае ў нерат.
А ці прыкліча
з вякоў даверу?
Начы, бы зверу,
нажывы мала:
з дня скуру здзерла,
на тло заслала.
Гуляе месяц
за спеўным гаем.
Сон гукі месіць –

і ўсё сціхае.
А мы без вёслаў
плывем наўздогад
і безгалоса
гаворым з Богам.
Тут, у палоне
спадзеў нішчымных,
знічы ў далонях –
стыгмат Айчыны.
Расплюшчу вочы:
як свечкі, хвоі.
І ўжо не змрочна.
І нас не двое.
Тут нас не меней,
чым зор высокіх.
Мы, як праменне.
Мы, як аблокі.
І на дасвецці,
бяз волі смаглым,
касмеі ўквецяць
з-пад споду багну.
А з пракаветы
ў нябесны човен
злятаюць светы
й часы нанова.

*10.06.2019*

### *ГОЛАС*

Вечар пільны, як Дух лясны,
прабіраецца ў думкі й сны,
раздзімае наўсцяж вагні
(ты мне ўпотай здалёк мігні!),
расхінае няўзнак туман:
вось былі мы... І ўжо няма.

Толькі ў вокнах каралі зор
месяц тоненькі, бы лязо,
расцінае, здаецца, час,
дзе былі мы й не стала нас.

Ды ў расхрыстаныя вятры
голас твой (ці птушыны крык?)
залятае, нібы ў нябыт...
Нехта й тамака нас любіў?
Нехта любіць, чакае нас
там, дзе шлях ацішэла згас?

У растанную немату
голас падае твой адтуль,
дзе чакае і любіць нас
СьветаРоду ўвячэлы звяз?..

Я ступаю ў твае сляды –
і ў мяне пераймае дых.
І абкружвае, бы нітво,
шчыльна досвітак голас твой.

І гуляецца ноч у зман:
вось былі мы... І нас няма.
А нашто ўсё было, нашто?
...Горкне ветру з дажджом глыток.

*27.06.2019*

## *БЕЛЫ СУМ*

Кацілася поўня ў сумёты.
І срэбрана дрэвы цвілі.
Не знаючы, што будзе потым,
наш час раяваў на зямлі.

Па белай няведзе, па белай,
зіхоткай – аж цёмна ўваччу! –
зазоўкаю раніца бегла.
...Ды хто яе, дзіўную, чуў?!

Бялела й балела пасцеля
(ці палуба зман-карабля?..).
Люботу вулканілі целы.
Зрывалася з кругу зямля.

Ні слоты ў зіме, ні сумётаў –
шалёны, задыханы жар.
Пяшчоты запады і ўзлёты.
...І зрэнкі замглёна дрыжаць.

Паўценева, пругка, замглёна.
Быцця й несмяротнасці счэп.
Затоны. Заломы. Заклёны:
застанься, забаўся яшчэ.

Застанься, забаўся да ночы!
Ад сцюжы наўцёк. Назаўжды.
...Слязіцца вакно па-сірочы.
Баляць на парозе сляды.

І ветах залоціць сумёты.
І срэбрана дрэвы цвітуць.
Я ведаю, што будзе потым:
у неба твaё прарасту.

*14.01.2019*

## *РАСПЯЦЦЕ*

Збаўцу Свету ўтуліў да Вінчы
ў неба ўзорыстае шытво.
А мне з цемры – тваё аблічча.
А мне з далечы – позірк твой.

І нідзе ні святых, ні юдаў,
ані здрад, ні адплат, ні змоў,
ні галгофы, ні кар прылюдных.
Толькі лёгкі прыхін – Дамоў.

І нідзе жабракоў панылых,
ані служак, ані рабоў,
ні эпох, ні хвілін застылых...
Толькі радасць, любоў – мой Бог.

Варажбітная ноч пралічыць,
дзе спаткаемся зноў, калі...
Бачыш, зноў вешчуны да Вінчы
пакланіцца Жыццю прыйшлі.

Ды пасталі яны ў парозе:
хоць крычы тут, а хоць маўчы,
праз расстанні, загубы й слёзы
кірмашуе “а што пачым?”

Царавалі ж наўсмак і калісь
цалаванне пярста й крыжа,
енк няволі ў чужой юдолі
ды ссівелы гарбаты жаль.

Цвінтары аж да краю свету,
падаянкі, спакусы, грэх.
Хіба ўздыбіцца з апраметы
гнеў – і ў попел усё сатрэ...

Светлаценевы рай да Вінчы.
І “Таемнай вячэры” жах.
А мне з Вышы – тваё аблічча
ў ласцы сонцавага крыжа...

*09.01.2019*

## ДОТЫК

На досвітку, на досвітку, на досвітку,
як з гушчару выгушкваецца гук,
усходзіць над зямлёю мова дотыкаў,
і я чуйноту гэту сцерагу.
Прылашчваю, прылашчваю, прылашчваю,
як птушанят, пяшчоту й мілату.
А крумкачоўе кідаецца йграшчае,
а завірухі сцюжныя мятуць.
Ды мы з табой адважныя, адважныя
і ў зграйнасці датклівасць бараніць,
дзе ўсё, здаецца, змерана і ўзважана,
накрэслена, бы шлях на далані.
За нетрамі вякоў, за небаготыкай
заранкі аціхаюць, як вуглі.
Адчайная варожыць мова дотыкаў
на ростанях, скуль мы з табой сышлі.
Над золкамі, над золкамі, над золкамі,
у чуйнаванні часу залатым,
так вусцішна, так золка нам, так золка нам...
Далёка я. І недасяжны ты...

*06.01.2020*

## ЛУЧВО

Ноч на краёчку спамінаў прысне,
сходу лампадку няўзнак запаліўшы
і начапіўшы на крону ў вакне –
па-нада мною, дарогай і цішай.

Гук праляціць трапяткі, трапяткі.
Мабыць, з нязнаных далёкіх Галактык,
скуль павяртаюцца, як матылькі,
леты пражытыя сцежкай заклятай.

Ноч на краёчку любові мяне
покрывам мяккім шаўкова агорне.
...Нехта ўладарна аднойчы дзьмухне –
мары ў пясок ператворацца зорны.

Мары мае на краёчку Быцця,
на адвітальна пашчэрбленым сходзе,
быццам трысцінкі, трывожна трымцяць.
...Продкі, здаецца, іх чуюць-лагодзяць.

Продкі, здаецца, маю далячынь
звеку вядуць, атуляючы бела, –

Род па кудзелі і Род па мячы –
каб нават кропліна мар не згібела.

Быццам знічы па дарогах, – сляды...
Мо невідушча па ранах ступаем,
збіўшы ў хадзе не да тых, не туды
знакі дарадныя, годнасць і памяць?

Як мне з драпежнай абдоймы ўцячы
ліпкага страху й ліслівасці таннай?
Род па кудзелі і Род па мячы
цепляць здалёк на краёчку світанак.

*30.07.2020*

## ПОЛЕ БОЛЮ

*Мёртвым не баліць.*
**Васіль Быкаў**

На гэтай зямлі нават мёртвым
нясцерпна баліць
дарогі з пагостаў разгортваць,
загойваць палі.
Над гэтай Краінай аблокі,
нібыта бінты.
І пекла раз'юшаны лёкай –
над Краем святых.
Тут вартаю ціхаю-ціхай
усходзяць крыжы.
Паўсталі насуперак ліху
хто ёсць і хто жыў.
Тут чорнае з чорнага ўчора
гырчыць груганнё.
А з Вечнасці зорацца зоры,
лунае Анёл.
Ад Краю да краю Нябёсаў –
цнатлівасць лілей.
Барвяна світанак узнёсся.
...Ды вечар збялеў.
Збалела, згалела па белым
чырвоняць шнары.
Чаму ж вы прыйсці не паспелі,
з Гары змагары?
А продкі (памерлыя, быццам)
ратункава йдуць.
Прастора, нібы плашчаніца.
І праўда, як Дух.

*30.08.2020*

## *УЗЛЁТ*

Мы ляцім. Як вятры Радзімы.
Прыпадаем да глебы ўкленча.
Нехта нашы штандары ўздыме.
Нехта будзе баяцца й енчыць.
Мы ляцім. Як вятры ў дарозе.
Са слядоў выкрасаем Сілу.
Нехта лаецца, хлусіць, грозіць.
А кагосьці ўжо смерць скасіла.
Мы ляцім. Як ляціць Пагоня.
Праз вякі. Праз Любоў і здраду.
Нехта курчыцца на адхоне.
Нехта подыху Волі рады.
Мы ляцім. Быццам птахі ўгору,
бліскавічна па-над Радзімай.
Нехта згорана крылы згорне.
Нехта нашы штандары ўздыме.

*30.08.2020*

## *ШЛЯХ ВЕРАСНЁВЫ (ГОД 1514-ТЫ)*

Забяры мяне, Род, забяры!
Мы Дамоў паплывем па Дняпры.
Па вадзе, па слязох, па крыві
заплыві, часе мой, адплыві
чым далей з цемраты, чым далей –
тут мой дол, тут мой свет акалеў,
тут паснулі званы й званары...
Забяры мяне, век, забяры!
Ды шыхтуюцца, як ваяры,
на Крапівенскім полі вятры.
А на стромах дняпровых мячы
і дагэтуль не леглі спачыць.
Вунь харугвы паўсталі, ідуць –
за слязіну, за кроў, за ваду,
за Краіну, за дом, за мяне
(хай і тысячы летаў міне!..)
Пакуль поўня паходняй гарыць,
з Родам вечным плыву па Дняпры.
Пакуль покліч Аднекуль чуцён,
узвышэлы над смерцю й жыццём,
покліч Волі, змарнелай даўно
ў курганох і чаканнях і снох.
...Быццам ветразі, вольныя дні.
Барані, Родзе, нас, барані!

*17.09.2020*

Уладзімір Садоўскі



...гэты індывід мае значныя дасягненні
ў галіне сістэматычнага палявання
на жаночыя сэрцы...

# Менск 1937

***Урывак з рамана***

## Раздзел 1. Следчы

У пакоі стала зусім ціха. Крыміналіст і медык паклалі цела на насілкі і вынеслі з кватэры на двор, дзе чакала машына ў трупярню. Участковы пайшоў апытваць суседзяў. І толькі з-за сцяны даносіліся ледзь чутныя ўсхліпы. Ларцаў пераступіў цераз пляму крыві на дыване і падышоў да кніжнай шафы. Следчы меў звычку заўсёды цікавіцца бібліятэкамі ў тых кватэрах, дзе бываў. У знаёмых ці калегаў па працы – не мела значэння. Ларцаў заўжды знаходзіў час праглядзець карэньчыкі кніг, выстаўленых на паліцах гаспадароў.

Паміж шматтомнымі выданнямі Леніна, кнігамі Жылуновіча і Чарвякова – стандартны набор любой менскай прыватнай бібліятэкі – следчы заўважыў некалькі зашмальцаваных паўсцёртых карэньчыкаў. Ларцаў выцягнуў

адну з такіх кніжак і разгарнуў. Карскі, “Очерки словесности белорусского племени”, 1922 год. Не дзіва бачыць такую літаратуру ў зборах русацяпа. Следчы паставіў кнігу назад на паліцу і павярнуўся да стала. Пасярод стальніцы, забранай па-старасвецку зялёным сукном, ляжала пісулька. Апошнія словы самагубцы. Ларцаў ужо чытаў яе. “Прашу нікога не вініць... сыходжу самастойна...” і ў тым жа духу. Казённыя фразы, надрукаваныя на машынцы. Сам апарат – стары “Рэмінгтон” – стаяў на краі стала. На падлозе каля паваленага крэсла за плямай крыві ляжаў рэвальвер, з якога самазабойца і здзейсніў задуманае. Страляў пад ніжнюю сківаіцу ўверх. Ларцаў мімаволі зірнуў на столь – так і ёсць, буйныя плямы крыві на пабелцы. Пасля стрэлу цела разам з крэслам павалілася на дыван. Такім яго і пабачыла жонка самагубцы, якая вярнулася ў кватэру амаль перад самым візітам міліцыянера. Суседзі, пачуўшы стрэл, неадкладна паклікалі паставога.

Ларцаў яшчэ раз пераступіў праз лужыну крыві, нахіліўся і падняў пісталет. Звычайны наган, якіх тысячы на руках. Ці мог ён быць у чарнасоценца, абвінавачанага сем гадоў таму па справе шавіністычнага цэнтра? Чаму б і не. Самагубца, былы драматург, вярнуўся з пасялення два гады таму і мог за гэты час займець рэвальвер. Канечне афіцыйна ён трымаць зброю не мог, бо быў пазбаўленцам, але на чорным рынку не глядзяць, маеш ты права ці не. Следчы спрактыкаваным рухам адкінуў барабан нагана і зірнуў на святло – заставалася адна гільза. Рэвальвер быў заражаны адным патронам. Больш і не трэба. Глянуў на месца, дзе меўся быць інвентарны нумар – збіта падчыстую, яўная прыкмета крадзенай з чырвонаармейскіх складоў зброі.

Следчы паклаў наган у кішэню і выйшаў з пакоя. У калідоры было цёмна і пуста, але Ларцаў фізічна адчуў на сабе некалькі позіркаў. Суседзі самагубцы па камуналцы пільна назіралі за кожным рухам следчага праз замочныя шчыліны, праз шчылінкі ў дзвярах ці праз акенцы пад столлю. Ларцаў падышоў да бліжэйшых ад пакоя нябожчыка дзвярэй і прыслухаўся. Усхліпванняў ужо не было чутна. Ён лёгенька пагрукаў і, не дачакаўшыся адказу, штурхнуў дзверы. Памяшканне з нацяжкай можна было назваць спальным пакоем – занадта малое яно было. Тут толькі і змог размясціцца адзін даволі шырокі металічны ложак ды зэдлік, які, відаць, выконваў ролю і сядала, і тумбачкі, і працоўнага стала адначасова. На ім цяпер ляжала кніга і стаяла шклянка з вадой.

На засланым ложку сядзела немаладая хударлявая жанчына. На змучаным схуднелым твары яе яшчэ і цяпер бачыліся ледзь прыкметныя рыскі былой прыгажосці. Калі Ларцаў увайшоў, жанчына глянула на яго счырванелымі ад слёз вачыма і хутка адвяла позірк. Следчы дастаў з кішэні блакнот, следам хімічны аловак. Лізнуў дзюбку і спытаў:

– Грамадзянка, кім вы прыходзіцеся загінуламу? – Ларцаў нават сцепануўся, настолькі ягоная пратакольная мова тут і цяпер выглядала недарэчна.

Жанчына зноў паглядзела на следчага. Гэтым разам у яе вачах апроч гора і разгубленасці з’явілася злосць.

– Прабачце, – Ларцаў міргнуў, – паводле пратакола я вымушаны задаць вам гэтыя пытанні.

Жанчына маўчала.

Следчы, не чакаючы адказу, акуратным почыркам вывеў на аркушы: ”жонка”.

– Вашае прозвішча, калі ласка.

– Курдзіна, – адказала жанчына, – Валянціна Мікалаеўна.

– Вы знаходзіцеся ў афіцыйным шлюбе? – жанчына кіўнула, і Ларцаў зрабіў адпаведную паметку. Пра сацыяльнае становішча і партыйнасць следчы вырашыў пакуль не пытаць.

– Хто-небудзь апроч вас жыве ў пакоі?

– Не.

– Апішыце, калі ласка, як вы знайшлі, – Ларцаў на імгненне задумаўся, – цела. Дзе вы былі, калі адбылося самагубства?

– Мой муж, – жанчына замоўкла, сцерла платком слязу са шчакі і працягнула: – мой муж сказаў, што вельмі заняты, і папрасіў мяне наведаць пошту. Ён чакаў ліст. Казалі, што прыйдзе з дня на дзень. Учора ён сам хадзіў, а цяпер мяне папрасіў, – голас суразмоўніцы дрыжэў. – Дарога да паштамта. Назад. А яшчэ чарга. Мяне не было недзе гадзіну. Калі я вярнулася, каля дзвярэй ужо былі суседзі. Нехта сказаў, што ідзе міліцыя. Я сама зайшла ўнутр і пабачыла... яго.

– Чым займаўся ваш муж, калі вы пайшлі?

– Ён сказаў, што будзе пісаць. Ён пісаў апавяданні ў піянерскі часопіс. Яго друкавалі. Але, праўда, не часта. Дый забаранілі падпісвацца ўласным імем. Ну, вы ведаеце, пасля таго працэсу ніхто не хацеў бачыць яго сапраўднае імя ў сябе на старонках.

– Так, – Ларцаў кіўнуў. – Ці быў ліст на пошце?

– Не. Я адстаяла чаргу дарэмна.

– Ці былі ў вашым жыцці цяжкасці ў апошні час?

– У апошні час? – жанчына нявесела скрывіла вусны. – Усё нашае жыццё ў апошнія сем год – гэта і ёсць цяжкасць. Як вярнуліся ў Менск, перабіваліся падпрацоўкамі. Мне прыйшлося домработніцай уладкавацца. Муж атрымліваў ганарары, але не рэгулярна. А нядаўна домакіраўнік прыходзіў. Сказаў, што забярэ ў нас гэты пакой, – жанчына абвяла рукой памяшканне, – сказаў, не паложана бяздзетнай сям'і два пакоі. А мой муж, ён старой закалкі. Прывык працаваць у адзіноце. Каб пісаць, яму патрэбен быў асобны кабінет. Вось мы і прыладкавалі той адзіны прыстойны пакой пад кабінет, а тут адпачывалі. Гэта заява домакіраўніка, канечне, раз'юшыла мужа. Але што паробіш, мы ж пазбаўленцы. Ніхто з намі не лічыцца.

– Дзякуй, больш пытанняў не маю.

Ларцаў вырваў лісток з блакнота, хутка нешта на ім напісаў і працягнуў жанчыне:

– Прыйдзеце заўтра а дванаццатай да мяне ў першы райаддзел. Скажаце, да следчага Ларцава. Мой кабінет на другім паверсе. Выдам вам даведку аб прычынах смерці і скажу, калі можна будзе забраць цела з трупярні.

Следчы развітаўся і пад няспыннымі позіркамі суседзяў пакінуў камуналку. На лесвічнай пляцоўцы Ларцаў спыніўся, дастаў партсігар з профілем Кастуся Каліноўскага і надпісам "15 год міліцыі" на баку, выцягнуў цыгарэту і запаліў. З-за дзвярэй суседняй кватэры даносіліся гукі размовы.

– Міхась! – гукнуў Ларцаў з цыгарэтай у зубах. Выйшла не надта выразна.

Следчы дастаў цыгарэту і паўтарыў:

– Міха-ась!

– Я, – малады няголены твар участковага паказаўся з-за дзвярэй.

– Як закончыш, прывязеш матэрыял у аддзяленне, мне трэба спяшацца, хутка цэвэкоўскі экзамен.

– Згода! – твар знік у праёме.

Знадворку ля ўвахода Ларцава чакаў службовы аўтамабіль – просты з брызентавым верхам "Форд", яшчэ з той першай партыі, што сабралі на новым заводзе пад Барысавам пяць гадоў таму.

– Качагар, паддай вугалю! – гукнуў Ларцаў шафёра.

Кіроўца страпянуўся, адклаў газету, якую чытаў і, стукнуўшы дзверцамі, выйшаў з аўто. Крутануў ручку пад радыятарам, і з чэрава жалезнай машыны пачуўся прыемны рык рухавіка.

– Паравоз гатоў! – усміхнуўся следчаму кіроўца. – Куды едзем?

– У аддзяленне, – коратка кінуў Ларцаў. Следчы яшчэ раз удыхнуў нікацінавы дым, смаку якога амаль не адчувалася, затушыў недапалак аб падэшву бота і кінуў у дваровую гразь.

Сеўшы на шырокае задняе сядзенне, Ларцаў задумаўся. Ён раптам усвядоміў, што за ўвесь час, што знаходзіўся на выездзе, так ні разу нават у думках не назваў нябожчыка па імені. Дзмітры Курдзін. Гадоў дзесяць таму, калі Ларцаў яшчэ быў простым паставым у Віцебску, ён хадзіў у тэатр на п'есу Курдзіна. Як там яна называлася? "Міжбур'е", во! Ларцаў прыгадаў, што прэм'ера яму тады не вельмі спадабалася: зацягнутае дзейства, акторы пераігрывалі, але для віцебскага тэатра таго часу пастаноўка была нядрэннай. Значыцца, Курдзін. П'еса прайшла, а неўзабаве пачаўся працэс і імя драматурга выпала з культурнага жыцця краіны, а сёння і сам драматург выпаў. З жыцця. Ларцаў нявесела ўсміхнуўся свайму чорнаму жарту.

– Андрэй, чаго стаім? – следчы заўважыў, што "Форд" спыніўся на скрыжаванні.

– Ды гэны святлафор не пускаіць.

Ларцаў глянуў увысь і сапраўды заўважыў прастакутную канструкцыю з рознакаляровымі ліхтарамі.

– Не было ж яго тут.

– Дык, відаць, нядаўна павесілі, сёння зрання на заданне мы ехалі іншай дарогай – не бачылі.

– Хутка з-за гэтых святлафораў праз цэнтр не праедзеш, – уздыхнуў следчы.

Ларцаў паглядзеў па баках: упоперак дарогі праехаў грузавік на будоўлю дома ЦК партыі, насустрач рухалася падвода, следчы заўважыў будку міліцыянера, адкуль той кіраваў святлафорам і свіснуў.

– Гэй, таварыш, заводзь катрынку, нікога ж няма!

З будкі высунулася галава раззлаванага паставога, але, заўважыўшы міліцэйскія нумары на "Фордзе", паставы прасвятлеў, кіўнуў і знік у будцы. Над дарогай запалілася зялёнае святло.

"Форд" крануўся. На наступным скрыжаванні была тая ж карціна, толькі рух тут быў больш актыўны: падводы, грузавікі, легкавікі, са звонам праехаў трамвай на Камароўку. Міліцэйская машына праскочыла шумную Савецкую і паехала далей да аддзялення. "Форд", грукочучы коламі па клінкернаму бруку, выкаціўся на Інтэрнацыянальную, павярнуў направа каля Дома працы і шпарка паехаў па Пляцы Волі на спуск да Ніжняга рынку. На вуліцы Скарыны машына неспадзявана спынілася – вузкую дарогу перагарадзіла падвода, з якой ішла разгрузка тавара ў адну са шматлікіх крамаў вулачкі. Шафёр пачаў гучна сігналіць і свістаць.

– Чаго свішчаш? – выйшаў з крамы грузны мужчына ў фартуху, відаць, загадчык. – Грошай не будзе!

– Паставілі тут! Не бачыш, міліцыя на заданне спяшаецца! – агрызнуўся кіроўца.

– Спяшаецца, іш ты, – загадчык сцішыў голас, сплюнуў, падышоў да запрэжанага каня і пацягнуў за лейцы. – Ноoo, пайшоў.

– Што хоць грузіце? – шафёр таксама перайшоў на спакойны тон.

– Ды вось, свініна з беконавай фабрыкі. Адпускаць будуць толькі сябрам прафсаюзу, – кінуў праз плячо загадчык.

– Паехалі ўжо, – ляпнуў кіроўцу па спіне Ларцаў.

Машына рушыла і праз некалькі сотняў метраў павярнула на вуліцу Гандлёвую да аддзялення. Перад уваходам у міліцэйскі будынак была вялізная лужына. Праз яе зігзагамі былі пракладзены вузкія масткі, па якіх, нібы акрабаты, скакалі грамадзяне і службоўцы. Рыпнуўшы тармазамі, “Форд” спыніўся ля самага берага імправізаванага мора, якое засталося з часоў нядаўняй гарадской паводкі.

– Глушы матор, – кінуў праз плячо Ларцаў, адчыніў дверцы і з аўтамабільнай падножкі спрытна скочыў наўпрост на масток. Некалькі шырокіх крокаў – і следчы знік у дзвярах трохпавярховага будынка.

Падняўшыся ў кабінет, Ларцаў адразу падышоў да сейфа, дастаў наган з кішэні і паклаў унутр металічнай шафы.

– Яшчэ паспяваю? – кінуў ён машыністцы, маладой дзяўчыне, якую ўсе ў аддзяленні звалі Мурачкай.

– Так, цэвэкоўскі экзаменатар яшчэ не прыходзіў, – адказала дзяўчына пад грукат клавішаў машынкі.

– А дзе Яворскі?

– Відаць, там ужо, у аўдыторыі.

Ларцаў павесіў у шкаф свой плашч, дастаў з кішэні блакнот з алоўкам і выйшаў у калідор. У пакоі палітпадрыхтоўкі ўжо было поўна народу. Следчыя, шмат паставых, начальнік аддзела крыміналістыкі. Заставалася незанятымі літаральна пара месцаў. Пакуль следчы разважаў, куды падацца, з глыбіні тлумнай залы раздаўся выкрык:

– Гэй, Ларцаў, ходзь сюды, я заняў!

Гэта быў Яворскі. Ларцаў праціснуўся паміж шэрагаў і сеў побач з калегам.

– Што чытаеш? – Ларцаў заўважыў кніжку ў руках Яворскага.

– Ды так, аднаўляю веды перад праверкай, – Яворскі паказаў Ларцаву вокладку – “За нашу Савецкую Беларусь” Чарвякова.

– Ясна, – сказаў Ларцаў. Яму аднаўляць веды было без патрэбы, ён і так адчуваў, што добра ўсё ведае. Не было ніводнага цэвэкоўскага экзамена, які б Ларцаў не здаў на выдатна.

Гул галасоў у памяшканні раптоўна заціх – увайшоў экзаменатар з ЦВК. Невысокі дзядзечка ў акулярах. Акуратная бародка падкрэслівала акругласць твару. Апрануты госць быў па апошняй цэвэкоўскай модзе ў белы фрэнч – такі самы, у якім на людзях любіць з’яўляцца старшыня ЦВК Алесь Чарвякоў. Следам за экзаменатарам у залу зайшоў новы начальнік першага гараддзялення міліцыі – таварыш Какоцкі.

Былы начальнік, ардэнаносны, як казалі ў аддзяленні, таварыш Кроль нядаўна атрымаў пачэсную пенсію і пакінуў пасаду. Новага начміла Ларцаў яшчэ толкам не ведаў. Хаця Какоцкі ўжо больш за месяц быў

прызначаны на пасаду, знайсці яго на месцы было цяжка: то па справах у наркамаце, то на выездзе па раёне. Усе нарады пакуль што праводзіў ягоны намеснік – старшы следчы Грэчкін.

Экзаменатар і начміл падышлі да грыфельнай дошкі. Цэвэковец паставіў на кафедру свой цяжкі скураны партфель і моўчкі агледзеў аўдыторыю. Какоцкі пачаў гаварыць:

– Вітаю вас, таварышы рабоча-сялянскія міліцыянеры, – начміл не выгаворваў літару “р”: – Як служба?

У адказ на пытанне начміла зала запоўнілася адабральнымі воклічамі.

– Ну і добра, – усміхнуўся Какоцкі. – Сёння ў наша аддзяленне завітаў таварыш Цвірка з нацкамісіі пры ЦВК. Будзе праводзіць праверку ступені ведаў беларускай мовы ў нашай міліцэйскай установе. Падрабязнасці раскажа ён сам. Не падвядзіце, братцы.

Экзаменатар, які падчас прамовы начміла ўвесь час трымаў рукі на партфелі, зварушыўся. Пстрыкнула спражка, і на стале з’явіўся стос лісткоў.

– Вітаю вас, таварышы міліцыянеры, – суха павітаўся экзаменатар і пачаў прагаворваць нібы чытаючы тэкст з паперкі. – Згодна з пастановай ЦВК БССР ад 22 красавіка 1937 года абвяшчаецца пазачарговы месячнік беларусізацыі. У службовых установах краіны праводзіцца праверка ведаў беларускай мовы і праверка адпаведнасці служачага займаемай пасадзе. Вынікі дадзенай праверкі будуць накіраваныя ў Нацкам ЦВК, дзе будзе вырашана ступень адпаведнасці.

Цэвэковец урачыста пляснуў далонямі аб партфель, узяў са стала стос лісткоў і пайшоў па шэрагах раздаваць бланкі. Начміл Какоцкі першы ўзяў з рук цэвэкоўца аркуш і сеў за вольнае месца спераду ля дошкі.

– Просьба запаўняць анкету акуратным почыркам. Любая неразборліва напісаная літара будзе лічыцца за памылку.

Ларцаў агледзеў белы, разлінаваны з абодвух бакоў аркуш: на зваротным баку ў правым ніжнім куце дробным шрыфтам было набрана “Выдавецтва ЦВК БССР. Друкарня імя Францыска Скарыны. Наклад 100 000”. Нарэшце ўсе бланкі былі раздадзены, і цэвэковец пачаў апытанку.

– Перш-наперш, у верхнім левым куце напішыце свае прозвішча, імя і імя па бацьку.

“Ларцаў Сяргей Міхасеў”, – вывеў акуратным почыркам следчы.

– Год нараджэння.

“1895”.

– Нацыянальнасць.

“Беларус”.

– Затым пасаду, – працягваў экзаменатар.

“Следчы крымінальнага вышуку 1-га Гарадскога аддзялення міліцыі г. Менска”.

– Сацыяльнае паходжанне і партыйнасць.

“З сялян, беспартыйны”.

– Добра, бачу, усе запісаліся, пачнем апытанне. Перш-наперш, некалькі пытанняў пра наш дзяржаўны лад. Першае пытанне: хто згодна Канстытуцыі з’яўляецца найвышэйшай уладаю ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы?

– Усебеларускі З’езд Саветаў, паміж з’ездамі – Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, – коратка адказаў Ларцаў.

– Другое пытанне: назавіце імя старшыні ЦВК БССР.

“Чарвякоў Алесь”, – хутка напісаў следчы і, падумаўшы, дадаў: “Рыгораў”.

– Трэцяе пытанне: колькі акругаў мае Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка? Пералічыце іх.

“Шэсць. Менская, Мазырская, Магілёўская, Віцебская, Гомельская і Смаленская акругі”.

– Апошняе пытанне ў гэтым блоку: што абазначаюць прамяні сонца на дзяржаўным гербе?

Тут Ларцаў трохі задумаўся, але хутка ўзгадаў і прыняўся пісаць: “Прамяні сонца падзеленыя на сем аднолькавых пучкоў, што адзначае тое, што дзяржаўны герб быў зацверджаны ў сёмую гадавіну замацавання савецкае ўлады ў БССР пасля вызвалення яе ад польскіх акупантаў”. Пакуль пісаў, заўважыў, што Яворскі выкручвае зрэнкі, нібы хамелеон, спрабуючы зазірнуць у аркуш Ларцава, каб падглядзець адказ. Следчы хмыкнуў, пасунуўся ад калегі трохі далей і павярнуўся так, каб левая рука закрывала напісанае. Яворскі ледзь чутна расчаравана ўздыхнуў.

– Усе адказалі? – экзаменатар абвёў залу позіркам. – Добра. Тады пачнем галоўны блок. Вы ведаеце, што наша мова не стаіць на месцы і змяняецца гэтак жа імкліва, як мяняецца і нашае грамадства на шляху пабудовы камунізму? Нашыя сялянска-пралетарскія пісьменнікі, узвышэнцы і маладнякоўцы, пастаянна ўзбагачаюць мову наватворамі, выклiканымі ў жыццё арганічнай патрэбнасцю сацыялістычнага будаўніцтва. Вы, міліцыянеры, як перадавы атрад грамадства павінны быць на вастрыні грамадскіх пераўтварэнняў, у тым ліку і моўных. Таму ў наступным блоку пытанняў вам трэба даць азначэнне наступным словам, утвораным у апошнія гады беларускімі пісьменнікамі. Першае слова: “мэтазгодны”.

“Які адпавядае пастаўленай задачы, карысны, рацыянальны”, – выводзіў Ларцаў.

– Небасяг.

“Высотны будынак, як прыклад – Дом радыё ў Менску”.

– Цемрашал.

“Носьбіт рэакцыйнай, варожай сацыялістычнаму прагрэсу ідэалогіі”.

– Русацяп.

“Вялікарускі шавініст, рэакцыянер, які адмаўляе ленінскую нацпалітыку і беларусізацыю”.

– Цудоўна, з гэтым закончым. Цяпер невялікі дыктант. Я зачытаю ўрывак з сучаснага літаратурнага твора. Вашая задача – запісаць усё на слых без памылак.

Экзаменатар пачаў дыктаваць, і Ларцаў, пішучы ўслед, пачаў разумець, што ўжо недзе чуў гэты ўрывак. Праз некалькі сказаў следчы ўзгадаў – гэта быў абзац з новага рамана Кузьмы Чорнага “Вялікае выгнанне”, які толькі нядаўна быў выдадзены. Ларцаў прыгадаў, што змог набыць яго ў кнігарні толькі пасля таго, як, так сказаць, злоўжыў уладай – паказаў прадаўцу пасведчанне следчага. Тады кнігагандляр, азіраючыся, дастаў з-пад прылаўка запаветны том, прыхаваны, відаць, для кагосці са знаёмых, і працягнуў Ларцаву.

– Запісалі? Хвіліна на праверку – і здавайце бланкі, – экзаменатар зноў пляснуў далонямі па партфелі.

Ларцаў не стаў займацца пераправеркай, першы падняўся, аддаў аркуш цвэкоўцу і выйшаў з аўдыторыі. Начміл Какоцкі правёў следчага позіркам і ўсміхнуўся.

На калідоры Ларцаў дастаў цыгарэту, стаў ля адчыненага вакна і запаліў. Хутка з аўдыторыі пачалі выходзіць людзі і разыходзіцца па аддзяленні. Адным з апошніх выйшаў Яворскі:

– Ёсць запаліць? А то я свае ў кабінеце забыў, – звярнуўся да Ларцава калега.

– Трымай, – Ларцаў працягнуў цыгарку і з усмешкай запытаў: – Ну як? Усё праверыў?

– Эх ты, Ларцаў, не памог баявому таварышу, – адказаў Яворскі, запальваючы цыгарэту. – Мог бы падсабіць па старой памяці.

– Ты ж ведаеш, Яворскі, я за шчырасць і за прафесіяналізм, – сур'ёзна адказаў следчы. – На следстве таксама спісваць будзеш?

– Чорт з табой, Ларцаў, – Яворскі зацягнуўся і выпусціў дым у бок Ларцава, – а ты ведаеш, што ў чацвёртым адзяленні намесніка начальніка знялі пасля такога экзамена? Кажуць, тры памылкі было. Уяўляеш, Ларцаў, за тры памылкі ў дыктанце знялі! Мы тут не бандытаў павінны лавіць, а прыгожа пісулькі пісаць.

– Ну, скажаш, тры памылкі, – Ларцаў затушыў недапалак. – Брэшуць. Відаць, было за што здымаць, раз знялі.

З пакоя палітпадрыхтоўкі апошнімі выйшлі начміл і цэвэковец. Какоцкі пацiснуў руку экзаменатару, развітаўся і павярнуўся да следчых:

– Таварыш Ларцаў, ты сапраўдны ўдарнік, я пагляжу. Я бачыў твае вынікі папярэдніх праверак, – начміл працягнуў следчаму руку, – гэта робіць уражанне.

– Рады старацца, таварыш начміл! – прагаварыў Ларцаў і сунуў руку ў адкрытую далонь начміла.

– Ухвальна, ухвальна, – Какоцкі цiснуў руку з асаблівым фасонам – адрывіста і адной толькі кісцю сваёй мядзвежай лапы. Быццам гэта кісць ягоная недзе там цісне самастойна, а ён не ведае і не цікавіцца гэтым працэсам. Таму часта выходзіла, што ад яго поціску чалавек раптоўна прысядаў і крывіўся. Ларцаў толькі ўсміхнуўся, хаця і адчуваў, як рыпяць пад скурай косткі. Нарэшце начміл адпусціў руку і звярнуўся да калегі следчага: – Товарш Яворскі, прайдзі да мяне ў кабінет, трэба абгаварыць справы.

Калі Какоцкі павярнуўся, Ларцаў здзіўлена глянуў на Яворскага, маўляў, і даўно ты з начмілам на кароткайназе? Яворскі ў адказ толькі пацiснуў плячыма і рушыў услед за начальнікам. Ларцаў хмыкнуў і пайшоў да кабінета ў супрацьлеглы бок.

У кабінеце было надзвычай шумна, калегі вярнуліся з цэвэкоўскай праверкі і ўзяліся за надзённыя справы. Яшчэ больш шуму дадаваў нейкі высокі шчуплы хлюс, які завіхаўся каля машыністкі. Малады белагаловы з блакітнымі вачыма чалавек прысеў на рог стала і з імпэтам нешта распавядаў Мурачцы. Тая яму прыхільна ўсміхалася, ківала галавой, але пры гэтым не пераставала набіраць тэкст на машынцы.

– Хто гэта? – паўшэптам спытаў Ларцаў у калегі, які праходзіў міма на выхад з кабінета.

– З "Савецкай Беларусі" нейкі новы карэспандэнт. Па тыднёвую крымінальную зборку прыйшоў, – адказаў калега.

– А стары дзе? Што звычайна прыходзіў? Як там яго? Міхальцоў? Куды падзеўся? – не суніmaўся следчы.

– Кажа, што той захварэў. Усё, адчапіся, Ларцаў, мне ісці трэба.

– Добра, добра, – адпусціў калегу Ларцаў і рушыў да свайго працоўнага месца.

Шлях якраз палягаў побач з сталом машыністкі, малады чалавек сваімі даўгімі нагамі перагарадзіў адзіны праход.

– Дазволь прайсці, – суха прагаварыў Ларцаў.

– Калі ласка, – малады чалавек падняўся са стала і саступіў.

Ларцаў сеў у крэсла і прыняўся перабіраць паперы, што назапасіліся за час адсутнасці. Следчы хацеў было адразу ж заняцца справай, але не змог сябе перасіліць. Ён мімаволі працягваў падслухоўваць размову маладога карэспандэнта і машыністкі.

– Такой дзяўчыне, як вы, пэўна цяжка ў такім калектыве, шмат увагі замінае працы, – уліваў ёй у вушы белавалосы маладзён.

– Ну так, але не зусім, – Ларцаў злавіў позік Мурачкі і адвярнуўся, зрабіўшы выгляд, што нешта шукае ў стале.

– Ну, не скажыце, працавалі б вы ў нас у рэдакцыі, у вас бы часу не ставала слова набраць на машынцы, – малады чалавек пляснуў далонню па металічным корпусе нямецкай «Алімпіі». – Мабыць, я быў бы сярод першых, хто адцягваў бы вас ад вытворчых посьпехаў.

Ларцаў па натуры не любіў заляцанняў і саладжавых кампліментаў, выказаных на людзях. Такія тыпы, як гэты карэспандэнт, што шчыльна, як вуж, круціўся каля Мурачкі і мілосна нешта напяваў ёй, падаваліся следчаму надзіманымі няшчырымі прахвостамі. У такіх адно на мэце. Не тое, каб Ларцаў быў супраць такога, але яму падавалася больш правільным, калі словы пяшчоты гучаць толькі для аднаго чалавека, а не на ўвесь калектыў.

Тым часам журналіст на момант спыніў плынь слоўнага кісялю і ўзяў аддрукаваны аркуш крымінальнай зборкі.

– "Сёння ў Менску ў кватэры на вуліцы Першамайскай грамадзянін Курдзін скончыў жыццё самагубствам. Абставіны высвятляюцца", – зачытаў услых карэспандэнт. – Прабач, а гэта не ты ездзіў на высвятленне абставінаў? – раптам звярнуўся хлопец да Ларцава.

– Так. Я, – адказаў следчы.

– Я не павітаўся, мяне Уладзь завуць. Уладзіслаў Лясоўскі з газеты "Савецкая Беларусь", – малады чалавек працягнуў руку.

– Сяргей Ларцаў, – адказаў следчы.

– Скажы, Сяргей, а гэта часам не той Курдзін, каторы быў драматургам у Віцебску?

– Той, – коратка адказаў Ларцаў.

– Хм, цікава, нядаўна зборку з трэцяга аддзялення прыносілі – там таксама нейкі з былых засіліўся. Дарэчы, а абставіны? Што ты высветліў? Мне для запісу ў рубрыку "Здарэнні".

– Напішы, на сямейнай глебе. Прабач, я зараз заняты, – зманіў следчы і зрабіў выгляд, што нешта чытае з раздрукоўкі.

Карэспандэнт кіўнуў і паглыбіўся ў чытанне зборкі. У гэты час у кабінет увайшоў Яворскі і адразу зачапіўся вычыма за маладога чалавека:

– Сталы ў міліцыі зроблены не для сядзення, – роўным голасам заўважыў следчы.

– А калі ў вас і зэдляў няма, – пачаў апраўдвацца хлопец, але са стала саскочыў, – то што рабіць?

– Чорт з табой, – кінуў Яворскі і накіраваўся да свайго месца.

Ларцаў заўважыў, што ў калегі па-баявому гараць вочы, відаць, начміл выдаў мэтанакіраванне. Яворскі падышоў да свайго стала, уздыбіў па-

перы, знайшоў партсігар, дастаў цыгарэтку, запаліў і прыняўся хадзіць туды-сюды каля стала, выпускаючы дым. Гэта ў яго часта бывала перад важным заданнем. Ларцаў адарваў позірк ад калегі і вярнуўся да сваіх спраў. Толькі следчы паглыбіўся ў паперы, як да стала падбег Савіцкі, яшчэ адзін вышукавік з іх аддзела.

– Слухай, Ларцаў, прыходзь заўтра пасля працы да мяне – закацім пірушку. Будуць усе нашы.

– Серада ж, – следчы зірнуў у календар, – якія пірушкі сярод тыдня?

– Серада – гэта маленькая субота, – з напускной сур'ёзнасцю прамовіў Савіцкі.

– А повад які? – без імпэту запытаў Ларцаў.

– Усё табе повад трэба, Ларцаў, ды няхай будзе паспяховае заканчэнне праверкі.

– Дык вынік яшчэ невядомы. Хто сказаў, што паспяховае?

– Ай, кінь ты, Ларцаў, паспяховае, непаспяховае. Якая розніца? Карацей, прыходзь і сябра свайго бяры, Яворскага, бегае там, як муха ўкусіла, не падысці да яго.

За размовай Ларцаў не заўважыў, як малады карэспандэнт знік з кабінета, сышоў не развітаўшыся.

– Добра, Савіцкі, чакай гасцей, а цяпер ідзі, мне сённяшні выезд яшчэ афарміць трэба.

Савіцкі сышоў, а Ларцаў падумаў, гледзячы на зачыненыя дзверы кабінету, што той бялявы малады карэспандэнт невыпадкова трапіўся яму на шляху і што гэтая іх сустрэча не апошняя. Прычыны такой упэўненасці Ларцаў сабе растлумачыць не змог.

## Раздзел 2. Шпіён

Уладзіслаў Лясоўскі ў гэты дзень прачнуўся двойчы. Першы раз звычайна, так бы мовіць, фізіялагічна: расплюшчыў вочы, пацягнуўся, выключыў будзільнік, падняўся з ложка і гэтак далей. Другі раз ён прачнуўся ў пераносным сэнсе: Лясоўскі нечакана для сябе быў пераведзены з стану "спячага агента" ў стан актыўнага шпіёна. І адбылося гэта так.

Уладзь вяртаўся з інтэрнатаўскай купальні, перакінуўшы цераз плячо ручнік. У калідоры перад сваім пакоем Лясоўскі пабачыў хлопчыка, які, відаць, толькі што прыйшоў. З выгляду малы быў падобны на беспрытульнага: мурзаты, апрануты ў падраны кажушок і зімовую шапку, хаця на вуліцы па-летняму прыпякала вясна.

– Што трэба? – з ходу і неяк раздражнёна запытаў Лясоўскі.

– Прасілі перадаць: дзядзька Антон чакае на Цэнтральным рынку да поўдня, – сказаў хлопчык завучаную фразу.

– Як-як? Які дзядзька? – перапытаў Лісоўскі, выціраючы твар ручнікам.

– Дзядзька Антон, – пачаў пераказваць малец, але Уладзь ужо не слухаў. Ён раптам усё зразумеў.

Лясоўскі знакам паказаў беспрытульніку, каб той пачакаў. Зайшоў у пакой. Намацаў у кішэні плашча, які вісеў каля дзвярэй, дробязь. Выйшаў і сунуў у далонь хлопчыку дзесяць капеек. Беспрытульны не зварухнуўся з месца.

– Мала табе? – здагадаўся Лясоўскі. – Ну добра.

Уладзь дадаў яшчэ пятнаццаць капеек і падштурхнуў мальца да лесвіцы:

– Усё, свабодны.

Беспрытульны цыркнуў слінаю на падлогу, зыркнуў на Лясоўскага і пабег да выхаду.

– Зусім распеpазаліся малыя, – прабурчэў Уладзь.

Ён не стаў вяртацца ў пакой, і, як быў у споднім і з ручніком на плячах, пайшоў па калідоры да бліжэйшага вакна, што выходзіла ў двор. Трэба было падумаць. Тыя словы, што сказаў беспрытульнік, гэта быў пароль. Гэта быў код, шыфр, па якім спячы агент павінен зразумець, што надышоў час прачнуцца. У гэтым кодзе было зашыфравана шмат чаго. Напрыклад, Цэнтральны рынак абазначаў месца, дзе будуць схаваныя падрабязныя інструкцыі. І гэтым месцам, відавочна, быў не Цэнтральны рынак на Свярдлоўскай, а іншае месца – Даўгабродскія могілкі, якія яшчэ называлі Вайсковымі. Лясоўскі памятаў гэта добра, усе арыенціры трэба было завучыць на памяць перад закідам. "Да поўдня" азначала, што інструкцыі трэба забраць сёння да канца дня, інача́й яўка будзе праваленая. Але больш за ўсё Лясоўскага хваляваў "дзядзька Антон". Так у шыфроўцы абазначылі галоўнага куратара ўсёй польскай шпіёнскай сеткі ў БССР. Агент з пазыўным "Шульц". Уладзь не думаў, што ён, дробны шпіён, будзе адразу наўпрост працаваць з галоўным куратарам, але выйшла, што будзе.

У задуменні Лясоўскі глядзеў праз вакно на двор і не звяртаў увагі на тое, што ўсё болей і болей людзей праходзіць па двары на выхад з пасёлка. Рабочыя і служачыя спяшаліся на працу. З тлуму думак Лісоўскага вырвала дзяўчына ў чырвонай хустцы, завязанай па-гарадскому пад целяпень. Калі яна праходзіла пад вакном, хлопец мімаволі стаў праводзіць позіркам яе зграбную фігуру. Дзяўчына нібы адчула ўвагу, азірнулася, заўважыла Уладзя ў вакне і ўсміхнулася. Лясоўскі машынальна ўсміхнуўся ў адказ. У калідоры за спінай хлопца гучна зачыніліся дзверы, і малады вясёлы голас прамовіў:

– Лясоўскі, ты на працу ўвогуле збіраешся? – гэта быў сусед Уладзі па пакоі – Міхась Пятроўскі. Ён працаваў фатографам у трэсце Белсаюзфота. Іх кантора месцілася на Савецкай недалёка ад Уладзевай рэдакцыі, і яны з Міхасём часта перасякаліся па агульных справах.

– Халера, я ж спазняюся, – Уладзь ляпнуў па ілбе далонню. Міхась шырока ўсміхнуўся, махнуў на развітанне рукой і рушыў да лесвіцы.

Па дарозе ў пакой Лясоўскі прыгадаў імя дзяўчыны ў чырвонай хустцы – гэта была шэравокая Ганулька Матузова, работніца скурзавода. Хлопец пазнаёміўся з ёй на партыйнай завадской сходцы, калі рабіў рэпартаж з прадпрыемства. Знаёмства было плённае. Пакуль Уладзь прыхапкам нацягваў штаны і зашпільваў кашулю, з яго твару не сыходзіла юрлівая ўсмешка.

Калі Лясоўскі нарэшце дабраўся да развapотнага трамвайнага кальца на Лекерта, то пабачыў вялікі натоўп на прыпынку. Відаць, бліжэйшы трамвай па раскладзе не прыйшоў. І папярэдні таксама. У стракатым натоўпе закіпала абурэнне. Нейкі фацэт у модным бастонавым касцюме і фетравым капелюшы вымавіў:

– Што ж гэта робіцца! Таварышы, трэба пісаць скаргу ў гарсавет. Нельга, каб трамвай так спазняўся.

Рабочы ў зашмальцаванай кепцы і паношанай сарочцы, што стаяў побач з Лясоўскім, зірнуў на прамоўцу з непрыхаванай грэблівасцю, маўляў, знайшоўся тут буржуазны элемент, які будзе ўказваць пралетарыяту, што рабіць. Але не ўсе аказаліся салідарныя з непахісным у класавым пытан-

ні рабочым, шмат хто падтрымаў ініцыятыву грамадзяніна ў капелюшы кіўкамі ці воклічамі згоды.

– Дык скардзіліся ўжо, – адазвалася жанчына з натоўпу. – Камісія нейкая збіралася. Абавязаліся паменшыць колькасць спазненняў на пяцьдзясят працантаў да канца года, а хай на іх.

– Года? – выказаўся высокі рабочы з непрычасанымі кудлатымі валасамі. – Дык год жа толькі пачаўся, лічы.

Уладзь не стаў больш чакаць трамвай і рушыў пехам па Лекерта ў бок цэнтра. Да рэдакцыі было даволі далёка, але надвор’е стаяла такое, што грэх было не прайсціся. Вуліца ішла па фабрычнай часцы Ляхаўкі. Там-сям каля завадскіх брам віравалі купкі рабочых: хтосьці дапальваў цыгарэтку, хтосьці вёў гутарку са знаёмым, а хтосьці шукаў па кішэнях пропуск, каб паказаць міліцыянеру на ўваходзе. З рэжымам на вытворчасці было строга, не тое, што ў рэдакцыі. Лясоўскі прыкінуў, што з-за сваёй ранішняй затрымкі спозніцца на працу хвілінаў на пятнаццаць, але не стаў хвалявацца з гэтай нагоды.

Уладзь няспешна праходзіў пад чырвонацаглянымі сценамі цэхаў і назіраў, як са шматлікіх фабрычных комінаў пачынае струменіцца дым. Раён вуліцы Лекерта быў папулярны сярод рабочай моладзі не толькі таму, што тут было месца яе працы. На Ляхаўцы знаходзілася шмат даволі танных завадскіх сталовак, у якіх маглі харчавацца не толькі работнікі. А адна з іх – сталоўка скурзавода “Бальшавік” – нават працавала да гадзіны ночы і мела вялікі попыт сярод аматараў позніх вячэраў, у шэрагі каторых уваходзіў і Лясоўскі. Часцяком пасля доўгіх паседжанняў у рэдакцыі перад здачай чарговага нумара ў друк Уладзь разам з калегамі ішлі на Лекерта, прыхапіўшы з сабой пару бутэлечак піва. Сядзелі заўжды да закрыцця і разыходзіліся хто як, балазе, Лясоўскаму да яго інтэрната на вуліцы Стандартнай было недалёка.

Фабрычны квартал сканчваўся перад Свіслаччу. Шырокі бетонны мост з трамвайнымі рэйкамі пасярэдзіне выводзіў хлопца ў цэнтральныя гарадскія кварталы. Тут, на скрыжаванні Лекерта і Гарбарнай, Лясоўскі пабачыў прычыну спазнення трамвая: чырвоны вагон урэзаўся ў фордаўскую палутарку. Грузавік, відаць, спяшаўся на фабрыку і не саступіў дарогу трамваю. Ля месца аварыі сабраўся вялікі натоўп разявак, над якім мільгацелі высокія белыя шаломы паставых. Уладзь не доўга думаючы скіраваўся да трамвая – можна было сабраць матэрыял на зацемку ў рубрыку “Здарэнні” ў заўтрашні нумар. Дый прычына спазнення добра вымалёўвалася, калі што. Хлопец на хаду паляпаў сябе па кішэнях – у плашчы быў напалову спісаны блакнот. Уладзь дастаў з кішэні агрызак алоўка і пачаў прабівацца праз шэраг разявакаў да паставога.

– Дзень добры. Падкажыце, калі ласка, у які час адбылася аварыя?

Адарваны ад справы міліцыянер зло зыркнуў на Лясоўскага. Уладзь на імгненне заўважыў у вачах паставога іскарку страху, калі той некалькі секунд ацэньваюча аглядаў хлопца, каб вызначыць, хто перад ім: просты мінак ці правяраючы з органаў.

– Ах, я забыў назваць сябе. Я карэспандэнт газеты “Савецкая Беларусь”. Уладзіслаў, – Лясоўскі працягнуў руку.

– Участковы Карпук, – адказаў міліцыянер. – Недзе дваццаць хвілінаў таму яны ляснуліся, – паставы выняў з кішэні гадзіннік і зірнуў на цыферблат: – Прыкладна ў 7.38 гэта было. Я сам бачыў.

– Дзякую, – Лясоўскі зрабіў пазнаку ў блакноце. – Пацярпелыя ёсць?

– Так, кіроўца грузавіка паранены і некалькі пасажыраў пабіліся. Адзін грамадзянін моцна прылажыўся галавой пры тармажэнні, адвялі яго ў першую бальніцу, – міліцыянер махнуў рукой за спіну, туды, дзе ўзвышаліся бальнічныя карпусы.

– А вагонаважатая? – Уладзь зірнуў на пустую кабіну трамвая.

– З ёй усё добра. Затрымана і дае паказанні, – паставога паклікаў калега і той, папрасіўшы прабачэння, адышоў да разбітага грузавіка.

Уладзь застаўся адзін, накрэсліў некалькі словаў на паперы, пасля адгарнуў чысты аркушык і пачаў замалёўваць месца здарэння. Фотаапаратаў на ўсіх у рэдакцыі не хапала, і ўменне маляваць было добрай дапамогай у працы карэспандэнта. І шпіёна. Лясоўскі ўзгадаў пра ранішні візіт беспрытульніка, і халадок прабегся па ягонай спіне.

Скончыўшы з сілуэтамі разбітай тэхнікі, Уладзь склаў рэчы па кішэнях і пайшоў. Міліцыянеры тым часам пачалі з дапамогай рабочых ссоўваць пабіты грузавік з трамвайных пуцей. Лясоўскі абышоў машыну, азірнуўся па баках і перабег рэшту вуліцы на бок бальніцы. Затым хлопец вярнуўся на Лекерта і, мінуючы новую ляхаўскую школу, выйшаў на вуліцу Чарнушэвіча.

Лясоўскі памятаў часы, калі гэтая вуліца мела назву Універсітэцкай, але ў трыццаць чацвёртым, пасля таго, як у калідоры Дома ўрада застрэлілі першага сакратара менскага гаркама партыі Чарнушэвіча, вуліцу было вырашана назваць у яго гонар. Уладзя сам пісаў зацемку пра гэта ў "Савецкую Беларусь". Яму ўзгадаліся тыя радкі:

"1 сьнежня, у 16 гадзін 30 хвілін, у горадзе Менску, у будынку Дома ўрада, ад рукі забойцы, які быў пасланы ворагамі працоўнай клясы, загінуў Сакратар Менскага камітэта КП(б)Б і члец Прэзыдыюму ЦВК БССР таварыш Алесь Чарнушэвіч. 21 сьнежня па хадатайніцтве менскіх арганізацый Прэзыдыюм Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР прыняў рашэньне аб наданьні былой вуліцы Ӯнівэрсытэцкай імя тав. Чарнушэвіча. На жалобным сходзе Старшыня ЦВК тав. Чарвякоў казаў: – Схіляючы галовы перад нябожчыкам тав. Чарнушэвічам, мы заяўляем, што рабочую клясу, яе авангард – камуністычную партыю і ўсю беларускую савецкую грамадзкасьць не застрашаць стрэлы ў асобных барацьбітоў за лепшую будучыню. На месцы аднаго забітага камуніста пролетарыят дасьць тысячы новых змагароў!"

За Домам энергетыкаў хлопец павярнуў на Камсамольскую і праз два кварталы выйшаў на Савецкую, дзе непадалёк, у шэсцьдзесят трэцім доме, размяшчалася рэдакцыя. У будынку, як заўжды, віравала жыццё: апроч самой "Савецкай Беларусі", органа ЦВК і СНК БССР, тут размяшчаліся рэдакцыі партыйнай "Зоркі", польскамоўнай газеты "Млот", "Раўдонасіс артаяс", што выдавалася па-літоўску, і ілюстраванага часопіса "Чырвоная Беларусь", у якім Лясоўскі таксама значыўся аўтарам.

Уладзь падняўся на трэці паверх і пачаў пасоўвацца па калідоры паміж стэлажамі і стосамі папер у бок кабінета – у будынку яшчэ з восені ішоў рамонт, які то набіраў абароты, то зусім спыняўся, як цяпер. У самым вузкім месцы калідора Лясоўскаму прыйшлося разысціся з калегам, з-за гэтага хлопец плячом зачапіў сценгазету, падрыхтаваную да дня друку. Выпуклыя слупкі графікаў падвышэння тыражоў беларускіх газет за пяцігодку трохі пакамечыліся. Уладзіслаў як змог паправіў яе і хутка знік за дзвярыма

кабінета, пакуль ніхто не заўважыў гэтага. У пакоі было пуста, толькі за далёкім сталом кімарыў на крэсле стары карэктар – Якаў Шафіраў.

– Яшка, дзе ўсе? – па-панібрацку кінуў Лясоўскі.

– На планёрцы, вядома, – адказаў карэктар, не расплюшчваючы вачэй.

Уладзь паклаў плашч на крэсла, дастаў з кішэні блакнот і выйшаў з памяшкання. У кабінеце галоўнага рэдактара панаваў гармідар. Гуд шматлікіх галасоў перабіваўся стукатам пішучай машынкі. Пад столлю сабраліся воблакі цыгарэтнага дыму. Уладзя ціхенька прычыніў за сабой дзверы і стаў за спінамі калег. Хлопец спадзяваўся, што яго спазненне будзе незаўважаным, але раздаўся зычны вокліч галоўнага:

– Ааа, Лясоўскі, – з'явіўся! Толькі цябе і чакалі, – кабінет напоўніўся дружным рогатам.

– Аварыя з трамваем. Затрымаўся, каб сабраць матэрыял. Ёсць пацярпелыя, – Уладзь выйшаў наперад і працягнуў сваю замалёўку.

– Пацярпелыя – гэта добра, – задуменна прагаварыў рэдактар: – Пойдзе ў заўтрашні нумар. Малюнак аддасі гравёру. Та-ак, Сукала, што там у нас з пасяўной? – увага галоўнага імгненна пераключылася з Лясоўскага на іншага карэспандэнта.

Уладзь выдыхнуў і адступіў ад стала на крок. Жывая працоўная атмасфера рэдактарскага кабінета ахутала яго і супакоіла, настроіла на рабочыя думкі. Ён стаяў і глядзеў на твар галоўнага рэдактара. Міхась Кудзелька, больш вядомы як пралетарскі паэт Міхась Чарот. У маладосці быў вельмі прыгожым хлопцам з амаль жаночымі тонкімі рысамі твару і доўгімі валасамі. Лясоўскі ўзгадаў фотаздымак паэта, змешчаны ў адным са шматлікіх зборнікаў вершаў, якія выходзілі гадоў дзесяць таму. Цяпер перад Уладзем сядзеў па-вайсковаму каротка стрыжаны сталы мужчына з азызлым тварам. Усе ў рэдакцыі ведалі, што галоўны злоўжывае алкаголем. У правай руцэ Чарот трымаў запаленую цыгарэту, а левай актыўна размахваў, стараючыся нешта патлумачыць нядбайнаму карэспандэнту. За паказной энергічнасцю, за гучным камандным голасам галоўнага, як ведаў Лясоўскі, хавалася пячатка вялікай стомленнасці. Той сапраўдны надломлены і абыякавы да жыцця Кудзелька рэдка з'яўляўся на людзях, але за гады працы ў рэдакцыі нават Лясоўскі бачыў яго некалькі разоў. Усе ведалі, што новых вершаў Міхась Чарот не пісаў ужо шмат гадоў, а нядаўні свой збор выбраных твораў, падрыхтаваны ў Акадэміі навук, як кажуць, падмахнуў нягледзячы. Яму было абыякава, што літаратуразнаўцы з яго твораў вылучылі ў выбранае.

– На сёння ўсё! За працу, таварышы, – загад галоўнага вярнуў Лясоўскага да рэчаіснасці.

Людзі пачалі рухацца да выхаду. Адныя на хаду абмяркоўвалі рэдакцыйныя заданні, іншыя моўчкі тушылі недапалкі ў попельніцы і станавіліся ў чаргу ля дзвярэй. Калі Уладзя далучыўся да натоўпу ля выхаду, раптам пачуў з-за спіны:

– Лясоўскі, застанься на хвіліначку.

Уладзь павярнуўся і падышоў да стала.

– Ты сядзь, не мітусіся, – Чарот перайшоў на звычайны свой размоўны тэмбр голасу. Той гучны і загадны тон ён выкарыстоўваў толькі на планёрках, ці тады, калі адчытваў падначаленых за памылкі. – Тут такая справа. Памятаеш тую зацемку, што ты на днях даваў на выпуск? Там пра будынак на Бязбожным завулку, які разбурыўся з-за інжынернай памылкі.

– Так, а што з ёй?

– З тэкстам ўсё добра, але ёсць адна справа. Трэба адну драбязу паправіць. – Чарот зацягнуўся цыгарэтай. – Як, кажаш, таго адказнага за будоўлю інжынера завуць?

– Кавальскі, здаецца.

– Слухай, – голас галоўнага зышоў ужо ў зусім інтымны тэмбр, такі якім пралетарскія паэты ахмураюць камсамолак: – Тут зверху раней часу спусцілі дырэктыву на пачатак антыпольскай кампаніі. Сам ведаеш, раней за месяц да дня вызвалення ўсё пачыналася, а цяпер ажно ў красавіку. – Чарот дастаў з пазалочанага партабаку яшчэ адну цыгарэтку, прыкурыў ад бензінавай запальнічкі, удыхнуў дым і працягнуў: – Ты зрабі акцэнт у той зацемцы, што інжынер шкоднік і да таго ж паляк, а я табе гэтую зацемку па максімальным тарыфе правяду, – галоўны зрабіў доўгую зацяжку. – Толькі не трэба ў лоб пiліць, што польскі шпіён, проста акуратна намякнуць. Пакуль рана, ты ж разумееш, Лясоўскі. Напішы, што ён вучыўся на інжынера ў Варшаве. Што не парваў сувязі з панамі. Што не прыняў савецкае ўлады. Неяк так.

– Дык я ж не ведаю, ці вучыўся ён у Варшаве, – сказаў Лясоўскі, гартаючы свой блакнот у пошуках пазнак да матэрыялу. – Калі Кавальскі там не вучыўся, гэта ж будзе падман.

– А гэта не важна. Ніхто пераправяраць не будзе. Мы – галоўная газета краіны, мы не можам хлусіць, – у голасе галоўнага прарэзаўся метал. – Ты зразумеў?

– Так.

– Добра, ну і рыхтуйся, хутка твая рубрыка “У панскай Польшчы” расквітнее буйным цветам. Здыму цябе з культуры.

– Добра, – Уладзь кіўнуў і пачаў падымацца з-за стала.

– Усё, Лясоўскі, свабодны. Ідзі рабіць.

– Пачакай, – дагнаў Уладзю ў дзвярах вокліч галоўнага, – што там у цябе на вечар? Сход на дваццаць год творчай дзейнасці Галубка?

– Так, запрашальнік мне выпісалі.

– Раз такое, можаш сёння раней сысці. Толькі яшчэ адна справа. Заскоч у міліцыю, у першае адзяленне па крымінальную зборку. Міхальцоў прыхварэў, а нам заўтра яна спатрэбіцца.

– Добра, – Лясоўскі нарэшце выйшаў з кабінета.

Просьба галоўнага адрэдагаваць зацемку збянтэжыла Лясоўскага, асабліва згадка пра польскага шпіёна. Хлопца прабраў халодны пот на гэтых словах Чарота. Уладзь падумаў, ці не звязана ягоная ранішняя інструкцыя з гэтым цяперашнім рэдактарскім загадам. Сапраўды, антыпольскія кампаніі ў прэсе звычайна праводзіліся напярэдадні адзінаццатага ліпеня – дня вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Лясоўскі ў рэдакцыі лічыўся экспертам па пытаннях пілсудчыны і крывавай польскай палітыкі на землях Заходняй Беларусі. Чатыры гады таму ён сам жыў у Маладэчне ў Віленскім ваяводстве, быў чальцом камсамола пры КПЗБ і агітаваў рабочых на барацьбу з панамі. У БССР збег у ліпені трыццаць трэцяга года. Пасля месяца фільтрацыі і ўзгадненняў Лясоўскі быў прызначаны на адказную пасаду карэспандэнта ў цэнтральную савецкую газету краіны. Пра тое, што падчас перабежкі ён ужо быў завербаваны дэфензівай, ніхто не даведаўся.

Уладзь чатыры гады быў актыўным камсамольцам і ўжо кіраваў ячэйкай на чыгуначнай станцыі ў Маладэчне, калі з вёскі прыйшлі звесткі пра хваробу сястры. У павятовай бальніцы сказалі, што нічым дапамагчы не могуць і трэба везці дзяўчыну ў цэнтральны шпіталь у Варшаву. Але на такое падарожжа ў сям'і Лясоўскіх сродкаў не было. Бацька загінуў на імперыялістычнай вайне. Старую маці і сястру Марыю Уладзь утрымліваў самастойна з сваіх невялікіх заробкаў на чыгунцы.

У наступны раз, калі Лясоўскі прыйшоў да доктара прасіць за сястру, у бальнічным кабінеце сядзеў яшчэ адзін чалавек. Не стары паляк гадоў трыццаці з акуратнымі вусікамі на выцягнутым твары. Апрануты ён быў у цывільнае, але строгая пастава і шырока распраўленыя плечы выдавалі ў ім вайскоўца.

– Уладыслаў Лясоўскі, мяркую, – невядомы падняўся са свайго месца.

– Так, – адказаў хлопец падазрона. Ён паглядзеў запытальна на доктара, але той толькі павёў плячыма, маўляў, сам не ведаю, хто гэта.

– Я чуў, што ў вашай сям'і ёсць праблема, – сказаў незнаёмец. – Я магу вам дапамагчы.

Вярбоўка прайшла хутка. Лясоўскі сам не чакаў, што так адразу пагодзіцца на супрацу з дэфензівай, але калі размова ішла пра жыццё роднага чалавека, класавыя інтарэсы адышлі на другі план. Два месяцы пасля ад'езду сястры і маці ў Варшаву Уладзь праходзіў паглыблены інструктаж. Капітан Чэслаў Купрэйчык, а менавіта ён завербаваў Лясоўскага ў павятовай бальніцы, рыхтаваў хлопца да закіду ў БССР. Пры гэтым сваёй працы на станцыі і камсамольскай дзейнасці Уладзь не спыняў. Наадварот, хлопец дабіўся поспеху з падказкі капітана па лініі пралетарскай барацьбы. Хутка за арганізацыю стачкі ў паравозным дэпо Лясоўскі патрапіў у турму. Пасля выхаду з камеры Уладзь пачаў прасіць у партыйнага кіраўніцтва пераводу ў БССР. Просьба была задаволена.

Апошні ліст ад маці Уладзь атрымаў у чэрвені 1933 года, напярэдадні пераходу праз мяжу. Яна пісала, што Марыя хутка ідзе на папраўку, што жывуць яны добра, дэфензіва зняла ім пакой у цэнтры сталіцы і забяспечвае ўсім неабходным. Капітан Купрэйчык абяцаў, што пасля закіду дапамога сям'і толькі павысіцца, а сястра хутка зможа паступіць у Варшаўскі ўніверсітэт на любую спецыяльнасць, якая ёй прыйдзецца даспадобы. За чатыры гады ў Беларусі Лясоўскі не атрымаў ад сям'і ніякіх звестак, як казаў Купрэйчык, кантакты з Польшчай, няхай і цывільныя, для агента былі катэгарычна непажаданыя. Уладзь мог толькі спадзявацца, што з роднымі ўсё добра.

Спярша абавязкі шпіёна былі не вялікія. Палякі ведалі, што да новага чалавека ў Менску будуць доўга прыглядацца адпаведныя органы, таму першыя паўгода Лясоўскі шпіёнскай дзейнасці не вёў. Потым ад яго патрабавалася рабіць агляд прэсы на прадмет антыпольскіх настрояў. Сабраны матэрыял ён раз у месяц пакідаў у азначаным месцы, адкуль шыфроўку забіраў адказны агент і перанакіроўваў у Варшаву. Лясоўскаму часцяком прыходзілася ўключаць у аналітычную падборку і ўласныя артыкулы з "Савецкай Беларусі" пра цяжкае жыццё ў Заходняй Беларусі. Уладзь бачыў у гэтым пэўную іронію лёсу. Але так было да таго моманту, пакуль не пачалася актыўная фаза. Ад сёння Лясоўскі павінен будзе шпіёніць па-сапраўднаму.

У задуменні Уладзь зайшоў у кабінет. Тут было амаль гэтак жа шумна,

як на планёрцы. Калегі гучна перагаворваліся і абмяркоўвалі надзённае. Лясоўскі сеў за стол і аўтаматычна ўставіў чысты аркуш у машынку. Хутка набраў зацемку пра аварыю, далучыў сваю замалёўку і перадаў рэдактару аддзела здарэнняў. Потым зайшоў да вярстальшчыкаў і забраў свой артыкул пра разбураны дом. На аркушы стаяла віза галоўнага "Да друку", але хлопцы адклалі зацемку ўбок, відаць, Чарот іх папярэдзіў.

Уладзь перачытаў надрукаванае:

**Абвальваньне дома на Бязбожным завулку**

*Усю зіму прастаяў незавершаны жылы дом на Бязбожным завулку ў Менску. З пачаткам новага будаўнічага сэзону на пляцоўцы зьявіліся будаўнікі – распачаліся працы па ўнутранай аддзелцы памяшканьняў. Сем'і рабочых, для якіх прызначаліся кватэры ў новым доме, літаральна сядзелі на валізах у чаканьні ключэй ад новага жытла. Але ў ноч на 20 красавіка – дом абваліўся. Новыя кватэры ператварыліся ў кучы друзу. Як высьветліла камісія Менгарсавета, чыньнікам абрушэньня стала поўная ненадзейнасьць грунтоў, на якіх была ўзьведзена пабудова. У час вясновай адлігі і паводкі пад домам утварыўся вялікі плывун, які зрушыў канструкцыі падмурка, што прывяло да поўнага абвальваньня ўсяго дома. Інжынэр Белдзяржпраекта Кавальскі і брыгадзір Вятрук, якія працуюць на будоўлі, сьцьвярджаюць, што геалягічны вышук, праведзены перад пачаткам будоўлі, ня выявіў недахопаў грунту. Камісія Менгарсавету праводзіць расьсьледваньне ўсіх абставін здарэньня.*

Лясоўскі некалькі разоў прабег вачыма па тэксце перад тым, як узяцца за дапаўненне. Уставіў у машынку стары аркуш. Дакруціў ручку да патрэбнага месца і з дапамогай клавішы "злучок" закрэсліў апошні сказ. Затым перавёў машынку на новы радок і дадрукаваў:

*Пакуль камісія Менгарсавету праводзіць расьсьледваньне ўсіх абставін здарэньня, "Савецкая Беларусь" ставіць пытаньне, ці не зьяўляецца дадзенае абвальваньне праявай шкодніцтва з боку стаўленікаў ворага? Хто такі інжынэр Кавальскі? Факты паказваюць, што інжынэр Кавальскі да ўсталяваньня Савецкае ўлады праходзіў навучаньне ў Варшаўскім унівэрсытэце. Ці не захаваў інжынэр Кавальскі старых сувязяў з панамі, ці не вядзе супрацу з былымі калегамі па вучобе, якія атабарыліся ў дэфензіве? Гэта пытаньне. Пакуль што ад абвальваньня дома на Бязбожным завулку не пацярпеў ніводны рабочы, але хто можа паручыцца за тое, што і надалей дзейнасьць такіх інжынэраў кавальскіх не прывядзе да людзкіх ахвяр?*

Уладзь выцягнуў аркуш з машынкі і яшчэ раз перачытаў. Атрымалася грубавата, але загад галоўнага быў выкананы. Лясоўскі з выпраўленым артыкулам накіраваўся да выпускаючага рэдактара. У кабінеце было накурана, таўклося некалькі карэспандэнтаў з сваімі паперамі. Хлопец прасунуўся паміж спінамі калег і паклаў аркуш рэдактару на стол.

– Для галоўнага.

Рэдактар выпусціў дым, зірнуў на артыкул і кіўнуў. Лясоўскі накіраваўся да выхаду і мімаходзь зірнуў на гадзіннік, што вісеў на сцяне. Было без пятнаццаці дванаццаць. Уладзь згадаў словы Чарота пра "пайсці з работы раней" і падумаў: "А чаму б і не цяпер?" У Лясоўскага было багата незавершаных спраў, некалькі артыкулаў чакалі дапрацоўкі, некалькі

тэкстаў яшчэ трэба было напісаць з нуля. На імгненне Уладзем апанавала вострае пачуццё адказнасці, але імпэт да працы хутка спаў. “Паспею яшчэ напісаць”, – пастанавіў Уладзь і зайшоў у кабінет па плашч.

Першым чынам Лясоўскі вырашыў падсілкавацца. Засунуў руку ў кішэнь штаноў, намацаў жменю манет і некалькі скамечаных купюр – можна схадзіць у сталоўку. Лясоўскі выйшаў з рэдакцыі на Савецкую вуліцу і адразу заўважыў, як міма ў бок Дома ўрада праязджае трамвай, запавольваючы ход перад скрыжаваннем. Хлопец не доўга думаючы выбег на дарогу, дагнаў трамвай і заскочыў на падножку. Услед маладзёну прагучалі сігналы незадаволеных кіроўцаў.

На трамвайнай прыступцы ўдалося адваяваць месца толькі для адной нагі, другая звісала над новым асфальтам дарогі. Учапіўшыся ў поручань, Уладзь з усмешкай пазіраў на навакольныя краявіды: новыя і старыя дамы Савецкай, крамы, канторы, кватэры, высокі гмах новага корпуса НКУС – усё павольна, нібы ў кінахроніцы, пасоўвалася перад вачыма пасажыраў. Каля выцягнутага ўздоўж вуліцы вялікага будынка Белкаапсаюза трамвай спыніўся. У гэтым доме, як ведаў Лясоўскі з публікацый у “Савецкай Беларусі”, буржуазны ўрад у часы кайзераўскай акупацыі абвясціў гэтак званую незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Але пасля перамогі рабоча-сялянскай улады многія дзеячы гэтага ўраду ўсвядомілі сваю памылку і перайшлі на бок рэвалюцыі і сацыялізму. Некаторыя з іх цяпер займаюць пачэсныя пасады ва ўрадзе БССР і ў Беларускай Акадэміі Навук. У рэдакцыю нядаўна прыходзіў ліст ад чытача з прапановай усталяваць на будынку Белкаапсаюза памятную дошку ў гонар Смоліча, Бадуновай, Серады і іншых, хто свядома перайшоў на бок Савецкай Беларусі. На што Чарот на планёрцы сказаў, што пакуль рана разглядаць такія пытанні, і прапанаваў даць у газету адказ з тлумачэннямі. Здаецца, той артыкул зарэзала потым цэнзура.

У трамваі паменела пасажыраў, і Лясоўскаму ўдалося лепш замацавацца на падножцы. Зрэшты, ехаць засталося не доўга, і ўжо на наступным прыпынку каля Першага дома Саветаў Уладзь саскочыў на дарогу. Паміж жылым домам для партыйнай вярхушкі і павільёнам Белдзяржкіно, які размясціўся ў былым каталіцкім касцёле, пачыналася вуліца Берсана. Па ёй Уладзь накіраваўся да фабрыкі-кухні.

Красавіцкі сонечны дзень пераліваўся колерамі веснавой прыроды. Пахла чаромха, якая нахілілася цераз плот драўлянай хаты, што стаяла насупраць былога касцёла. На вуліцы за спінай звінелі трамваі. Гучнагалосыя і манатонныя радыёрэпрадуктары гублялі ў гарадскім шуме хрыпатыя словы. За чырвонымі вежамі ўзвышаўся, нібы гара, беласнежны гмах Дома урада. Лясоўскага заўжды дзівіла гэта суседства старой, амаль вясковай забудовы і сучасных высокіх і чыстых дамоў у Менску. Калі Уладзь першы раз трапіў у сталіцу, то вельмі здзівіўся, пабачыўшы за велічным Домам урада, які насамрэч стаў сімвалам дасягненняў краіны, некалькі кварталаў драўляных халуп. Зрэшты, цяпер тыя халупы адселены. Лясоўскі з газеты ведаў, што хутка тут пачнуцца працы па добраўпарадкаванні тэрыторыі, і за Домам урада з’явіцца новы гарадскі сад. Але такіх месц у Менску, дзе старое хаваецца ў ценю новага, заставалася яшчэ вельмі шмат. Вось і тут за Першым домам саветаў над дахамі старой забудовы паўставаў сучасны сілуэт фабрыкі-кухні – шкло і бетон сярод драўляных сцен і крытых бляхай і чарапіцай дахаў.

Уладзь накіраваўся да ўвахода ў сталоўку. Ля шкляных дзвярэй ФК было тлумна: служачыя з навакольных дзяржустаноў, а таксама студэнты БДУ – універсітэцкі гарадок знаходзіўся тут побач – сабраліся на абед. Лясоўскі пачаў шкадаваць, што абраў гэтае месца – чаканне ў чарзе магло заняць даволі шмат часу. Але калі хлопец забег на другі паверх, туды, дзе знаходзілася службовая сталоўка Дома ўраду, то пабачыў амаль пустое памяшканне. Пасведчанне карэспандэнта ўрадавай газеты, якой была “Савецкая Беларусь”, дазваляла харчавацца тут. Студэнтам на другі паверх дарогі не было – каля лесвіцы стаяў суровы правяраючы, які праглядаў дакументы наведвальнікаў. Дый і не пайшлі б студэнты ў гэтую сталоўку, бо кошты тут былі значна вышэйшыя, чым у рабочых ці студэнцкіх. Лясоўскі і сам не часта хадзіў ва ўрадавую сталоўку, як і яго калегі журналісты. Але час ад часу можна было і шыкануць. Хлопец заказаў боршч, свініну па-французску з пюрэ і бутэльку цёмнага піва. Пасля аплаты сеў за бліжэйшы столік ля вакна і пачаў чакаць. Абслугоўванне ў сталоўцы вялося праз афіцыянтаў, як у сапраўдным рэстаране.

Праз некалькі хвілінаў прынеслі першае. Высокі малады разносчык з непрыхаванай грэблівасцю агледзеў Лясоўскага з ног да галавы і, хмыкнуўшы, выставіў з падноса на стол талерку з супам. Відаць, чакаў пабачыць мажнага ўрадоўца, а не маладзёна ў басяцкім, па яго мерках, строі, ад якога не дачакаешся чаявых. Уладзь з выклікам зыркнуў на афіцыянта, маўляў, ты сам хто такі. Той у адказ дэманстратыўна павярнуўся і хутка пайшоў на кухню... Ці для такога стаўлення рабочыя і сяляне пабудавалі гэтую краіну? У жорсткіх умовах польскага рэжыму ў Заходняй Беларусі Лясоўскі таемна ўступіў у камсамол, бо верыў у лепшае жыццё для беднаты, з якой выйшаў сам. Але калі перабраўся ў Савецкую Беларусь, на ўласныя вочы пабачыў, што тое, што тут робіцца, вельмі далёкае ад тых ідэалаў, за якія ён гатовы быў змагацца. Гэта таксама была адна з прычынаў, чаму Уладзь за гады не спыніў сваю супрацу з польскай выведкай.

Гарачае прынесла паварыха з кухні, відаць, афіцыянт палічыў далейшую працу з Лясоўскім непрымальнай для свайго статусу. Уладзь падзякаваў дзяўчыне, хуценька з’еў прынесенае. Пакуль піў піва, дастаў блакнот і зрабіў пазнаку пра тое, што варта напісаць у газету зацемку пра сталоўскае абслугоўванне. Адвітаўшыся, Лясоўскі выйшаў з фабрыкі-кухні. Сонечная цеплыня, спевы птушак, – разморагы абедам Уладзя ўжо хацеў ісці дамоў, каб драмануць да вечара, але прыгадаў просьбу галоўнага зайсці ў першае аддзяленне міліцыі. Уздыхнуўшы, пайшоў у бок Нізкага рынку.

Са зборкай Уладзь справіўся надзіва хутка, нават нягледзячы на тое, што ў аддзяленні большасць супрацоўнікаў была занятая цэвэкоўскай праверкай. Ён мог затрымаўся толькі каля маладзенькай машыністкі. Лясоўскі рэдка наведваў міліцэйскія ўстановы – крымінальнай хронікай у рэдакцыі займаліся іншыя людзі, – таму быў здзіўлены, што ў такім суровым калектыве ёсць месца крохкай прыгажосці. Машыністку звалі Мурачка, яна рабіла для Уладзі копію крымінальнай зборкі, пакуль той расплываўся ў кампліментах. Чорныя задзірыстыя вочкі, прыгожая фігурка і дробненькія завіточкі чорных валасоў. Лясоўскі пастанавіў сабе: зрабіць крокі да ажыццяўлення самай шчыльнай сувязі з ёю. Зрэшты, тут магла быць праблема: калі ў кабінет з экзамена вярнуўся адзін са следчых, здаецца, нейкі Ларцаў, Уладзь заўважыў, што ўся ўвага дзяўчыны ўмомант

пераключылася з хлопца на гэтага мужчыну. Лясоўскаму давялося бліжэй азнаёміцца з канкурэнтам. Ларцаў быў значна старэйшы за Лясоўскага, гадоў сарака, але пры гэтым меў дагледжаны малайцаваты выгляд. Зірнуўшы на яго, адразу можна было канстатаваць, што гэты індывід мае значныя дасягненні ў галіне сістэматычнага палявання на жаночыя сэрцы.

Вярнуўшыся дадому, Лясоўскі, як і планаваў, зладзіў пасляабедзенны сон. Прачнуўся, калі было яшчэ светла, і пачаў рыхтавацца да вечаровай выправы ў Белдзяржтэатр. За апошні год, які Уладзь працаваў у аддзеле культуры, ён часта наведваў падобныя мерапрыемствы: з'езды літаб'яднанняў, творчыя вечары, прэм'еры спектакляў. Калі ў першыя разы яму было насамрэч цікава пабачыць усіх тых, пра каго ён раней чытаў у газетах ці кнігах, то паступова такое культурнае жыццё Лясоўскаму прыелася. Што там можа быць цікавага: дзяжурныя словы, штучныя ўсмешкі, закулісныя спрэчкі? Гэтым разам адзначалася дваццаць год творчай дзейнасці народнага артыста БССР Уладзіслава Галубка. Лясоўскі збіраўся адбыць уступную частку, каб было што напісаць у газету, а потым сысці пасядзець у начную сталоўку на Лекерта.

"Якая яшчэ сталоўка, ідыёт? Трэба ж забраць інструкцыі ад Шульца!" – Лясоўскага нібыта аблілі ледзяной вадой, ён успомніў пра ранішні візіт і шыфроўку. Усё-ткі за гады газетнае працы Уладзь, можна сказаць, страціў пільнасць. Але закідвалі ў Менск яго не толькі для пісулек. Трэба рыхтавацца да сур'ёзнага задання.

Пакуль Уладзь, паглыблены ў змрочныя думкі, начышчаў ваксай абутак, вярнуўся сусед Міхась.

– Зноў па дзеўках пойдзеш? – кінуў ад дзвярэй Пятроўскі.

– Не, Уладзь, – па працы, на вечар ў БДТ.

– Ну, ты і там знойдзеш, чым зажывіцца, – Пятроўскі падзяляў Уладзеву зацікаўленасць супрацьлеглым полам і па-хлапечы зайздросціў поспехам сябра.

– Сумняюся, – Уладзь адставіў пачышчаныя чаравікі. – Нагледзеўся я на гэтых акторак. Ніякай аддачы.

Міхась усміхнуўся, узгадаўшы гісторыю адной Уладзевай прыгоды на дзявочым фронце, якая скончылася для Лясоўскага буйной паразай. Уладзь тады так і рэзюмаваў, што ад усіх ягоных высілкаў не было ніякай аддачы. Выраз стаў у сяброў устойлівым.

Праз гадзіну Лясоўскі выйшаў з дому. Вечар абяцаў быць цёплым, і рабочы пасёлак "Камінтэрн", дзе знаходзіўся ягоны інтэрнат, напоўніўся дваровым жыццём. Неўладкаваныя ўчасткі паміж двухпавярховымі драўлянымі дамамі акупавалі для сваіх гульняў дзеці рабочых. Бруд і велічэзныя лужыны, што дагэтуль займалі большую частку пасёлка, зусім не перашкаджалі малым у іх гульнях. Лясоўскі ўбачыў, як невялікая купка малых пад кіраўніцтвам падшыванца ў чырвоным гальштуку спускала на ваду збіты з абломкаў дошак карабель. На лавачках у ценю хмызоў адпачывала старэйшае пакаленне: нехта вёў размовы, нехта моўчкі паліў папяроску, а нехта разліваў бутэлечку на траіх.

Уладзь прайшоў міма дома, каля ўвахода ў які на лапіку свежай травы стаяў вялікі чорны аўтамабіль. Усе ў пасёлку ведалі, што гэта машына галоўнага інжынера другой гарадской цеплаэлектрастанцыі, якая знаходзілася непадалёку. Свежаспечаны аўтааматар вельмі хваляваўся за захаванасць свайго набытку і заўжды стараўся трымаць машыну ў полі зроку. Вось і

цяпер новенькі “Форд” стаяў так, што быў добра бачны з вокнаў кватэры інжынера. Вакол пастаянна церліся дзеці, якіх да аўтамабіля цягнула нібы магнітам. Абавязкам кожнага малога пасёлка было хаця б раз на дзень дакрануцца да храмаваных дэталяў корпуса ці заскочыць на падножку і зазірнуць унутр салона. Як ведаў Лясоўскі, сярод мальцоў было абвешчана негалоснае спаборніцтва, мэтай якога была металічная фігурка, што мацавалася на вечку радыятара аўтамабіля. Той, хто адкруціць яе, – стане першым героем двара. Але драпежныя памкенні дзятвы пакуль што разбіваліся аб пільнасць галоўнага інжынера, па некалькі разоў на дзень ён зычнымі воклікамі адганяў малых ад сваёй рухомай уласнасці.

Лясоўскі пакінуў межы пасёлка і наблізіўся да разваротнага кальца на Лекерта. Гэтым разам трамвай на прыпынку з’явіўся без спазненняў. Пяты маршрут хутка давёз Уладзю да вуліцы Энгельса, дзе хлопец саскочыў з падножкі проста насупраць увахода ў тэатр. Неба над горадам пацямнела, і стары, яшчэ дарэвалюцыйны будынак гарэў агнямі падсветкі. Побач праз дарогу ўзвышаўся чорным неасветленым прастакутнікам гмах ЦК кампартыі Беларусі, будаўніцтва якога было амаль завершана. Уладзь зірнуў на чорную грамадзіну і рушыў да тэатра. Апроч ліхтароў асвятлення будынак БДТ быў аздоблены чырвонымі стужкамі і транспарантамі. Ля высокіх дзвярэй стаялі два білецёры, апранутыя ў чырвонаармейскую форму часоў рэвалюцыі: доўгія шынялі з чырвонымі клапанамі на грудзях і вастраверхія будзёнаўкі з зоркамі. Адзін з іх трымаў у руцэ вінтоўку з доўгім штыхом, на які наведвальнікі наколвалі праверaныя квіткі. Краіна рыхтавалася адзначаць дваццацігоддзе рэвалюцыі і, як прыкмеціў Лясоўскі, некаторыя ўстановы сталіцы з гэтай нагоды прыняліся ўводзіць моду на вобразы з памінулага дзесяцігоддзя: шыльды, набраныя старымі шрыфтамі, прычоскі даваенных гадоў, якія зноў сталі папулярнымі, тэатральныя пастаноўкі, у якіх абыгрываліся падзеі дваццацігадовай даўніны і цытаваліся ўрыўкі з старых п’ес. Для многіх блізкі юбілей стаў нагодай дзеля ўспамінаў і пэўнай настальгіі па бурапенных гадах ўсталявання савецкай улады.

Хлопец падышоў да білецёра, працягнуў яму сваю кантрамарку і зайшоў у тэатр. У фае было шматлюдна. Лясоўскі здаў плашч у гардэроб і пайшоў у галоўную залу. Тут усё было абстаўлена на заходні манер: частка крэслаў у партэры вынесена, а на іх месца пастаўлены рэстаранныя столікі, месцы за якімі прызначаліся для ганаровых гасцей. Значыць, прадугледжвалася абслуга з афіцыянтаў і святочная вячэра. На балконе і на рэшце крэслаў знізу былі арганізаваныя месцы для больш простых гледачоў, да якіх адносіўся і Уладзік. Хлопец абраў месца бліжэй да сцэны і пачаў без асаблівай цікавасці назіраць за гасцямі. Акторы тэатра, музыканты, літаратары, перадавікі вытворчасці, партыйныя дзеячы, усе змяшаліся ў стракаты натоўп. Вочы Лясоўскага бліснулі толькі аднойчы, калі ў залу ўвайшла маладая дзяўчына ў шыкоўнай чырвонай сукенцы на манер кінадыў з нямецкіх стужак. Уладзя мігам забыўся на ўсе сённяшнія заляцанні і не адводзіў вачэй ад прыцягальных выгібаў дзявочага стану. Твар дзяўчыны падаўся Уладзю знаёмым, ён стаў узгадваць, дзе бачыў яе раней. Здаецца, яна грала ў нейкім нядаўнім фільме ад Белдзяржкіно, ці ў пастаноўцы аднаго з менскіх тэатраў. Хлопец стараўся не губляць дзяўчыну з віду ажно да таго моманту, пакуль у зале не прытушылі святло.

На сцэну выйшаў канферансье ў бліскучым фраку, павітаўся з гледачамі і пачаў запрашаць на сцэну гасцей з віншаваннямі. Лясоўскі дастаў з кішэні

блакнот, каб занатоўваць імёны для будучай зацемкі ў газету. Першым да мікрафона выйшаў сакратар ЦВК Хацкевіч з вітальным словам ад Алеся Чарвякова. Сам старшыня прыйсці не змог, відаць, вырашаў важныя дзяржаўныя справы. Між тым наркам асветы Баліцкі асабіста прыйшоў павіншаваць юбіляра. Па дарозе да сцэны ён спыніўся ля століка, дзе сядзеў Галубок, і моцна паціснуў яму руку.

– Таварышы, сёння я маю гонар асабіста ўзнагародзіць нашага юбіляра самай каштоўнай узнагародай нашай краіны, – ужо стоячы на сцэне, Баліцкі дастаў з кішэні пінжака невялікую скрыначку і разгарнуў паперу, з якой пачаў зачытваць: – На апошнім сваім паседжанні СНК БССР вынес наступную пастанову: “Прымаючы пад увагу асабліва каштоўную дзейнасць Народнага артыста рэспублікі Уладыслава Язэпавіча Галубка, як арганізатара, рэжысёра і артыста Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага тэатра, СНК БССР пастанаўляе – у дзень дваццатай гадавіны творчай дзейнасці ўзнагародзіць Уладыслава Язэпавіча Галубка ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга БССР”.

Зала выбухнула авацыямі, а сам, цяпер ужо ардэнаносны, Галубок падняўся на сцэну па ўзнагароду. Далей пайшлі вішаванні ад партыйных органаў, ад гарсавета, ад творчых калектываў Менска і ўсёй краіны. Пасля вітальнага слова ад пятага па ліку калгаснага аматарскага тэатра Лясоўскі перастаў занатоўваць. Для газеты хопіць таго, што ёсць. Хлопец ужо натуральна сумаваў на гэтым мерапрыемстве і чакаў зручнага моманту, каб сысці. Міжволі Уладзь пачаў шукаць позіркам дзяўчыну ў чырвоным у прыцемненай зале. Яна знайшлася даволі хутка, дзяўчына сядзела за адным з крайніх столікаў і, усміхаючыся, перагаворвалася з суседам, шыракаплечым мужчынам у пінжаку. Уладзь скрыгітнуў зубамі.

Плынь віншаванняў нарэшце прыпынілася, і пачалася культурная частка вечара: на сцэну выйшаў харэаграфічны ансамбль з праграмай у народным стылі. Зайграла вясёлая музыка. Гасцям за століка́мі сталі прыносіць напоі і закускі. У партэры пачалося ажыўленне, гледачы з іншых месцаў паступова змешваліся са шчасліўцамі ля столікаў, тут і там разгараліся жвавыя гутаркі пад віно. Лясоўскі падняўся з месца і накіраваўся да бліжэйшага выхаду з залы, які знаходзіўся ў цені балкона. Уладзя азірнуўся на хаду, каб глянуць на сцэну, і наляцеў у праходзе на чалавека. Гэта была тая дзяўчына ў чырвоным. Ад удару яна выпусціла з рук рыдыкюль і нахілілася, каб адшукаць яго ў прыцемках праходу. Лясоўскі кінуўся на дапамогу.

– Прабач, – хлопец знайшоў сумачку пад крэслам і працягнуў дзяўчыне.

– Нічога, я сама вінаватая, – усміхнулася тая ў адказ, – так ляцела, каб хутчэй пакінуць гэтае зборышча, што нічога наўкола не бачыла.

– Я таксама, сумна тут, – вусны Лясоўскага разышліся ў прыязнай усмешцы, – мяне, дарэчы, Уладзем завуць.

– Вельмі прыемна, мяне Агатай. Ну што, пойдзем мы нарэшце адсюль ці не? – дзяўчына пацягнула Лясоўскага за рукаў пінжака да выхаду. У хлопца ад такой нечаканай настойлівасці пераняло дыханне, ногі самі панеслі за Агатай вонкі з залы.

У гардэробе Уладзь забраў свой плашч і дапамог Агаце апрануць накідку – позні вясновы вечар за вокнамі тэатра мог быць даволі халодным.

– Здаецца, я цябе недзе бачыў раней, – сказаў Лясоўскі, калі яны выйшлі на вуліцу.

– Мабыць, у кіно. У мяне была невялікая роля ў стужцы “Дзяўчына спяшаецца на спатканне”. Глядзеў?

– Так, безумоўна, я ніводнай фільмы Белдзяржкіно не прапускаю. Агата Чаховіч? – прыгадаў прозвішча Лясоўскі пасля паўзы. – Нішто сабе невялікая роля, ты ж і была той дзяўчынай з назвы, што на спатканне спяшалася!

– Той, той, але ж на экране я была ўсяго пару хвілінаў, – усміхнулася Агата. – Мне на трамвай, а табе куды?

– Мне таксама, – без замінкі выпаліў Уладзь. Хлопец ужо быў гатовы ісці з Агатай хоць на край свету.

– Тады пайшлі, – Агата пацягнула яго ў бок асветленай электрычнымі ліхтарамі Савецкай. – Мне да Даўгабродскай, да новага дома.

– І мне туды – да сяброў у інтэрнат на Кладбішчанскай, – схлусіў Лясоўскі.

– Жыццярадасная назва, – усміхнулася Агата.

– Але людзі там вясёлыя, – адказаў з усмешкай Уладзя.

Нягледзячы на позні час, жыццё на цэнтральнай вуліцы не спынялася. Амаль гэтак жа часта, як і ўдзень, па асфальце беглі ў розныя бакі машыны, звінелі трамваі.

– Як тым, хто тут жыве, удаецца заснуць у такім гармідары? – спытала Агата, калі яны стаялі на прыпынку.

– А тут і не жыве амаль ніхто, адныя канторы ў дамах. Мая рэдакцыя якраз на Савецкай тут недалёка.

– Ах, дык ты ж карэспандэнт. А я гадала, як ты аказаўся на вечары Галубка, – Агата балюча ўшчыкнула Уладзю за плячо і пырснула ад смеху.

– А ты думала, я актор? – хлопец у адказ адвесіў паклон.

– Не, спачатку я падумала, што ты з фізкультурнага тэхнікума, але што табе тады рабіць сярод працаўнікоў культуры, – абодва засмяяліся. – З газет звычайна пракураныя дзядзькі з жыватамі прыходзяць, а не хлопцы са значкамі ГПА, – Агата тыцнула пальцам у чырвоную зорку з бегуном у цэнтры, якая была начэплена на грудзях у Лясоўскага. Ён, у адрозненне ад многіх калег, сапраўды займаўся фізічнай падрыхтоўкай і зусім нядаўна здаў нарматыў на значок “Гатовы да працы і абароны”. На гэта ў Лясоўскага былі свае рэзоны.

Тым часам да прыпынку пад’ехаў трамвай трэцяга маршрута і парачка заскочыла ў вагон. Яны так захапіліся гутаркай, што не заўважылі, як трамвай заімчаў іх у канец горада і спыніўся ля агромністага Дома спецыялістаў з добрай сотняй асветленых электрычнасцю вокнаў. Маладыя людзі саскочылі з падножкі на асфальт і рушылі да перакрыжавання Савецкай і Даўгабродскай.

– Тут нам час разысціся ў розныя бакі, – заявіла Агата і з сур’ёзнасцю дадала, – назаўжды.

Праз імгненне, як пабачыла, што з Уладзевага твару зляцела ўсмешка, зноў пырснула ад смеху:

– Вы, хлопцы, так сур’ёзна ўспрымаеце словы. З вамі так нецікава.

– Ах ты! Адно слова – акторка! – зноў засвяціўся Лясоўскі. – Скажы, калі мы пабачымся зноў?

– Які ты пры́ткі. Я чалавек заняты, у мяне няма часу на спатканні.

Агата падышла ўшчыльную да Уладзі, гледзячы яму проста ў вочы. Яна стаяла так блізка, што хлопец адчуў лёгкі пах яе парфумы. Лясоўскі пачаў

ужо падымаць рукі, каб абняць Агату, але дзяўчына хуценька прасунула далонь у кішэнь яго плашча, выцягнула блакнот і адскочыла на крок.

– Так, што тут у нас, – з усмешкай пачала гартаць старонкі Агата. – Ого, гэта я? – яна паказала Уладзю аркуш, на якім алоўкам быў выведзены дзявочы партрэт.

Лясоўскі ў адказ кіўнуў, ён паспеў зрабіць замалёўку, пакуль сядзеў у паўцёмнай зале тэатра. Агата працягнула руку:

– Давай аловак.

Яна накрэсліла пад малюнкам пару знакаў, загарнула блакнот і аддала Уладзю.

– Не сумуй, карэспандэнт, – Агата махнула рукой і перабегла на іншы бок вуліцы, дзе ўзвышаўся новы жылы дом, у якім, як ведаў Лясоўскі, знаходзіліся кватэры чальцоў гарадскога савета.

Хлопец прасачыў позіркам за дзяўчынай, задуменна ўздыхнуў і зазірнуў у блакнот. На старонцы пад партрэтам быў напісаны нумар тэлефона. Лясоўскі мімаволі ўсміхнуўся і паклаў блакнот у кішэню.

Савецкая ў гэтай частцы горада звычайна была не такая шматлюдная як у цэнтры, і ў такі позні вечар на тратуары знаходзіўся адзін толькі Лясоўскі. Хлопец азірнуўся і рушыў па Даўгабродскай у бок Вайсковых могілак. Гэтая вуліца была асветлена значна горш за цэнтральную. Там-сям раскіданыя ліхтары ды адзінокія агеньчыкі ў вокнах, нібы пуцяводныя зоркі, накіроўвалі шлях хлопца. Уладзь абышоў гмах Дома спецыялістаў і ўбачыў чорны востры абрыс былога касцёла, што ўзвышаўся на горцы ў двары жылога дома. Цяпер у тым будынку размяшчаліся нейкія майстэрні. Побач з храмам яшчэ нядаўна знаходзіліся каталіцкія могілкі, але вялікую частку надмагілляў з іх выкарысталі пры заліўцы падмуркаў дамоў. Застаўся невялікі лапік старых пахаванняў, дый той, як ведаў Лясоўскі з газет, хутка знікне з твару новага Менска.

Вайсковым могілкам пашчасціла больш, яны сталі асноўным месцам пахавання вядомых людзей сталіцы: паэтаў, навукоўцаў, кіраўнікоў савецкага апарату і партыйцаў. Тут знаходзілася магіла Паўлюка Труса, які памёр ад тыфу ў дваццаць дзявятым годзе. Яго вершамі Лясоўскі зачытваўся яшчэ ў Заходняй Беларусі: камсамольскія кантрабандысты цягалі з-за мяжы новыя савецкія кнігі, у тым ліку і зборнікі Труса. Тут жа быў пахаваны першы сакратар менскага гаркама партыі Чарнушэвіч, пра забойства якога ў Доме ўрада Уладзя ўжо ўзгадваў сёння. Тады ў трыццаць чацвёртым у прэсе паднялася хваля абураных галасоў з заклікамі выкрываць ворагаў, што хаваюцца за шырмамі яўрэйскіх арганізацый. Справа ў тым, што забойца сакратара – Самуіл Каменштэйн – быў калісьці бундаўцам, чальцом сацдэмаўскай яўрэйскай партыі, якая стала пасля рэвалюцыі ў апазіцыю да камуністаў і была забаронена. Рэдакцыйная ячэйка тады выключыла з кампартыі двух яўрэяў-карэктараў, як казалі, за сувязі з яўрэйскімі нацыяналістычнымі арганізацыямі. Праўда, адзін з іх аднавіўся праз год без асаблівых наступстваў.

Лясоўскі, узгадваючы ўсё гэта, не заўважыў, як апынуўся каля брамы з чырвонай цэглы, за якой пачыналася цёмная выспа могілак. Побач з уваходам знаходзілася вартоўня, у вакне якой білася кволае святло газавай лямпы. Уладзя не стаў заходзіць праз браму, каб не выклікаць непатрэбнай увагі вартаўніка, і рушыў у абход да вуліцы Берасцянскай, дзе, як ён ведаў, у сцяне могілак быў вялікі пралом, зроблены некалькі гадоў таму грузавіком і незакладзены дагэтуль.

Здавалася, што на могілках пануе абсалютная цемра, але вочы хутка прызвычаіліся, і Лясоўскі стаў адрозніваць абрысы дрэваў і надмагілляў. Калі наперадзе паказаўся чорны прастакутнік могілкавай царквы, ператворанай у склад гаспадарчых інструментаў, Уладзя спыніўся. Наколькі ён памятаў, схованка знаходзілася недалёка ад бліжэйшага да Берасцянскай кута будынка. Хлопец падышоў ушчыльную да сцяны, павярнуўся да будынка спінай і зрабіў сямнаццаць крокаў да агароджы. Ледзь бачная сцежка паміж магіламі прывяла яго да крыжа зробленага з металічных труб. Імя на таблічцы ў цемры нельга было разабраць, але Уладзь ведаў, што прыйшоў куды трэба. Ён узяўся за дэкаратыўную канцавіну на перакладзіне крыжа і пацягнуў. Металічнае вечка адышло лёгка, адкрываючы нутро трубы. Лясоўскі азірнуўся, каб упэўніцца, што вартаўнік у гэты момант не робіць абыход, і засунуў руку ў схованку. У крыжы ляжаў скрутак, абгорнуты ў прамасленую паперу. Уладзя паклаў скрутак у кішэню плашча, паставіў на месца вечка і пайшоў прэч з могілак. Першае заданне было выканана.

Васіль Жуковіч



...Антыхрыстаў войска вайной пагражае,
Нам засціць дарогу.
Ідзем, беларусы, і ўсё набліжаем
Над злом перамогу...

# Лірыка жніўня

### *АДНОСНА ВЫБАРАЎ*

Мы – народ незвычайнай пробы:
Мы – супроць палітычнай халтуры,
Культу нізкай пасрэднай асобы,
Мы – за культ высокай культуры,
За імя, за якое не сорам,
За таго, хто ўсёй нацыі годна
Будзе радасць прыносіць, не гора,
Будзе з родным народам згодны.
Беларусь, праслаўлёная Небам,
Будзь,
мудрэй, каб не ведала скону!
Дыктатур нам ніякіх не трэба,
Акрамя дыктатуры закону.

*5.08.2020*

## *ЖАЛОБА*

Глыбокі мой смутак,
Мне з ім не расстацца.
Журботна чаму так,
Не трэба пытацца.
Сілай збройнаю і злачыннаю
Кроў пралітая;
Маладзенькія і нявінныя
Жорстка збітыя!
Ёсць забітыя!
Дакуль гэтак будзе
У нашых абшарах?
Чаму церпім, людзі,
Садыстаў-пачвараў?

Ружы белыя і чырвоныя
Ў вянкі складзены.
Жыцці юныя пакалечаны,
Жыцці скрадзены.

## *ГАНЬБА!*

Не магу я душою крывіць!
Пекла ў нас, бы садом і гамора!..
Ганьба тым, чые рукі ў крыві,
Хто ўчыніў беларускае гора,
Хто хапаў чыста мірных людзей
І валок па асфальце за ногі,
Хто дубасіў жанчын і дзяцей,
Набіваў да адказу астрогі!
Ганьба ўсім, лёсы хто распінаў
Акрываўленымі рукамі,
Хто зняволеных тых катаваў,
Адбіваў і здароўе і памяць!
Змардаваных шчэ будуць судзіць
Суддзі і пракуроры-пілаты.
Хто на шыі народа сядзіць,
Не баіцца народнай адплаты?
Злы рэжым пад крыламі Крамля
Чыніць зверства зацята, з гневам.
Як жа носіць яго Зямля
І не хрысціць маланкай Неба?!

### *БЛІЗКА АПАТЫЯ?*

Быў я дужы й вясёлы,
Быў у справах заўзяты я.
Пачуваюся кволым,
Сумным –
                блізка апатыя?
Чую: ў сэрцы нягода
Пасялілася вечная.
Так забітых мне шкода!
Гэтак шкода знявечаных!

### *НЕ ДА ЗОРАК!*

Я забыў, што па начах
Жнівень дорыць неба зорнае:
Не да зорак, бо ў вачах
Тэрарыстаў маскі чорныя.

### *СУЧАСНЫ САТАНА*

Не пакаяўся Каін, як брата забіў...
Сатана шмат каго загубіў
І пакаяцца не збіраецца,
Зло чыніць не стамляецца
З д'ябламі-памагатымі.
Ён не бачыць свае віны,
Свая логіка ў сатаны –
Робіць праведных вінаватымі.
Кат ваюе ў хаўрусе з катамі,
А на словах – супраць вайны.

### *НЕ ПЛЯВУЗГАЙ!*

Хворай фантазіі прывід Майдана
Бачыцца. Страх крывіць рот.
Што ж ты палохаеш справе адданы,
Дужа трывушчы, мірны народ?!
Гіцаль, дрыжыш, бо ўсё страціць ты можаш,
Ды не плявузгай ты нам пра Майдан,
Ведай, што панікаваць непрыгожа,
Лепш неадкладна пакуй чамадан...

## ЛЮДЗІ Й НЕЛЮДЗІ

Ява, а не жахлівая казка:
Людзей з ветлымі тварамі,
Людзей са светлымі марамі
Б'юць амапаўцы-нелюдзі ў масках.

Людзі з кветкамі йшлі як на свята,
Свет харошылі ўсмешкамі мілымі,
Іх жа, схопленых чорнымі сіламі,
Упяклі нізавошта за краты...

Ява нашая, о, калі ласка,
Ты змяніся, зрабіся цудоўнаю,
Вязням дайся, свабода грунтоўная,
Хай зняволяцца нелюдзі ў масках!

## ПРЫСТАСАВАНЕЦ

Ты на падзеях не драмаў –
Злачынства ўлады падтрымаў:
"Улада ўсякая – ад Бога..."
Не дабрачынны ты святар!
Хоць храм высокі твой – да хмар,
Ты мысліш нізка, слепа, ўбога!
Відаць, уладу нездарма
Рашуча гэтак падтрымаў:
Падобна, штосьці атрымаў,
І вось душа твая святкуе.
Дзіўлюся я, што ты – святар
І што даносчыкам не стаў;
Мо Сталіна табе бракуе?

## КУЛЬТУРНАЯ СВЯТЫНЯ

Купалаўскі тэатр пражыў сто год,
А жыць такой святыні вечна трэба.
Не дапаможа ні бальзам, ні мёд,
Калі душы не даць паветра й хлеба!
Дроў наламалі ўлады. Ім турма
Важней тэатра... Смерч на нашай ніве!..
"Тутэйшых", жаль, на сцэне больш няма!
Сышла майстроў няскораных гурма,
Не, Зносака няма ў тым калектыве!

## *АБУДЖЭННЕ*

*Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!*
..........................................................................
*На цябе, наша моладзь, надзея*
*Нашай сумнай забранай зямлі.*
...............................................................
*Беларусы не будуць рабамі!*

**Янка Купала**

Праспаў народ наш процьму год,
Дарэшты змучаны тыранамі
І паганятымі паганымі.
Ды ўсё ж прачнуўся наш народ.
Паўстаў народ, прачнуўся ён
Ад сну цяжкога літургічнага,
Ад лёсу рынуўся трагічнага
За добрай доляй наўздагон.
Народ сказаў: тыраны, прэч!
Краіна наша будзе вольная,
Абараніць яе мы здольныя –
Паслужыць слынных продкаў меч!
...Ноч, а сям'я мая не спіць,
Рэальнасці глядзім у вочы мы;
Купала словамі прарочымі
Натхніў. Рабамі нам не быць!

## *МРОЯ*

Беларусь, між Усходам і Захадам
Ты не мост і не двор прахадны –
Быць табе самастойнай краінаю
І з Еўропаю цэлым адным!
У хаўрусах вайсковых не будзеш ты,
Зброяй звякаць забудзеш навек.
Быць табе натуральнай, нейтральнаю;
Мая даўняя мроя жыве!

*11–31.08. 2020*

* * *

Узрушальная Ахеджакава,
Абураны Співакоў!
Нам, цяжкапараненым
Зверствам сілавікоў,
Вы далі донарскую
Салідарнасці кроў,

Кроў мужных учынкаў,
Кроў асуджальных слоў.
Вы асудзілі злачынцаў,
Хіжых двухногіх звяроў!

*11.09.2020*

## СЕЙБІТУ БЯДЫ

Зло сеяў шмат гадоў
І горкіх пазбягаў пладоў.
Ён выхаваў садыстаў
Ды іх прыгрэў рублём.
Уведаў сталініста
Нацыянальны дом.
Відушчы люд на сходзе
Даў сейбіту бяды
Прысуд: “Цярпець нам годзе—
Жні, пажынай плады!..”

*11–31.08.2020*

## ІДУЦЬ БЕЛАРУСЫ

*А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
*– Беларусы.*

**Янка Купала**

*Глаза их полны заката,*
*Сердца их полны рассвета.*

**Иосиф Бродский**

Па плошчах, праспектах, па вуліцах шумных
Ідуць беларусы,
Парой драматычнай, і тлумнай, і сумнай
Ідуць без прымусу,
Душой яны гвалт і хлусню не прымаюць –
Яны гонар маюць,
Па вольную волю, па лепшую долю
Ідуць грамадою.
Са шляху сыдзіце вы, карнікі ў чорным!
Народ – у паходзе.
Ёсць вера у сілах яго незлічоных,
Ёсць сіла – у згодзе!
Антыхрыстаў войска вайной пагражае,
Нам засціць дарогу.
Ідзем, беларусы, і ўсё набліжаем
Над злом перамогу.

*31.10. 2020*

## ЛЯ КУРАПАТАЎ 1 ЛІСТАПАДА 2020

На Дзяды,
Як заўжды,
Людзі йшлі ў Курапаты
Пакланіцца ахвярам трыццатых
Ля крыжоў,
Але ўжо
Забаронена справа святая...
Восень не залатая
Цяпер,
а крывавая;
Груганнё наляцела аблаваю
На міранаў, юнцоў
З усіх канцоў,
Іх у полі лавілі
І жорстка лупілі,
Быццам злачынцаў,
Валаклі непрытомных
Да машынаў да цёмных...

На паляванне ў полі
Людзі глядзелі з болем
І з дарог, і з вакон,
Абураліся: “Дзе закон?!”,
“Няўжо гэта канец свету?!”
І маліліся Богу кабеты,
І, сціскаючы кулакі,
Мацюкаліся мужыкі.

Вось такая кантрастная ява,
Вось якая глыбокая яма,
Нелюбоў і нязгода
Між правіцелем і народам
На Беларусі.

Курапацкія сосны ў скрусе
Шумяць, а ці душы забітых,
Простых і знакамітых,
Ды нявінных людзей –
На Дзяды, пасля горкіх падзей.
Сонца зноўку глынулі хмары.
Зноў – ахвяры, ахвяры, ахвяры.

*1–5.11. 2020*

Янка Вольская



...Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы.

У ціхую сінюю ноч....

# Празмернае ўжыванне алкаголю шкодзіць вашаму здароўю

***Пераднавагодняя аповесць***

Жана Іосіфаўна сядзела ў кабінеце і чакала планёрку. За вакном, якое па загадзе зверху было ўжо ўпрыгожана папяровымі сняжынкамі напярэдадні Новага года, кружляў ранішні снег, асядаў на лапінах вялізных сініх ялінаў, што разрасліся магутнымі слупамі каля ЖЭСу нумар 88.

Насупраць, каля крамы “Віцебск”, мітусіліся шкаляры, а па дарозе ўздоўж ЖЭСу да трамвайных шляхоў і аўтобуснага прыпынку цягнуліся супрацоўнікі разнастайных офісаў, бізнэс-цэнтраў, аб’ектаў грамадскага харчавання і абслугоўвання насельніцтва. Акурат у такім самым аб’екце абслугоўвання дыспетчар па прыёме заявак Жана Іосіфаўна і запарыла сабе каву, а потым зрабіла адзнаку ў журнале наведвальнасці аб заступленні на працоўную змену.

– Добрай раніцы, Жаначка! – паказалася з-за дзвярэй вялікая калматая шапка загадчыка брыгады сантэхнікаў Леаніда Кадолкі.

Ён любіў прыйсці значна раней за планёрку, кінуць рэчы ў бытоўцы і пасядзець на дыспетчарскай: папіць кавы, абмеркаваць апошнія навіны, плёткі, паскардзіцца на жыхароў, пажартаваць ды пасмяяцца.

Прагучаў першы званок.

– Ало, ало! Гэта ЖЭК? – крыклівая цётка ў слухаўцы патрабавала тэрміновага візіту сантэхніка: – Нас заліваюць! – істэрычна лямантавала яна ў слухаўку. – Мы толькі што зрабілі рамонт! Дашліце сантэхніка зараз жа!

Кадолка зрабіў яскравы жэст, які мусіў адначасова азначаць і ягонае стаўленне да праблемы, і ягоную адсутнасць у гэтым памяшканні для лямантуючай цёткі.

Дыспетчарка аднымі вачыма паказала, што зразумела яго, і пачала апытанне па класічным для гэтых выпадкаў сцэнары:

– У якой частцы кватэры вас заліваюць? Наколькі актыўна крапліць вада і наколькі моцная напруга вады: ці гэта пляміна, ці цячэ вада са столі? Гарачая вада ці халодная? Ці ёсць доступ да кватэры вышэй паверхам?

– Проста на кухні! – адрапартавала цётка на тым баку. – І пляміна, і цячэ! І гэта нават не вада, а я не ведаю што! А вышэй паверхам сусед мой жыве, самотны, але парадачны чалавек, упэўненая, што гэта не праз яго. Вось над ім – новы сусед, нядаўна пераехаў, вось ён цалкам мог заліць нас усіх!

– Не вада? – здзівілася дыспетчарка. – А што ж? Ці ёсць у вадкасці спецыфічны рэзкі пах? У суседа вышэй няма заліцця? Гэта дакладна не ён залівае?

– Адкуль я ведаю, ён ці не ён! Гэта вашая праца, разабрацца хто вінаваты, – надрывалася цётка. – А вадкасць пахне... пахне, як бы вам сказаць, – на момант сумелася цётка, быццам нешта абдумваючы, – дражджамі пахне ці нават півам!

Жана Іосіфаўна ад здзіўлення перапытала:

– Прабачце, чым? Півам?

На гэтым этапе размовы сантэхнік раптам вельмі ажывіўся і пачаў прыслухоўвацца.

– Так, – не вельмі ўпэўнена пацвердзіў голас.

– Добра, – дыспетчарка занатавала адрас, усе неабходныя дадзеныя і паведаміла ў слухаўку:

– Чакайце, пасля планёркі дашлю да вас сантэхніка.

– Як пасля планёркі? – з наноў абуджаным імпэтам загарлала цётка. – Дасылайце зараз жа! Зараз жа! Чуеце?

– Сантэхнікі з'яўляюцца на працы і атрымліваюць заяўкі падчас ранішняй планёркі, зараз нават няма ніводнага.

У гэты момант Кадолка, які стаяў побач, згодна кіўнуў галавой.

– А калі тая планёрка? – раздражнёна запыталася цётка.

– Пачнецца ўжо праз дваццаць хвілінаў.

– Зразумела, – згадзіўся голас у слухаўцы, – але да мяне найперш адпраўце.

Паколькі заяўкі такога кшталту, як заліццё кватэры, лічыліся экстраннымі, то Жана Іосіфаўна выразна паглядзела на сантэхніка:

– Ну што, Лёня, табе давядзецца ісці.

– Я нікуды не пайду, – адразу запратэставаў Кадолка. – Я толькі прыйшоў, адразу ідзі. Усім ім не находзішся. Па марозе па такім бегаць.

– Лёня, гэта заліццё, ты ведаеш, што гэта тэрміновая заяўка.

– Я не пайду! Зараз прыйдзе Вярбіцкі, няхай ён сходзіць!

І Кадолка злосна каўтнуў кавы.

Некалькі хвілінаў цягнулася маўчанне.

– А што там у яе? – абыякава, але з замірэнчай інтанацыяй запытаўся ён.

– Піва ліецца са столі, – са з'едлівай усмешкай адказала дыспетчарка.

Сантэхнік ледзь не папярхнуўся кавай. Але ўзяў сябе ў рукі і пажартаваў:

– Ой, Жана, калі б было мора півам, быў бы я тады ведаеш, кім? Дэльфінам бы стаў. Піва са столі цячэ.

– Сказала, што пахне півам, а што там – не разбярэшся, – рэзонна заўважыла дыспетчарка.

– А яна там не таго? – сантэхнік пакруціў пальцам ля скроні. – Ну, у сэнсе, сама піва не выпіла з раніцы? – Які адрас мае дамы? – усё яшчэ з робленай абыякавасцю, але ўжо больш ажыўлена паглядзеў у карту заяўкі. – Зрэшты, ведаеш, схаджу пагляджу. Сапраўды ж, аварыйная сітуацыя.

– Іосіфаўна, хадзем ужо на планёрку! – паклікаў з-за дзвярэй голас старэйшага майстра Бубневіч.

Штодзённыя планёркі адбываліся ў актавай зале. Сантэхнікі, электрыкі, маляры, майстры займалі месцы гледачоў, а дыспетчарка мусіла ўзысці на сцэну як канферансье, абвяшчаючы чарговую заяўку, бы эстрадны нумар.

Апрача гэтага, вядучай зоркай заўсёды прысутнічаў упаўнаважаны прадстаўнік ЖЭСаўскага кіраўніцтва – дырэктар ці галоўны інжынер.

– А чаму мне далі заяўкі Макарэвіча? – атрымаўшы стос папераў, закрычаў з месца электрык Саломка. – Гэта не мой участак!

– Саломка, – з падкрэслена мяккай інтанацыяй звярнуўся да яго дырэктар, – гэта часова твой участак, бо Макарэвіч праходзіць курсы перакваліфікацыі.

– Нукзар Юр'евіч! Чаму я мушу за яго працаваць? Няхай вяртаецца пасля перакваліфікацыі і сам закрывае свае заяўкі! – абурана працягваў крычаць Саломка. – Тым больш пасля перакваліфікацыі Макарэвіч вернецца больш адукаваным спецыялістам! – іранічна дадаў ён напрыканцы.

– Саломка, пойдзеш ты на перакваліфікацыю, ён будзе за цябе працаваць, – адрэзаў дырэктар. – Яшчэ пытанні?

– Так, ведаю я, напрацуе за мяне, потым нічога не разбярэш на сваім участку, – ужо не так упэўнена прабурчэў Саломка, апусціўшы вочы і незадаволена ўзіраючыся ў спіс з заяўкамі.

– Давай далей, – скамандаваў дырэктар дыспетчарцы.

– Макарэвічу тры заяўкі, – прадэкламавала яна.

– Яго ж няма! – зноў выбухнуў Саломка.

– Дык не электрыку Макарэвічу, а сантэхніку.

– А электрык Макарэвіч пасля перакваліфікацыі будзе ўжо і сантэхнікам! – заявіў Саломка, і ўся зала гучна засмяялася.

Саломка, відавочна задаволены сваёй трапнай заўвагай, працягнуў:

– І, наогул, не будзе электрыкаў і сантэхнікаў, а будуць спецыялісты па пабытовых паслугах! Працы болей, а заробак той жа!

Сантэхнік Макарэвіч, нявыспаны і ці то ўжо, ці то яшчэ п'янаваты, неўразумелым позіркам абвёў залу і насупіўся.

Саломка працягваў захоплена вяшчаць:

– Як кажуць – і кравец, і жняяр, і на дудзе дудар!

Раптам ён заўважыў вельмі пахмурны твар дырэктара, узгадаў, што ён на планёрцы, і змоўк.

Дыспетчарка ганарова ўручыла сантэхніку Макарэвічу чарговы стос папераў з раздрукаванымі заяўкамі.

– Чаму мне так шмат заявак? – адразу ж зароў Макарэвіч. – Калі я буду гэта ўсё рабіць?

– Макарэвіч, – пагрозліва прарычэў дырэктар, – я цябе папярэджваў наконт з'яўлення на працы ў нецвярозым стане. Гэта было першае папярэджанне. Калі будзе другое, я пазбаўляю цябе прэміі, а на трэцяе, Макарэвіч, ты ў мяне выляціш з працы.

Сантэхнік моўчкі залыпаў вачыма. З усіх сантэхнікаў Макарэвіч быў самы добры, самы бяскрыўдны, але адначасова й самы гарланісты ды самы горкі п'яніца. Цвярозым ён амаль не бываў, а калі бываў, то твар у яго рабіўся зямлістага колеру, а сам ён выглядаў на хворага, няшчаснага і злоснага. Затое ўвесь астатні час, калі ён быў альбо нападпітку, альбо зусім п'яны, Макарэвіч быў вясёлым і лагодным, любіў прынесці ў дыспетчарскую шакаладку ці цукерку, каб пачаставаць Жану Іосіфаўну, распавесці пра свае колішнія вандроўкі ў Нясвіж і Мірскі замак.

Цяпер ён сядзеў п'янаваты і крыху нахабны, але хаміць у адказ ці спрачацца пабаяўся, узяў заяўкі і гучна заўздыхаў.

Астатнія заяўкі былі раздадзеныя без спрэчак і заўвагаў.

Праз пяць хвілінаў шумная актавая зала апусцела, засталіся толькі дырэктар і дыспетчарка.

“Зараз самы зручны момант”, – мільганула ў галаве ў дыспетчаркі.

– Нуксар Юр'евіч, – упэўнена пачала яна, – у нас на дыспетчарскай зламаўся чайнік.

Дырэктар, робячы суворы выгляд, заўважыў:

– Дык, канечне, сантэхнікі і электрыкі твае й зламалі. Не вылазяць з дыспетчарскай.

– Ён жа быў ужо стары! – пачала змагацца за чайнік Жана Іосіфаўна.

– Дык няхай бы сантэхнікі й электрыкі скінуліся на чайнік і набылі. Гарбату і каву ж туды-сюды бегаюць піць.

– Скінуцца яны, чакай, – агучыла ўслых яна свае прыкрыя думкі.

– Ну добра, выпішам на рахунак арганізацыі, – нечакана згадзіўся дырэктар і з усмешкай паглядзеў на дыспетчарку.

Акрыленая такой лёгка здабытай перамогай, яна зляцела на дыспетчарскую, дзе несупынна званіў тэлефон.

– Дыспетчарская, слухаю вас! – адпрацаваным да аўтаматызму прывітаннем прамовіла яна ў слухаўку.

– Захар'еўская, трыццаць пяць, нам патрэбны на агляд майстар, бо ў нас тут у сутарэннях жывуць бамжы. Яны паляць, напэўна, ці ўжо нешта спалілі, – паскардзіўся раздражнёны мужчынскі голас.

Дыспетчарка зразумела, што трэба падлучаць больш адказныя службы.

– Вам трэба тэлефанаваць у МНС , паколькі гэта можа быць аварыйнай сітуацыяй, – паведаміла яна.

– Я вам патэлефанаваў, вы давайце і разбірайцеся там, – голас стаў яшчэ больш раздражнёны. – Вы што, не можаце патэлефанаваць куды трэба?

– Добра, я патэлефаную, – халодным тонам адказала дыспетчарка.
– Вы зафіксавалі маю заяўку? – перапытаў голас.
– Усе заяўкі, што паступаюць на лінію, у нас фіксуюцца і запісваюцца, – даклала яна.
– Вы занеслі яе ў кампутарную сістэму? – не сунімаўся голас.
– Безумоўна.
Ледзь толькі яна паклала слухаўку, як тая пачала званіць зноў.
– Дыспетчарская, слухаю вас!
– Скасуйце заяўку, калі ласка, – прадыктаваў пажылы сухі жаночы голас, – вуліца Крывіцкая, дом шэсць, кватэра дзесяць.
– Вы давалі заяўку з прычыны замены шаравых кранаў у лазенцы? – перапытала дыспетчарка.
– Так, але мы справіліся сваімі сіламі, – пацвердзіла жанчына.
– Добра, пацвярджаю вашую адмову.
“Самі справіліся”, – пракаментавала яна сама сабе, паклаўшы слухаўку. “Сама хіба краны круціла слясарным інструментам. Так, які гэта майстар якой брыгады?”
Яна прагледзела нядаўна адноўлены спіс трох сантэхнічны брыгадаў, кожную з якіх узначальваў пэўны майстар. Вось, Парэпка А.Л. Адрас – Крывіцкая, шэсць, значыцца, гэта другая брыгада, а ўчастак Хадакова.
Дыспетчарка ўзяла службовы мабільны тэлефон і набрала нумар Хадакова.
– Алё, Жаначка! – радасна павітаў яе сантэхнік.
– Ало, Яўген. Крывіцкая, шэсць, кватэра дзесяць. Зараз патэлефанавала жыхарка і скасавала заяўку.
– Дык што? – падробна здзівіўся сантэхнік. – Яны мо самі адолелі?
– Так, самі адолелі, з тваёй дапамогай.
– Як з маёй? – яшчэ больш здзівіўся ён. – Я наогул на іншым адрасе працую.
– А яна сказала, што стаіць сантэхнік побач, які ўсё і зрабіў, – схлусіла дыспетчарка.
– Так і сказала? – было чуваць, што ён падскочыў. – Вось гадзіна!
– Яўген, – вымоўным тонам звярнулася да яго дыспетчарка. – Ты ведаеш, што будзе, калі пачнуць правяраць базу?
– Жаначка, я хутка буду на дыспетчарскай, – паабяцаў сантэхнік і кінуў слухаўку.
Праз тры хвіліны Хадакоў ужо стаяў на ганку дыспетчарскай і лісліва пасміхаўся.
– Дык ты на іншым адрасе, значыць? У бытоўцы сядзеў? – строга паглядзела яна на сантэхніка.
– Ды што ты, дабег проста хутка. Ведаеш, як кажуць – адна нага тут, другая там. У сэнсе тут. А тая – там. – Ай, – пасля паўзы працягнуў ён. – Нудна з табой, Жанэт. Новы год хутка, свята, а ты ўсё па працы ганяеш. Ты што ж, не ведаеш, як яны выклікаюць? Вунь адзін, у яго кран працякаў два тыдні, яшчэ б два вытрымаў, а яны ўсе перад Новым годам кінуліся дарабляць недаробленае. – Вось ты мне заяўку перадала – шум у трубах, дык гэта ўжо пятая заяўка па адным і тым жа адрасе! Пятая! Прыходжу – усё ціха. Пяць разоў прыходзіў – пяць разоў ціха было. Можа, у яе ў галаве трубы шумяць, га?

– Давай, Хадакоў, не выдурвайся. А хто наяўнымі грошы з жыхароў бярэ? Ёсць жа пастанаўленне: ці асобная аплата па лік-фактуры, ці ўлучаная ў квітанцыю, у квартплату. А ты што такое робіш?

– Жана, як наконт мяне, дык я сумленны чалавек, Жана. Я падзялюся з табой, дамовімся!

– Мы з табой дамовімся, а потым я з працы палячу за дамоўленасці такія з табой.

– Ды што ты, Жанка! Усе паўсюль так робяць, я табе яшчэ шчыра прапаноўваю падзяліцца, а ў іншых ЖЭСах ніхто нават і не падумаў бы.

– Давай зараз збегаю па шакаладку? Ты якую любіш? Горкую, малочную? Добра, сам пагляджу!

І выпарыўся за дзверы.

“Ну Хадакоў!” – мільганула ў галаве ў дыспетчаркі.

– О, Жана! – паказалася галава ў фактурнай хімзавіўцы, уладальніцай якой была майстар Парэпка. – Зайдзі да мяне на пяць хвілінаў зараз.

– У мяне тут аўрал – увесь час тэлефануюць.

– Пайшлі, кажу, патэлефануюць і перастануць.

– Дык у нас жа кантроль тэлефанаванняў: я слухаўку не здыму, увечары на дыспетчарскай у ЖРЭА праслухаюць і на справаздачы мне адразу вымову зробяць. Ці, ведаеш, як жыхары – сюды не датэлефаноўваюцца, нават, калі занята, адразу пачынаюць тэлефанаваць у ЖРЭА, а са ЖРЭА мне ўжо на службовы нумар тэлефануюць і зноў вымову робяць.

– Дык ты што, – кажа Парэпка, – не ведаеш як адключыць гэтую лінію запісу?

Запыханая, мажная, з кудзерамі колеру чырвонага бурачка, яна ўвалілася на дыспетчарскую, пакруціла на тэлефоне нейкае рэле, адлучыла нейкі дрот і пераможна ўсміхнулася:

– Ну, хадзем.

– Дык тэлефон жа не будзе працаваць! – спалохалася дыспетчарка.

Парэпка паглядзела на яе, як на відавочна не вельмі разумную жанчыну, і прыцiснула слухаўку да ейнага вуха:

– Ёсць сігнал?

– Ёсць сігнал, – паўтарыла Жана Іосіфаўна.

– Значыцца, працуе. Пайшлі, кажу, у мяне часу ўжо мала, я ж ужо сыходжу.

Дыспетчарка заўважыла, што на гадзінніку ледзь-ледзь перайшло за палову на чацвертую.

– А куды вы? – пацікавілася яна ў Парэпкі.

– Куды-куды, на Кудыкіну гару. У мяне ў паліклініцы запіс на сёння да тэрапеўта на пяць гадзінаў, аналізы ўжо прыйшлі, потым у цырульню. Цырульніца мая з’ехала зараз у вёску да бацькоў, давялося запісвацца да нейкай новай, пастрыгчыся трэба. А ты ідзеш на капуснік навагодні? Нашыя пашпартысткі з другога паверху ўжо грошы збіраюць. Ды я не ведаю, будзем з іхнім аддзелам святкаваць ці, можа, сваім калектывам?

– Можа, сваім, – няўпэўнена выказалася дыспетчарка.

– О, бачыш! – радасна пагадзілася з ёй і больш сама з сабой Парэпка, – я ж і кажу, лепей нашым. А то пачнуць потым абмяркоўваць, хто колькі выпіў, як быў апрануты, як паводзіўся. Ну, ты ведаеш, звычайныя гэтыя плёткі. Гэта ж жах.

І яна выразна паглядзела на Жану Іосіфаўну.

Парэпка ўпэўненай хадой спрытна рушыла да свайго кабінета майстроў. Хутка адамкнула дзверы і забегла ў пакой.

У кабінеце было цёпла, ціха, тры працоўныя сталы майстроў пуставалі. За вокнамі, як гэта звычайна бывае ў зімовы час, ужо цямнела, і снег, што ляжаў на лапінах ялінаў, зрабіўся бела-сінім. Парэпка зазірнула пад свой стол і выцягнула з-пад яго бляшанку белай акрылавай фарбы.

– Трымай, дарагая, – з гонарам прэзентавала яна бляшанку дыспетчарцы.

– Дык, а куды ж я яе? – разгубілася тая.

– Куды, куды. Табе што, няма чаго на лецішчы падфарбаваць?

– А ў мяне ж лецішча няма, – прызналася Жана Іосіфаўна.

– Ну, у гаспадарцы што падфарбуеш. Банку фарбы ёй даю, а яна не ведае, што з ёй рабіць. Маляршы нашыя першыя ўсё паразбіралі, вунь апошнія дзве банкі засталіся. Бяры, а то сабе пакіну.

– Дзякуй, Людмілачка Аляксандраўна, – усё яшчэ разгублена стаяла дыспетчарка.

За дзвярыма кабінета пачуліся нечыя крокі, рыпенне дзвярэй, галасы.

– Усё, пайшлі, пайшлі, – паспешліва справадзіла Парэпка калегу.

Выходзячы, яны пабачылі двух сантэхнікаў, што ў працоўнай робе заходзілі ў ЖЭС.

– Людміла Санна! – артыстычна вымавіў першы з іх, худы, падцягнуты, невысокага росту, мужчына. – А куды гэта мы?

– Як куды, Суша?! – з запалам парыравала Парэпка, – па заяўках іду на агляд кватэраў.

– То хадземце разам, – прапанаваў другі, вельмі высокі сантэхнік са спартоваю фігурай. – Праводзім.

– Ой, Вярбіцкі! – пляснула ў далоні майстар. – Нам не па дарозе. – Бяжы ў кабінет ды схавай, каб не бачылі, – паспела шапнуць яна дыспетчарцы і, узмахнуўшы торбачкай, выпырхнула за дзверы.

Жана Іосіфаўна схавала бляшанку з фарбай у шафу і падумала: “Навошта яна мне?”

Адразу за ёю на дыспетчарскую зайшоў сантэхнік Вярбіцкі.

Ён заўжды быў нешматслоўны і змрачнаваты. У ЖЭСе пра яго казалі, што калісьці ён служыў ці то ў марфлоце, ці то ў дэсанце, што ў яго бываюць зрывы, калі ён сыходзіць на тыдзень у запой, што ён сквапнаваты, а яшчэ казалі, што ён таемна закаханы ў дыспетчарку.

– А Вярбіцкі ж закаханы ў нашую Жаначку Іосіфаўну, – колькі месяцаў таму з уласцівай ёй жаночай мудрасцю, назапашанай досведам і пранізлівым вокам пляткаркі, першай заўважыла Парэпка.

Потым і астатнія супрацоўнікі пачалі заўважаць, што ў прысутнасці дыспетчаркі Вярбіцкі неяк бянтэжыцца, губляецца, з хамаватага “салдафона” ператвараецца ў ціхага і непрыкметнага чалавека.

Хутка ўжо ўвесь ЖЭС ведаў пра асаблівае стаўленне сантэхніка да дыспетчаркі, і ў нікога не было сумневаў, што так яно і ёсць.

Вось і цяпер ён маўкліва з’явіўся на дыспетчарскай, павітаўся, крыху пастаяў, а потым нешта паклаў на стол і знік.

Дыспетчарка падышла да стала. На ягонай роўнай паверхні з безліччу раздрукаваных заявак, тэчак, стосаў паперы для запісу нумароў тэлефонаў і просьбаў жыхароў, акуратна ляжалі ў бліскучых чырвоных прыбраных абгортках тры шакаладныя цукеркі “Рашэн”.

* * *

– Дзе тут у вас піва са столі льецца? – з дзвярэй задыхана спытаў чырвоны ад марозу Кадолка, след ад якога пацягнуўся ў вітальню звычайнай пенсіянерскай кватэры, сваім выглядам і ўзростам цалкам адпавядаючай гаспадыні, што сустрэла сантэхніка з выразам поўнай нецярплівасці на мяжы з гатоўнасцю да скандалу.

– Бач ты, – адразу з выклікам заўважыла яна. – Піва са столі. Якая розніца, піва ці не піва?

– Як? – аслупянеў Кадолка.

Ён, можна сказаць, толькі з цікаўнасці да піва і выправіўся на гэтую заяўку.

– Так, – перадражніла гаспадыня кватэры.

– Дык я мо кватэрай памыліўся, – чамусьці са спадзевам падумаў услых сантэхнік, ліхаманкава шукаючы ў кішэнях паперу з раздрукаванай заяўкай.

– Не памыліўся, не памыліўся, – пачуў ён у адказ бязлітасны голас.

– Дык жа мне перадалі – піва, – неяк пакрыўджана прамовіў Кадолка.

– Ды якая вам урэшце розніца? Ідзіце і глядзіце ў кухні, што адбываецца. Усё мне пазалівалі, уся сцяна ў мяне мокрая, я на гэтых шкоднікаў управу знайду, я ў УЖГ патэлефаную.

Сантэхнік не стаў слухаць і прайшоў у кухню.

На падваконні за фіранкамі прытаіўся вялікі чорны кот з белымі плямінамі на лапах і галаве. Газавая пліта была застаўленая патэльнямі ды рондалямі, відаць, нядаўна нешта гатавалася. Усё выглядала на звычайную кухню, дзе звыкла рыхтаваліся да Новага года, наразаючы салат “аліўе” і запякаючы курыцу.

За выключэннем аднаго моманту. У кухні выразна патыхала самым сапраўдным півам. Гэты пах сантэхнік мог адрозніць беспамылкова. У мінулым годзе ён выпадкова апынуўся на экскурсіі па піўным бровары, і цяпер смачныя ўспаміны захлынулі яго: гэты саладкаваты, бражысты пах піва, ад якога падкружваецца галава.

Тут, у замкнёнай прасторы кватэры, гэты пах яшчэ больш згусціўся, набрыняў.

Па сцяне тоненькім струменем вельмі павольна бруілася карычнявата-празрыстая вадкасць, пакідаючы непрыгожыя сляды на выцвілых светла-саламяных шпалерах.

– Хадзіце сюды, – паклікаў Кадолка гаспадыню.

Старая паказалася з вітальні. Яна ўсё яшчэ была раздражнёная і зласнаватая, бо гэты піўны інцыдэнт істотна перашкаджаў ейным кулінарным заняткам. Да яе ўжо заўтра прыязджаюць і дачка з унукамі, і стрыечная пляменніца з мужам, а ў яе ані курыца яшчэ не замарынаваная, ані салаты не нарыхтаваныя, дый у хаце стаіць нейкі гармідар.

– Бачыце? – запытаўся сантэхнік, паказваючы на струмень.

– Вядома, бачу, не сляпая ж.

– Пахне півам, выглядае на піва, значыцца, піва й ёсць, – лагічна патлумачыў сантэхнік.

– Мне ўсё адно, піва гэта ці не піва, – распальвалася жанчына, – мяне заліваюць, давайце рабіце што-небудзь, а то пра піва толькі і думаеце.

Звычайна ў такім выпадку сантэхнік ведаў, як супакоіць разгневаных гаспадароў. Дастаткова было зайсці ў прыбіральню і паглядзець на

лічыльнікі вады, да якіх прымацаваныя магніты[1], каб уся скандальнасць вокамгненна зляцела, а замест яе з’явілася ліслівае залагоджванне.

За ягоную 15-гадовую кар’еру гэты выпадак стаўся такім незвычайным і невытлумачальным, што Кадолка нават не адказаў на хамства старой. Аднойчы, па праўдзе, у яго быў выклік, калі ў лазенцы з шампанскім здарыўся забруд ружовымі пялёсткамі. Толькі, па-першае, гэта было даўно, а, па-другое, там былі не толькі пялёсткі. А тут сапраўднае піва, ды яшчэ са столі. Ён нават пакаштаваў яго і мог цяпер паклясціся, што гэта звычайнае цёмнае нефільтраванае.

– Трэба даведацца ў суседзяў зверху, ці не яны залiваюць, – толькі і здолеў прамовіць Кадолка, выходзячы на лесвічную пляцоўку.

Гаспадыня ўслед яму яшчэ нешта пакрыквала пра УЖГ, пра “неадкладна выправіць” і пра “буду скардзіцца”, а ён у задуменні падымаўся на паверх вышэй. Яму ўжо было гарачавата.

Кадолка націснуў на дзвярны званок і стаў чакаць. Ніхто не адчыняў. Тады ён націснуў яшчэ раз і патрымаў кнопку даўжэй. Той жа вынік.

“Нікога няма”, – зразумеў сантэхнік і пачаў уздымацца на яшчэ адзін паверх вышэй. Тут ужо гаспадар быў дома і адразу адчыніў. Перад сантэхнікам стаяў спартовага выгляду хлопец з гладка прычасанымі валасамі, а з кватэры гучна неслася тэхна-музыка, пад якую, відаць, добра адціскацца ці займацца на трэнажоры.

– Чё нада? – ветліва прывітаў ён супрацоўніка камунальнай службы.

– Суседзяў заліваеце, – гэтак жа нахабна адказаў Кадолка.

– Я? – зніякавеў хлопец і пабег кудысьці ўглыб кватэры.

Не чакаючы запрашэння, сантэхнік зайшоў у кватэру ўслед за хлопцам. Не прайшло і хвіліны, як той выбег у вітальню з выразам палёгкі на твары.

– Гэта не я, – амаль радасна прамовіў ён.

– Доступ у прыбіральню, у лазенку і ў кухню, – загадаў Кадолка.

– Калі ласка, – запрасіў гаспадар, – праходзьце.

Лазенка і прыбіральня былі такімі, якія прынята рабіць у прадстаўнікоў класу: стылёва, эканомна і безаблічна. Аніякіх прыкметаў таго, што адсюль магло быць заліццё, не заўважалася. Усё чыста і ў працоўным стане. У кухні таксама не было ніякіх слядоў піўнога вадаспаду. Маленькая і нават празмерна ахайненькая кухня з акуратна састаўленымі да абеду баначкамі з пратэінам.

Кадолка, зрабіўшыся панурым і змрочным, пацягнуўся да суседзяў двума паверхамі ніжэй.

Там яго чакала сустрэча з дамай сярэдняга веку, якая трымала на адной руцэ дзіцё гадоў трох, а ў другой – плойку для накручвання валасоў. З-за жанчыны вызірнулі яшчэ двое крыху старэйшых дзяцей. Паўсюль у кватэры былі раскіданыя дзіцячыя цацкі, у лазенцы валяліся рушнікі, бялізна, з прыбіральні з жахам выскачыла напалоханая котка, а ў кухні стаяў пах падгарэлай кашы.

– Ніякіх праблемаў з каналізацыяй, значыцца, не маеце? – запытаўся Кадолка. – Суседзі не заліваюць, са столі нічога не цячэ?

Жанчына пакруціла галавой на знак адказу і пабегла на гук дзіцячага плачу ў суседні пакой.

Кадолка яшчэ раз агледзеў столь і выйшаў з кватэры.

---

[1] Народны хітрык, прыдуманы дзеля таго, каб магніт перашкаджаў працы лічыльнікаў і заніжаў колькасныя значэнні насамрэч выдаткаванай вады.

* * *

– Шакаладачку для прыгажуні, – з усім артыстызмам, на які быў здатны, зрабіў прэзент Хадакоў.

Жана Іосіфаўна, хаця яшчэ й не перастала злавацца на сантэхніка, разумела, што яго не выправіш, а гэтага заганнага падыходу не зменіш, толькі калі пасварышся, дык потым ні на тэрміновую заяўку яго не дапросішся, ні шакаладкі не пабачыш. Да ўсяго, што ні кажы, а шакаладку атрымаць ёй было прыемна. Таму чарговым разам яна вырашыла заплюшчыць вочы на гэтыя махінацыі і, палагаднеўшы, схавала прэзент ў сваю торбачку. І толькі Хадакоў наважыўся запытацца пра запрашэнне на святочны вечар, намагаючыся зрабіць гэта інтэлігентна, нават прагаварыўшы сам сабе ўжо: "Ты адна, і я адзін, чаму б нам не злучыць нашыя дзве самоты дый не схадзіць на другі паверх на карпаратыў у гэтую суботу", як на дыспетчарскую вельмі ціха зайшла старэнькая жанчына ў палінялым футры і ў пуховай хустцы. Твар у яе быў увесь у зморшчынах, добры ды сціплы. Яна, відавочна, прыйшла ці то з просьбай, ці то з пытаннем і, спыніўшыся на ўваходзе, цярпліва чакала, калі можна будзе звярнуцца да дыспетчаркі.

Хадакоў здзівіўся, як яна наогул дайшла да ЖЭСу ў вечаровы час, па лёдзе на ўсіх падыходах да гэтага бастыёну камунальнай службы. Падыходы хаця й пасыпаліся пяском са шчодрай рукі дворніка, але ўвечары ўсё адно ператвараліся ў каток.

– Вам дапамагчы? – галантна звярнуўся сантэхнік да яе з разлікам, што й дыспетчарка ацэніць ягоныя манеры, а калі справа вырашыцца хутка, дык ён па гарачых слядах свайго джэнтльменства з высокай верагоднасцю даб'ецца згоды на запрашэнне.

– Калі ласка, – вельмі культурна пагадзілася жанчына, – я прыйшла да сына. Вы, пэўна, ведаеце, бо ён тут працуе. Ягонае прозвішча Кадолка.

І ў дыспетчаркі, і ў сантэхніка акругліліся вочы: "Дык гэта маці Кадолкі? Чаму яна шукае яго на працы?"

– Вядома, вядома, – у адзін голас прамовілі яны і паглядзелі адно на аднаго.

– Так, – сказала Жана Іосіфаўна, – ён акурат зараз павінен прыйсці, каб даць справаздачу па заяўцы.

– Дык я, можа, яму патэлефаную? – прапанаваў Хадакоў.

– Не, не, – запратэставала жанчына, – калі ласка, не тэлефануйце. Мне яго трэба менавіта сустрэць, бо сёння ў нас важны вечар, мы запрасілі гасцей, а Леанід, ведаеце, павінен быць у форме. То я пачакаю яго тут у вас?

Сантэхнік паглядзеў на дыспетчарку, а тая з разуменнем захітала галавой.

Хадакоў з сумам падумаў, што з запрашэннем не складаецца, ён адчуў, што яму задушна ў спецадзенні, што спіна ў яго ўзмакрэла, яму стала нудна, але ён яшчэ раздумваў і перамінаўся з нагі на нагу.

Жана Іосіфаўна вырашыла выйсці ў шчытавую за дзвярыма, каб уключыць ліхтар на брыльку ля ўвахода. У шчытавой таксама былі выключальнікі да двух ліхтароў, што месціліся на сцяжыне, якая вяла да ЖЭСу, а святло па ўсім раёне ўключалася ў ліфцёрнай, кабінеты якой знаходзіліся далей па калідоры.

Дыспетчарка сябравала з ліфцёркай: тая часта распавядала пра сваіх дзяцей – асабліва Жана Іосіфаўна была ўражана самым першым расповедам ліфцёркі, з якога й пачалося іхняе знаёмства.

Гэта было так: на трэці дзень працы Жаны Іосіфаўны ў гэтым ЖЭСе, а яна перавялася з іншага ЖЭСу, бо гэты быў бліжэйшы да дому, да таго ж у папярэднім змяніўся дырэктар на новага, такога пільнага ды з'едлівага ў параўнанні з трыма, што былі да яго і змянялі адзін аднаго цягам трох гадоў, пачынаючы з самага ціхага, які абсталяваў патаемны пакой у кабінеце і не моцна злоўжываў падчас цяжкай дырэктарскай працы, і сканчаючы прагрэсіўным маладзёнам, які асвойтваў гульні на планшэце і, калі наведнікі са скаргамі адцягвалі яго ад праходжання новага ўзроўню, вельмі жорстка і хутка распраўляўся з імі, накіроўваючы да вышэйшых інстанцыяў.

Апошні ж не даваў Жане Іосіфаўне праходу: адсочваў час прыходу на працу і сыходу, патрабаваў дэталёвых справаздачаў, ставіў пад сумнеў ейную кампетэнтнасць, і праз месяц такіх нечалавечых антаганізмаў дыспетчарка гатовая была бегчы значна далей за любы ЖЭС, як неўзабаве ёй прапанавалі вакантнае месца тут.

Дык вось, на трэці дзень ліфцёрка, уварваўшыся ў дыспетчарскую, з ганку заявіла:

– Якая свалата!

Дыспетчарка аслупянела. Потым чамусьці паглядзела вакол сябе, не ў змозе даць веры, што зварот прызначаецца ёй.

Ліфцёрка падбегла да чайніка, наліла сабе вады ў кубак і, хутка сербануўшы, паўтарыла:

– Свалата!

– А што такое здарылася? – асцярожна пацікавілася дыспетчарка.

– Ой, не пытайся, – са стогнам адмахнулася ліфцёрка, але адразу ж пачала дзяліцца сваёй гісторыяй, з якой вынікала, што паўгода таму яна неверагоднымі матэрыяльнымі і маральнымі намаганнямі выдала сваю дачку замуж, узяўшы пад гэтую радасную падзею крэдыт. Таксама высветлілася, што былі запрошаныя ўсе блізкія і далёкія сваякі, набытая выдатная сукенка са стразамі, замоўленая кавярня з тамадой і ўсемагчымымі закускамі, маладым у падарунак прыдбалі буйную ды дробную тэхніку, а на днях паважаны зяць гэтай жанчыны знік, пакінуўшы дарагой цешчы і жонцы пустую кватэру.

З гэтага расповеду й пачалося сяброўства ліфцёркі з дыспетчаркай.

Цяпер Жана Іосіфаўна заўважыла сяброўку каля ліфцёрнай:

– Сёння за вечар пяць выклікаў па ліфтах, – пракрычала тая.

Пяць выклікаў за вечар – гэта шмат. Рэдка калі ў ліфцёраў выдаецца такі дзень, калі са слухаўкі не крычыць панічны голас: "Я застраў у ліфце!", але пяць няспраўнасцяў за вечар для аднаго майстра, якога складана ўвечары знайсці – гэта гарант доўгахвілінnай псіхалагічнай дапамогі. Таму Жана Іосіфаўна ледзь пабачыла сяброўку здалёк і, пераключыўшы рэле, пайшла ў дыспетчарскую, як з галоўнага ўвахода, упусціўшы марознае воблака, паказаўся Кадолка.

– О, – усміхнулася дыспетчарка.

– Я таксама цябе рады бачыць, – пахмурна адгукнуўся Кадолка.

Ён вырашыў зайсці ў дыспетчарскую, бо быў дзяжурным сантэхнікам і мусіў паказацца на вечаровай планёрцы, каб не мець праблемаў з кіраўніцтвам, а апошнія дзве гадзіны працоўнага дня ў яго ўжо былі распісаныя на сустрэчу з сябрам з суседняга дома, які прывёз з вілейскай

рыбалкі пятнаццаць кілаграмаў выдатных шчупакоў і, вядома, набыў да іх добрае суправаджэнне.

– Зайдзі ў дыспетчарскую, – запрасіла Жана Іосіфаўна. – Цябе тут чакаюць.

– Хто там мяне чакае? – падазрона запытаўся сантэхнік.

– Пабачыш, – паабяцала Жана.

Старая, седзячы ў крэсле ў дыспетчарскай, радасна ажывілася, пабачыўшы сына.

Кадолка, які ўжо пераступіў парог, у сваю чаргу пабачыўшы маці, ані слова не кажучы, зрабіў амаль акрабатычны разварот ад дзвярэй.

Старая адразу падхапілася надзіва жвава і кінулася напярэймы, перагароджваючы сваім драўляным кіёчкам выйсце.

– Мама, чакай мяне, я зараз, – не даючы ёй ніводнай хвіліны, каб апамятацца, паабяцаў Кадолка і хутка пабег па калідоры да другога выхаду з ЖЭСу.

Дыспетчарка назірала праз вакно, як ён не бег, а літаральна ляцеў па лёдзе, і ягоная чорная постаць на белым снезе, аддаляючыся ад ЖЭСу, рабілася ўсё меншай і меншай.

Яна паглядзела на старую, што стаяла каля дзвярэй – сівыя валасы выбіліся з-пад хусткі, кій пастукваў па падлозе, а вочы разгублена аглядалі пусты калідор.

* * *

– Можна цябе правесці дахаты? – прагучала над самым вухам у дыспетчаркі ўжо на выхадзе з ЖЭСу.

Яна нават спалохалася нечакана рэзкага голасу Вярбіцкага.

– Ды не бойся, – зарагатаў ён. – Марак дзіцё не пакрыўдзіць.

З гэтымі словамі ён падхапіў ейныя клункі.

– Нічога сабе, якія цяжкія! Ты што, з ЖЭСу будаўнічыя матэрыялы цягаеш? – няўклюдна пажартаваў сантэхнік.

Жана Іосіфаўна пачырванела, бо ў адным з клункаў яна насамрэч цягнула падараваную ўдзень Парэпкай бляшанку з фарбай.

– Памятаеш, у цябе нейкі жыхар цікавіўся пра драўляныя лаўкі? – запытаўся Вярбіцкі. – Ну, тыя, што стаялі на першым паверсе, тыпу як рэклама ЖЭСаўскай вытворчасці?

– А-а, гэтыя! – прыгадала Жана Іосіфаўна. – Ну, так, памятаю.

– Дык наш Нукзар сёння ўжо прадаў іх! Вось дырэктар, усё прадасць! Вось як працаваць трэба!

Далей яны йшлі моўчкі: Вярбіцкі відавочна хваляваўся, не ведаючы, як падтрымаць размову, дыспетчарка стомлена думала, навошта ён выклікаўся яе праводзіць.

Сыпаў лёгкі срэбны снег, ён казачна кружляў у святле ліхтароў, асыпаючыся долу і чароўна расквечваючы ўсё навокал.

Асабліва ўражваў зацярушаны снегам высокі велічны лес, ля якога прытуліўся шэраг дамоў тыповага менскага спальніка.

Дыспетчарка спынілася на павароце да дома:

– Дзякуй, далей не праводзь мяне.

Сантэхнік паглядзеў на яе ў гэтым бляску ліхтароў, у снежным суквецці, што атачыла футравую апуху яе капюшона:

– Да заўтра, – ніякавата, ледзь чутна сказаў ён і, аддаўшы клункі, павольна і з неахвотай, так, што ягоная двухметровая постаць з апушчанымі плячыма зрабілася нейкай няшчаснай і худой, пацягнуўся ў іншы бок.

А снег кружляў і кружляў, складваючыся ў карункі, у гурбы, абяцаючы свята, Новы год, ялінку і мандарыны.

* * *

Жана Іосіфаўна адамкнула ключамі дзверы і зайшла ў кватэру.

Насустрач ёй выбегла котка, нейкая ўскудлачаная і пакрыўджаная. Папраўдзе кажучы, у коткі амаль заўсёды быў такі выгляд. Да ўсяго, цяпер яна была і спалоханая, з чаго вынікала, што яна ўжо нарабіла шкоды.

– Што, нарабіла ўжо? – строга запыталася жанчына.

Котка нервова аблізнулася і задрыжэла.

– Дзе нарабіла, гадзіна? Па пысе тваёй паганай бачу, што зноў ужо папсавала ламінат, – кідала вымовы гаспадыня.

Ведаючы, што вось-вось з'явіцца пакаранне ў выглядзе дзеркача, якім яе пачнуць ганяць па ўсёй кватэры, каб адлупцаваць, котка кінулася наўцёкі ў залу, адкуль даносіўся гучны храп гаспадара.

Жана Іосіфаўна, яшчэ не паспеўшы распрануцца, зрабіла крок у цемру пакоя і ўдыхнула прасякнутае выразным кашэчым пахам паветра, змяшанае з водарам рознакаляровых напояў, якія за дзень наўжываў ейны муж.

– Ах ты свіння, – з раздражненнем кінула жанчына ў залу, прычым так і не было зразумела, каму гэта адрасавалася.

У адказ храп на імгненне суцішыўся, вусны неразборліва прашамацелі нешта падобнае да "сама такая", і праз кароткую паўзу храп аднавіўся, набраўшы яшчэ больш моцы.

Жана Іосіфаўна расзлавана скінула вопратку ў вітальні і зазірнула ў пакой да сына. Той сядзеў у навушніках і нават не чуў, як яна ўвайшла. Ягоныя рукі напружана бегалі па клавіятуры, а на маніторы мітусіліся монстры з кампутарнай гульні. Вакол на стале былі раскіданы абгорткі ад цукерак, расцярушаныя кавалкі чыпсаў, пачкі з-пад танных локшынаў хуткага прыгатавання, брудная яшчэ з вячэры талерка, пустая пластыкавая бутэлька з-пад колы, а побач грувасціўся стос падручнікаў. На падлозе адразу за заплечнікам валяліся джынсы, кашуля, футбольны мяч, шкарпэткі і чамусьці сшытак па матэматыцы.

– Вадзім, – паклікала Жана Іосіфаўна сына. – Што ў цябе тут робіцца?

У адказ падлетак паківаў галавой, маўляў, і табе прывітанне.

Жана Іосіфаўна падышла да яго і рэзка сцягнула навушнікі.

– Што ты робіш? – закрычаў хлопец.

– Як ты размаўляеш? – нечакана нават для сябе ў адказ таксама закрычала яна.

– Чаго ты крычыш? – раптам сцяўся хлопец і на секунду адарваўся ад гульні.

Жана Іосіфаўна, якая ўжо пачала з выбуховай ноты, не здолела адразу ўзяць сябе ў рукі і працягвала крычаць:

– Усё раскіданае, посуд не памыты! Ты зрабіў урокі?

– Зараз буду рабіць, – ужо са звыклай інтанацыяй паабяцаў той.

– Калі зараз, калі зараз? – працягвала раз'ятрывацца жанчына. – Неадкладна выключай кампутар і рабі ўрокі!

– У мяне наогул вакацыі! – абураўся малы.

– Чаго вы равеце? – пахістваючыся ў дзвярным праёме, умяшаўся бацька, абуджаны экспрэсіўнымі гукамі выхаваўчага працэсу.

– Ты не лезь, – пагардліва скрывіўшы вусны, скамандавала Жана Іосіфаўна мужу. – Яшчэ адзін. Алкаш!

– Штооо? – той адразу завёўся, як рухавік спорткара. – Што ты сказала?

Хаця хада ягоная была яшчэ няпэўная, але імгненная раз’юшанасць надала ёй цвёрдасці. Ён апынуўся побач з жонкай і навіс над ёй пагрозлівай гарой.

– Хто алкаш? – прарычэў ён над самым вухам.

– Чаму ты бегаеш? – абараняючыся наступам, адказвала тая. – Заўтра Новы год, а ты ўжо сёння адзначаеш. Была б нагода! Мне яшчэ, між іншым, заўтра на працу. Ты ж адпачываць будзеш!

Прыемнасць усведамлення, што заўтра ён сапраўды можа адпачываць з самай раніцы, адразу скінула ступень мужавай раз’юшанасці, і ўжо лагодна ён прамармытаў штосьці пра тое, што не выпіў, а проста стаміўся.

Жана Іосіфаўна пакіравала ў кухню, дзе ў чарупіне ўзвышалася вежа з посуду, а ў куце на падлозе блішчэлі сляды кацінага злачынства.

Яна моўчкі распакавала клункі з прадуктамі і пачала прыбіраць у кухні.

За вакном падаў снег і ўсё хутчэй набліжаўся Новы год.

* * *

З раніцы ў ЖЭСе Жану Іосіфаўну чакаў самы сапраўдны вэрхал: яна яшчэ не паспела зайсці ў кабінет, а ўжо чула, як несупынна звоніць тэлефон.

Шматлікія жыхары раёна з зайздроснай, амаль фанатычнай упартасцю набіралі нумар дыспетчарскай, бо трыццаць першага снежня, калі ўсе з жарсным імпэтам кінуліся прыбіраць, гатаваць і рыхтавацца да святкавання, ім немінуча рабіўся патрэбным электрык ці сантэхнік, даведачная інфармацыя, а часам і проста нагода кагосьці павіншаваць ды са смакам вымавіць такое абнадзейвальнае, такое кранальнае і прастадушнае: “З празьнічкам!”

Як толькі Жана Іосіфаўна зняла слухаўку, яна пачула ў ёй ужо знаёмы віскліва голас:

– Нас залiваюць!

– У якой частцы кватэры? – дзяжурна пацікавілася дыспетчарка.

– Ды вы што? – зароў са слухаўкі голас. – Здзекуецеся? Я ж учора вам тэлефанавала і ўсё казала.

Жана Іосіфаўна больш за ўсё баялася гэтага званка: учора, выправіўшы па заяўцы сантэхніка Кадолку, яна мусіла дачакацца ягонага вердыкту па праблеме і альбо закрыць заяўку, калі атрымалася выправіць няспраўнасць, альбо выклікаць аварыйную службу і чакаць іхняй справаздачы.

Адзінае, што зрабіў сантэхнік у той перадсвяточны дзень: перакрыў стаяк. Гэта нібыта часова дапамагло, і цяпер хочаш – не хочаш, але трэба было вырашаць праблему, бо са слухаўкі зноў пачалі несціся пагрозы “патэлефаную вышэй”, “знайду на вас управу”, “буду пісаць і скардзіцца”.

З самай лагоднай інтанацыяй, на якую яна была здатная, дыспетчарка паабяцала, што пастараецца дапамагчы, але ёй нават не давялося прасіць сантэхніка.

Кадолка патэлефанаваў ёй сам і бадзёрым голасам паведаміў, што адзін не дасць рады.

– Можа, трэба перанакіраваць гэты выклік да аварыйнай службы ды не мецць клопату? – прапанавала Жана Іосіфаўна, якая па ўжо багатым досведзе ведала, што ўсё адно ў такіх выпадках справа сканчалася аварыйнай брыгадай.

Яна, каб не адцягваць гэты момант і не адказваць на ўжо сотню тэлефанаванняў з зыходным зместам, дбала пра тое, каб хутчэй вызваліцца і з чыстым сумленнем рушыць на калектыўнае святкаванне Новага года, настрой якога ўжо шамацеў у паветры начасанымі валасамі жанчынаў пашпартнага аддзела і падцягнутай жвавасцю ўсіх калегаў-мужчынаў.

– Усё ж паспрабуем, – цвёрда настойваў Кадолка. – Толькі я разам з Хадаковым пайду, ён усё ж больш дасведчаны.

– З Хадаковым? – недаверліва перапыталася Жана Іосіфаўна, бо ведала, што калі складаўся гэты тандэм, то праца зрывалася, а абодва сантэхнікі выключаліся разам са сваімі тэлефоннымі нумарамі.

У гэты момант у дыспетчарскай з'явілася загадчыца пакоя ветэранаў, які быў прымацаваны да памяшкання ЖЭСу і ў якім вечна хтосьці атабарваўся – ці то ўвесь час раздрукоўваў бясконцыя пастановы, загады, інструкцыі і правілы, ці то праводзіў пленарныя паседжанні, на якія набівалася цэлая процьма народу, ці то проста нехта сядзеў.

Выпадалі рэдкія дні, калі дзверы ў пакой ветэранаў былі зачыненыя, і тады ключы ад яго пакідалі ў дыспетчарскай.

Зараз акурат быў такі дзень, і загадчыца прыйшла па ключы, каб адамкнуць пакой і падрыхтавацца да святкавання.

Яна была ўжо прыбраная – апранула сваю высокую шапку з норкі і падвыцвілае ад часу, але калісьці раскошнае футра. З-пад паўрасшпіленага футра быў відаць напрасаваны каўнер шаўковай кашулі і жамчужныя каралі, а за кудзерамі валасоў – такія ж завушніцы. Прыпудраны твар выглядаў крыху ўсхваляваным, вочы, акуратна падфарбаваныя, гарэлі імпэтам – яна ўсміхалася і чакала, што зараз адчыніць пакой ды пачне рыхтавацца да прыходу сяброў і паплечнікаў.

– Зараз, Сцепаніда Ільінічна, – кіўнула дыспетчарка і машынальна пацягнулася да вялікага стэнда, дзе знаходзілася велізарная калекцыя ключоў ад чаго заўгодна – падвалаў, дахаў, кабінетаў.

Скарыстаўшыся тым, што ейная ўвага рассяродзілася, сантэхнік хутка развітаўся, а Жана Іосіфаўна, не гледзячы, цягнулася рукой да ключоў ад пакоя ветэранаў, бо ўжо на памяць ведала, дзе і ад чаго знаходзяцца пэўныя ключы.

Яна вельмі здзівілася, не намацаўшы іх на звыклым месцы. Дыспетчарка адразу зірнула на стэнд і ўжо ўвачавідкі пераканалася, што ключоў не было.

– Мабыць, нехта ўжо там ёсць? – збянтэжана прамовіла яна і зірнула ў працоўны рэгістр, куды запісваліся ўсе працэдуры з ключамі: хто, а якой гадзіне ўзяў іх і вярнуў. Рэгістр падказваў, што тыя ключы вярталі, але больш не бралі.

Здаралася, што сваім супрацоўнікам яны выдаваліся без рэгістрацыі, і варта было праверыць, ці не скарыстаўся хтосьці занятасцю дыспетчаркі і не ўзяў іх, каб раздрукаваць патрэбныя паперы.

Гэтая версія правалілася, бо пакой быў зачынены і, падобна на тое, што там нікога няма, а ключоў не было.

Усмешка спаўзла з твару Сцепаніды Ільінічны.

– Дзе ж ключы? – абурана спыталася яна, гледзячы на Жану Іосіфаўну.

Той не было што адказаць, і яна пачала рабіць вобшук на стэндзе, спадзеючыся, што хтосьці проста пераблытаў і цяпер ключы ад пакоя ветэранаў вісяць на месцы ключоў ад падвала, дзе правяралі трубы ацяплення.

Гэтая здагадка таксама не пацвердзілася. Услед за ўсмешкай са Сцепаніды Ільінічны пачаў спаўзаць святочны макіяж, ёй было ніякавата ў футры і ў шапцы, яна пачала раздражняцца і гучна ўздыхаць.

Жана Іосіфаўна ад безвыходнасці, пад навіслай, як раздзьмутае пагрозлівае воблака футра, загадчыцай пакоя, вымушаная была паклікаць на дапамогу сантэхніка Вярбіцкага:

– Ігар, відаць, трэба ўзламаць дзверы ў пакой ветэранаў, бо зніклі ключы і ніхто не можа туды трапіць, – з прыкрасцю патлумачыла яна свой званок.

– Ды не трэба нічога ўзламваць, – адказаў Вярбіцкі. – Там Макарэвіч спіць, зараз я ўсё вырашу.

Супакойваючы разззлаваную Сцепаніду Ільінічну з паўгадзіны, пакуль дабудзіліся электрыка Макарэвіча, страшна незадаволенага тым, што яго выганяюць з пакоя, дыспетчарка праслухала лекцыю пра карысць зёлкавай гарбаты, пра планы па агароднай расадзе на вясну і некаторыя сакрэты чальцоў арганізацыі ветэранаў.

Развітаўшыся са Сцепанідай Ільінічнай у выдатных, амаль сяброўскіх стасунках, Жана Іосіфаўна як найхутчэй набрала нумар Кадолкі, каб забараніць яму супольны паход з Хадаковым, і пачула ў слухаўцы: “Абанент часова недасяжны”.

– Кадолка! – закрычала яна механічнаму голасу ў слухаўцы.

Тым часам на другі паверх два электрыкі панеслі скрыню шампанскага, і Парэпка, суправаджаючы іх, тлумачыла, што абавязкова трэба набыць мандарыны, ікру і вяндліну для канапак.

Зіхцелі гірлянды, і маленькая, сціпла ўпрыгожаная ялінка ў дыспетчарскай нагадвала, што ўжо ляціць, спяшаецца разам са снегам, музыкай, келіхамі і курантамі Новы год.

Дыспетчарка разважала, як ёй цяпер знайсці часова недасяжных сантэхнікаў і што рабіць, калі зноў патэлефануюць з той жа кватэры і з той жа праблемай, якая падавалася ёй неверагоднай і дзіўнаватай. Ну няўжо сапраўды там са столі можа ліцца піва?

Розныя людзі трапляліся і часам тэлефанавалі ў ЖЭС.

Жана Іосіфаўна прыгадала, як інтэлігентнага выгляду жанчына аднойчы завітала да яе ў дыспетчарскую і з гадзіну скардзілася на недастатковае асвятленне каля пад’езда, потым на стан прыдамавых дарог у раёне, потым на нядбайных кіроўцаў аўтамабіляў, якія паркуюцца абы-дзе, на суседзяў, якія падслухоўваюць, і ўрэшце на супрацоўнікаў ЖЭСу і саму Жану Іосіфаўну, якой, на думку жанчыны, “іншапланетнікі ўжо прасвяцілі галаву”.

Ці той выпадак, калі сантэхнік прыйшоў да жыхара па заяўцы і зразумеў, што не дасць рады і няспраўнасць не выправіць на месцы, а жыхар зачыніў яго ў кватэры і паабяцаў не выпусціць, пакуль той тут і цяпер не адрамантуе ўсё, як трэба.

Ці выпадак падчас рамонту, калі працаўнікі вымушаныя былі зачыніць цэнтральны ўваход у ЖЭС, а адна жанчына, вельмі танклявая і кволая

з выгляду, абурылася тым, што дзверы ў ЖЭС зачыненыя ў працоўны час, і ўзламала іх.

Безумоўна, былі жыхары, якіх у ЖЭСе ўсе ведалі і з разуменнем хіталі галовамі, калі тыя давалі заяўкі.

Без сумневаў, Жана Іосіфаўна часта гатовая была ў размове пагадзіцца з сантэхнікамі і электрыкамі з іх скептычным стаўленнем да часткі жыхароў, але пра сябе, у думках, яна ўсё ж з разуменнем і ўвагай ставілася да кожнага і, апроч таго, што мусіла прымаць адпаведныя статуту захады ў кожным выпадку, старалася па-чалавечы ставіцца да ўсіх. Але піва са столі? Хіба ж так бывае?

* * *

Кадолка і Хадакоў разам рушылі па адзначаным адрасе. У іншы час яны б проста завіталі ў бытоўку да Хадакова і праседзелі там пару гадзінаў.

Хадакоў збегаў бы ў некалькі кватэраў, прыстойным гаспадарам якіх ён пакідаў свой асабісты, а не працоўны нумар, і папрасіў звяртацца наступным разам да яго наўпрост, каб берагчы свае і ягоныя грошы, час і добрыя стасункі з сантэхнікам.

Гэта значыць, Хадакоў выканаў бы некалькі халтураў, а рэшту дня з Кадолкам яны паразмаўлялі б пра жыццё, пажартавалі ды добра б правялі час.

У святочны ж дзень яны мусілі трымацца і ашчадна выдаткоўваць сілы, бо іх чакаў доўгі вечар: агульнае святкаванне ў ЖЭСе, а пасля – сямейная вячэра, дзе ў гэты дзень года можна абсалютна легальна разнявольвацца без скандалаў і абвінавачванняў з боку жонак.

Хадакоў прапанаваў адключыць тэлефон, каб дыспетчарка не прымусіла іх бегаць па лішніх заяўках, і Кадолка паслухаўся, але ён паважаў Жану Іосіфаўну і нават любіў, таму, нягледзячы на сваю безадказнасць, вырашыў праз час тэлефон усё ж уключыць, патлумачыўшы тым, што ў ім села батарэя. А Хадакоў, наадварот, прагнуў адпомсціць за перарваную спробу запрасіць дыспетчарку на святкаванне Новага года і падбухторваў Кадолку на непатрэбшчыну. Таму й выклікаўся пайсці разам, хаця, канечне, і расповед пра піва спакушаў яго на ўласныя вочы пераканацца ў праўдзівасці гэтай гісторыі.

Так яны дацягнуліся да кватэры, і Кадолка націснуў на званок.

Раздражнёная жанчына адразу расчыніла дзверы і нецярпліва замітусілася ў вітальні:

– Ну колькі можна вас чакаць? Што гэта такое?

– Зараз усё зробім, – паабяцалі ў адзін голас Хадакоў і Кадолка і пакіравалі ў кухню.

Жанчына пабегла за імі, адначасова ўзрушаная і расхваляваная.

Памятаючы пра ўчарашнюю пагрозу Кадолкі наконт магнітаў на лічыльніках вады, яна не наважвалася пакрыкваць на сантэхнікаў, да таго ж вельмі спадзявалася, што ў іх атрымаецца адолець гэтую цалкам недарэчную сітуацыю.

Гэта ж трэба, з хвіліны на хвіліну да яе завітаюць дзеці, унукі, а ў яе такі гармідар у кухні. У кухні, якую яна лічыла сэрцам сваёй гаспадаркі, узорам для сяброўак і месцам свайго самасцвярджэння. Недарма ж усім так падабаліся ейныя закаткі – агуркі, памідоры, леча, аджыка, кампоты... А пірагі, а супы, а салаты!

Праз гэты вэрхал у кухні і сама яна пачувалася непаўнавартасна і разгублена.

Сантэхнікі таксама пачуваліся разгублена. Асабліва Хадакоў, які даваў веры ў гісторыю Кадолкі толькі напалову.

Цяпер Хадакоў задуменна чухаў патыліцу.

– Ты ж перакрыў стаяк? – невядома навошта спытаўся ён у Кадолкі, хаця і так ведаў, што перакрыў.

Кадолка неяк здзіўлена паглядзеў на паплечніка і, не адказаўшы, зноў пачаў разглядаць сцяну.

Чым больш глядзеў, тым больш яна гіпнатызавала яго.

– Мы ж зараз зусім без вады, – паскрадзілася гаспадыня. – Ужо і ў аварыйную службу тэлефанавалі, але яны кажуць, вельмі шмат званкоў, трэба чакаць.

Яна ўздыхнула.

На сцяне яшчэ былі відаць вільготныя пісягі, але вадкасць не струменіла.

– Можа, паспрабаваць адкрыць? – прапанаваў Хадакоў.

– Можна, – пагадзіўся Кадолка.

Была невялікая верагоднасць, што ўсё прыйшло да ладу.

– А ў суседзяў вышэй усё ў парадку?

– І зверху, і знізу ў парадку, але ў кватэру, якая над гэтай, учора я не трапіў, – адказаў Кадолка.

– Ну, альбо правяраць, альбо адкрываць, – канстатаваў Хадакоў.

– Трэба, відаць, праверыць, для ачышчэння, так бы мовіць, сумлення. Дый калі ліне зноў? – завагаўся Кадолка.

– Ну, хадзем паглядзім, – не вельмі ахвотна пагадзіўся напарнік.

– Куды вы? – спалохалася гаспадыня.

Прысутнасць сантэхнікаў супакойвала яе, і цяпер яна вельмі баялася, што яны сыдуць, а яна так і застанецца з гэтымі пісягамі на столі і сцяне, адсутнасцю вады і поўнай невядомасцю таго, што трэба рабіць далей. А дзеці і ўнукі вось-вось павінны прыехаць. І як ёй іх сустракаць?

– Да суседа, – спакойна патлумачыў Кадолка. – Трэба высветліць, ці не ён шчодра адорвае вас гэтай амброзіяй.

Цяпер ужо дзве постаці ўздымаліся на паверх вышэй.

Кадолка зноў націснуў кнопку званка.

У адказ – ані руху, ані гуку.

– З'ехалі, відаць. Нікога няма, – заключыў Кадолка.

– Дай мне цяпер, – сказаў Хадакоў і надоўга заціснуў кнопку званка. Потым яшчэ і яшчэ. Рэзкі гук было чуваць па той бок дзвярэй. Навязлівы, нудны, пераканаўчы і раздражняючы. Урэшце за дзвярыма пачулася незадаволенае варушэнне, яны расчыніліся і мажны дзядзька ў адной цяльняшцы, няголены і ўскудлачаны выгукнуў басам у дзвярны праём:

– Ну што такооэээ?

– Суседзяў заліваеце, – проста ў твар адказаў Хадакоў.

– Да ладна, залліваю, – махнуў рукой дзядзька. – Я ўжо заліўся, – пажартаваў ён і зарагатаў, але тут жа перапыніўся і сур'ёзна дадаў: – Але крыху. Да дванаццаці трэба датрымацца.

І зарагатаў зноў.

– А вы, хлопцы, чаго? Не святкуеце яшчэ, га?

Хадакову стала прыкра, што ён, замест таго, каб ужо пачаць адзначаць, вымушаны бегаць па пад'ездзе і працаваць, таму ён злосна сказаў:

– Нам трэба даведацца, адкуль цячэ, дайце нам доступ у лазенку і на кухню.

– Ды калі ласка! – запрасіў дзядзька.

Ён быў у гуморы і вельмі стараўся падзяліцца сваім настроем.

Сантэхнікі зазірнулі ў лазенку, і, хаця там было ўсё раскідана, аніякіх слядоў заліцця яны не заўважылі.

Яны зайшлі ў кухню, і Кадолка аслупянеў.

Проста са столі па сцяне цягнуліся роўна такія ж пляміны, што й у кватэры ніжэй.

– Дык вас жа самога заліваюць! – павярнуўся да гаспадара Кадолка. – Вы давалі заяўку ў ЖЭС?

– А навошта? – весела адказаў дзядзька. – На жаль, хлопцы, сёння не заліваюць. Усё, перакрылі кранцік. Але ж я паспеў, хлопцы.

І ён з гонарам паказаў на шэраг пластыкавых бутэлек на стале, дзе цямнела пеністая вадкасць.

Хадакоў і Кадолка пераглянуліся.

– А што ў бутэльках? – пацікавіўся Хадакоў.

– Піва, – шапнуў гаспадар. – Хлопцы, сапраўднае цёмнае піва. Я ўжо дзве бутэлечкі прыгаварыў.

І ён падміргнуў Хадакову.

– Як хочаце, магу і вам прэзэнтаваць. Закусачка ёсць! – ён паказаў на стол, дзе на талерцы ляжала некалькі маласольных агуркоў, нарэзаныя кавалкі сервелату і хлеб.

– Зараз вернемся, – паабяцалі сантэхнікі і выйшлі за дзверы.

– Ну, што будзем рабіць? – спытаўся Кадолка.

– А наверсе хто? Адтуль, відаць, заліваюць?

– Ды не, я ўчора быў там, усё ў парадку.

– Дзівосы, – пацiснуў плячыма Хадакоў. – Ну давай адчыняць, паглядзім, што будзе.

Праз колькі хвілінаў яны зноў зайшлі ў першую кватэру.

Там ужо было поўна народу. Прыехалі і стрыечная пляменніца з мужам, і дачка з унукамі, і нават новы даччын кавалер.

Ад гэтых новых новых акалічнасцяў гармідар у кватэры толькі ўзмацніўся.

– Правярайце, ці ёсць вада? – крыкнуў у эпіцэнтр гэтага гармідару Кадолка.

– Ёсць, ёсць, – шчаслiва пакiвала галавой гаспадыня, усцешаная прыездам гасцей.

– А як жа сляды паўсюль на кухні? Хто кампенсуе гэта? – вельмі важным тонам спыталася дачка жанчыны.

– Гэта вы ўжо ў ЖЭС звяртайцеся, – адказаў Хадакоў.

– А вы хіба не адтуль? – іранічна заўважыла дачка.

– Адтуль, адтуль, – паўтарыў за ёй Хадакоў. – У нас свае задачы. Праблему вашую вырашылі? Вырашылі.

– Ірачка, хадзем ужо да стала, – запрасіла яе маці, залагоджваючы і радуючыся прыезду.

Ірачка хмыкнула і пакiравала на кухню.

– Дзякуй вам вялікі! – з пачуццём прамовіла гаспадыня да сантэхнікаў.

– Няма за што, – палагаднеўшы, адказаў Кадолка.

Гаспадыня амаль зачыніла дзверы за імі, як з кухні пачуўся лямант:

– Тут жа ўсё зноў ліецца!

У Кадолкі апусціліся рукі, а Хадакоў пашкадаваў, што яны так доўга раскланьваліся ў вітальні, а не сышлі за дзверы хутчэй.

– Ну вось як гэта так? – хапаючы паветра, абуралася дачка гаспадыні.

У кухні ўжо сабраліся ўсе, апроч дзяцей.

– Выглядае на піва, – з сумневам сказаў кавалер Ірачкі да мужа стрыечнай пляменніцы.

Муж пляменніцы да гэтага знуджаны і паніклы, у момант ажывіўся.

Ён падышоў да сцяны і, правёўшы па ёй пальцам, пакаштаваў вадкасць.

– Гэта ж піва! – абвёў ён усіх прысутных радаснымі вачыма.

Ягоная жонка адразу ляснула яго па руцэ:

– Піва і піва! Піва што, са столі павінна ліцца?

Яна пачала выправоджваць мужа з кухні.

Сыходзячы, ён паўтараў:

– Рэальнае піва!

Кавалер Ірачкі таксама выказваў актыўную цікаўнасць да таго, што адбывалася ў кухні, чым у сваю чаргу выклікаў незадаволеныя позіркі Ірачкі, якая пакуль не наважвалася рабіць яму заўвагаў, але паказвала, вытарашчваючы вочы і ссоўваючы бровы, што такія паводзіны недапушчальныя.

Кадолку і Хадакову нічога не заставалася, як зноў цягнуцца на паверх вышэй, каб зразумець агульную сітуацыю.

Зразумела, што пасля іхняга візіту гаспадар нават не парупіўся зачыніць дзверы. Сантэхнікі проста зайшлі ў кватэру, а дзядзька завіхаўся ў кухні.

– Хлопцы! – з імпэтам палікаў ён Кадолку і Хадакова. – Зноў палілося! Вось удача! Вось гэта цуд! Слухайце, а няма ў вас лішніх бутэлек з сабой? Тары не хапае.

І ён падставіў пад тонкі брунатны струмень тазік.

* * *

Жана Іосіфаўна закрывала заяўкі, каб усё здаць пад канец года, калі ў дзверы культурна пастукалі, і на дыспетчарскую ўрачыста зайшоў дырэктар, Нукзар Юр’евіч.

У руках ён трымаў пакунак, а ягоная ўсмешка блішчэла з-пад вусоў, як зіхоткія праменьчыкі, на каляднай ялінцы.

– Падарунак! – задаволена абвясціў ён.

– Падарунак? – перапыталася Жана Іосіфаўна, вельмі здзіўленая.

На Новы год, дваццаць трэцяга лютага і восьмага сакавіка, а таксама на прафесійныя святы ў ЖЭСе было прынята дарыць падарункі, але звычайна гэта, у залежнасці ад календара, былі ці то шакалад, ці то цукеркі, ці то кветкі, ці то падарункавыя наборы абаронцам Айчыны, а тут такі велізарны пакунак. Наўрад ці гэта шакаладныя цукеркі.

Нукзар Юр’евіч працягваў задаволена пасміхацца, а дыспетчарка не ведала, як ёй рэагаваць.

– Распакоўвай! – загадаў дырэктар.

Жана Іосіфаўна паслухмяна пачала распакоўваць падарунак.

Пад няхітрай абгорткай хаваўся фірмовы пакунак з выявай побытавай тэхнікі, а з пакунка яна дастала навюткі электрычны чайнік.

– Чайнік, – заварожана прамовіла Жана Іосіфаўна.

– Я ж абяцаў табе чайнік на дыспетчарскую, – ужо больш сарамліва падцвердзіў дырэктар, мяркуючы, што такая ягоная ўважлівасць будзе ацэненая і ўзнагароджаная захопленымі ўхваленнямі.

– Ну, Нуказар Юр'евіч, – сапраўды з захапленнем прамовала Жана Іосіфаўна. – Шчыра дзякую!

Яна так расчулілася, што ейны твар густа пачырванеў.

Акурат у гэты момант на дыспетчарскай раптоўна з'явіўся Вярбіцкі.

Ён быў паголены, прыбраны, свае чорныя валасы ён уклаў гелем і зачасаў, і хаця па звычцы ён крыху горбіўся праз свой высокі рост, пастава ягоная была больш падцягнутая, чым звычайна, а ў руцэ ён таксама трымаў вялікі пакунак.

Заходзіў на дыспетчарскую ён у трымценні і стаў раптоўным сведкам сцэны з пачырванелай Жанай Іосіфаўнай і дырэктарам, які ў гэты момант збянтэжыўся і адкашляўся ў вусы:

– Кхм, ну з надыходзячым, Жана! Чакаем на вечары пасля працоўнага дня.

І кінуў на Вярбіцкага падазроны і раўнівы позірк.

Тут ужо ў Вярбіцкага кроў прыліла да твару, і ў адно імгненне ён, спехам павітаўшыся з дырэктарам, як быццам бы не бачыў яго ўжо сёння, зрабіў разварот і пабег з дыспетчарскай прэч.

Жана Іосіфаўна нават расстроілася і са шкадаваннем паглядзела яму ўслед.

– А што там Кадолка і Хадакоў? – запытаўся дырэктар, адразу ж перайшоўшы на дзелавы тон.

– Выправіліся па заяўцы з заліццём, – таксама ў працоўным тоне адрапартавала дыспетчарка. – Але вось пакуль не магу датэлефанавацца, відаць, разрадзіўся тэлефон.

– А нашто ім зарадкі? – рытарычна спытаў Нуказар Юр'евіч і строга дадаў:

– Калі праз гадзіну не адсправаздачацца, паведаміш мне.

– Дык праз гадзіну ўжо і працоўны дзень скончыцца, – заўважыла дыспетчарка.

– То прыходзь адразу ў актавую залу на другі паверх, – памягчэлым тонам паўтарыў запрашэнне дырэктар.

Застаўшыся адна, Жана Іосіфаўна яшчэ раз набрала нумар Кадолкі, але тэлефон быў адключаны. Тады яна знайшла ў спісе кантактаў ягоны асабісты нумар і пазваніла па ім, але і там Кадолка слухаўку не зняў.

Жана Іосіфаўна крыху пасядзела ў задуменні і набрала нумар Вярбіцкага, той таксама не адказаў.

Яна паглядзела ў вакно, за якім ужо ўсё сцямнела і надышоў сапраўдны зімовы вечар, навагодні і непаўторны.

Людзі за вакном мітусіліся – хтосьці спяшаўся з працы, хтосьці яшчэ бег у краму, бо забыўся на важны інгрэдыент, а хтосьці бег з інгрэдыентам дадому з крамы, каб паспець хутчэй за стол і адзначаць, правесці гэты стары год і сустрэць надыход новага.

І тады Жана Іосіфаўна пазваніла мужу. Той паспеў ужо адзначыць свята ў сябе на працы і цяпер ехаў дахаты.

– У нас тут таксама збіраюцца адзначаць, таму я пасля працы некалькі гадзінаў буду разам з усімі святкаваць, – паведаміла яна мужу.

Ён нічога не меў супраць, толькі зазначыў, што мог бы таксама

далучыцца ў якасці ейнай пары да святкавання, на што Жана Іосіфаўна схлусіла, што святкуюць тут толькі сваім калектывам без параў.

Яна памятала, як калісьці на папярэднім месцы працы яна прыйшла на святкаванне разам з мужам. Тады служба камунальнага гаспадарання замаўляла цэлую фуршэтную залу, і ейны муж увесь вечар пільнаваў бухгалтарку, вельмі развязную і непрыемную самотную бландынку з нізкім голасам і аб'ёмнымі формамі, а пасля вечара ўсе шапталіся за спінаю ў Жаны Іосіфаўны і адкрыта ёй спачувалі.

Тады яна, згараючы ад сораму, вырашыла больш не запрашаць мужа на працоўныя святкаванні, чаго прытрымлівалася і цяпер.

Ён, асабліва не расстроіўшыся, паабяцаў, што запячэ курыцу, падрыхтаваную ўжо і замарынаваную, нарэжа салаты, а таксама прасочыць за малым, як яны заўсёды між сабой называлі сына.

Пасля дзяжурнай сямейнай размовы Жана Іосіфаўна падфарбавалася і паглядзела на сябе ў вузкае цьмянае люстра ў дзверцы шафы.

З люстра на яе глядзела жанчына ва ўзросце, але яшчэ не старая, твар у яе быў нават прыгожы, толькі зморшчыны ля вачэй і ледзь прыкметная друзласць скуры на шыі выдавалі ейны ўзрост. Фігура ў яе была вельмі добрая, асабліва ў гэтай сукенцы.

Жана Іосіфаўна з некаторымі заўвагамі да сваёй знешнасці, але ўсё ж засталася сабой задаволеная, і ўжо з нецярплівасцю глядзела на гадзіннік, бо да сканчэння працоўнага дня заставалася дзесяць хвілінаў, а ва ўмовах святкавання можна было скончыць яго і без пяці.

Аднак яна не магла закрыць заяўку па заліцці, на якую выправіўся Кадолка, а ў такім выпадку яна мусіла ці чакаць ягонай справаздачы, ці самастойна выклікаць аварыйную службу.

Жана Іосіфаўна чула, што ўсе ўжо пабеглі ў актавую залу, ліфцёрная святкавала ў сябе, цэнтральны ўваход і ўваход з двара зачынілі, паверх апусцеў.

Ні на што не спадзеючыся, яна яшчэ раз набрала нумар Кадолкі і неўзабаве пачула там доўгія гудкі.

Амаль адразу ў слухаўцы раздаўся і голас Кадолкі, які перш за ўсё паведаміў самым шчырым тонам, вельмі стараючыся вымаўляць словы, ад чаго язык ягоны яшчэ больш заўважна заплятаўся, што падчас працы разрадзіўся тэлефон.

– Мы ўсё выправілі, можаш закрываць заяўку, – вельмі намагаючыся казаць хутка і бадзёра, паведаміў ён.

– Гэта дакладна? – недаверліва перапыталася дыспетчарка.

– Дакладней быць не можа, – запэўніў ён.

І канчаткова асмялеўшы, Кадолка ад усёй душы дадаў:

– Я ж цябе так люблю, Жана Іосіфаўна! З Новым годам!

– І я цябе, – усміхнулася Жана Іосіфаўна.

Пасля размовы з Кадолкам яна патэлефанавала ў ЖРЭА, каб здаць сваю змену, і пачула на тым канцы знаёмы голас старэйшага дыспетчара, які прыймаў справаздачы з усіх ЖЭСаў раёна.

– З надыходзячым! – ўзрушана павіншаваў яе старэйшы дыспетчар.

– З надыходзячым! – таксама павіншавала Жана Іосіфаўна.

– Хутка кажы, ці ўсё ў парадку? – смеючыся, спытаў ён. – Гэта ж мне ўсю ноч працаваць, а вам ужо трэба святкаваць.

– Нібыта ўсё, – зверылася са спісам закрытых заявак Жана Іосіфаўна. – Вось толькі па адной заяўцы, яшчэ ўчарашняй, я не ўпэўненая.

– Тая самая? – удакладніў голас на тым баку.

– Тая.

– Ну, там жа жыхары самі выклікалі аварыйку. Ідзі святкуй і ні пра што не думай.

Гэтыя сакраментальныя словы вызвалялі дыспетчарку і здымалі з яе адказнасць за далейшае развіццё падзей па праблемнай заяўцы. Уся адказнасць пераходзіла на старэйшага дыспетчара, які гэтым высакародным жэстам узяў на сябе клопат пра заблытаную сітуацыю.

– Калі б я быў маладзейшы, – летуценна працягнуў ён. І пасля кароткай паўзы дадаў: – Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы. У ціхую сінюю ноч. І сказаць: “Бачыце гэтыя буйныя зоркі, ясныя зоркі Геркулеса?” Вы ведаеце, хто напісаў гэтыя радкі?

Жана Іосіфаўна хацела было адказаць, але ён хутка перабіў:

– Усё, хоць сёння і святочны дзень, а размова ж нашая запісваецца. Віншую і ўсяго найлепшага!

Яна яшчэ не паклала слухаўку, а ў ёй праз кароткія гудкі ўсё гучалі гэтыя словы: “Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы. У ціхую сінюю ноч”. Сёння была менавіта такая ноч. Працоўны дзень скончыўся. На ялінцы міргала простая электрычная гірляндачка, а на ялінкавай вяршаліне гарэла буйная зорка, ясная зорка Геркулеса.

Жана Іосіфаўна яшчэ раз зірнула ў люстра і падфарбавала яркай памадай вусны, паправіла фрызуру і выліла на сябе пару кропель саладкаватай парфумы.

Яна ўзяла сваю торбачку, і тут зазваніў тэлефон.

– А працоўны дзень ужо скончыўся! – сказала яна надакучліваму тэлефону. – Звані, звані!

Адначасова ў ёй варухнулася думка пра тое, што, можа, варта было б і адказаць. З іншага боку, яна ўвесь дзень бясконца адказвала на тэлефаванні, яе чакаюць у актавай зале, вось яна адкажа, а там, можа, зноў аварыйная заяўка, і што тады рабіць?

Тэлефон званіў.

Не-не, прасцей выбегчы за дзверы.

І тут нечакана для самой сябе Жана Іосіфаўна схапіла слухаўку:

– Добры вечар! – было чуваць, што там ужо і не спадзяваліся на адказ.

Жана Іосіфаўна як у сне чула голас і лаялася пра сябе, што зняла слухаўку.

– Ведаеце, – працягнуў голас. – Працоўны дзень у вас ужо скончыўся, я ў курсе.

– Так, – ахвотна пацвердзіла Жана Іосіфаўна.

– Але вы не хвалюйцеся, – паспяшаўся запэўніць хтосьці. – Я не хачу рабіць вам заяўку. Я проста хачу вас павіншаваць з Новым годам. І падзякаваць за вашую працу. З надыходзячым! Шчасця, здароўя, паменей заявак!

– Дзякуй! – узрадавалася Жана Іосіфаўна. – Шчыра дзякую!

– Няма за што, – заўсміхаўся чалавек. – Але раз вы ўсё ж ужо падышлі, запішыце на заўтра заяўку па электрыцы. Бо ў нас штотыдзень выкручваюць лямпачкі на паверсе.

– У базу я ўжо не ўнясу, – папярэдзіла Жана Іосіфаўна. – Але магу проста пазначыць.

Яна запісала адрас і паклала слухаўку.

Тэлефон адразу зазваніў ізноў.

– Ну, цяпер дакладна не! – прыкрыкнула на яго Жана Іосіфаўна.

На гэтым момансе ў дзвярах паказалася Парэпка і абурана затрэсла галавой:

– Хопіць круціцца як трэска ў палонцы! Там ужо ўсе пачалі святкаваць! Так і будзеш тут сядзець? Не хочацца табе, бачу, да нашай кампаніі далучацца, ой, не хочацца!

Парэпка была вясёлая, жартаўлівая, яна падміргвала, блішчэла залатым зубам ва ўсмешцы, пацiскала плячыма і падштурхоўвала дыспетчарку.

Яна наогул была вельмі рухавай, актыўнай, шумнай і ўсюдыіснай. Ад яе нікуды немагчыма было падзецца, і калі ўжо яна ў некага ўчэплівалася, то таму заставалася толькі адно выйсце – здацца пад ейным лавінападобным націскам.

– Бягу, – падхапілася Жана Іосіфаўна.

– Якая прыгожая! – пахваліла Парэпка сваю пратэжэ. – А дзе купляла гэтую памаду? Там, дзе я табе параіла?

– Натуральна, – запэўніла Жана Іосіфаўна, – вагалася паміж гэтай і каралавай. Як вам?

– Гэтая на сто адсоткаў лепшая, – катэгарычна заявіла Парэпка. – У мяне была такая, нядаўна скончылася.

У актавай зале сапраўды ўсе ўступілі ў фазу актыўнага святкавання.

Ужо спала першая няёмкасць і скутасць тых, у каго не атрымалася адпрасіцца ў жонак ды мужоў і давялося прыйсці разам з імі, і яшчэ болей разгарэлася радасць тых, у каго атрымалася.

Прайшлі першыя тосты, віншаванні і зычэнні, усе балбаталі, а самыя актыўныя й прадпрымальныя пачалі “навагодні аганёк”.

Гэта былі бухгалтарка, Парэпка і адна з пашпартыстак.

Яны страшна хваляваліся, бо ўвесь дзень рэпетавалі свой мюзікл пра трох Снягурачак, якія заблукалі ў пошуках Дзеда Мароза.

– Сыходзіць год стары, і шамаціць ягоная апошняя старонка, – урачыста пачала бухгалтарка, якая была Снягурачкай нумар адзін. – Хай лепшае, што ў ім было, не знікне, а горшае хай не паўторыцца ізноў!

Пасля гэтых словаў па сцэнары Парэпка, якая была Снягурачкай нумар два, скамандавала, звяртаючыся да ўсіх прысутных:

– Выпіваем і закусваем!

Усе паслухмяна выканалі загад, а некаторыя і з асаблівым задавальненнем.

Снягурачка нумар адзін працягвала, не збаўляючы ўрачыстасці тону:

На ганку нашым з сівой барадой,
Год стары, стары ўжо зусім,
Ён сыходзіць ад нас і нам махае рукой,
І зычыць нам удачы ва ўсім!

Цяпер у дзеянне ўступіла пашпартыстка, Снягурачка нумар тры, з конкурснай праграмай. Яна абвясціла:

– Цяпер будзем спяваць. Але спяваць па чарзе.

Было чуваць, што некалькі чалавек, крэкчучы і кашляючы, рэціраваліся ў глыбіню залы.

Снягурачка нумар тры працягвала:

– Зараз кожны прыгадае па куплеце ці хаця б па назве песні пра Новы год, пра завіруху, снег, мароз і зіму.

Прагучалі песні: "У лесе нарадзілася ялінка", "Сіні іней", пра "Новы год, які да нас імчыцца", і некалькі вершаў са школьнай праграмы ад тых, у каго былі дзеці ўзросту пачатковай школы.

Пасля ўзнагароджвання самых яскравых выканаўцаў Снягурачка нумар два абвясціла:

– Выпіваем і закусваем.

І сама неадкладна выканала свой загад.

Снягурачка нумар тры абвясціла, што скрыначка, якую яна трымае ў руках, – гэта "Скарбонка вечара", і той, хто шчодры душой і фантазіяй, а таксама хоча ў Новым годзе пазбавіцца ўсіх пазыкаў, можа скідваць у скарбонку столькі, колькі яму не шкада. А таксама абвяшчаецца, што тыя ўдзельнікі, якія не захочуць браць удзел у конкурсах ці будуць падказваць іншым у адпаведных конкурсах, павінны сплаціць штраф, і прапанавала яго вызначыць.

Адразу пашыхтавалася цэлая чарга тых, хто захацеў сплаціць штраф і не браць удзел у конкурсах, таму тэрміновая рада Снягурачак вымушаная была скасаваць ідэю са Скарбонкай.

Снягурачка нумар адзін працягнула:

– У Італіі ёсць традыцыя перад Новым годам выкідаць прадметы, якія ўжо абрыдлі, а мы прапаноўваем вам выкінуць усе тыя кепскія думкі і крыўды, якія ў вас назапасіліся за гэты год, і пакінуць толькі цёплыя і прыемныя, каб Новы год быў не горшы за папярэдні!

– А зараз мы будзем адгадваць загадкі!.. На двары ідзе сняжок. Хутка будзе...

Дворнікі адразу зашумелі, бо адна думка пра тое, што ідзе сняжок, які ім трэба бясконца прыбіраць, выклікала ў іх буру эмоцыяў.

– Ён вялікі, касалапы, Спіць узімку, склаўшы лапы.

– Макарэвіч! – данеслася з кута.

Усе засмяяліся.

– На двары гарой, а ў хаце вадой!

Прысутныя рэагавалі стрымана, у асноўным адказвалі жанчыны, палова перагаворвалася паміж сабой, хтосьці спрабаваў уключыць саўндтрэк на мабільным тэлефоне.

Парэпка кіўнула бухгалтарцы, і тая абвясціла:

– Пераходзім да наступнага конкурса. Ён называецца "Зачараваны келіх".

У зале ажывіліся. Падцягнуліся нават тыя, хто кашляў у куце.

– Вось я магу ўтрымаць адзін ці нават два келіхі ў руках, колькі заўгодна! А любы з вас не здолее, кіне ці паставіць яго на стол раней, чым я паспею да трох палічыць. Пры гэтым умова такая, што вы павінны стаяць на месцы, трымаць келіх і з месца нікуды не сыходзіць.

Усім жадаючым налілі поўныя келіхі, і Снягурачка нумар адзін пачала лічыць:

– Адзін, два... А тры заўтра скажу!

Усе засмяяліся і адразу паставілі келіхі на стол.

– Ну раз утрымаць не атрымалася, выпіць хаця б атрымаецца? – заахвочвала яна.

Са смехам і з задавальненнем усе пастараліся, каб у іх атрымалася.

Парэпка заявіла пасля конкурсу:

– Выпіваем і закусваем!

Пасля правялі конкурс з абуткам, дзе кожны зняў адзін бот, і калі ўтварылася велізарная гара, усе мусілі знайсці ў ёй сваю пару.

Пасля гэтага конкурсу высветлілася, што ў дзвюх жанчынаў былі аднолькавыя пантофлі, Макарэвіч не знайшоў свой другі бот, а хтосьці зняў адразу два.

Пазней з'явіўся надзіманы Дзед Мароз, якога пускалі па коле пад музыку, і той, на кім музыка сканчалася, мусіў віншаваць усіх з Новым годам.

– Зычу шчасця, здароўя! Каб усё! – крычалі па чарзе з усіх бакоў.

Дырэктар наліў сабе келіх і, падняўшы яго, сказаў галоўнаму інжынеру, які сядзеў побач:

– А каб жыць у шчасці, трэба красці, красці, красці.

І яны разам засмяяліся.

Усе святкавалі, запальвалі бенгальскія агні, адкаркоўвалі шампанскае, скакалі і танчылі, праважалі стары год і чакалі на новы, пра сябе верачы і спадзеючыся на тое патаемнае, асабістае і самае жаданае, што надавала сэнс кожнаму дню.

Электрык Саломка, трымаючы келіх у руцэ, выклікаўся сказаць тост, і, утрапёна глядзячы на старэйшага майстра Бубневіч, з пачуццём, але блытана, прачытаў на памяць:

– Дванаццаць б'е і ўзняты келіх мой,
Мой тост – за нашую сустрэчу,
За прагу, што не мае... наталення,
Наташа.
За шчасце і імгненні разам!

Ягоная жонка, якая сядзела побач, агаломшана паглядзела спачатку на мужа, потым на Наташу Бубневіч, а потым плесканула Наташы ў твар шампанскага са свайго келіха.

Але ніхто гэтага не заўважыў.

Частка народу ў расшпіленых палітонах і прапітках паліла на ганку, пускаючы ў марознае зімовае неба воблакі шызага, насычанага дыму.

Жанчыны бегалі, папраўлялі фрызуры, хіхікалі і абмяркоўвалі ўсіх паміж сабой.

Хтосьці даядаў салаты, дырэктар раптам кінуўся ў грузінскі танец і, крыкнуўшы: “Асса!” – скарыў жаночае кола.

Парэпка падышла да стала і звярнулася да тых, хто сядзеў:

– Выпіваем і закусваем.

А потым махнула на іх рукой і пайшла далей.

Жана Іосіфаўна заўважыла, што Вярбіцкі на святкаванне не прыйшоў.

Яе адначасова ўсцешвала як жанчыну, але надта здзіўляла ягоная маўклівая, цяжкая і неймаверна паслухмяная адданасць.

Яна адпіла з келіха шампанскага, і ёй стала цёпла, весела і бесклапотна, як у дзяцінстве, калі вельмі чакаеш надыходу Новага года і падарункаў.

Кадолка і Хадакоў тым часам слухалі расповеды кампанейскага Гаўрылавіча, які дваццаць гадоў прапрацаваў таксоўшчыкам і назапасіў безліч гэтых расповедаў.

Цяпер ён быў у самым лепшым настроі, бо нечакана для яго самога

з'явілася кампанія ў асобе двух сантэхнікаў, і вечар перад Новым годам ужо не абяцаў быць такім самотным. Бо Гаўрылавіч, хаця і жыў адзін, страшна не любіў самоту.

Кадолка і Хадакоў спачатку вагаліся, ці трэба ім прымаць запрашэнне, але ўрэшце здаліся перад абаяльнасцю Гаўрылавіча і палічылі за лепшае застацца, прынамсі, на гадзінку з ім, замест таго, каб ісці на агульнае святкаванне з жонкамі і вытрымліваць рэгламент.

Таму Кадолка спачатку адсправаздачыўся дыспетчарцы па заяўцы, а потым ужо яны разам адсправаздачыліся жонкам пра аварыю і са спакойнай душой засталіся. Не давалі спакою толькі суседка знізу і ейная дачка, якія нейкім чынам даведаліся пра месцазнаходжанне сантэхнікаў і атакавалі дзверы, патрабуючы выправіць сітуацыю.

Кадолка і Хадакоў вымушаныя былі яшчэ некалькі разоў спусціцца да іх у кватэру і зрабіць выгляд, што правяраюць водаправодныя трубы, але ў самой кватэры яны сустрэлі моцную падтрымку з боку мужчынаў: і муж пляменніцы, і доччын кавалер катэгарычна выступалі супраць выпраўлення сітуацыі, выказваючы пажаданне пакінуць у спакоі і трубы, і сцяну, і столь.

– А мне дык і падабаецца. Сапраўднае ж піва ліецца, каму распавесці – ніхто не паверыць! – захапляўся доччын кавалер.

– Можа, табе і рамонт спадабаецца зрабіць? – злавалася Ірачка.

– Можа, і спадабаецца, – замірэнча і лагодна адказваў ён.

Хадакоў прапанаваў зноў адключыць стаяк, і тут ужо жаночая палова катэгарычна не пагадзілася, бо трываць лёгкі піўны вадаспад ім было прасцей, чым застацца наогул без вады.

Вырашылі чакаць аварыйку, якая ўсё яшчэ курсіравала дзесьці па святочным пераднавагоднім горадзе, выпраўляючы зламанае, вяртаючы ўсё на свае камунальныя месцы і прыводзячы да ладу душэўную раўнавагу тых, хто яе чакаў. А чакаць аварыйку суседцы было значна прасцей, ведаючы, што паблізу знаходзяцца сантэхнікі, таму яна ўласнаруч прэзентавала ім талерку з салатай і выправіла да суседа, узяўшы з іх абяцанне, што па прыездзе аварыйкі яны таксама падлучацца.

Так яны й сядзелі, чакаючы адначасова аварыйную службу і Новы год. А Гаўрылавіч, пакінуўшы ў спакоі піўную ручаіну, якую ён нахвальваў і захапляўся не раўнуючы з гадзіну, распавядаў чарговую гісторыю з жыцця таксоўшчыка:

– Адны мае знаёмыя прастытуткі, вельмі добрыя дзяўчыны, дарэчы, час ад часу падвозіў іх то з начнога клуба, то да гатэля – куды ім трэба было, карацей. Аднойчы падселі яны да мяне з "кліентам", і адна адразу кажа, каб толькі я пачуў:

– Уключай печку на поўную.

Я спачатку не зразумеў, навошта, і так было гарачавата ў салоне, але пагадзіўся, уключыў. Яна назвала адрас, а гэта іншы бок горада, і гэтаксама ціха мне кажа, каб я абраў самы доўгі шлях. Ну, мне што, як кліент просіць, так і вязу. Гэтая дзяўчына звяртаецца да хлопца, маўляў, трэба адразу заплаціць. Ён тады пытаецца ў мяне:

– Колькі?

Я адказаў яму, што, маўляў, колькі будзе на лічыльніку, столькі і трэба будзе заплаціць. А дзяўчына паказвае мне знакамі, каб адразу браў аплату.

Тады я й агучыў:

– Дваццаць.

Ён адразу дае мне купюру:

– Паехалі!

Дзяўчаты балбочуць між сабой несупынна, я маўчу, пакуль едзем, заўважаю, што хлопец, калі сядаў, быў яшчэ цалкам прытомны, але гарачыня і дарога робяць сваю справу, і яго немінуча "развозіць". Пакуль мы даехалі, ён ужо ледзь не заснуў. А дзяўчаты падбадзёрваюць яго з абодвух бакоў. Нарэшце, калі пад'ехалі, зноў адна звяртаецца да хлопца:

– Трэба заплаціць за дарогу.

– Колькі? – пытаецца ён.

Я з дакорам гляджу на дзяўчатаў, а яны мне вачыма сігналяць, маўляў, маўчы ды бяры.

Наступным разам, як ехалі з імі, ранкам ужо, кудысьці да крамы падвозіў, спытаў, навошта так зрабілі. Адна адказала:

– У яго грошай хапала, не хвалюйся, а табе таксама зарабляць трэба. Я ж ведаю, як кожная капейчына даецца. У нас тут прафесіі падобныя.

І ўсміхалася.

– Такая добрая дзяўчына, – з любоўю канстатаваў Гаўрылавіч. – А прастытутка...

Вочы ў яго сталі добрымі і крыху вільготнымі, ён выпіў і паглядзеў на Кадолку з Хадаковым як на лепшых сяброў. Тыя таксама не адставалі.

Паміж тостамі і аповедамі Гаўрылавіча яны дзяліліся сваімі гісторыямі.

– Вось у мяне гісторыя была, – пачаў Кадолка. – Мы ж дзелімся паміж сабой з хлопцамі, дзе якая адрэса цікавая, дзе падзарабіць можна, а дзе так дастануць, што лепей і не хадзіць. Вось так у нас, дарэчы, электрык з будучай жонкай пазнаёміўся. Год жыў у бытоўцы, ужо паабяцалі яму, што будзе інспекцыя і выселяць яго. Там жа нельга жыць, працоўнае памяшканне, а ён зялёны яшчэ хлопец, прыехаў з Барысава, кватэру здымаць дорага, пасяліўся ў бытоўцы часова, потым прызвычаіўся. А тут, бачыш, з'язджаць трэба. Хадзіў як у ваду апушчаны. Ён жа са шматдзетнай сям'і, самы старэйшы, зарабляць трэба, грошы дахаты дасылаць, дзве сястры ў яго, два браты, усе малыя. А як выселяць, дык вяртацца трэба ў той Барысаў. Тут акурат заяўка, і надта простая – лямпачку ўкруціць у жырандолі. Паміж намі, заяўка смешная, ну хто ўжо лямпачку ўкруціць не можа? А, бачыш, ёсць і такія. Прыйшоў ён туды, там дзяўчына маладая. Кажа, так вось і так, толькі ад бацькоў з'ехала, адна жыве, лямпачка перагарэла, а ўкруціць няма каму. Карацей, спадабаліся яны адно аднаму. Яна яшчэ і нейкай прафесарскай дачкой аказалася, бацькі спалі і бачылі, як яе замуж выправіць. Вось ён з бытоўкі і з'ехаў. А цяпер двое дзяцей ужо ў іх, добрая сям'я. Ды й хлопец кемлівы.

Хадакоў падняў келіх і, спустошыўшы яго, таксама распавёў гісторыю:

– Цікавы адрас, кажаш. Ёсць у мяне адзін такі цікавы адрас. Хлопцы паміж сабой распавядалі пра яе, як я прыйшоў у гэты ЖЭС працаваць.

– А колькі ты ў ЖЭСе ўжо працуеш? – перабіў Гаўрылавіч.

– Ды ўжо, дай Бог, гадоў пятнаццаць, – адказаў Хадакоў. – Дык вось, казалі мне хлопцы, што ёсць такі адрас, дзе жанчына мужчынаў, сантэхнікаў і электрыкаў, проста так, для сябе выклікае. Не зусім у парадку з ёй на гэтай глебе. Дае заяўку, маўляў, забілася каналізацыя ці там выбіла пробкі, хлопец прыходзіць, а яна ў адным споднім ужо сустракае. Я, канечне, спачатку веры ім не даў, думаў, прыдумляюць

ды мне, новенькаму, распавядаюць байкі. І вось аднаго разу перадаюць мне заяўку: забіла мыйку ў кухні. Прыходжу я па адрасе, вітаюся, а там дама сярэдніх гадоў у халаціку паўпразрыстым. Дзіўна, канечне, абед ужо, а яна такая неапранутая, але, думаю, бывае, што паробіш. Прашу паказаць, дзе праблема, калі ўзнікла, што ў мыйку кідалі. А дама гэтая пасміхаецца і так млявавата кажа:

– А давайце я вас кавай пачастую, бо ў вас такая складаная праца.

Я, зразумела, ад кавы адмовіўся, заходжу ў кухню, спрабую агледзець мыйку, вада сапраўды не зліваецца, раскручваю трубу пад мыйкай. Каб мне падлезці, трэба нахіліцца, толькі я нахіліўся, а гэтая дама ўшчыльную да мяне падышла і расхінула свой халат.

Кадолка і Гаўрылавіч пажадліва заўсміхаліся.

– І як далей? – не ўстрымаўся, каб не запытацца Кадолка.

– Ды ніяк, – раўнадушна адказаў Хадакоў. – Збег я адтуль.

Кадолка і Гаўрылавіч расчаравана памаўчалі.

– Таксама пад Новы год гэта было, – дадаў пасля паўзы Хадакоў.

Кадолка падумаў, што зусім ужо хутка надыдзе Новы год, падумаў пра падарункі, якія падрыхтаваў для жонкі і дзяцей. Яму захацелася дахаты. Ісці па сінім снезе ў мароз, а яго будуць чакаць дома. Ужо зараз, відаць, жонка выстаўляе на стол салаты і стравы, бурчыць, што ён затрымліваецца, і Кадолка выразна ўявіў ейны распаўнелы за ўсе гэтыя гады, не вельмі прывабны, але такі знаёмы і родны твар.

Гаўрылавіч прыгадаў, як гадоў сорак таму ездзіў пад Новы год да сваёй дзяўчыны ў Рыгу, як у перадкавагоднім цягніку пахла апельсінамі і мандарынамі, як мільгалі за вакном пагоркі і палеткі, якім ён быў маладым, закаханым і поўным самага радаснага прадчування сустрэчы і навагодняга цуду.

А Хадакоў падумаў, што, калі б зараз ён апынуўся ў той кватэры, то, можа, ужо б і не збег.

А праз паўгадзіны прыехала аварыйка, і ўсе замітусіліся.

Брыгада была суворая. Для іх час агульнага святкавання быў самым гарачым, бо выклікі паступалі адзін за адным.

Яны прафесійна ўзяліся за справу.

Сярод іх быў адзін малога росту, вельмі сур'ёзны, якога ўсе называлі Вясёлым.

Так і казалі:

– Вясёлы, ну што там?

– Вясёлы, што рабіць будзем?

Вясёлы ацаніў сітуацыю.

– Не прарыў цеплатрасы, але папрацаваць давядзецца, – заключыў ён.

Было падобна, што іх зусім не засмучала тая акалічнасць, што дзве кватэры заліваліся не чым-небудзь, а півам.

Памочнік Вясёлага паспрабаваў быў зрабіць заўвагу з гэтай нагоды, але, сустрэўшы пахмурны позірк, адразу сумеўся і ўзяўся за працу.

Гадзіны дзве яны важдаліся, бегалі па паверхах, правяралі напругу, уключалі і адключалі механізмы, лаяліся і перагаворваліся, пакуль, урэшце рэшт, усе мокрыя і змораныя, не далі гэтаму ўсяму рады і Вясёлы, які, здавалася, не ўмеў усміхацца, паведаміў гаспадыні кватэры:

– Усё ў парадку.

Тады ўжо ўсе амаль у адзін голас – і гаспадыня, і ейная дачка Ірачка,

і Іраччын кавалер, і Гаўрылавіч, і Кадолка з Хадаковым, і пляменніца з мужам, і нават некалькі суседзяў, што абступілі Вясёлага з усіх бакоў, спыталіся ў яго:

– Дык што ж гэта было?

Вясёлы крыху пагардліва абвёў усіх сваім фірмовым кампетэнтным позіркам, затрымаўшы яго на Кадолку і Хадакове, і суха, як на нарадзе, патлумачыў:

– Адбыўся прарыў водаправоднай сістэмы на ўзроўні другога і трэцяга паверхаў з наступным распаўсюджваннем вадкасці пад уздзеяннем напругі па-за рэзервуарныя межы і заліццём адзначаных кватэраў.

– Але ж гэта сапраўды было піва? – расцягваючы словы і з моцным жаданнем дазнацца праўды спытаў кавалер Ірачкі.

– Я не ўпаўнаважны даваць ацэнку характару вадкасці, відавочна толькі, што небяспекі вадкасць не ўяўляе і не таксічная. Гледзячы па ейных характарыстыках – пах, колер, кансістэнцыя, а таксама ўлічваючы, што з кватэрамі мяжуе паб “Цёмны”, які абсталяваны сістэмай падачы піва праз помпавы механізм, адбыўся перапад ціску ў сістэме і наступны прарыў гэтай сістэмы ў водаправодную сістэму жылога дома, – стомлена, але прафесійна расклаў усё па палічках Вясёлы.

Потым яны за некалькі хвілінаў сабраліся, загрузілі сваё шматлікае абсталяванне і, сеўшы ў вялікую жоўтую машыну з напісанай на бакавых дзвярах густой алейнай фарбай назвай “Аварыйная”, паімчалі насустрач гораду, упрыгожанаму тысячамі агнёў, новым заяўкам і зусім блізкаму, шматабяцальнаму і зіхоткаму Новаму году.

Віктар Ярац



...Варажу з паплаўком на маршчынах вады.
Усміхаецца белаю плотачкай раніца...

# Уверцюра прадвесня

### *БАЛГАРСКАЕ ЛЕТА*

Чыё імя над берагам па літарах
Дарыў птах неспакойнай вышыні,
а мора гулам безупынна клікала
з якіх дарог, з якой далечыні,

чый голас, кім у гэты дзень пачуты,
чыю хаду, ацэньваюць якой
секунды і мінуты
ўсё золата вякоў
усіх мацерыкоў?

* * *

Адрасы з вясны ляцяць у лета –
матылі іх пішуць за вакном

на кляновых новенькіх канвертах,
барвянець якім асеннім днём.

Ад былой любві – святой ці грэшнай –
іскры ўваскрасаюць у вачах,
быццам не ачахлі галавешкі
на пагаслых над зарой кастрах.

І чытаеш: вуліцам зялёным,
гарадам якім ты блізкі зноў?
Подыхам успыхвае знаёмым,
гарадам якім ты блізкі зноў?
Подыхам успыхвае знаёмым
на губах гарачы свет кастроў.

## КАРАГОД СТАНЦЫЙ

У далеч якую хаваюць гады
той квецені шчодрай дыханне,
што брала
ў палон і пасёлкі, і гарады,
не абмінала бяссонніц вакзалаў?

А свет не нямы, не сляпы і ў імгле,
і сеюцца службы дыспетчарскай словы
на прывакзальны перон, дзе хмялеў
залётны лісток і пад сонцам, і громам.

Варожаць аб чым і туман, і агні
прастораў зямных і нябесных?
Праз ночы імчаць цягнікі і праз дні
на гук веснавы з пасівелаю песняй.

* * *

На гальфстрымы дыхання твайго
зоры моляцца ці не моляцца
сцюжнай ноччу над цішай снягоў,
над акном з неспакоем-бяссонніцай?

Зор далёкіх чакаць адказ –
як ляцець на Юпітэр ці Марс:
пасівееш апошнім воласам,
не рэнтгенам прасвечаны – космасам...

### І Ў СЦЮДЗЁНЫМ СВЕЦЕ

Праз імглу, віхуры завірухі
клічуць на дарогах – ноч ці дзень –
рукі, без якіх нямеюць гукі,
вочы, без якіх святлее цень.

Купалы калумбамі стагоддзяў
і званы – сыны зямных надзей –
моляцца:
– На снезе і на лёдзе,
як раней, душа, не халадзей.

* * *

Сёння студзіць рэчку не слуга –
раніцы марознай яркі позірк.
Дзе той бакен (зваўся ён "куга"),
што ківаў і плёсам, і нябёсам?

Лёдам успамін ці закране
заўтра снегавая з ветрам сцюжа,
ці ў завею, нібы па вясне,
зноў анёлы над зямлёй закружаць?

### ВУГАЛЁК

Вугалёк жывы схаваўся ў прысак.
Вугалёк жывы падварушу –
і рассыпле ён агніста іскры
на маю душу.

Вугалёк – ты сябра мой вячэрні –
не шкадуй, гусцей, жарчэй сыпні
і гукання, і маўчання зерне
ў роднай цішыні.

Асвяці і тое, што пагасла,
знікла ў далячынях лет і зім,
дзе хадзіў гасціць да зораў ясных
неазяблы дым...

* * *

Тваёй рукі кранаюся, нібыта
кранаюся малітвы вечароў,

дзе пацалункі зорнымі арбітамі
блукаюць над сцяжынамі гадоў.

У гэты час марозны, час зімовы
тваёй рукі кранаюся, каб зноў
бярозы пра любоў шапталі долу,
укрытаму прызнаннямі снягоў.

Тваю далонь пад небам прамяністым
дыханнем саграю, як птушаня.
І дзён далёкіх флейты голас чысты
ляціць сініцай у абдымкі дня.

### *ПОМНЮ*

Словы цёплыя і позіркі за мною
зноў ідуць з бязмежжа сцюжных зім –
там яшчэ без горычы і дым,
не падвешаны журбой зямною.

Там з вакзальнай мітуснёй і з неспакоем
голас ціхі парадніўся твой,
а сцяжынкі кружаць грайным роем,
ружаю марознай – вышынёй.

Хочуць што данесці ў свеце ранім
да тваіх разбуджаных вакон,
за якімі – залатыя грані
на бярозах сонечных ікон?

* * *

Ледзьве ліст страпянецца сцямнелы,
толькі зорка ледзь чутна міргне –
неспакоем асветляцца цені
ад святла ў непагаслым акне.

Ноч, як бежанка, ходзіць ля вокан,
зазіраючы ў кожнае з іх
запытальна-дапытлівым вокам,
і трывожна напружвае слых.

І ля трасы бетоннай, ля сцежкі
да світання шукае каго
беспрытульніца ціхая, пешкі
ідучы на далёкі агонь?

і пра што між ствалоў стромкіх сосен
і прымоўклых дамоў гарадскіх
ападзе павуцінкай у восень
ці пачуты хоць некім уздых?

## *ВЯСЕЛЬНЫЯ СУБОТЫ*

У суквецці стужак россып яркі
шарыкаў чырвоных і блакітных –
маладою радасцю без хмаркі
далячыні чысцінёй абмыты.
Майскі свет – адкрыты і прыгожы.

Ды ляціць, як роздум нечаканы,
на дарогу на вачах прахожых
жоўты шарык, хуткасцю сарваны.

* * *

Што глыбей глыбокага калодзежа?
Возера падземнага вада.
Што глыбей вады з такога возера?
Дол каменны, цвёрдая руда.
Што глыбей, чым дол той зацвярдзелы?
Дол наступны, а за ім – яшчэ,
як ляднік, калісьці анямелы
дол, што сіверам вякоў пячэ.
Што ж глыбей за той ляднік глыбокі –
сховішча неадшуканых руд?
Чалавека погляд адзінокі
між мільёнаў воч.
Мільёнаў рук.

## *ЧЭШСКІ ВЕЧАР*

Вечнасць моўчкі вечар абдымала.
Космас кос тваіх і космас сэрца
ў горадзе на ўскраіне квартала
вартавала сцішанае вецце.

Што ў тваім разгадвала паглядзе
вышыня – ці скажуць ліпы букам
хоць адным лістком, што промень гладзіў,
хоць адзіным перагрэтым гукам?

Русакосае не адцвітае лета.
Цёплы вечар Чэшскіх Будзеёвіц

і зіму, замоленую ветрам,
маладым тваім дыханнем ловіць.

* * *

Усміхаецца белаю плотачкай раніца,
вынырае ў тумане на плыні вады,
як і ў тыя гады,
дзе яшчэ пра журбу не пытаецца
бераг твой малады.

Вынырае з бліскучай лускою з вады
прывітаннямі даўняе лета,
што лавіла ў свае невады
зор і сонца сакрэты.

Пра чые тут сляды
губы рыбы, як з чыстай слюды,
выдыхаюць склады плёсаў памяці?

Варажу з паплаўком на маршчынах вады.
Усміхаецца белаю плотачкай раніца.

...А твой воблік вадой не змываецца.

### *РАНІШНІ РАМАНС*

Мелодыі над квеценню каштанаў –
знаёмыя, іх ведаеш даўно.
Пытанні – прэч, калі сягоння рана
тваё здалёк паклікала акно.

Такі святлісты, без хмурынак, ранак –
і пчолам кветкі, нібы губы, піць.
Сплывай, сыходзь за моры, акіяны
сум учарашніх рэчак і крыніц.

Снам-туманам ныраць на дно на самае
віроў раскручаных, davераных вясне.
І не адною квеценню каштанавай
захмелена і неба ў сівізне...

Да берагоў, што зберагаць умелі
сакрэты плёсаў і віроў рачных,
лілея подых запытальна-белы
на выдых шле, на ўздых грудзей чыіх?

## ДЫПЦІХ ТВАЙГО ВОБЛІКУ

### *1*

Як малітва за ўсё і за ўсіх –
воблік твой, раннім небам атулены,
міражом з варажбою зязюлінай,
з мітуснёй матылёў лугавых.

Глыбіню вымяраць не метрамі.
у якой ты маўчыш ноччу й днём.
Да цябе дакрануцца б – хоць ветрамі,
Хоць дажджынай адной.

Спагадае чаборам і верасам
бор, дзе ў спёку не родзяць грыбы,
без падказкі чыёй:
– Не вернецца,
што аднойчы на свеце згубіў?

### *2*

Сонца з кожнай мурашкай вітаецца,
сваякуецца з хмарамі і воблакам.

Углядаюся ў далечы.
Раніца
Зноў параніцца тваім воблікам...

Вечар пасее агні –
вецер шукае мелодыі
ў свеце. дзе дрэў карані
жывяцца вечнымі водамі.
Знічкі над кожнай вярстой
сыплюць святло мімалётнае.
Неба – не рамай пустой –
поўніцца зорнымі сотамі.
Верасень верыць усім
позіркам, шэптам з прызнаннямі.
Бераг пад лісцем асін
дыхае даўнімі тайнамі...

## ГЭТЫ ДЗЕНЬ

Вечнасць – не ламбард, з якога можна
выкупіць мінулых дзён абсяг.
А наступным будзе дням жылплошча
з небам, як калісьці, на пасаг.

Гэты ж дзень ідзе за далячыні
зашыфроўваць захад для каго
і чырвоным колерам, і сінім –
для якіх анёлаў і багоў?

Перад тым, як плёсы і віры ўсе
замуруе маразоў уздых,
цёплы міг, зноў адгукніся з высяў
словам з вуснаў. сэрцу дарагіх.

Гэты дзень і без цябе – з табою.
Так, напэўна, і пустыні слых
ловіць акіянскі гул прыбою,
хваляванне хваляў штармавых...

* * *

Шар зямны вачамі тэлескопаў
рух высочвае начных планет.
Гнецца ў садзе жнівеньская голька:
спее яблык. Залаты ранет.

А ў траве свайго жыцця сакрэты:
для жукоў кірмаш тут і вакзал.
Векавечны космас запаветы
караням вузламі завязаў.

Зорку не сагрэеш на далоні –
Млечны Шлях не закрануць рукой.
А расінка, як дзіцё бяссоння,
чый чытае ў свеце неспакой?

## ДНІ ЦІШЫНІ

Ёсць такія дні, калі маўчанне,
як аблога з чатырох бакоў глухіх,
і душа, як на пустым прычале,
хоць рачны пачуць жадае ўздых.

Слухаеш, ці далеч адгукнецца,
у якой рассыпаны вясной
квецень, што ляцела і да сэрца
праз вятры і туманоў сувой.

Ловіш: ці праб'ецца незабыты
летні гук, суніцаў саладзей,

і прамень на восеньскай вадзе
абвянчае дзень святлом абмытым.

Цеплаходам мёрзнуць у маўчанні.
Лёгкі ліст за кім ляціць у свет?
І душа, як на пустым прычале,
гучным дням шле цішыні прывет...

* * *

Серабрыцца пылок снегавы
пры святле ліхтароў і вокан.
Быў учора з табою на "вы"
пад аблокаў малітвай высокай.

Сёння вечар за такой варажбой
маладой –
у здзіўленні:
– Дзе я?

Сёння будзе сустрэча з табой
і на "ты" перайсці
ёсць надзея...

## *УВЕРЦЮРА ПРАДВЕСНЯ*

Яшчэ без зеляніны, ледзь жаўцее
вярба, злавіўшы дух сакавіка
пасля зімы без гурбаў і завеі –
і снежку ёй не кінула рука.
Яшчэ на скразняках лісток баіцца
праклюнуцца цікаўным птушанём
і абвясціць без слоў усім сініцам:
– Я – ваш сваяк, хоць і з адным крылом.
Яшчэ вада на рэках і азёрах
не набрыняла сінню вышыні.
Яшчэ любві не адсырэлы порах.
Пульсуе кроў – жарынкі цеплыні.

* * *

Пра вёрсты распытае, пра гады,
сатканыя і з радасці, і з болю,
як і раней, ля вокнаў бэз густы...
А нам з табою ці сустрэцца болей?

Тут нават верабей умеў мастацтвам
здзівіць сваім, не просячы ўзамен
прызнанняў гучных пад галлём акацый,
калі з табой быў заручоны дзень...

## *АБНАЎЛЕННЕ*

Надрэчны салавей світанню шле прывет.
І сціплы ціўкат верабей зноў дорыць.
Рахманы гром Рахманінавым свет
вітае без эстрадных *дутых* зорак.

І пра жыццё імкне травіны сказ,
што акрыяла. Так было заўсёды.
Што закране і абміне тут нас?

Мелодыяй нябёсаў – прызнанні-пералёты.

* * *

А без твайго дыхання
так холадна-сцюдзёна
не толькі ў час завей і маразоў –
і ў дзень, калі на гольцы
першынец зялёны
свет спасцігае з веснавых азоў...

## *НАЧНАЯ МАЗАІКА*

### *1*

Дождж тасаваў да раніцы ўсю азбуку,
агучваў літары на шкле акна.

Тваё імя не лобзікамі – лазерам
вырэзвалі маланкі да самага відна.

### *2*

Лісток цалуецца з дажджынкамі. Шчаслівы.
“Ю” ў слове паўтараецца “люблю”.
Далёка ў моры зmораныя крылы
абвесцяць пра світанне караблю...

Алесь Бычкоўскі



...нашай літаратуры бракуе стваральнай сатыры...

# Час разумнікаў

***Апавяданне***

Лісты з вершамі ў рэдакцыю накатваліся хвалямі, асабліва вясною, калі, так бы мовіць, у служкаў муз наставала абвастрэнне, што пацвярджала старую як свет выснову: вершы складаюць усе, а вось уласна паэтаў – мала, можна пералічыць на пальцах.

Славамір трымаў у руках выцягнутую з канверта без зваротнага адраса пажоўклую цыдулку і разглядаў выведзеныя няўклюдным почыркам літары. Ліст быў падпісаны стрэлападобным прозвішчам Кац, а змест выклікаў, мякка кажучы, непаразуменне. Славамір прабегся позіркам два разы і нічога не зразумеў. Бадай, ніколі не разгадаецца загадка, чаму калі сталы чалавек раптам набывае або адкрывае ў сабе здольнасць рыфмаваць словы, ён у большасці выпадкаў імгненна пачынае лічыць сябе паэтам? Ды нават прымае за святы абавязак закідваць творамі раённую газету, у якой Славамір вёў “Літаратурную старонку” і адказваў за асвячэнне

культурнага жыцця. Таямніца. І яму, трыццаціпяцігадоваму супрацоўніку, даводзіцца ўсё дасланае вычытваць-перачытваць, па крупінках вышукваць годныя для друку рэчы, рэдагаваць, рыхтаваць і своечасова класці на стол галоўрэда. Але што зробіш, работа такая.

Ліст невядомага Каца быў зусім ні ў якія рамкі. Аўтар паведамляў, што ўсё жыццё навылёт выпісвае раёнку, чытае і душою адчувае роднае слова, любіць літаратуру і будзе вельмі рады, калі надрукуюць верш, напісаны паводле рэальных падзей (у тэксце – “сабытиях”), ганарар можаце не плаціць, абы надрукавалі. А далей уласна верш, які наўпрост уяўляў сабою немудрагелістую праяву постмадэрнізму ў вясковых умовах.

Нязданых вершаў Славамір не цярпеў, а рыфмы правінцыйнай багемы выклікалі вострыя спазмы сядзельнага нерва. Дарэчы, літаральна да ўчарашняга вечара ў вядучага “Літаратурнай старонкі” таксама мелася таямніца, якую ён да пары пільна ахоўваў і нікому не дэманстраваў. Набрыняўшы адчайнай рашучасцю, Славамір пісаў раман пад назвай “Час вар’ятаў”, у якім, кажучы шаблонным выразам, выплюхнуў набалелае. І пра сябе, і пра калег, і пра жыццё наўкола, і заадно пра тое, што думае насамрэч наконт усяго ў краіне, палітыцы, грамадскім жыцці. “Час вар’ятаў” атрымаўся, на думку аўтара, таксама паэзіяй, толькі ў форме зубаздрабняльнай жорсткай прозы. Гэта вам не ўзнёслае вершаплёцтва пасівелых дзевак і асобных мацяркоў-адзіночак, якія завалілі рэдакцыю эпістоламі для “літаратуркі”. Упершыню ўласна створаны мастацкі тэкст задавальняў Славаміра як мае быць. Месца ж у творы знайшлося многім сябрам і знаёмым, зразумела, усе яны хаваліся пад несапраўднымі імёнамі, а наперадзе першага раздзела было пазначана: “Сатырычная антыўтопія з навукова-фантастычным складнікам” – на ўсякі выпадак, каб не здагадаліся, хоць думаць так наіўна.

Як толькі твор быў завершаны, засвярбела пахваліцца, бо Славамір быў не з тых, хто піша “ў стол”. І стваральнік наваспечанага рамана яшчэ з вечара разаслаў рукапіс дзясятку е-мэйлаў знаёмых і сяброў, а цяпер чакаў рэакцыі.

Славамір склаў у чатыры рэдзі атрыманы са свежай поштай ліст і схаваў у кішэню пінжака.

* * *

Наступствы не прымусілі доўга чакаць. Першымззваніў рэдактар раёнкі, у якой працаваў Славамір, і ласкава (сама гасціннасць) запрасіў на гарбату з пернікамі. Славамір сабраўся з думкамі, употай перажагнаўся і падаўся на начальніцкі выклік. Не ў хату запрасіў рэдактар, а ў працоўны кабінет.

Настрой газетнага начальніка было адразу не ўгадаць. Ці то кплівы, ці то здзеклівы, заўсёды хаваўся за ўсмешлівай маскай. Праўда, шэф уласна заварыў гарбаты і падаў Славаміру конаўку, калі той прысеў на крэсла побач з шырачэзным рэдактарскім сталом.

– Ты нягоднік, – зазначыў шэф.

Славамір падрыхтаваўся да падзення бомб у свой агарод.

– Я мусіў не выспацца з-за цябе, разумееш, пісака?! Ночачку навылёт чытаў, а асобныя моманты нават перачытваў. Захапіла і не адпускала, пакуль не скончыў. Зараза. Халера!

Славамір разняволіўся. Дарэмна чакаў наганяю. А прынамсі, за што

таўчы ў карак? Рукапіс жа нідзе пакуль не надрукаваны, дый не факт, што нехта надрукуе. А паказаць тэкст спачатку прататыпам галоўных герояў – гэта нават можна расцаніць як дужа асабісты сяброўскі жэст. Нават у нечым інтымны.

Шэф няспешліва дастаў пачак любімай “Астры”, выцягнуў папяросіну жоўтымі пальцамі, уставіў у зубы, паднёс запальнічку і пстрыкнуў. Адразу запанаваў смурод удушлівага курава.

Славамір адсёрбнуў для прыліку і адставіў кубачак, гарбаты зусім не хацелася.

– Скажы, не боязна такое пісаць? Толькі шчыра. Мо ў цябе проста азарт? Напісаў, разаслаў, а цяпер цікава паназіраць, што будзе.

– Раз напісаў, то, відаць, не.

– Так-так, – Пырнікаў зацікаўлена зірнуў і адсунуўся да сцяны. – Хлопча, ты добра пішаш, малайчына, але глядзі сабе, Гагарын далятаўся, а ты – дапішашся.

– Ну, а што здарыцца? Я ж не злодзей, не карупцыянер, я проста трошкі пісьменнік.

Пырнікаў скрывіўся.

– Балабол, нельга быць пісьменнікам трошкі. Ты або пісьменнік, або га...но жоўтай курыцы, кампрамісы недапушчальныя. Ты падумай, паразважай, тваё ж чытаць будуць і ўспрымаць, як успрымаюць друкаванае слова – у меру ўласнага выхавання, як жа можна ў гэтай справе быць “трошкі”?

– Згодны.

– З іншага ж боку: хібы грамадства выкрыць захацеў? Пакрытыкаваць сваіх жа? Лічыш сябе разумнейшым за астатніх, быццам сябры-калегі не ведаюць і не бачаць, што наўкола адбываецца? Захацеў стаць праўдашукальнікам, шоры з вачэй зняць у кожнага?

Славамір адчуў як мяняецца градус размовы, і вырашыў абараняцца.

– Пісьменнік мусіць агаляць душу, часам ладзіць душэўны стрыптыз, вываройваць набалелае. Без таго не бывае добрай літаратуры. Часам варта быць бессаромна шчырым. Гэта адно, а другое: у мастацкім тэксце жывуць толькі лірычныя героі. Хоць на праўдзе, здараецца, яны маюць прататыпаў у рэальным жыцці. Не стану спрачацца. Заўважу, я напісаў тое, што палічыў важным. Ці не ўпершыню ў жыцці!

– Ну, ціха-ціха, – памякчэў Пырнікаў. – Сціпласці табе бракуе, браце, мне як начальніку добра відаць. Аднак прымі карысную параду: нікому свой талмуд не паказвай, не друкуй нідзе і не распаўсюджвай, бо дадуць мне адмашку і я мушу скасаваць кантракт, прычына знойдзецца. Разумееш сітуацыю, у савецкай краіне жывем. Вершык даўней быў, пры канцы васьмідзясятых: “Товарищ, верь, пройдет она: и демократия, и гласность, придут былые времена, и вот тогда госбезопасность припомнит ваши имена”.

Задаволены здзейсненым эфектам, Пырнікаў выпусціў струмень дыму ў столь і падвёў выснову:

– Начальства ў нас ні халеры не разумее пра “лірычны вобраз”, а тваю пісаніну ўспрыме як выклік. Адно выратаванне, кіраўніцтва чытаць не ўмее, пакуль пальцам хто не тыцне і не ўвядзе ў вушы.

Славамір уздыхнуў.

– Разумею, бос.

Пырнікаў рагатнуў.

– На маё меркаванне, нашай літаратуры бракуе стваральнай сатыры, разумееце? – гнуў лінію Славамір. – Народу трэба выпускаць пару. Гэта як у показцы: ляжаць у ложку муж з жонкай, а ў мужа раптоўна не атрымалася тое, чаму належыць атрымацца. І што, рабіць трагедыю? Парагаталі і спаткі. Дадзеная канцэпцыя напоўніцу ўвасоблена ў маім творы. Няхай я ўплёў у мастацкі тэкст сюжэтную лінію пра тое, што не вынікае ў начальства даць народу тое, што абяцалі. Дык канец свету ўжо? Хай лепей народ рагоча з кіраўнікоў, чым марыць напароць усіх іх на вілы. Прачыталі кніжку, пасмяяліся хорам, пару выпусцілі і давай далей працаваць, да наступных выбараў.

– Цікавая канцэпцыя, – зазначыў Пырнікаў. – Але ж з эпохі "Пінскай шляхты", а затым "Запісак Самсона Самасуя", сам ведаеш, да падобнай сатыры ў нас на афіцыйным узроўні ставіліся не лепшым чынам.

– У тым і праблема, што гумар зараз або ніжэй пояса, або суцэльны здзек з п'янічак. Адным словам, прымітыў. Таннее ўсё навокал. І літаратурная сатыра не выключэнне.

– Грамадства ў нас такое.

Славамір гмыкнуў.

– Ну вось бачыце. А для каго мы шрайболім-друкуем у газеце пераможныя рэляцыі? Яўна ж не для грамадства.

– Сам не ведаю, – паціснуў плячамі Пырнікаў. – Для вертыкалі. Адназначна.

Сцяміўшы, што ляпнуў лішняе, рэдактар перавёў рэйкі на бягучыя справы. Пацікавіўся гатоўнасцю "Літаратурнай старонкі". Славамір дастаў з кішэні ліст з графаманскімі вершамі Каца. Пырнікаў уважліва прачытаў, паціснуў плячыма і паставіў патрэбную візу.

– Таксама вось нехта бессаромна шчыра выварочвае душу, а атрымліваецца ўрэшце адно паперка ў архіў, – зазначыў ён. – Аддай Сабіне, хай пакладзе ў тэчку з пісьмамі ў макулатуру.

Славамір схаваў завізаваны ліст назад у кішэню і сабраўся ўжо рушыць вонкі з кабінета, як рэдактар спыніў пытаннем:

– Чуў калі слова "манстрацыя"?

– Неаднойчы, – адказаў Славамір. – Маладзёвае захапленне, дэманстрацыя абсурду. Не самае моднае, але, гледзячы па тым, што паказваюць у навінах сеціва, вельмі смешнае. Дэманстрацыя ні пра што. Узнікла і распаўсюдзілася на Захадзе, пасля дабралася і да суседняй Расеі. А цяпер і ў нас хіба?

Рэдактар уздыхнуў, расцёр недапалак пальцамі ў попельніцы.

– Учора ў выканкаме на нарадзе па падрыхтоўцы свята горада камсамольцамі была агучана прапанова правесці манстрацыю і ў нас, ды якраз падвялі гэта да свята моладзі, якое вырашылі правесці ў адзін дзень.

Славамір зацікавіўся адразу, маўляў, тэма ягоная, культурнае жыццё.

– Вось і асвятляй ідзі, культура найперш за ўсё, – сказаў галоўрэд. – А "Вар'ятаў" лепш выдалі, у сметніцу. Абавязкова!

* * *

Сабіна асвятліла кудзеркі да попельнага колеру і выглядала з раніцы зоркай подыуму для саракагадовых. У працоўны кабінет, дзе ўжо карпеў над паперамі Славамір, адразу ўварваўся пах парфумы, а следам з грацыяй

фурыі ўляцела ўласна Сабіна. Убачыўшы Славаміра, жанчына раптам спахмурнела, насупілася, а пасля нечаканана рассмяялася.

– Герой! – усклікнула Сабіна. І далей адбылося зусім неспадзяванае: нахілілася і цмокнула калегу ў шчаку. Толькі пасля з грукатам адсунула нагой крэсла і села за стол.

Агаломшаны Славамір збянтэжыўся, бо сапраўды не чакаў.

– Палову ночы чытала! – выпаліла суседка па кабінеце. – Малайчына, выдатна пішаш. Мо і гучную літаратурную прэмію дадуць...

– Ага, дадуць, ухопіш. – Там ведаеш колькі прагных да грошай у чарзе стаіць?

– Часам на ўсе гэтыя прэміі такую ўжо каламуць намінуюць, страшна ў рукі браць.

– А ты думала як? Пісьменніцкая праца такая і ёсць: усім не дагадзіць.

– Ага, суцэльны постмадэрнізм наўкола. Калі кніга не зразумець пра што, можна смела наляпляць лэйбл "інтэлектуальная проза".

Славамір рагатнуў. Вось за што ён шчыра паважаў Сабіну, дык за тое, што напарніца ніколі ў жыцці не займалася паэзіяй. Аднойчы яе суседку кінуў муж, і тая ў адказ надрукавала ў газеце нізку жалобна-з'едлівых вершаў. Употай рагатала ўся рэдакцыя, а мама Сабіны катэгарычна заявіла, нават паставіла ультыматум: "Дачуля, крый Божа пачнеш рыфмаваць радкі, я цябе адлуплю дрынам". Хаця магла і не пагражаць, у Сабіны прысутнічаў дар пісаць толькі выдатную прозу. Па-жаночы іранічную, часам сцярвозную, але эфектную. Славаміру падабалася. Праўда, спецыфіка раённага выдання не давала Сабіне разгарнуцца на ўсю душэўную моц, а то яна ўжо задала б перцу ўсім. Сабіне каб дзе ў жоўтым выданні працаваць... Яны часцяком грызліся: Славамір і Сабіна. Аднак іх грызня-сваркі ніколі не пакідалі сценаў агульнага кабінета. Пры выпадку яны адно за аднога гарой стаялі, заступаліся, абаранялі. Славаміру падабалася сяброўства з Сабінай, хоць і ставіўся ён да сяброўкі з пэўнай доляй іроніі. Сабіна выдатна ўвасобілася ў вобразе адной з гераінь "Часу вар'ятаў". Ён нават асобныя яе выразы, словазлучэнні, дыялогі перадаў слова ў слова. Думаў, Сабіна абурыцца, але ж не, нават пацалавала ў шчаку. Разумная жанчына. Сабіна была старэй за яго гадоў на сем.

– Так разумею, для рамана ты браў вобразы з рэальнага жыцця?

Славамір кіўнуў.

– Лёгка ўгадаць партрэты, вельмі трапна апісаў, праўда, я не з усім згодная.

Славамір развёў рукамі і спаслаўся на аўтарскую задуму і пошук лірычных вобразаў.

– Нават Пятровіча, вартаўніка РДК, далучыў. Старога ж могуць вось-вось за гарэлку вытурыць з працы, хоць і чакаюць, пакуль да пенсіі дашкандыбае. Летуценнік-рамантык. Табе мо пра каханне аповесці пісаць?

– Спрабаваў. Не атрымліваецца. Да сярэдзіны твора ўжо пачынаецца страляніна, і людзей на фарш шынкуюць, – пажартаваў Славамір. Хоць тое і не было жартам, калі разабрацца. Рамантычныя пачуцці апісваць не атрымлівалася, толькі баявыя дзеянні і прыгоды. Наканаванасць, відаць. – Ведаеш, Сабіна, часам у творчасці мы ствараем свет, у якім самі мо хацелі б жыць. Але атрымліваецца далёка не ва ўсіх.

Сабіна ўзяла асадку і ў задуменні пастукала па стале, затым падперла далонню шчаку і стала глядзець у вакно. Славамір выняў з кішэні ліст.

– Аўтар даслаў, з прыпіскай “для літаратурнай старонкі”, і самы цымес: паводле рэальных падзей, – ён зручней уладкаваўся і пачаў цытаваць уголас. – “У вёсцы Д. Напилися выпивухи стали драку падымаць зразу кулаками апатом каршнями”...

Сабіна сціснула далонню рот і пачырванела. Смяшлівыя іскрынкі бліснулі ў зрэнках.

– Не здзекуйся!

Славамір быццам не пачуў, упарта працягнуў “катаванне”.

– “Деци стали крычаць пачули саседзи стали скорую вызываць. Дабавили Наташу в бальницу палажыли на пирыраны стол. А доктар з нажами стаит апирыравав доктар Наташу ана смяротна ляжыць”...

– Стой-стой! – перабіла Сабіна. – Гэта пра што?

– Здаецца, экзістэнцыйная вясковая драма, – Славамір перавярнуў ліст і дачытаў заканчэнне. – “Улавила смерць Стипана загубы Дзеда Сципа ох ты Виця разрушыв всю сямю”.

– Няма слоў, – выдыхнула Сабіна.

– І подпіс: Кац, – дабіў апошні цвік Славамір. – Проста ўзор народнай творчасці.

– Што рэдактар сказаў?

– Паставіў візу “ў архіў”.

Сабіна, калі перастала смяяцца, пасур’ёзнела моцна.

– Па шчырасці, за гэтымі радкамі крыюцца глыбокае гора і трагедыя, чыесьці зламаныя і знявечаныя лёсы. Здаецца, ведаю, пра каго гаворка. З міліцыі тыдзень таму зводку брала. Там таксама імёны згадваюцца: Сцяпан, Віця. І вёска Д.

– Бач як, у людзей трагедыя, а нехта ж во вырашыў з той нагоды верш напісаць, каб надрукавалі. Вось адкажы, што іх натхняе?

Сабіна ўзяла ліст, разглядзела ўважліва крывыя літары, пакруціла ў руках, аддала назад.

– Маладзік мабыць, вось і забірае шызоў. Творчая нацыя.

– Купала ў труне перавернецца, – заўважыў Славамір. – Наўкола адны графаманы.

– Мо людзі, калі пішуць, імкнуцца прэч ад рэальнасці.

– Думаю, аўтар допісу і слоў такіх не ведае.

– То падсвядома. Слухай, я тут меркавала табе сюжэт падказаць. Ёсць настаўніца на перыферыі. Маладая прыгажуня. Хутка возьмецца шлюбам з нямецкім рэжысёрам кіно.

– Пры чым тут “Літаратурная старонка”?

Твар Сабіны набыў таямнічую загадкавасць.

– Як высветлілася, гэта не проста рэжысёр кіно, а кіно для дарослых, то бок, здымае эратычныя сюжэты. І прыбыў у краіну наўмысна зняць стужку пра асаблівасці нашай нацыянальнай разбэсты. Аб’явіў кастынг. Праўда, усё напаўлягальна і амаль употай. Нідзе не абвяшчаў, не тлумачыў менавіта якія стужкі і для каго здымае. Проста – рэжысёр кіно. Ну, і нашыя дзяўчулі і жанчыны рынуліся далучыцца да мастацтва, кінуліся нібы ў прадонне, усім жа цікава, на якую ролю запросяць, колькі заплоцяць. Пра спецыфіку фільма абвясцілі-паведамілі толькі траім асобам, якія вытрымалі сумоўе і спадабаліся знешне. І сярод абраных – настаўніца мовы і літаратуры, якая вырашыла падзарабіць. Што там адбылося сярод іх, застаецца толькі гадаць, але настаўніца запрасіла рэжысёра наведацца

на ўрок літаратуры, сутыкнуцца з нашымі рэаліямі. Пасядзеў, папрысутнічаў той, і вось бяда-неспадзяванка: пазнаёміўшыся з вершамі Купалы і творчасцю Багдановіча, нямецкі рэжысёр неадкладна вырашыў кінуць здымкі сумнеўнага кіно і пачаў пісаць вершы пра каханне.

– А святыя пакутнічкі! – усклікнуў Славамір, закаціўшы вочы.

– Вось вам прыклад і ўзор, як гаючая моц айчыннай літаратуры вылекавала душу старога разбэсніка і круцяля.

– Ага. Уяві паэзію кахання ад рэжысёра порна. Страх бярэ.

– Тым не менш, кажуць, ён плакаў, калі настаўніца выразна ўголас дэкламавала знаёмаму госцю каштоўнасці айчыннага вершаскладання. Небарака так расчуліўся, што неадкладна вырашыў экранізаваць “Зорку Венеру”.

– Усё, я здаюся.

– Го! Мы нацыя літаратараў, – пераможна запэўніла Сабіна і зрабіла выснову. – Мне мроіцца, нашу краіну здаўна агарнула творчая энергія, нават цэлы акіян энергіі, ці мора: адно на ўсіх. Толькі нехта на беразе стаіць, плёскаецца, баіцца ісці далей у плынь, ды чоўна не мае, каб плыць, такому чалавеку наканавана пісаць каламуць. А хтосьці вяслуе напоўніцу па тым акіяне, ды яшчэ ладзіць ветразь, або шпарка ходзіць-гойсае па той вадзе туды-сюды ва ўсіх напрамках. Акіян вялікі і паўнаводны, і кожны можа зачэрпнуць з яго суадносна з талентам і здольнасцямі.

– Вельмі слушна, – запэўніў Славамір.

– Застаецца толькі высветліць пра цябе, дружа: ты на беразе ці на параходзе?

– Часам мне самому падаецца, быццам я ў чоўне Харона. На адным беразе чакаюць творцы, на другім – “Літаратурная старонка”, але я кідаюся з чоўна і ўпарта тупаю па дне ў невядомым накірунку, прыдушаны таўшчынёй вады ў выглядзе падобных допісаў, – прызнаўся Славамір.

Сабіна зразумела і пахітала галавой, патрэсла кудзеркамі. На тым пакуль і разбегліся, далей займалі бягучыя справы.

“Літаратурная старонка” выходзіла раз на месяц і акумулявала тутэйшых плыўцоў неабсяжнага і топкага творчага мора. Праўда, гледзячы па выніках творчасці, мясцовыя аўтары не ў моры плывуць, а захраслі недзе ў балоце. Славамір з’едліва пасміхнуўся, перабіраючы лісты.

Шрайболяць усе запар, хто не гультай. Сапраўдная бяда, калі чытач раптам дашле пісьменніку кнігу ўласных апавяданняў ці вершаў. Мо творчасць для іх кшталту дзейснай псіхатэрапіі? Выплюхнеш у сеціва ды сацыяльныя сеткі – не раўнуючы як камень з душы здымеш. Хто пісаць не можа, той гарэлку п’е і так лякуецца. Хаця барані Божа ад падобных лекаў, лепш ужо грамафоніць у фэйсбуку. Так, у тутэйшай душэўнай прасторы таму і раскінулася глыбокае творчае мора, мо нават і акіян, бо няма ў нас звычкі наведвацца да псіхатэрапеўта (па-першае, каб суседзі не палічылі за дурнога, а па-другое, грошай шкада), а ў царкву хадзіць ды Богу маліцца збольшага развучыліся. Безумоўна, тут творчасць і выпірае, бруіць, віруе.

Славамір падумаў, што канцэпцыя назвы “Літаратурная старонка” безнадзейна састарэла. Варта прыдумаць іншую. І пад рубрыкай ставіць опусы кшталту сённяшняга ліста. Хай паглядзяць на сябе збоку, разам адразу на ўсіх, ды парагочуць, ну ці паплачуць, ну ці прамаўчаць.

* * *

Каля Дома культуры вартаўнік Пятровіч налепліваў афішы на доўгі стэнд для аб'яў, які месціўся побач з шэрагам партрэтаў пад надпісам “Нашыя перадавікі”. Над партрэтамі кідаліся ў вочы, гіпнатычна вабілі позірк клапатліва выведзеныя атрутна-чырвонай фарбай літары “У вышуку”. Насупраць знерухомеў дырэктар культурнай установы горада і, нібы зачараваны, разглядаў намаляваныя словы.

– Сапсавалі “Дошку гонару” нейкія паразіты, – вымавіў кіраўнік, калі Славамір наблізіўся. – Ніякіх матэрыялаў не набрацца, штовечар нешта псуюць. Моладзь! Не, гэтая краіна ніколі не будзе багатай. Паставіш лаву – зломяць, шкло на стэндзе – разаб'юць. Цьху! Цярпення не стае...

Выслухаўшы скаргу, Славамір згадзіўся. Насамрэч, што ў галаве ў людзей, калі ноччу ламаюць агароджы, топчуць кветкі на гарадскіх клумбах-газонах? Славамір уздыхнуў і вырашыў пазнаёміцца з рэкламай, якую тэхнічны супрацоўнік закончыў налепліваць.

Стракатыя літары сведчылі пра непазбежны канец свету на лакальным узроўні – музычны фестываль для гарадской моладзі. Выступяць мясцовая зорка – спявачка Груснічка і госці: панк-блэк-метал гурт “Астральныя бубянцы” і металкор-калектыў “Мёртвы Дэцл”.

“Ну а што, ёсць жа гурт “Мёртвы Кэнэдзі”, – падумаў Славамір. Успомнілася, аднойчы напаткаў у сеціве металёвы гурт “Ярость Маркса”, стрэліла ў галаў, што назва “Мёртвы Ленін” таксама пасавала б якой-небудзь дарк-готык камандзе.

– Ладзіш для гэтых баўбэлкаў фэст, а яны псуюць “Дошку гонару”, – не сунімаўся дырэктар.

– Мо нехта з вашых пажартаваў, а на моладзь наракаеце.

– Хто? – дырэктар падумаў. – Мо вартаўнік Пятровіч? Нешта не прыкмячаў за ім вялікую прагу гумарыць.

Славамір пацікавіўся праграмай свята.

– Доўга маракавалі. Летась дык на свята горада рыцарскі турнір збацалі, – прыгадаў дырэктар.

Супрацоўніку рэдакцыі тое добра помнілася. Дзікае атрымалася свята. І галоўнае – не сумнае.

– А сёлета нехта з сучасных камсамольцаў падказаў аддзелу моладзі правесці манстрацыю.

Разгублены твар дырэктара сведчыў, што ён і сам дакладна не разумее сэнсу запланаванай акцыі.

– Быццам бы дэманстрацыя абсурду. Пратэст дзеля пратэсту, толькі з гумарам, каляровымі шарыкамі, сцяжкамі і смехам.

– Дык у чым фішка? – удакладніў карэспандэнт, маючы намер высветліць, навошта ўвогуле тое шэсце-манстрацыя спатрэбілася.

– Асабіста я зразумеў так: выкрыць і паказаць усю абсурднасць грамадскіх пратэстаў. Быццам бы і дэманстрацыя, але на халеру нікому не патрэбная.

– І дазволілі?

– Узгаднялі на самым версе! І міліцыя, і эмчээснікі прысутнічалі на нарадзе. Гэтым звыклая справа – забараніць. Аднак пад патранажам аддзела моладзі, то бок райвыканкама ды камсамольцаў. Го! Запэўнілі, што

выглядаць усё будзе нібы парад на дзявятага мая, толькі пад шыльдай “манстрацыя”.

– Бал монстраў, – раптам падказаў Пятровіч, які ўважліва слухаў размову.

– Вось-вось! – у момант ажывіўся дырэктар. – Вельмі трапныя словы. Бегатня такая зараз, не апісаць, мітусня. У мяне такое пачуццё ад раніцы, быццам мне за ноч чужы галаў прынатавалі, а ўласна маю родненькую галовачку скралі. Вы не ведаеце, такое можа здарыцца з-за высокага ціску? – панаракаў-пажаліўся дырэктар. – Скажыце, Славамір, я не нагадваю вар’ята?

– Пакуль не, – супакоіў карэспандэнт.

Дырэктар зрабіў выснову, што проста моцна расхваляваўся з-за сапсаванай “Дошкі гонару”, падняло ціск і варта паказацца ўрачу.

Славамір яшчэ раз уважліва зірнуў на аб’явы і адчуў раптам пэўную спустошанасць. Праца над раманам адабрала шмат энергіі, высмактала эмоцыянальна, а тут яшчэ пра нейкія манстрацыі пісаць. Калі заняткі прыгожым пісьменствам з’яўляюцца адным са спосабаў збегчы ад сумнай рэчаіснасці, то Славамір дакладна вельмі аддаліўся ад жыцця, бо занадта доўгі час прабыў у свеце мрояў, фантазмаў і фантомаў уласнай кнігі. Свет фантазій таксама пэўным чынам наркотык, які выклікае прывыканне і залежнасць. Карацей, загуляўся Славамір у фантастыку. А ўлічваючы навуковы рэалізм квантавай невызначальнасці, з доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што насамрэч гэта фантастыка загулялася са Славамірам.

Ноччу прыснілася невядомая настаўніца літаратуры, якая разам з нямецкім рэжысёрам “дарослага” кіно спрабавала экранізаваць класічныя творы. А Сабіна рагатала і занатоўвала нешта ў рэдакцыйны блакнот. Даўно ўжо да Славаміра не прыходзілі падобныя сновішчы.

* * *

Падзеі наступных некалькіх дзён у Славаміравым уяўленні набылі сюррэалістычны налёт. Хтосьці натхнёна цытаваў “Час вар’ятаў”, хтосьці з’едліва пасмейваўся ўслед. Відавочна нехта з сяброў даў прачытаць знаёмаму, тыя – сваім знаёмым, сябрам сяброў, таварышам таварышаў. Кніга пачала множыцца і распаўзацца праз гарадскі сегмент сацыяльных сетак.

Горад тым часам рыхтаваўся да свята. Работнікі камунальнай гаспадаркі развешвалі гірлянды, сцягі, транспаранты. Шкрэблі граблямі кветнікі, драілі вуліцы, фарбавалі дамы і паднаўлялі агароджы, зграбалі, вывозілі смецце.

– Каму трэба ўся тая нудота, што ты пішаш? – спытаўся нехта.

– Ну камусьці ж трэба.

– Ленін вунь таксама пісаў. Пяцьдзясят пяць тамоў выпусцілі, а разумнікі сумняваюцца, ці быў ён літаратарам, пісьменнікам?

Славамір не на жарт устрывожыўся, ці не дарэмна ён разаслаў рукапіс?

А пасля надарылася тое, што, мабыць, магло і не надарыцца, аднак так склаліся абставіны. Славаміраў твор мабыць добра распаўсюдзіўся, калі з ім пабачыцца захацеў адзін літаратуразнаўца ў цывільным.

Раніцай выклікаў да сябе напалоханы рэдактар.

– Тут цябе на бяседу таварыш адказны запрашае.

Шэф адрэкамендаваў важнаму госцю, што сядзеў у рэдактарскім кабінеце, Славаміра і хуценька выскачыў, шчыльна прычыніўшы дзверы.

Нейкі час панавала амаль тэатральная паўза. Госць нетаропка, але з'едліва разглядаў Славаміра, быццам намагаўся зазірнуць у душу ці ўскрыць чэрап і пазнаёміцца з думкамі.

– Ачарняеце нашу дзяйствіцельнасць, малады чалавек. Супраць сістэмы вырашылі выступіць, але не ў адкрытую, а прыхавана, у літаратурнай форме.

– З майго боку было б глупствам ісці супраць сістэмы, – адказаў Славамір.

– І тым не менш...

– Хутчэй, я спрабаваў адлюстраваць сістэму.

– Ага, і паказаць яе ў форме сатырычнай антыўтопіі з навукова-фантастычным складнікам. Словы-то якія мудрагелістыя.

Хавацца не было куды, і Славамір шчыра прызнаўся, што так, усе калізіі, ну, ці амаль усе, узяты з сапраўднага жыцця, а персанажы спісаныя з рэальна існуючых людзей.

– Я тое зразумеў адразу, бо добра знаёмы з абставінамі жыцця вашага раёна, – запэўніў госць. – Падазраю, што галоўны герой – вашае альтэр эга.

Славамір на гэтую тэму мог разрадзіцца працяглай і змястоўнай лекцыяй.

– Калі адлюстраваць сістэму, сказаць усяму свету, як яна выглядае, у вашым уяўленні значыць выступленне супраць, то я ўжо выбачаюся, мыю рукі.

– Так-так, – госць павагаўся. – Карацей, навошта я тут: ваш твор чытаюць!

– Пачакайце, я ж рукапіс толькі дзясятку сяброў раскінуў, – перабіў Славамір, прыкідваючыся, што нічога на гэты конт не цяміць.

– А нехта ўжо патурбаваўся і, не пытаючыся,ываліў на пірацкія рэсурсы. Уласна праверыў, вашая кніга ўжо хутка пачне зарабляць грошы.

Славамір ухапіўся за галаву.

– Ваш твор чытаюць. Вы талент, Славамір! Калі шчыра, далібог, вашу творчасць вывучаць належным чынам варта.

І далей разлілася рака без берагоў, вадаспадам слоў абрынулася на аўтара. Госць захапляўся таленавітым творцам, – несумненна, новае імя на літаратурным небасхіле. Ухваляў і настаўляў. Па-бацькоўску папікаў і следам наракаў-ушчуваў, маўляў, у краіне мала годных пісьменнікаў, як бы хораша было Славаміраў талент скіраваць у належнае рэчышча. Неўпрыкмет літаратуразнаўца ў цывільным пераскочыў на тэму квітнеючай дзяржавы, падкопы знешніх ворагаў і развіццё народнай гаспадаркі, прыводзіў у прыклады шырокія новабудоўлі і дасягненні ў прамысловасці, падрыхтоўку маладых спецыялістаў у розных галінах, узгадаў спадарожнік і рэактар, спорткомплексы і падобную на зорны карабель бібліятэку, і пакрысе Славаміру пачало здавацца, што праз прамоўцу раптам пачало трансляцыю дзяржаўнае тэлебачанне. Мо гаварун і не хацеў, не даваў рады ўжо, але рот усё гаварыў і гаварыў сам сабою. І па шчаслівым адухоўленым твары пракацікалася слязінка ці то роспачы, ці то шчаслівага захаплення. І словы тыя нагадвалі гіпноз, салодкі кісель, вату, прамова нібы паланіла Славаміра, загрувасціла свядомасць, кінула ў каматознае здранцвенне, і Славамір ужо сам не ведаў, ці на яве ўсё адбываецца, так заслухаўся, занурыўся нібыта ў формулу гіпнатычнага заклёну.

Славаміру хацелася спяваць і радавацца, радавацца і спяваць.

І танчыць мятлікам.

І круціцца завірухай.
І пакараць прастору.
– Напіліся выпівакі, – раптам выдаў госць і вылупіў вочы.
Са Славаміра нібыта ветрам здзьмухнула каматозную вату. Госць заціснуў сабе рот дзвюма далонямі. Затым асцярожна адняў далоні, паглядзеў на іх, пасля нібы зомбі прамовіў:
– Сталі драку падымаць... зразу кулакамі...
Прамоўца ўзняў указальны палец угору да столі.
– Апатом каршнямі, – тон набыў характар апавядальніцка-казачны. – Дзеці сталі крычаць пачулі саседзі сталі скорую вызываць...
Славамір з цікавасцю назіраў, як унутры літаратуразнаўцы ў цывільным нібыта змагаліся дзве асобы. Адна транслявала перадачу навін, а другая – нядаўна дасланы верш, падпісаны невядомым Кацам.
“А мо, ён і ёсць Кац?!” – здагадаўся Славамір.
– Ну ўсё, – з пачуццем выдыхнуў госць, брудна вылаяўся, упаў галавой на стол і аціх.
...І ў той момант Славамір ачомаўся, страпянуўся, разагнаў раптоўнае насланнё, высветліў, што насамрэч яму ўсё прымроілася, бо ён амаль заснуў, трапіў у стан паміж сном і бадзёрасцю, і нечаканае інтэрмецца наўпрост падалося відавочна пад уплывам гіпнатычнага выступу.
– Асабіста мне бачыцца наступны варыянт, – заверыў госць і бліснуў натхнёнымі вачыма. – Трэба правільна скарыстаць ваш талент. Прапаную наступнае: напісаць працяг “Часу вар’ятаў”. Толькі ўжо так, як належна. Мы падкажам фактуру. Напішыце пра задаволеных, шчаслівых людзей, моцнае, здаровае грамадства. Напішыце так, каб паверылі, каб новая кніжка гэтаксама атрымала значны распаўсюд. І абавязкова назавіце “Час разумнікаў”. Тады ўсё прыйдзе ў парадак. Дамовіліся? Гатовыя раздзелы перадавайце мне, я буду належна кантраляваць творчы працэс, карэктаваць і падказваць, як лепей і прыгажэй падаць у тэксце матэрыял.
Славамір задумаўся.
– Прапаноўваеце знішчыць мой твор маімі ж рукамі?
Госць падняўся з-за стала.
– Прапаную ўнесці карэктывы ў створаны вамі свет.
Літаратуразнаўца ў цывільным пакінуў Славаміру візітоўку з нумарамі мабільнікаў і е-мэйлам для сувязі. На тым і развіталіся.

* * *

Мінуў тыдзень, і Славамір нікуды не зазваніў і нічога не напісаў. Творчы працэс мае своеасаблівую метафізіку, Славамір не ўмеў пісаць “па замове”. Проста нічога цікавага не атрымлівалася, адна лухта перла з-пад асадкі пра шчаслівых людзей. Натхнення не ўзнікала. Пісалася лёгка заўжды пра тое, у што лёгка верылася. І калі пра “росквіт” яшчэ куды ні шло, то ў здаровых людзей не верылася зусім. Аніяк! Мо і чытачам таксама не цікава чытаць пра тое, у што не верыцца?
Неўзабаве прыспела доўгачаканае свята горада. Чарговы выпуск “Літаратурнай старонкі” быў спечаны і пахнуў газетнай фарбай чатырохтысячнага накладу.
Дарэчы, з назвай старонкі за дзесяцігоддзі звыкліся насельнікі горада і чытачы, і тыя, хто дасылаў вершы з празаічнымі абразкамі. Наўрад ці

згадзіліся б усе на змены ў канцэпцыі назвы, аднак пасля разважанняў Славамір усё ж вырашыў даць падзагаловак, нібыта ў якасці абагульняючай тэмы, ды ў губу адказнага таварыша з "адкуль трэба". У шапцы так і пазначалася: "Час разумнікаў", і следам – правінцыйная паэзія, якая, паклаўшы руку на сэрца, на самой справе была ўжо і не зусім благой, а часам нават і добрай.

Што ж тычыцца працягу рамана, то Славамір зрабіў адзіную са свайго гледзішча правільную выснову: "А вось дудкі вам, скулля. Буду пісаць тое, што хачу!"

Сонца дабраславіла зямельку святлом цёпленькім і прыемным. Горад зіхацеў, стракацеў фарбамі. Свята паветраных шарыкаў і сцяжкоў. Моладзь з транспарантамі, і сталыя жыхары побач, музыка дзіўная. На часовай сцэне-памосце выдае хіты тутэйшая спявачка Груснічка. Плывуць натоўпамі ўзад-уперад людзі.

Адзін дзядзька надзімаў шарык. Дзьмуўся так, што аж пер...уў, і следам моцна пачырванеў, дзіка заазіраўся па баках. Славамір адвярнуўся, каб не зарагатаць. Манстрацыя-парад. Шэсце моладзі. Славамір пачаў чытаць надпісы на транспарантах і тут жа зразумеў, што яны мала чым адрозніваюцца ад перлаў спецвыпуска "літаратуркі".

"Мы нясем плакат", – значылася на транспаранце ў першым шэрагу. Доўгія гладкія ножкі ў гетрах, напаўаголеныя цыцкі, бялюткія банцікі – "школьніцам" гадоў па дваццаць пяць.

"Кожнаму – па піву!"

"Шануйце вярблюдаў – караблёў пустыні".

"Гаршчочак, не вары!"

"Манстрацыя за макратыю!"

"У банку грошай накапілі – ровары сабе купілі!"

"Я раблю фігню, але не адчуваю сябе дзівачкай!"

"Свабода – жаночаму роду!"

"Ой, усё"

...

– А даўней пісалі "Мір, труд, май" і "Слава КПСС". Помніш той час? – пракаментавала Сабіна, якая неўпрыкмет наблізілася з-за спіны.

Жанчыне, якая аддала дваццаць гадоў раённай газеце, было смешна, дзікавата на ўсё глядзець.

Сапраўды, дзея выглядала так, нібыта аперацыйная сістэма кампутара дала збой. Славамір глядзеў на натоўп, асобныя адзінкі якога нагадвалі біты і байты кампутарнай інфармацыі, на бесклапотныя сцяжкі і шарыкі, бестурботныя транспаранты.

Раптам здаля мільгануў надпіс: "Жыве Беларусь!", і Славамір зразумеў, што не ўсё яшчэ страчана, і будучыня яшчэ ёсць, як і надзея на Царства Нябеснае, надзея на краіну, дзеля якой мы ўсе створаны і якую аднойчы згубілі. І ў якую многія так марыць вярнуцца...

Андрэй Козел



...цень мяне былога
бяжыць за мной...

# Пошук

***Версэты***

### ***ЗБАН***

Мой сняданак перапыняе дзіўная згадка пра стары забыты збан. Падымаюся на гарышча і знаходжу яго сярод іншых, невядома ці патрэбных, рэчаў.

Пасярод хаты разглядаю сваю знаходку – прыгадваю, смеючыся, былыя шчаслівыя гісторыі, што звязваюць збан і маё жыццё.

Цішыню пакоя, мае ўспаміны неспадзявана перарывае, заходзячы ў хату, маці... Нібыта заспеты за нечым прыкрым, знянацку выпускаю шчаслівую знаходку на дол – збан разлятаецца на дзясяткі аскепкаў – малых і вялікіх, тупых і вострых.

Засмучаны, нагінаюся і, з прыгаворамі маці, які я нязграбны, збіраю, некаторымі колячы рукі, аскепкі, шчаслівыя аскепкі свайго мінулага.

## *СПАДЧЫНА*

Паставай, у якой я сяджу на першай вясновай траве ў полі, дзе калісьці бегаў у маленстве са сваёю сябрынаю, я нагадваю сваіх продкаў, якія, размаўляючы з небам, ведалі нешта патаемнае, нешта неверагодна важнае, тое, на што мы забыліся.

Пакінулі прашчуры нам: мапы і зброю, паданні і легенды, тэарэмы і пытанні, летапісы і веды, зямлю і мову, дабро і зло...

Верылі, марылі продкі нашыя, што мы павінны жыць лепш за іх, і таму пакідалі незразумела простыя, забытыя намі цяпер ключы ад патаемных пакояў душы.

Зноў і зноў углядаюся я ў сумна-бязмежнае неба-мора, якое тоіць у сабе нязведаную намі патаемную спадчыну.

Маўчаць і льюць на мяне набраклыя аблокі свае крывавыя кроплі...

## *ВОЧЫ*

Праз некаторы час людзі сустракалі мяне. І я лавіў самыя дзіўныя позіркі, бачыў вочы, у якіх стаяла пытанне: “Чаму ён не такі, якім мы хацелі бачыць яго? Не такі, якім мусіў стаць пасля ўсяго, што было...”

І я не ведаю, як растлумачыць усім ім, што не маючы вялікіх грошай, страціўшы многіх і многае, дагэтуль не пабываўшы на моры, мяне, калі я прыходжу стомлены дадому, сустракаюць вочы, якія даюць сілы і права жыць, нягледзячы ні на якія перашкоды, жыць і пасміхацца. У гэтых вачах і ёсць маё мора, мой акіян...

І я пасміхаюся!

Ці чуеце, як добра мне?! Ці чуеце – радасна мне!

Ніхто ж не забараняў пасміхацца скрываўленым ротам...

## *СЛОВЫ*

Адразу пасля тваёй смерці стаялі на родным парозе нашыя бацькі і, задыхаючыся ад слёз і гора, казалі нешта ў нямую цішу ночы, махаючы рукамі ў бязмежна чорную прорву свету, нібы хочучы дакрычацца да некага, ці дакрануцца.

Спрабуючы спыніць свае слёзы, услухоўваўся, чуў і не разумеў я тыя цяжкія словы, не верыў ім...

Можа, проста не хацеў?

А цяпер, калі мінуў час, гучаць яны, жахлівыя, праўдзівыя выразы, няспынным рэхам у маіх вушах...

І самае страшнае не ў тым, што я іх чую, але ў тым, што я, нарэшце, зразумеў іх сэнс.

## ЦЕНЬ

Цень бег за мной. Мой чорны сябар, мой вечны спадарожнік, мой двайнік, мой паўтарун, маё пракляцце...

Я вельмі хачу збегчы ад ценю. Стаць незалежным ад яго. Я бягу лясамі, палямі, невядомымі сцежкамі, завулкамі гарадоў – з сонцам, дажджом, пылам і гразёю... Я бягу, і крычаць мне ўслед, вітаюцца са мною... і з ценем.

І ведаю – калі я спынюся, каб аддыхацца ад хуткай хады, – мой цень паўторыць усе мае дзеянні, усе мае рухі, уздыхі.

На нейкі час, калі апускалася ноч, чорны сябар знікаў... Але дастаткова было запаліць святло ці свечку, як я бачыў, што ўвесь гэты час ён сцежыў за мной. Раздзяляў цень са мною радасць і гора, смутак, жалобу і вяселле... мой лепшы сябар, мой працяг, маё пракляцце...

Цень мяне былога бяжыць за мной...

## СПОВЕДЗЬ

– Дзіўна створаны свет, – пачынаў сваю гісторыю-споведзь, якую я чуў безліч разоў, стары сусед, седзячы з кіем на струхлелым ганку.

– Ён быў моцны чалавек, асілак, якіх трэба яшчэ пашукаць у нашай краіне. Гэты хлопец не баяўся ні мяча, ні кулі, ні вайны, ні смерці... Аб'ездзіў ён шмат краін, рызыкаваў сваім жыццём, але памёр нечакана, вярнуўшыся на Радзіму.

О, што гэта быў за чалавек!.. – нібы скончае гаману мой суразмоўца.

А потым усё ж працягвае:

– Аднаго баяўся гэты мужны волат... ён не мог стрываць пякучых словаў родных яму людзей, якія рэзалі яго сэрца на кавалкі.

О, што гэта быў за чалавек! – пырснуўшы слязьмі, заканчваў свой аповед родзіч гэтага мужнага хлопца.

## ЧАС

Час трушчыць мяне, аддзірае ад цела і душы непаўторныя часткі былога мяне. Адчуваю сябе ахвярай злоснага немінучага Часу, які не робіць нічога добрага ці благога; акрам таго, што ідзе.

Здараецца, мне не хапае яго, я губляю і шукаю Час, каб абумовіць сэнс свайго існавання; а бывае, я хачу прагнаць яго, як ахвяра, прыпёртая да сцяны ў апошняй надзеі знайсці хоць што, каб адштурхнуць крыўдзіцеля, адцягнуць свой горшы час на потым.

Я змагаюся з Часам, а ён не добры, не злы; не дурны, не разумны; не мой і нічый. Ён забойца і лекар. Ён робіць роўнае крывым, новае – старым, сябе – самім.

Час забірае і аддае... У кожнай наступнай немагчымасці рабіць нешта бачу новыя магчымасці магчы.

## ТРОХКУТНІК

Часта найлепшыя сыходзяць у пачатку.

І той, хто хацеў вярнуцца з дальняй дарогі, з якой ніхто не вяртаўся, застыў у міжчассі паміж

будучым і мінулым,

"можна" і "нельга",

зваротным і не...

Ляжаў ніцма на зямлі, жагнаючыся анямелым трохкутнікам пальцаў, чалавекам, якога раўнадушна абыходзяць мінакі, калі табе трэба дапамога.

Потым стаяў разгублена на цёмным страшным раздарожжы, у кожнай руцэ – па апошняй малітве...

## ПОШУК

"Здзейсніш свае мары – будзе табе шчасце", – гаварылі часта яму людзі, калі ён пытаўся ў іх парады аб лепшай долі.

Ён доўга цярпліва і абдумана акрэсліваў свае мары, сабраў іх у адно цэлае.

І пачаў свой неадназначны і, бадай што, самы цяжкі шлях жыцця, – пошуку і спасціжэння жаданага... Супярэчлівы свой шлях...

Аднойчы, страціўшы многа сіл і надзею, як у дзівосным сне, яго мары збыліся, – і нічога не засталося ў яго душы, акром спусташэння.

Ён стаяў, перагортваў старонкі памяці, каб зразумець, што яго шчасце было не ў "здзяйсненні", а ў "пошуку".

Кася Іофе



...Насенне ў маёй зямлі
І ў целах
Квітнее
белым, чырвоным, белым
болем, чаканнем, болем...

# Акварэль у клетачку*

***ЗАГАДКА***

Моц узнікае штоноч мацаваннем дрэў,
Целы іх цягне: паперу і цэлюлозу.
Чорнымі кроплямі мокне ў зямлі і слове.

Гронкамі гневу – той спеў, што саспеў, сагрэў
Сокі нявінных. Віно – не такія лозы.
Рукі твае вінаватыя. Рукі – ловы.
Мысленне роспачы распачынай, бяздумны:
Гэтак загадка на захадзе сонца гіне.
Гэтак здагадка згінае галіну ў лук.

* У гэткай рэчаіснасці нельга не плакаць пра відавочнае, нельга захоўваць твар з алавянымі вачамі. Гэтай нізкай хачу падзякаваць Насце, настаўніцы англійскай мовы і мастачцы з мястэчка Свіслач. Яе лісты з акварэльнымі паштоўкамі цяпер радуюць сотні беларусаў, замкнёных «на соднях» у сумесныя дні і ночы, на аркушах у клетачку.

Што ў акіяне злучае ваду? Бяду мы
Хваляй прыбою пабачылі. Болей – іней,
Холад, які вымарожвае сэрца грук.

Што кліча дрэвы да неба, яднае атам,
Робіць раней невядомыя рыскі, знакі
Словам, нітуе, звівае даслоўна час,

Рух і прастору натхненнем, за даляглядам
Лінію лашчыць бясконцасці – без пазнакі
Непазнавальнага? Што заблукала ў нас?

*2019*

* * *

Беларусь, летні квет мой, зіма надыходзіць.
Белы дзікі пялёстак заінеў ці не?
Жаваронкавай годнасцю неба лагодзіць –
"Годзе, годзе" – спявае вайне.
Супакойвае, як немаўлятка ў калысцы
Каласоў пачарнелай жнівы і маны.
Вечнай праўды лісты альбо восені лісце
Вецер, вецер, за краты згарні.
Пагартаюць, пялёсткі на лёс пералічаць
Вязні, вязні сумлення. І гнёзды жыцця
Вецце, ты збарані.
Нас рамонкі паклічуць
І вачамі валошак палі паглядзяць.
Прамяні павуціння і пух, і лупінка –
Раскіданыя гнёзды не райскіх бароў.
Мы спяваем-хаваем адну "Купалінку"
І ўплятаем "Чабор" у вянкі вечароў.
"Пепапёлачка", дзе не малітва – замова:
"Паляўнічы міне нас". Не краты – аер.
Людзі, людзі дамовы, агульнае мовы,
Дом адкрыты, чароўны давер.
Здані ў чорным чакаюць у цемры пад домам,
Здані ў касках і ботах, са зброяй сваёй.
Холад – гэта іх памяць. Каменная стома.
Іх не прымуць магілы. І голас іх – вой.
Вой сірэны сігнальнай, начных катаванняў.
Гэта іх калыханкі. Іх выбар і шлях.
Нам пяюць жаваронкі. Мы з вамі, мы з вамі
Будзем летнімі кветкамі ў вольных палях.

*16.11.2020*

* * *

Тут кожны праўдай мусіць рэзаць вока,
Каб дасягнуць нябёснай слепаты.
Мінаюць незлічоныя гады:
Глядзяць здалёк – ідуць сабе далёка.
А ў нас святы – вар'ят, вар'ят – святы.
Па святах – разагнаная аблога.
Тут кожны праўдай мусіць рэзаць вока,
Каб дасягнуць нябёснай слепаты.

*2011*

## ВОСЕНЬ 1939

Занатаваць: кожны гук, кожны пах,
Быццам бы костку, трымаць у зубах,
Як мышанятка – трымаць на далоні
І адчуваць яго гэтак і так.
Дзьмухаць на твар – дзьмухаўцамі да скуры –
І адчуваць: на траве, на мармуры
Тахкае сэрца, спявае, як слонік,
Б'ецца ў рабрыну, пляскоча аб гляк.

Так – галавой у вакно – назаўжды:
Віснуць на дрэвах увосень жыды,
Хлопчык маўчыць, быццам ён не галодны,
І не хапае халоднай вады.
Пахне каштан, быццам коні й дажджы,
Тата за лісцем апалым бяжыць –
Гэтак – ён восень сабою заслоніць –
Кінуты ў неба мядзяк хоча жыць.

*2011*

## АД РАССТРАЛЯНЫХ ПАЭТАЎ

Ноч як карова, з якой бярэш малако
Зор, бессаромнасці дотыкаў да далоні.
Ноч падаецца мне ціхай, міралюбівай.
Мама, спакойна. Мне сонна, салодка, сытна.
Толькі хочацца крыкнуць: "тут мурашы
Жоўты пясочак нанеслі, курган магільны!"
Сыплюць ім. Сыплецца за каўнер, на шыю.
Целы ў пясочку стынуць. З іх прарастае
Пара, а рулі цвітуць дымком.
Цёпла ў пясочку – спяць поруч памяць і порах.

*

Не сунь свае рукі ў мае замутнёныя вочы.

І так мне там сумна. Нясу на сунічныя схілы
Сумленне як смецце.
Хто ведаў, што плакаць буду
Не з крыўды, не з расчаравання,
А з той нягоды,
Што не было нагод на які спадзеў?

*

Ноч як карова – бязмоўнае мыканне вязняў.
Мы – гэта ўсе, хто памрэ.
Наша пара мінае.
Поры пушчаюць гной
Добры для соснаў, для мхоў і для росных кветак.
Ты разумееш? Для розных зусім раслін!
Мама, як добра не быць болей чалавекам,
Не абурацца на боль. Не баяцца цемры.
Не адымаць дзеля малака цялят,
Не выліваць залатымі
З выплаўленых зубоў.

*

Мам, абяцай: «Загаіцца і стане гаем».
Толькі не шыбеніц – соснаў.
Мне зараз значна.
Ну, залюляй мяне тым, што мурашнік згіне
І зарасце курапатамі, сціплым кветам,
Хоць гэты квет я нікому ўжо не збяру.
Мама, аднойчы ўначы па маёй краіне
Спыніцца муравейны маршавы рух?

*29.10.2019*

## ГАЛАСЫ БЕЛАРУСІ

Намалюю карціну з зубрамі,
Каб вы знялі свае забралы.
Каб толькі не забіралі,
Не адымалі
маю маму,
майго сябра,
майго мужа,
майго брата,
майго тату,
маю сястру,
маю дачку хросную,
майго ненароджанага сына,
мае кветкі пажоўклыя,
мае парасткі сноў.
Каб не білі ў спіны.
Адмалюю маю Беларусь,

Адмалю яе
Словамі, якіх мала
Слабому сэрцу,
Магутнаму Божа.
Адмыю яе, быць можа,
Ад чорных слядоў,
Ад армейскіх ботаў.
Каб набела напісаць: “Беларусь жыве!
Прыгожа, прыгожа, прыгожа
Мая Беларусь жыве.
А ты як маешся?” –
І дасылаць паштоўкі ў белых капэртах
З усмешкамі на ўсе адрасы,
І ведаць, што маем годнасць
Свае галасы
Ўзнімаць, не галосячы
З болю ці гневу,
А для спеваў.

*13.08.2020*

## БОЛЕМ-ЧАКАННЕМ-БОЛЕМ

Крохкае насенне на пальцах
Прарасце ў маёй зямлі
Болем.
Абняла б цябе, жаўнер дзяржавы,
Дык не ўзняць мне рук
За спінамі спятых,
З суставаў вырваных,
Ссінелых, апухлых
Без кровазвароту.
З роту
Не вырвецца гімн,
Якога ты просіш
Ад мяне.
Адабраны голас,
Займаная мова,
Язык.
Дзеці твае ненароджаныя,
Дзеці твайго народу
Не жадаюць
Ведаць цябе
Ў твар.
Ты гэта ведаў,
Калі хаваў яго?
Калі пахаваў
Сябе
Дзеля працы?

Кветак пылок на пальцах,
Насенне горкай травы,
Насенне ў маёй зямлі
І ў целах
Квітнее
белым, чырвоным, белым
болем, чаканнем, болем

*18.08.2020*

### ДЗВЕРЫ

Выламаныя дзверы,
Дзверы, выбітыя з нагі.
Адзначаю ў памяці,
Здымаю з петляў агі-
ды
Ды
Пятляю па сходах,
Па гіпакампавай лесвіцы
Ӯніз.

Дзверы, што мы пакінулі
Для суседзяў і мінакоў,
Іх адчаю адчыненымі,
Чыімі
Будуць?
У чый дом вядуць?
У чый сад,
Валадарства бязмежнае?
Чыю бяду
Хаваюць у прыцемках,
Чые кветкі
Бароняць ад цемры
На дзвюх нагах,
На сотнях
Гумовых ног?

Кажуць, на чорных содах
Пінаюць нашыя сэрцы,
Ступаюць на снежнаягаднік,
Слухаюць лускат іх.

Кажуць, што там звяры
Апрануліся ў людзі,
Выйшлі з сябе.

Выйшлі за межы
Закона – і чалавечага,
І не.

Бачу, муры растаюць
І растуць
Стагоддзямі.

Бачу, знаходзяцца
Людзі і дзверы,
Зламаныя і адкрытыя.

Вочная, не на веру,
Нязмерная
Розніца паміж імі.

*14.08.2020*

* * *

Харал людскога шматгалосся
Цячэ праз дзверы і праз вокны,
Па падваконнях, як па мосце,
Па лесвіцах, пакуль не змоўкне.
І рэха водгулле як можа
Дапамагае ў такт нястомна –
І чую раптам спевам гожым
Людзей мелодыі і громы.
І замест крыкаў мітуслівых,
Ліецца песня, песня-гоман:
У сэрцы з радасным прылівам
Біецца хваляй – "Ecce homo".
Пяскі ў пярліны перазвоніць –
Сцякае музыка гаворкі
І чалавек з душы прадоння
Адвечна спараджае зоркі.

*10.07.2015*

***ЗОРКІ***

Гэта зоркі блукаюць у Тваіх валасах,
Весяляцца, смяюцца, нешта шэпчуць няспынна,
І мне хочацца верыць, што ўсё так, як павінна:
Ты на небе, а зоркі – у Тваіх валасах.
Будзе вецер спяваць па бутэльках і целах –
Што адных, то другіх безнадзейна спусцелых.
Што Ты меў на зямлі? Што Ты меў, што я мела?
А цяпер – сотні зорак у Тваіх валасах.
Распускаў маладзік вербаў доўгія косы.
Першы снег на траве, першы снег на вачах –

Гэта зоркі, калядныя зоркі – не слёзы.
Тыя зоркі, што ёсць у Тваіх валасах.

*2010*

## КОСМАС – ЗЯМЛІ

Дзеля чаго небёсных целаў боль?
Я ў перыгей каранаванай поўні
Прарэхі ў тонкіх снах людскіх запоўню,
Як павуціннем, промнямі – скуголь,
Мая зусім зямная галава,
Калі співаць дасюль яшчэ не ўмееш.
Я дасягаю смерці ды акмею,
А ты на гільяціне і брывом
Не зварухнеш. Нашто цябе трываць?

## ЗЯМЛЯ – КОСМАСУ

Мае абшары ў роздумах людзей,
Нібы палёт у крылах страказіных –
Хіба ж ты абмяжуеш гільяцінай
Адбітак фарбаў сонца на слюдзе?
Я ёсць паўсюль – і, значыць, ёсць нідзе.
З парэшткаў зор, з жывога руху плазмы,
Мае ўспаміны, плямы забыцця.
Ты над жыццём зямным, нібы суддзя,
А хто ты без мяне? Прасторы пасмы.
Ты цела ёсць, а я твая душа.
Я і спакой, і поцяг крозаў жарсны –
І калі зоркі ў небе раптам згаснуць,
Дык на зямлі іх стануць спараджаць.

*28.09.2015*

Аўром Суцкевер



...звер заставаўся
нядрэмным, як смерць...

# Дзіцячыя далонькі

***Апавяданні***

## Яніна і звер

*Апавяданне*

...Калі ты была жывою, Яніна, я не дасылаў табе лістоў. Цяпер у сваё апраўданне магу сказаць, што такім, як ты, трэ было пісаць інакш, не так, як усім маім сябрам, але як дакладна, не ведаў; альбо – і гэта ўжо бліжэй да праўды – я не меў твайго адрасу. Каму пісаць, ведаў, але куды – не. Са свайго палаца ў Закрэце[1] на высокім беразе Віліі – невялікага, з абпаленай чырвонай цэглы – ты з'ехала адразу ж пасля таго, як мы сустрэліся напрыканцы вайны. Даходзілі чуткі, нібы ты ў Кракаве. Казалі, ты пайшла ў манашкі. Як было насамрэч, я не ведаў. Цяпер жа ведаю: Яніны больш няма. І цяпер твой адрас мне вядомы: ты там, дзе ўсе людзі збіраюцца на апошняе рандэву.

*Пераклад з ідыш Фелікса БАТОРЫНА.*

[1] Раён Вільні.

Мне да шчымлення ў сэрцы захацелася менавіта цяпер распавесці табе пра тое, пра што ты і сама ведаеш. Я мог бы расказваць іначай – ледзь варушачы вуснамі, каб ніхто, акрамя цябе, не чуў. Мог бы кінуць у спакойную плынь сваёй памяці, як каштоўны камень, адзіны працяглы гук: Я-ні-і-на!.. – і кругі дасягнулі б твайго духу... Толькі ж мне не пазбыцца шматгадовай цягі да паперы. А за паштальёна працавацьме анёл, ён даставіць ліст па тваім адрасе на тым свеце.

* * *

Гэта было, як на зямную дату, у красавіку тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга. Раставаў снег, і плынь снегавой вады не магла змяніць кірунку – рынула з Панарскіх вышыняў у даліну. Не магла змяніць кірунку і людская плынь, што гэтаксама імкнула ў даліну, падпарадкоўваючыся закону прыроды.

Справа ад мяне плыве ў людской плыні Цэрна. На ёй заплечнік, а ў заплечніку дзіцятка – дачка, якую Цэрна нарадзіла месяц таму. Дзяўчынка спіць, з заплечніка відаць толькі яе малюпасенькія ручкі. Валасы ў Цэрны чорныя як смоль; яны пабліскваюць, як нож разніка ў чорным змроку.

Праплываючы паўз невялікую купку хваін – ужо зусім блізка да анёла смерці – Цэрна ў роспачы кінула заплечнік у мяккія абдымкі снегавой гурбы пад дрэвамі, якую сонца абмінула знарок. Яна не павярнула галавы, аднак я пачуў, як яна прашаптала:

– Божухна, ратуй маю дачушку.

Жахлівы малюнак таго, што чынілася за дротам электрычнага анёла смерці, я намалюю табе, Яніна, пазней. А цяпер – толькі пара мазкоў: агонь сціх, не паспеўшы дабрацца да мяне. Цёплае, як сырадой, дыханне зрывалася з Цэрніных вуснаў і застывала ў паветры блакітнымі крышталікамі. Я ўсхапіўся і ўцягнуў яго ў сябе. Не ведаю, чые крылы выраслі ў мяне за плячыма і панеслі мяне прэч.

Ля купкі хваін ляжаў цэлы-цалюсенькі заплечнік Цэрны, а ў ім – дзяўчынка, якую яна нарадзіла месяц таму. Я ўздзеў яго, як даспехі, што будуць бараніць нас абоіх, і мне зрабілася цёпла і спакойна.

Без страху вяртаўся я ў горад. Растоплены сургуч дарогі спрэс быў спярэшчаны адбіткамі падэшваў. І ўсе – у супрацьлеглы бок.

Я ішоў – куды? Нёс у заплечніку дзіця – каму?

І тады, Яніна, я ўспомніў пра цябе, пачуў гук твайго імя, і адразу ж прыгадалася, як некалькі гадоў таму я праводзіў цябе дадому з Віленскага ўніверсітэта. Я тады анямеў з радасці, увесь час маўчаў, не маючы сіл перарваць тваю імправізацыю пра “Крымскія санеты” Міцкевіча. Ты параўноўвала іх з музыкай Шапэна. Не з “Калыханкай”, не з “Баркаролай”, але з кароткімі прэлюдыямі: кожная з іх – цэлы свет, яны куды больш вытанчаныя і дасканалыя за шмат якія з яго перагружаных кампазіцый...

Ты чытала з памяці “Цішу на вышыні Тарханкут”:

Już wstążkę pawilonu wiatr zaledwie muśnie,
Cichymi gra piersiami rozjaśniona woda;
Jak marząca o szczęściu narzeczona młoda
Zbudzi się, aby westchnąć, i wnet znowu uśnie[1].

---

[1] Ужо сцяжок альтанкі вецер ледзь кранае,
Гуляе роўнядзь хваль над ціхаю вадою;
Нібы нявеста, песцячы аб шчасці мрою,
Абудзіцца ўздыхнуць і зноўку засынае. (Пераклад з польскай У. Мархеля.)

Ты хацела пераканаць мяне, што гэта шэдэўр сусветнай паэзіі, што вяршыня творчасці Міцкевіча – не “Дзяды”, не “Пан Тадэвуш”, а менавіта гэты санет.

Калі мы падышлі да палаца ў Закрэце, на высокім беразе Віллі, адвячорак ужо вісеў на трох бярозах ля брамы, заблытаўшыся ў галлі. Ты запрасіла мяне зайсці. Не запальваючы святла, прысела за піяніна. І ў цішыні загучала прэлюдыя Шапэна.

– Я бяру з сабою свае незразумелыя пачуцці і вандрую па ягонай музыцы. А калі вяртаюся з вандравання, са мною застаецца водар райскіх траў.

Цяпер дарога прывяла мяне да цябе, да твайго старога палаца з абпаленай чырвонай цэглы.

Тры бярозы ля брамы бязвольна схіліліся, як трое знітаваных ланцугамі вешчуноў у заіржавелых вянцах.

Ты, як тады, сядзела за піяніна, і твае шляхетныя пальцы маліліся над клавішамі.

Я дастаў з заплечніка сонную дзяўчынку і паклаў табе на калені.

Ты ўсё прачытала па маіх вачах. Твае распушчаныя валасы збягалі да падлогі. Над ілбом ззяла срэбная дыядэма з пунсовым рубінам пасярэдзіне. Здавалася, маланка гуляе са спалоханым дажджом.

Даруй, Яніна, мне гэты грэх – у тую велічную хвіліну я быў несправядлівы да цябе. Ці я, ці мо нехта ўва мне, хаця гэта адно і тое ж. Нечакана кальнула чорная думка: а раптам ты потым пашкадуеш...

– Яніна, запомні, мамка немаўляці звалася Цэрнай, – выдыхнуў я тады. І адразу ўцёк.

Сумная праўда – уцёк, не развітаўшыся, нібы злачынец ад свайго сумлення.

* * *

Паспрабую нагадаць табе, штó ты перажыла пасля.

Праз год я ізноў быў у тваім палацы. І ты распавяла мне амаль пра ўсе падзеі. А некаторыя падрабязнасці я сам дамаляваў і дадаў. І усё ж такі цяпер, калі я пішу гэты ліст, мне здаецца, што пчолы з таго свету гудуць у мяне ў галаве, што гэта расказваюць яны, пчолы, а не я. Яны пакінулі мне ў спадчыну чырвоны мак тваёй памяці.

Дачка Цэрны абудзілася ў цябе на каленях, і яе плач сплёўся з Шапэнавай прэлюдыяй, што яшчэ лунала ў паветры. А за вакном ужо соп звер. Хрыплае выццё ўперамешку з чалавечым смехам раз-пораз вырывалася з ягонай пашчы. Ты апусціла шторы, зачыніла на завалу дубовыя дзверы, выкупала і накарміла дзіця, памалілася і заснула, прыціснуўшы дзяўчынку да грудзей.

А звер заставаўся нядрэмным, як смерць. Ягоныя вочы зіркалі праз дзвярную шчыліну. Ён свістаў у комін, скакаў па даху, і начны лядок крышыўся пад ягонымі драпежнымі лапамі.

Звер быў усюды – тут і там у адно і тое ж імгненне.

Раніцай ты ўстала акрыленая і рашучая. Пакаёўцы Саламеі ты сказала, што нарадзіла ад любага і што ягоная маці ўчора прывезла табе дзіця. Саламея любіла цябе больш за жыццё – яна ж была тваёй мамкаю, люляла цябе ў калысцы. Ты рана асірацела. Твой бацька, ягамосць Караль Шпінак, загінуў падчас палявання на зуброў у Белавежскай пушчы. Яго найбліжэйшы сябар, нехта Коцел, чыя роля ў тым паляванні была больш чым падазронаю, адразу ж уцёк з тваёю маці ў Італію. Адтуль маці дасылала табе грошы, а

Саламея гадавала цябе. Дачку Цэрны ты назвала таксама Цэрнай, і вы з Саламеяй сталі ёю апекавацца.

Але звер не адыходзіўся ад палаца. Шкроб кіпцямі пад ложкам і палохаў лялек маленькай Цэрны.

Калі ты ішла да імшы, ён краўся следам, а ў касцёле высочваў слёзы тваёй малітвы, і здань ягоная клубілася ў цярновым вянцы ўкрыжаванага.

Звер пераследваў і пакаёўку. Зрываў з яе хустку, учапляўся зубамі ў падол. Лез носам у кошык, скавытаў, гроб кіпцямі пясок, нібы капаў магілу, калі Саламея некуды ішла.

На абарону старая пакаёўка паставіла на парозе трэснутае люстэрка. Чорт не баіцца нікога, апроч свайго адбітку. Як толькі ўбачыць у трэснутым люстэрку свой лыч, з перапуду тройчы перакуліцца і та́к паімчыць да сваёй бабулі, што ўсе ногі папераломвае.

* * *

Гэта здарылася ў траўні. Акурат праз месяц пасля таго, як я падкінуў табе Цэрну, дачку Цэрны. Паветра было ружовае ад кветак бэзу і поўнае вабных пахаў. На трох бярозах ля брамы сталі выяўнейшымі месячныя плямы. Ветрык гайдаўся на пругкіх галінах, увешаных зялёнымі пацеркамі.

Звер упершыню забраўся ў палац і адразу ж у твой спакой. Дзверы самі расхінуліся перад ім. Ён увайшоў пачцівы, зграбны і элегантны, як манекен.

– Дазвольце назвацца: Ганс Оберман. Палічу за гонар з вамі пазнаёміцца.

Ён сцягнуў белыя пальчаткі, наблізіўся, стукнуў абцасамі, нахіліўся, і яго тонкія вусны прыліплі да тваіх дрыготкіх пальцаў.

Гэта была першая абраза, першая пляма на тваёй чыстай скуры. Аднак яшчэ болей абразіў цябе бляск ягоных ботаў, чорных, як паліраванае века піяніна. “Боты растапталі музыку”, – мільганула ў цябе думка. І музыка з маленькай Цэрнаю зрабіліся адзіным цэлым.

Афіцэр Ганс Оберман не здаволіўся першай перамогаю. Ён падышоў да адкрытага піяніна і правёў пальцам па клавішах, нібыта па іх прабегла мыш:

– Фройляйн Яніна Шпінак, – ён другі раз правёў па клавішах, у зваротным напрамку, – я чуў, што вы не замужам, а быць адной у ваенны час і тужліва, і надта небяспечна. Я гатовы даць рады вашай адзіноце і абараняць вас.

– Не фройляйн, а фраў, і не Яніна Шпінак, а Яніна Галінская, – адказала ты. Відаць, вас няправільна паінфармавалі. Я ўжо маці, у мяне двухмесячная дачка, дай ёй Божа здароўя. За прапанову абароны дзякуй, але Госпад Сам бароніць усе Свае стварэнні.

– У вас ёсць дзіця?– здзівіўся і насцярожыўся Ганс Оберман. – Ваш муж дома?

– Не. Паўгода ўжо я не маю ад яго вестак. Гэта вы, немцы, адабралі яго ў мяне. Я чула, ён дзесьці ў лагеры.

– Фраў Яніна, вам вядома, што за правіна ў вашага мужа?

– Толькі тая, што ён быў і застаўся польскім патрыётам.

– Цалкам імаверна. Вайна ёсць вайна. – Ганс Оберман пакланіўся з ледзяным спачуваннем. – Я паспрабую даведацца, дзе ён, і вызваліць яго з лагера.

* * *

Ні ў сне, ні на яве ў цябе яшчэ не было такога кашмару, як тою ноччу.

З піяніна выскачыў Ганс Оберман і на чатырох падбег да ложка, на якім

ты ляжала, тулячы да сябе Цэрну. На ягоных лапах былі белыя пальчаткі. Ён быў калматы, як мядзведзь, на звярынай галаве – афіцэрская фуражка з сярэбраным чэрапам. Ганс Оберман працягнуў табе лапу з букетам ружаў – жывых, барвовых, як заход сонца падчас навальніцы.

– Гэта вам, Яніна. Віншую з нараджэннем дачкі. Павіншаваў бы раней, але пра гэтую радасную навіну даведаўся толькі што. А яшчэ я маю падарунак для вашай маленькай. Дазвольце запытацца, як яна завецца?

– Цэрна.

– Гучыць прыгожа: Цэр-на. Вы далі ёй гэтае імя ў гонар кагосьці з вашай радні?

– У гонар бабулі. Я вельмі любіла яе.

– Ваша бабуля звалася Ядзвігаю. Вы памыляецеся.

– Зусім не. У чалавека ж звычайна дзве бабулі.

– Ага... Вельмі цікава. Трэба загадаць ксяндзу знайсці запіс у архіве.

Калі ты апрытомнела, на ложку сядзела Саламея. Яна, жагнаючыся, прыкладала да твайго ілба лёд. А Цэрна забаўлялася з вясною, і галасок дзяўчынкі праклёўваўся, як птушаня праз шкарлупу.

Ганс Оберман і сапраўды прыйшоў. Дзве лішнія лапы ён пакінуў каля ўваходу. Гэтым разам ён быў не ў форме і чорных ботах – у шэрым цывільным касцюме выглядаў зусім іначай.

– Міласцівая пані Яніна, – схіліўся ён да цябе, – даруйце, што я без запрашэння, ды яшчэ калі вы пакутуеце праз галаўны боль. Гэта – цукеркі для вашай дачушкі Цэрны.

– Як вы дазналіся яе імя? – ты рэзка села на ложку. – Я вам не казала!

Ганс Оберман апусціўся на крэсла каля піяніна і з націскам прамовіў:

– Яніна, па-вашаму, я не чалавек? Дарма! Дарма! “Мы створаныя з рэчыва таго ж, што нашы сны”, як сказаў Шэкспір. Я даведаўся імя вашае дзяўчынкі ў сне.

Табе падалося, што гэта працяг кашмару, але ты не спала. Ты ўкусіла сваю руку, каб выклікаць боль, аднак рука была зусім як чужая, і ты нічога не адчула.

Ганс Оберман паспрабаваў цябе супакоіць:

– Я жартую, Яніна. Мне дзеці на вуліцы сказалі, што вашую дачку завуць Цэрнаю.

Ён яшчэ раз папрасіў прабачэння, паклаў на піяніна загорнутыя ў паперу цукеркі і хутка выйшаў з пакою.

* * *

Мінуў месяц. Звер больш не прыходзіў. Але ягоны цень блукаў то па вуліцы, то па пакоях палаца. А прагнаць цень нашмат цяжэй, чым жывую істоту. Цукеркі, не разгортваючы, ты кінула ў печ, бо калі Цэрна, не давядзі Божа, захварэе, ты будзеш думаць, што дзіця імі атруцілася.

Не ведаю, што ты перажыла за гэты месяц. А нешматлікія падрабязнасці я ведаю ад цябе.

З Італіі вярнулася твая маці. Ты ледзь пазнала яе: яна выглядала старэйшаю за Саламею. Табе так зрабілася яе шкада, быццам яна памерла. Калі твой бацька загінуў, яна кінула цябе, зрабіўшы круглай сіратою пры жывой матцы. Цяпер жа, каб выкупіць сваю віну, прывезла табе куфэрак з

упрыгожваннямі. Спярша ты не хацела прымаць падарунак, але імкненне вырataваць Цэрну было мацнейшае за ўражаную годнасць.

Нават роднай маці ты не сказала, што Цэрна – габрэйскае дзіця. Ты распавяла ёй тое ж, што і Гансу, і яна з любоўю і пяшчотаю ўзялася гадаваць унучку.

Саламея адчула, што дзве мамкі – занадта, і ў тым жа месяцы старая пакаёўка аддала Богу сваю чыстую душу.

* * *

Гэтым разам Ганс Оберман прыйшоў у поўнай афіцэрскай форме і не адзін, а з вялізным сабакам-ваўкарэзам. Ягоны бледны-жаўтлявы твар быў прыпудраны, але на ім усё адно былі відаць ружовыя плямы – сляды чыіхсьці пальцаў. Сыты дагледжаны сабака на нікеляваным ланцугу быў паслухмяны гаспадару. З пашчы звісаў доўгі чырвоны язык – мокры дрыготкі серп з зазубінкамі ўнізе. Ловячы вушамі кожны гук, ваўкарэз не спускаў вачэй з гаспадара, гатовы пачаць сольны канцэрт, як толькі дырыжор Ганс Оберман дасць яму знак.

На тыгравай шкуры забаўлялася Цэрна. Вочы – блакітныя-блакітныя, як неба ў першы дзень Стварэння. Мокрыя пасля купання кудзеркі выдатна пасавалі пейзажу на заднім плане: за расчыненым вакном пагойдваліся тры бярозы, і гуллівы сонечны праменьчык, як вавёрка, скакаў з галіны на галіну.

Ты заступіла дарогу Оберману і змерыла яго пагардлівым позіркам:

– Як гэта шляхетны афіцэр асмеліўся ўвайсці да дзіцяці з сабакам?

– Яніна, сабака нічога не ўчыніць без маёй каманды, – пачаў ён апраўдвацца. – Я ўзяў яго з адной толькі мэтаю – каб ён ахоўваў. Мяне.

– Ад каго ж ён мае вас ахоўваць?

– Ёсць у мяне адзін вораг. Нябачны...

Ганс Оберман задрыжэў, нібыта раптам трапіў пад дождж. Ружовыя плямы на ягоным твары яшчэ выяўней праступілі з-пад пудры.

– Ведаеце, Яніна, гляджу я на вашую дачку і думаю: дзіўна – яна ні кропелькі не падобная да ейнай маці.

– Ваша праўда, у Цэрны бацькава аблічча. Але душа – мая.

Ганс Оберман павысіў голас:

– Мы шукалі ва ўсіх лагерах, аднак яе бацькі нідзе няма. Можа, ён не паляк?

Ты засмяялася, акурат сапраўдная актрыса:

– Не паляк? Канечне ж, мой муж негр. Дзякуй вам, Ганс Оберман, за добрую навіну, што яго не знайшлі ў аніводным лагеры. Брава, Стасік, ты здолеў уцячы!

Афіцэр утаропіўся табе ў вочы позіркам ваўкарэза:

– Фройляйн Яніна, годзе гэтае гульні. Мы ўсё праверылі, няма ніякага Стасіка. Цэрна – габрэйскае дзіця.

Смех захрас у цябе ў горле, але высілкам волі ты зноў прымусіла сябе засмяяцца.

Ганс Оберман паклаў руку на тваё плячо:

– Яніна, я ведаю, што вы шчырая каталічка. Тры разы на тыдзень вы ідзяце да касцёла. Вось у вас над ложкам распяцце. Калі вы ўкленчыце перад ім, пераажагнаецеся і прысягняце, што Цэрна – не габрэйская дзяўчынка, я вам паверу.

І ты апусцілася на калені, перажагналася і прысягнула.

* * *

І тут адбылося тое, чаго ты ніяк не чакала: Ганс Оберман, афіцэр у чорных наглянцаваных ботах, разрыдаўся. Звер заплакаў чалавечымі слязьмі. Раптам

ён выхапіў з кабуры вальтэр і ўсадзіў тры кулі ў вернага ваўкарэза. Стрэлы былі нягучныя, як пастукванне дробнага летняга граду па шыбіне. Цэрна нават не спалохалася – дачка паспела ўжо на ўсё жыццё насыціцца матчыным смяротным жахам. А ваўкарэз закруціўся ля ног гаспадара мільгаткім карусельным колам, паваліўся, выцягнуўся і заціх. Побач з тыгравай шкурай ён глядзеўся маленькім, як кацянятка. Здавалася, мёртвы тыгр разарваў жывога сабаку.

Усё адбылося амаль імгненна.

І тады Ганс Оберман кінуўся да тваіх ног. Ён цалаваў іх і біўся галавою аб падлогу.

Ты памятаеш, Яніна, што было потым?

Ты дапамагла яму аднесці сабаку ў склеп. Там Ганс закапаў яго, зараўняў зямлю і паставіў зверху гнілыя бочкі з-пад піва.

Калі вы падняліся ў гасцёўню, дзе стаяла піяніна, твар Ганса быў бялейшы за вапну. Нібыта п’яўкі высмакталі з яго цёмную кроў. Ружовыя плямы сышлі, сышлі і плямы, што засталіся пасля забітага сабакі – ты змыла іх гарачай вадой.

На шчасце, тваёй маткі не было дома. А то, не падумаўшы, яна магла б прагаварыцца суседзям. Апошнім часам твая маці зусім страціла душэўную раўнавагу. Яна адшукала ў горадзе старога знаёмага, аптэкара, і яны разам займаліся выклікannem духу яе забітага мужа пана Караля Шпінака. Калі дух Караля азавецца, яна раскажа яму ўсе тайны палявання ў Белавежскай пушчы.

Падлога яшчэ гайдалася ў цябе пад нагамі. У тваёй душы адбываўся сапраўдны землятрус. Рэчаіснасць паўстала супроць сябе самой. Але Ганс Оберман, наадварот, сабраўся з думкамі і загаварыў, упершыню звяртаючыся да цябе на “ты”:

– Яніна, ты мусіш з’ехаць. Сёння ж. Ты, Цэрна і твая маці. Заўтра будзе позна. Ёсць загад усіх вас арыштаваць. З вамі будзе тое ж, што і з габрэямі. Збірайся. Увечары я прыеду на машыне і забяру вас. Куды – падумай да вечара. Можа, у цябе ў якім-небудзь маёнтку ёсць сваякі, сябры. Я таксама паспрабую схавацца. У лясах патрэбныя спрактыкаваныя салдаты. Дзякуй табе, Яніна, што ты ператварыла мяне ізноў у чалавека...

* * *

Гэта было наступнаю вясною.

У лясной зямлянцы камандзіра Трафіма Белавусава на беразе Ушачы пахла свежаю вясенняй смалою, што ка́пала з заімшэлых яловых бёрнаў, з якіх быў зроблены накат, ледзьве заўважны сярод ажылай травы і блакітных раўчукоў. У мінулым жыцці елкі раслі стоячы, але цяпер даведаліся, што можна расці і лежачы, прыціскаючыся адно да аднаго імшыстымі камлямі, як закаханыя.

Трафіма Белавусава, камандзіра партызанскага атрада, у зямлянцы не было. Яго ад’ютант Грышка Маладзец, увішны бялявы дзяцюк з барадою, падобнай да снапа пшанічных каласоў, прывёў мяне і загадаў чакаць. Я прыбыў са сваёй партызанскай базы паміж Кабыльнікам і Мядзелам, кіламетраў за сто адсюль. За пазухай гімнасцёркі я прывёз Белавусаву важнае паведамленне ад камбрыга Хведара Маркава, напісанае на палосцы тканіны.

Па зялёных прыступках у схоў спусцілася чырвань заходу. Дзверы былі расчыненыя – чорная труна без дна і века. У адной палове зямлянкі палаў агонь, у другой, дзе я сядзеў на драўляным цурбаку, расцякаўся цень.

І вось увайшоў Трафім Белавусаў, а за ім Грышка Маладзец. Побач з

шыракаплечым мацаком-ад’ютантам славуты камандзір выглядаў мізарнавата: невысокі, шчуплы; праз вялікую аўчынную папаху набакір рысы вузкага касцістага з рэдкай растрапанай бародкай і віслымі вусамі твару здаюцца яшчэ драбнейшымі. У правым кутку рота – файка з выгнутым, як крук, цыбуком. Але пранізлівыя сталёвыя вочы пад уладнай складкай на ілбе здольныя расшчапіць камень і высечы з яго іскры.

Я падняўся, павітаўся па-вайсковаму, назваў сябе. Потым выняў з-за пазухі пісьмо і падаў камандзіру.

Вострымі, як голкі, вачыма камандзір пранізаў кавалак тканіны; не дачытаўшы, пільна зірнуў на мяне і зноў учытаўся ў пісьмо. Ён зняў папаху, крыху падумаў. Падкруціў вус:

– Добра, добра...

Раптам зморшчына на ілбе пазначылася больш рэзка, Белавусаў нахіліўся да мяне праз стол:

– Слухай, ты нямецкую ведаеш?

– Сяк-так, але, бадай, ведаю.

– Добра-добра. – Ён выбіў з файкі попел аб рог стала і паволі павярнуў галаву да ад’ютанта:

– Грышка, прывядзі афіцэра. Калі павесім яго крыху пазней, тае бяды. На самога афіцэра мне пляваць, але ягонага языка, братка, усё-ткі шкада. Можа, з ягонага языка яшчэ ўдасца што-нішто выдаіць.

Калі Грышка выйшаў, Белавусаў у некалькіх словах патлумачыў мне, пра што ідзецца:

– Важнага птаха ў лесе схапілі – афіцэра нямецкага. Шпіён? Дыверсант? Ідзі зразумей. Прыкідваўся партызанам, нават мужнасць выказваў. Яго адзін уцякач з Панараў[1] пазнаў, хлапец з Вільні. Немец і не адмаўляе, але нешта ўтойвае. А ў нас па-нямецку ніхто толкам не гаворыць.

* * *

Захад у чырвоных ботах пакінуў зямлянку. Цень з майго боку запоўніў усю прамавугольную прастору паміж рубленых сценаў. Трафім Белавусаў запаліў лямпу. І калі пах смалы змяшаўся з пахам газы, у зямлянку спусціўся Грышка, ведучы палоннага на вяроўцы.

На допыце афіцэр расказаў мне тое ж самае, што Белавусаў ужо чуў: завецца Ганс Оберман, нарадзіўся ў Кёльне. Праўда, усё праўда. Ён забіваў ні ў чым не вінаватых людзей. У чэрвені сорак трэцяга дэзерціраваў з часці. Тут, у лясах, ён хацеў выкупіць свае грахі.

– Добра, добра. – Белавусаў перапыніў допыт на паўслове, з сілаю ляснуўшы файкай па краі стала. – Вось тут от сабака і закапаны. А-ну, спытайся ў гэтага бравага афіцэра Ганса Обермана, чаму ён дэзерціраваў і здрадзіў свайму фатэрланду.

Калі я пераклаў афіцэру нечаканае пытанне Белавусава, Ганс Оберман задрыжэў, як вызваленая спружына:

– Дазвольце мне панесці гэтую таямніцу ў магілу.

* * *

Яніна, я закачваю ліст. Прынясе яго табе анёл. Калі будзеш чытаць, успомніш, што большасць слоў у гэтым лісце *твае* ж.

*P.S.* Чакай, я ж не напісаў пра вяселле Цэрны! Але пра гэта – іншым разам...

[1] Месца масавага знішчэння гітлераўцамі віленскіх габрэяў.

## Дзіцячыя далонькі

*Замалёўка*

...Склеп, адно-адзінае акно. На яловым лесе маразовага малюнку – адбіткі дзвюх дзіцячых далонек, што адна пры адной, так нашчадкі святароў уздзяюць рукі, дабраслаўляючы народ у школе[1]. Скрозь далонькі відаць вуліца, і сонца падае ў склеп, нібы мярцвяк у магілу.

Сцены, аздобленыя поўсцю шэрані, зіхаткія, як у саляной капальні. У кутку ложыва – рассцеленыя на падлозе анучы. Сярод іх паблісквающь накшталт залатых зубоў саломінкі. Звеху ляжыць тоўсты зашмальцаваны жаночы малітоўнік (“Друкарня ўдавы і братоў Ром”).

Тут жа, у гаршку з пяском, – аплылая вашчаная свечка. Нібыта птушка дзяўбе сваё сэрца нежывою дзюбаю.

Пасярэдзіне склепа, паміж дзіцячымі далонькамі на шыбіне і малітоўнікам на кучыануч, – конская галава. Яна адлівае бронзаю, на ілбе срэбная пляма ў форме кінжала, а вочы з чорнага мармуру халодныя, застылыя.

І дзіцячыя далонькі з шыбіны кажуць:

“Даруй, мілая галава. Ад жывой шыі адсеклі цябе не мы. Калі ўжо ўсе, усе ператварыліся ў попел, мы знайшлі цябе ў мясной краме і цішком, схаваўшы пад доўгім крысом чужога паліто, прынеслі сюды. Мы хацелі табою накарміць бабулю. Самотная, як ты цяпер, ляжала яна тут, у кутку. У галавах – зацэпленая свечка. І раптам – сабакі. Сабакі. Сабакі. Яны наляцелі на бабулю, накінуліся й на тваё замарожанае мяса. Наскочылі й на хлопчыка, чые мы былі... Як нам хацелася яму дапамагчы! Мы пацягнуліся да снежнага лесу на ваконным шкле, і дзе, дзе мы цяпер?..”

Пакуль дзіцячыя далонькі гавораць з шыбіны, на бронзавай галаве растаюць ледзяныя асцюкі. Ільсняная скура пачынае дыхаць. Левае вуха падае ўніз, як пасма, і слязьмі набрыньваюць вочы з чорнага мармуру.

[1] Так габрэі называюць сінагогу.

Сяргей Кавалёў



...і ты верыш, што некалі наша краіна,
нашая матухна Літва
будзе называцца Беларуссю?...

# Шляхціц Завальня, або Беларусь Яна Баршчэўскага

***П'еса ў 2-х дзеях паводле твораў Яна Баршчэўскага***

**Дзейныя асобы:**

З а в а л ь н я, шляхціц.
Я н, ягоны пляменнік і госць.
М а л ь г р э т а, гаспадыня ў доме Завальні.
Пан А л ь б е р т, уладальнік маёнтка Мурагі.
Пані А м е л і я, ягоная жонка.
Пан С к а м а р о х а, іхні сусед, уладальнік маёнтка Дадэмухі.
К а р п а, лёкай пана Альберта.
А г а п к а, пакаёўка пані Амеліі.
Ф р а н ц і ш а к, вясковы музыка.
М а р к а, малады селянін, які ператварыўся ў ваўкалака.
Д о к т а р Ш э л ь м е р, ён жа Ч а р н а к н і ж н і к.
Н і к і т р о н, дух.
Ц м о к.

Б е л а я  С а р о к а, уладарка паўночнай краіны.
П л а ч к а.
С я л я н е.
К а л я д о ў ш ч ы к і.
Ш л я х ц і ц ы.

*Дзеянне адбываецца ў Літве ў тыя часы, калі яна пачала называцца Беларуссю, на працягу калядных святаў: ад Калядаў да Вадохрышча.*

## Кароткая характарыстыка дзейных асобаў:

З а в а л ь н я – шляхціц на загродзе, дзівак-арыгінал, набожны вернік і сумленны чалавек, які больш за ўсё на свеце любіць слухаць розныя страшныя гісторыі і выводзіць з іх адпаведныя маралі, апошні *ліцвін* паводле перакананні.

Я н – пляменнік Завальні, выхаванец Полацкай езуіцкай акадэміі, жыве ў Пецярбурзе, нейкі час зарабляў тым, што даваў урокі грэцкай і лацінскай мовы, цяпер прыняты на службу ў Марское ведамства, пабачыў іншыя краіны, але сумуе па роднай старонцы, якую звычайна наведвае толькі ўлетку, *беларус* паводле перакананні (магчыма, першы), *alter ego* Яна Баршчэўскага.

М а л ь г р э т а – гаспадыня ў доме Завальні, суворая з выгляду, вострая на язык, але добрая ў душы кабета, нянчыцца з Завальнем як з малым дзіцём, бурчыць на яго частых і незаўсёды чаканых гасцей, але заўсёды накорміць іх і напоіць з марозу *палёнкай*.

Пан  А л ь б е р т – колішні аднакласнік Яна па Полацкай акадэміі, у акадэміі выказваў несумненныя здольнасці да сціслых навук, але пасля смерці бацькі стаў уладальнікам маёнтка Мурагі, асеў на зямлі і шчасліва ажаніўся, нерэалізаваныя навуковыя амбіцыі кампенсуе падтрымкай доктара Шэльмера і ягоных псіхалагічных штудый.

Пані  А м е л і я – жонка Альберта, сумленна кахае мужа, але ўпотайкі сумуе па іншым, са спагадай ставіцца да сялян, мае надзвычай багатую фантазію, любіць чытаць і нават сама піша гатычныя раманы.

Пан  С к а м а р о х а – сусед Альберта і Завальні, уладальнік маёнтка Дадэмухі, задзірлівы, фанабэрысты тып, нікчэмны гаспадар. спрабуе інтрыгаваць, займацца палітыкай, за грошы і высокія чыны гатовы прадаць Бацькаўшчыну.

К а р п а – лёкай Альберта, гультаяваты хлопец, разбэшчаны жыццём у маёнтку, ставіцца да сялянскай працы з пагардай, шукае лёгкіх грошай і найпрасцейшага шляху да сэрца Агапкі.

А г а п к а – пакаёўка Амеліі, прыгожая, спрытная дзяўчына, гатовая пайсці за сваім выбраннікам на край свету пры ўмове, што ў выбранніка поўныя кішэні грошай, а на краі свету яе чакае залаты палац.

М а р к а – просты сялянскі хлопец, які без памяці закахаўся ў Агапку, але адвергнуты ганарлівай прыгажуняй, пакрыўдзіўся на ўвесь свет і нечакана ператварыўся ў ваўкалака.

Ф р а н ц і ш а к – сляпы дудар, жыве ў паляўнічым доміку з дазволу пана Марагоўскага, некалі граў на кожным свяце ў ваколіцы, цяпер усё радзей адведвае людзей, на старасці гадоў стаў сведкам ператварэння чалавека ў ваўкалака.

Р о д з ь к а – дасведчаны рыбак, ведае пра рыбу ўсё да драбніц, выцягвае поўныя сеткі нават тады, калі іншыя рыбакі выцягваюць пустыя, але нават ён не чакаў пабачыць тое стварэнне, што вынырнула аднойчы з палонкі на возеры Нешчарда.

Доктар Ш э л ь м е р – нібыта немец па паходжанні, рацыяналіст-матэрыяліст па перакананнях, збірае ў “дзікім краі” эмпірычны матэрыял для сваёй чарговай кнігі, з пагардай ставіцца да забабонаў і чараў як да праяваў псіхічных захворанняў, але нечакана менавіта ён аказваецца Ч а р н а к н і ж н і к а м.

Б е л а я С а р о к а – магутная ўладарка, чараўніца, якая ўмее ператварацца ў птушку, хоча завалодаць Беларуссю-Літвой і, на думку навукоўцаў, з’яўляецца правобразам расійскай імператрыцы Кацярыны Другой. Размаўляе на рускай мове з лёгкім нямецкім акцэнтам.

П л а ч к а – таямнічая постаць кабеты, якая з’яўляецца людзям на старых замчышчах і курганах, каб папярэдзіць пра няшчасці і беды, ахоўвае старыя скарбы і гістарычныя рэліквіі нацыі, на думку некаторых навукоўцаў сімвалізуе Беларусь, а на думку іншых – Маці Божую.

Н і к і т р о н – адзін з васьмі злых духаў, служыць Чарнакніжніку і забівае тых, хто без дазволу зазірае ў чужыя кнігі.

Ц м о к - м а л о й ц а – вылупіўся з яйка, знесенага чорным пеўнем, меўся служыць лёкаю Карпе і прыносіць яму золата, але, убачыўшы прыгажуню Агапку, вырашыў, што прыемней будзе служыць ёй, у чым яго цяжка вінаваціць.

*Усё, што ў іншых краінах апісваецца ў кнігах,*
*у нашым краі можа здарыцца насамрэч.*

Амелія Мурагоўская

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З’ява 1.
### Пецярбург. Сум па Радзіме

Я н (*збіраецца ў дарогу*). Пасля таго як лёс закінуў мяне ў паўночную сталіцу, думкі мае з берагоў Нявы вяртаюцца ў мой край... дзе я нарадзіўся і вырас. Не гучаць там спрэчкі французскае палаты ў справе Егіпта і Турцыі, не чуваць там пра англійскі парламент, пра вайну з кітайцамі, не гамоняць там ні пра чыгункі, ні пра дзівосную вынаходку Дагера. Там час затрымаў сваю хаду і, вяртаючыся ў родныя мясціны, не ведаеш, у якім стагоддзі ты апынуўся. Там прайшлі самыя прыемныя гады майго жыцця! Там жыве мой дзядзька ... Там... Там чалавек забывае пра свет. Ах, колькі ўспамінаў малюе мне памяць... Бліжэй да Полацка возера Няшчадра на некалі міль залівае абшар... Там вясна – рай; там самыя розныя птушкі збіраюцца з усіх канцоў свету, тысячы розных дзікіх і чуллівых галасоў адгукаюцца над вадою, па лугах, лясах. Чарадзейны край, дзе я чытаў міласэрнасць і волю тваю, Творца. Менавіта гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуццям лепей, чым сённяшнія гаваркія крытыкі. Толькі там сустракаў я сапраўдную шчырасць і даверлівасць чалавечай душы. Апавяданні старых, якія перайшлі ад чалавека да чалавека са старадаўніх часоў, – гісторыя зямлі маёй, характар і пачуцці беларусаў. Там пачуў я пра чароўныя травы. На Купалле зацвітае *кветка-папараць*, той, хто знойдзе яе, бачыць не толькі скарбы, схаваныя ў зямлі, але і незвычайныя дзівы ў прыродзе; разумее гаворку кожнага стварэння; *разрыў-трава* нібыта ўдзейнічае на жалеза, разрывае замкі і кайданы ў вязняў... Але найвялікшае дзіва – *пералет-трава* – трава-шчасця; шчаслівы, хто яе сарве, бо не зазнае ён перашкодаў у сваім жыцці, і ўсе яго жаданні здзейсняцца.

Грэкі і рымляне верылі ў сляпую Фартуну, што круціць вечнае кола, а беларускі народ у лятучую траву, гонячыся за якой не адзін збіўся з дарогі і не вярнуўся да сваёй роднай хаты. І я, шукаючы яе далёка, кінуў родную старонку. Вось і жыву цяпер у Пецярбурзе – паўночнай сталіцы Расейскай імперыі.

### З'ява 2.
### Беларусь. Вёска. Ваўкалак

Вёска недалёка ад возера Нешчарда. Вячоркі ў сялянскай хаце. Грае вясковы аркестрык, у якім рэй вядзе дудар Ф р а н ц і ш а к. Хлопцы і дзяўчаты весела скачуць парамі. Сярод прысутных прыгажосцю вылучаецца пакаёўка А г а п к а, вялізным ростам і сілай – селянін М а р к а, а панскімі манерамі і вопраткай – лёкай К а р п а. Падчас адмысловага танца хлопцы мяняюцца партнёркамі, але паколькі дзяўчат на вячорках разам з Агапкай – трое, а хлопцаў разам з Маркам і Карпай – чацвёра, аднаму з кавалераў партнёркі перыядычна бракуе. Так атрымліваецца, што дзве сялянскія пары танчаць досыць зладжана, выменьваючы партнёраў, а Агапку запрашаюць Марка і Карпа разам, і дзяўчына аддае перавагу Марку, ігнаруючы Карпу.

К а р п а *(чарговы раз застаўшыся без партнёркі, злосна)*. А каб яго пярун забіў, гэтага Марку! Падзякаваў бы і д'яблу, толькі б Агапка пакахала мяне і стала маёй жонкай!

У хаце з'яўляецца постаць доктара Ш э л ь м е р а. Нікім не заўважаны, ён назірае за вячоркамі, скептычна ўсміхаецца. Потым падыходзіць да стала, дзе стаіць гарэлка і сціплая закуска, налівае гарэлку ў чарку. У перапынку паміж танцамі хлопцы падыходзяць да стала і выпіваюць па чарцы гарэлкі, Марка з разбегу выпівае чарку, паслужліва пададзеную яму Шэльмерам. Скокі ўзнаўляюцца, але цяпер Агапка з невядомай прычыны адмаўляецца танчыць з Маркам, аддаючы перавагу Карпе. Марка спачатку не можа даўмецца, што сталася, спрабуе адштурхнуць Карпу, але Агапка рашуча заступаецца за новага выбранніка, а сялянскія хлопцы адцягваюць Марку ўбок, каб не пачалася бойка.

М а р к а *(да Карпы)*. А ну адыдзі, панскі падбрэхач!

К а р п а. Яна сама мяне выбрала! Рукі прэч, хамула!

А г а п к а *(заступаецца за Карпу)*. З кім хачу, з тым і танчу! Я дзяўчына вольная!

М а р к а. Ах ты! *(Замахваецца на Карпу, але два сялянскія хлопцы адцягваюць Марку прэч.)*

1-шы Х л о п е ц. Не звязвайся з ім, Марка!

2-гі Х л о п е ц. І праўда, бяды не абярэшся.

1-я Д з я ў ч ы н а *(смяецца)*. Што, Марка, атрымаў гарбуза?

2-я Д з я ў ч ы н а *(зларадна)*. Няма чаго грэбаваць сялянскімі дзяўчатамі і заглядацца на панскіх пакаёвак!

М а р к а. Ды ну вас усіх! *(Вызваляюцца ад рук, якія яго трымаюць.)* Гарэлкі мне! *(Доктар Шэльмер паслужліва падае яму яшчэ адну чарку. Марка выпівае адным глытком.)* Дудар, музыку!

Музыка грае ўсё хутчэй. Марка пачынае скакаць як шалёны. Хлопцы і дзяўчаты таксама былі пайшлі ў скокі парамі, але незабаве спыняюцца, не вытрымліваючы тэмпу. Марка скача з усяго імпэту, прысутныя назіраюць за ім са страхам і здзіўленнем, апрача Шэльмера, які іранічна ўсміхаецца.

1-я Д з я ў ч ы н а. Што з ім?

1-шы Х л о п е ц. Спыніся, Марка!

2-гі Х л о п е ц. Францішак, кінь ужо граць!

Але Францішак ці то не чуе, ці то не можа скончыць граць. Музыка ператвараецца ў бязлад, Марка скача з апошніх сілаў.

2-я Д з я ў ч ы н а. Якія ў яго жахлівыя вочы – нібы звярыныя!
1-я Д з я ў ч ы н а *(спалохана)*. Іваўчыны аскал!
1-шы Х л о п е ц *(не верыць сваім вачам)*. Хрысце-Божа!
2-гі Х л о п е ц. Ратуйцеся, ваўкалак!

Усіх прысутных апаноўвае страх, хлопцы і дзяўчаты разбягаюцца, акрамя сляпога Францішка, які не разумее, што адбываецца, і доктара Шэльмера, які з цікаўнасцю назірае за ператварэннямі Марка. Музыка раптоўна абрываецца, Марка як нежывы падае на падлогу. Западае доўгая ціша. Потым Марка прыўстае на калені, і бачна, што замест чалавечага твару ў яго ваўчыная морда. Марка-Ваўкалак тужліва вые, спалоханы Францішак заціскае вушы рукамі.

Ш э л ь м е р *(задаволена)*. Неяк так. *(Сыходзіць.)*

**З'ява 3.**
**Засценак Завальні. Чаканыя і нечаканыя госці**

Напярэдадні Калядаў. У доме Завальні. За сталом сядзяць шляхціц Завальня і сляпы дудар Францішак, на лаве прымасцілася Мальгрэта, якая раз-пораз пазірае ў вакно.

Ф р а н ц і ш а к *(заканчвае аповед)*. ...і так вось ператварыўся той Марка ў ваўкалака.
З а в а л ь н я. Несамавітыя рэчы ты апавядаеш, Францішак!
Ф р а н ц і ш а к. Сказаў бы, што бачыў гэта на ўласныя вочы, каб не быў сляпым ад нараджэння.
З а в а л ь н я *(задуменна)*. Але чаму просты сялянскі хлопец ператварыўся раптам у пачвару?
Ф р а н ц і ш а к. Мусіць, закахаўся без памяці ў Агапку, а калі ганарлівая дзяўчына адрынула яго – перапоўніў сэрца злобай і стаў ваўкалакам.
З а в а л ь н я. А ты што думаеш, Мальгрэта?
М а л ь г р э т а. Я думаю, не варта шчыраму хрысціяніну цікавіцца такімі рэчамі.
З а в а л ь н я. Э, зноў ты за сваё, кабета. Хто хоча зразумець Божую волю, павінен цікавіцца ўсім на свеце. Надвор'е мяняецца. Усё неба ў хмарах, не відаць аніводнае зоркі, вецер узняў снег у паветра. На возеры ўжо, пэўна, замяло дарогу. Як бы наш дарагі госць не заблукаў.
М а л ь г р э т а. Янка не дурны ехаць па такім надвор'і. Пэўна, заначаваў у Полацку.
З а в а л ь н я *(да Францішка)*. Маё жытло — гэта порт на беразе мора; мушу кожную буру ставіць свечку на падваконне і такім чынам ратаваць ад няшчасця падарожных.
М а л ь г р э т а. Збярэцца тут цэлы кірмаш, ніколі спакойна не заснеш.
З а в а л ь н я. Гэта, васпані, не твой інтэрас. Я лепш ведаю, што рабіць.
М а л ь г р э т а. Не мой? А хто мусіць дбаць пра пітво і ежу, каб накарміць гэтых валацугаў, лухту якіх васпан так любіць слухаць?
З а в а л ь н я *(разв226жліва)*. Як сабе пасцеліш, так і выспішся. *(Да Францішка.)* Не звяртай увагі на яе словы, дружа. Мая аканомка ў душы добрая кабета, але любіць панаракаць.

Чуваць звон званочкаў, цокат капытоў, брэх сабак.

З а в а л ь н я. А не казаў я? Мусіць, Ян прыехаў! *(Выходзіць сустракаць госця.)*

М а л ь г р э т а *(да Францішка)*. Прабач, Францішак, не цябе я мела на ўвазе.

Ф р а н ц і ш а к. Ды я не крыўдую. Цяпер усім нялёгка жывецца.

М а л ь г р э т а. Пан Завальня – гаспадар, якіх мала: руплівы, сумленны, але ягоная цікавасць да цудаў і жахлівых гісторый даводзіць мяне да шалу.

Ф р а н ц і ш а к. Кожны з нас па-свойму дзівак.

Уваходзяць З а в а л ь н я і С к а м а р о х а. Скамароха ў кажуху, увесь занесены снегам.

З а в а л ь н я. Заходзь, пане Скамароха, пагрэйся. Чакалі пляменніка, а завітаў сусед!

С к а м а р о х а. Угу!

З а в а л ь н я. Мальгрэта, налі суседу палёнкі для сугрэву!

Незадаволеная Мальгрэта ўстае, ідзе па пітво і кубкі, налівае ў кубак палёнку і падае Скамароху. Той бярэ кубак і моўчкі выпівае.

З а в а л ь н я. Па якіх справах выбраўся ў дарогу, васпане?

С к а м а р о х а. Ды так. *(Відавочна не хоча падтрымліваць размову.)*

З а в а л ь н я. Можа, чуў пра якое дзіўнае здарэнне ў наваколлі?

С к а м а р о х а. Нічога не чуў. *(Захутваецца ў кажух.)* Крыху сагрэюся і паеду.

Мальгрэта паказвае на мігах нешта накшталт “А не казала я!” Завальня разводзіць рукамі. Зноў чуваць звон званочкаў, брэх сабак.

З а в а л ь н я *(узрадавана)*. Гэтым разам напэўна ён! *(Паспешліва выходзіць.)*

М а л ь г р э т а *(да Францішка, касавурачыся на Скамароху)*. Не шкада мне пачастунку для добрых людзей, але ёсць і такія, што нават “дзякуй” не скажуць.

Ф р а н ц і ш а к *(згаджаецца)*. Твая праўда, матухна. Розныя людзі ходзяць па свеце.

Уваходзяць З а в а л ь н я з Я н а м, апранутым у лёгкае паліто.

З а в а л ь н я. А вось і наш сталічны госць! Зірніце, як па-моднаму апрануты.

Я н. Дзень добры!

М а л ь г р э т а. А, Божачкі! Мусіць, змерз як лядышка! *(Горача абдымае Яна.)* Зараз дам табе кажух! *(Дапамагае Яну зняць паліто, а потым здымае са сцяны кажух і накідвае на Яна.)*

Я н *(вінавата)*. Сапраўды, крыху змерз.

З а в а л ь н я. Лепей дай яму нашай палёнкі! Яна хутчэй яго сагрэе.

Мальгрэта спрытна налівае ў кубак палёнку і падае Яну.

З а в а л ь н я. Ніводны замежны трунак не зраўняецца з нашым мясцовым вырабам. Палёная гарэлка, журавіны, мёд – і больш нічога не трэба.

Ян бярэ кубак і, клацаючы ад холаду зубамі, выпівае.

Я н. Моцная, халера!

З а в а л ь н я. Мальгрэта казала, што ты заначуеш у Полацку. А мне сэрца падказвала: прыедзе! Добра, што я свечку паставіў на падваконне.

Я н. Свечкі не відаць з возера. А вось ліхтар над брамай відаць здалёк.

З а в а л ь н я *(здзіўлены)*. Які ліхтар?

М а л ь г р э т а. Гэта я загадала парабкам запаліць ліхтар і прымацаваць над брамай.

З а в а л ь н я *(уражаны)*. Але ў мяне гаспадыня! Цуд, а не кабета. *(Да Яна.)* Добра, пляменнічча! Расказвай, што чуваць у свеце!

М а л ь г р э т а *(з дакорам)*. Дайце, васпане, яму ачуняць з дарогі!

З а в а л ь н я. Дарэчы, не адны мы цябе чакалі! Пан Альберт Мурагоўскі колькі разоў пра цябе пытаўся. Учора заяжджаў да нас разам са сваёй жонкай. *(З дакорам.)* Ты там, у сталіцах, мусіць, забыўся на старых сяброў, а яны пра цябе памятаюць.

Я н. Альберт ажаніўся?

З а в а л ь н я. Няўжо ён не пісаў табе? *(Хітра.)* А ты, Янка, не завёў сабе кралю ў Пецярбургу?

Я н. Ды неяк... не было калі.

З а в а л ь н я. І добра. Мы табе тут нявесту знойдзем. З нашых, *ліцвінак.*

Я н. Я, дзядзечка, *беларус.*

З а в а л ь н я. Ах, прабач, я ж зусім забыўся. Паглядзіце на яго, даражэнькія: Ян Баршчэўскі – першы ў свеце *беларус.* І пакуль адзіны.

Я н. Няпраўда. Усе мы беларусы. І вы таксама, дзядзька.

З а в а л ь н я *(махае рукой)*. Гэта ўсё вашыя пецярбургскія выдумкі. Я – ліцвін. Нарадзіўся ліцвінам і ліцвінам памру.

Я н. Апошнім ліцвінам.

З а в а л ь н я *(гнеўна)*. Можа, і апошнім. З-за такіх фармазонаў, як ты.

М а л ь г р э т а *(не вытрымлівае)*. Ну што вы накінуліся на хлопца, васпане? Як галодны сабака на костку!

З а в а л ь н я *(з'едліва)*. То можа запішашся да яго ў беларусы?

М а л ь г р э т а. А і запішуся!

Я н. Дайце я вас абдыму, цётухна. *(Абдымае Мальгрэту.)*

З а в а л ь н я. Цьфу на вас!

Чуваць звон званочкаў, цокат капытоў, брэх сабак.

З а в а л ь н я. Пайду пагляджу, хто прыехаў.

М а л ь г р э т а. Каго яшчэ чорт прынёс? *(Касавурыцца на Скамароху, але той, здаецца, спіць, захутаўшыся ў кажух.)*

Завальня выходзіць сустракаць чарговага госця.

Я н *(усміхаецца)*. Бачу, дзядзька зусім не змяніўся. Такі ж задзірысты і ўпарты.

М а л ь г р э т а. Як нарадзілася жарабя з лысінкай, то з лысінкай і воўк з'есць. *(Мякка.)* Ты ўжо не пярэч яму, Янка.

Я н. Добра, цётухна. Не буду.

М а л ь г р э т а *(да Яна)*. Выпі яшчэ палёнкі. *(Да Францішка.)* І ты з намі выпі, добры чалавек. *(Налівае палёнку ў тры келіхі, адзін падае Яну, другі – Францішку, трэці пакідае сабе.)*

Ф р а н ц і ш а к *(намацваючы рукой кубак)*. Дзякую, гаспадынька.

Выпіваюць. Уваходзіць засыпаная снегам А м е л і я.

А м е л і я. Дзень добры! Якая прыгажосць на двары... Калядная казка.

М а л ь г р э т а. Добры. *(Углядаецца, не пазнаўшы госцю.)*

А м е л і я. З надыходзячым вас святам! *(Распранаецца).*

Я н *(здзіўлена).* Амелія?

М а л ь г р э т а *(пазнаўшы).* Пані Мурагоўская! *(Забірае ў Амеліі кажушок.)*

А м е л і я. Ян! Нарэшце ты прыехаў.

Я н. Але...

А м е л і я. Мы з Альбертам так цябе чакалі!

Уваходзяць З а в а л ь н я і А л ь б е р т Марагоўскі.

З а в а л ь н я. Пра воўка памоўка, а воўк на парог! *(Паказвае Альберту на Яна.)* Вось ён, наш доўгачаканы госць.

А л ь б е р т. Вяргільчык! Прыехаў-такі, чарцяка! *(Кідаецца да Яна як ёсць, у заснежаным кажуху, і моцна абдымае сябра.)*

Я н. Цыркулёзус! Задушыш мяне, мядзведзь!

З а в а л ь н я *(замілавана).* Школьнае сяброўства не старэе! Колькі гадоў мінула, а памятаюць свае школьныя мянушкі.

А л ь б е р т. Як жа не памятаць! Вяргільчык – маленькі такі Вяргілі. Летуценны паэта-верабейчык. *(Смяецца.)*

Я н. А Цыркулёзус – вялікі такі цыркуль. Занудлівы і ўпарты.

М а л ь г р э т а *(да Амеліі).* Прысядзь, пані. Зараз пачнуць балбытаць.

А л ь б е р т. А памятаеш нашага аднакашніка Люцыфугу?

Я н. Анягож. *(Смяецца.)* Яму ўсе выпускнікі калегіі – аднакашнікі, бо Люцыфуга ў кожным класе затрымліваўся на другі год.

А л ь б е р т. Вось жа быў гультай і шалапут! Прафесары злаваліся на яго, вучні кпілі, а дзе цяпер Люцыфуга? Кіруе буйнешым банкам у Варшаве!

Я н. Толькі Богу вядома, што станецца з чалавекам у жыцці.

А л ь б е р т *(задумваецца).* Альбо Д'яблу. Памятаеш нашага ціхоню-Гугона?

Я н. Так. Выхаваны, сарамлівы хлопчык. Вельмі старанна вывучаў тэалогію.

А л ь б е р т. Прафесары прарочылі яму духоўную кар'еру, высокі сан. А Гугон закахаўся ў прыгожую карчмарку-габрэйку, уцёк з ёй у Парыж і адкрыў там музычны тэатр! Хто б мог падумаць, га, Вяргільчык?

Я н. Я чуў, Цыркулёзус, у цябе таксама важныя змены ў жыцці. *(З дакорам.)* Сябры называюцца. Нават не паведамілі мне пра свой шлюб.

А л ь б е р т *(пачырванеўшы).* Ды нашаму шлюбу ўсяго тры месяцы! Амелія, скажы яму.

А м е л і я. Прабач, што не напісалі. Думалі зрабіць табе неспадзянку.

Я н *(пахмурна).* Ды ўжо ж зрабілі.

З а в а л ь н я. А я, стары дурань, ледзь не прагаварыўся!

М а л ь г р э т а. Гэта на васпана падобна!

А л ь б е р т. Ну даруй, Янка! Мы выправімся. Заўтра ж прыязджай да нас у госці. Амелія пакажа табе новыя кнігі, проста з Парыжа выпісаныя. Такіх і ў Пецярбургу няма. А я пакажу табе свае інжынерныя праекты. Мы хоць і ў правінцыі жывем, а з цывілізаваным светам сувязі не губляем. А з якім цікавым чалавекам я цябе пазнаёмлю, ты здзівішся.

Зорка еўрапейскай навукі, доктар Шэльмер. Прыехаў з Германіі збіраць эмпірычны матэрыял для свайго трактата па псіхіятрыі.

Я н. Па чым?

А л ь б е р т. Па псіхіятрыі, новая навука такая. *(Задаволена)*. Вось бачыш, ты нават пра яе не чуў. Канец з забабонамі, цудамі і чорнай магіяй! Усё можна раслумачыць навукова!

Пан Скамароха нечакана ўсхопліваецца і, ледзь не збіўшы з ног Мальгрэту, выбягае на двор.

М а л ь г р э т а. А Божачкі!

З а в а л ь н я. Дзіўны чалавек гэты Скамароха.

М а л ь г р э т а *(абурана)*. Ледзь пляшку не разбіў!

З а в а л ь н я *(жартуе)*. Я хоць і гасцінны гаспадар, а такога разбою не даравае бы. Мальгрэта, налі нам усім палёнкі. Вып'ем за сустрэчу.

Мальгрэта спрытна разлівае палёнку ў кубкі.

З а в а л ь н я *(да Альберта)*. Я чуў, што пан Альберт збіраецца будаваць фабрыку. Ці праўда гэта?

А л ь б е р т. Так, пане Завальня. Я ўжо зрабіў інжынерны праект, узяў крэдыт у банку, замовіў з Англіі машыны.

З а в а л ь н я. Ох, не з фабрык трэба пачынаць нам, каб палепшыць свой быт, а з зямлі, бо сялянская гаспадарка найбольш прыносіць карысці ў нас. Трэба разводзіць жывёлу, угнойваць палеткі, павялічваць сенажаці і сваіх падданых навучыць лепшым маральным канонам, каб любілі сваю Бацькаўшчыну.

А л ь б е р т. Кіньце, пане Завальня. Гэта ўсё старасвецкія забабоны, а трэба глядзець у будучыню. Чаму англічане ды немцы могуць, а мы не?

Падчас размовы Завальні з Альбертам Амелія падыходзіць да Яна.

А м е л і я. Ян!

Ян адварочваецца ад яе і насуплена глядзіць у іншы бок.

А м е л і я. Янка! *(Кранае Яна за руку.)*

Ян паварочваецца і ўважліва глядзіць на Амелію.

А м е л і я. Ну прабач мне, прабач...

А л ь б е р т *(уцякаючы ад размовы з Завальнем, падыходзіць да Амеліі і забірае яе ад Яна)*. Заўтра, заўтра нагаворыцеся. Мусім ехаць, Амелія. Вецер усхадзіўся як шалёны.

### З'ява 4.

### Маёнтак Мурагі. Знаёмства з доктарам Шэльмерам. Чары і псіхіятрыя

У вітальні панскага дома пакаёўка А г а п к а наводзіць парадкі і спявае папулярную песенку.

А г а п к а *(спявае)*.

Божа, ты ў працы вялікай
Шчыруеш –

Лёсам, зямлёй і народам
кіруеш;
Слухай жа ўласнай жабрачкі
прычыны –
Беднай дзяўчыны.

Хіба прашу я дажджу ці
пагоды,
Плодных палёў ці дзяржаўнае
згоды?
Што мне інтрыгі вайскоўцаў
дасужых –
Мне трэба мужа.

Пан над панамі, прашу я у
Пана:
Дай мне, каб хлопец, што мной
пакаханы,
Быў маёй радасцю, шчасцем
і краскай –
З панскае ласкі!

Уваходзіць К а р п а, нейкі час моўчкі назірае за Агапкай, слухае песенку.

К а р п а. Навошта, Агапка, прасіць мужа ў Бога? Ці не лепш пашукаць яго побач з сабой на зямлі?

А г а п к а. Ах, зноў ты за сваё, Карпа! Ну сам падумай, які з цябе муж? Я – дзяўчына гожая, спраўная, знайду сабе жаніха з месцічаў ці шляхты. А, можа, якому маладому панічу прыпаду да вока. А ў цябе – ані ўласнае гаспадаркі, ані грошай.

К а р п а. Ты, бачу, любіш грошы?

А г а п к а. Хто ж іх не любіць? Без грошай і каханне стыне.

К а р п а. Вось ты якая.

А г а п к а. Такая. Я хоць сёння пабягу за сваім выбраннікам на край светУ, але пры ўмове, што ў выбранніка поўныя кішэні золата, а на краі свету мяне чакае смарагдавы палац.

К а р п а. А казала, што я табе даспадобы, танчыла са мной на вячорках.

А г а п к а. Не ўспамінай мне пра той жудасны вечар. Яшчэ і цяпер перад вачыма страшная морда таго ваўкалака. *(Міжволі кідае погляд на вакно, бачыць там Ваўкалаку-Марка, спалохана.)* Божачкі, ён тут! *(Постаць Ваўкалака-Маркі знікае.)*

К а р п а *(зірнуўшы ў вакно)*. Там нікога няма.

Званочак пры дзвярах абвяшчае прыезд госця.

А г а п к а *(спалохана)*. Не адчыняй!

К а р п а. Не бойся, гэта госці да нашага пана.

А г а п к а. Усё роўна не адчыняй, пакуль я не схаваюся!

К а р п а. А выйдзеш за мяне замуж?

А г а п к а. Разбагацееш – тады і пагаворам! *(Уцякае.)*

К а р п а. Разбагацееш тут за панам, які ўсе грошы траціць на кніжкі

ды розныя дзівацтвы, а замест уласнага багацця дбае пра дабрабыт сялян. Вар'ят, і жонка ў яго такая самая. Хутка ўсе разам пойдзем жабраваць.

Званочак пры дзвярах звініць больш настойліва.

К а р п а. Іду, іду!

Карпа адчыняе дзверы і ўпускае ў вітальню Я н а.

Я н. Дзень добры! Пан з паняй дома?

К а р п а. Так. Пані ў бібліятэцы, а пан з доктарам, выбачайце, морды адзін аднаму б'юць. *(Дапамагае Яну распрануцца, вешае паліто на вяшак.)*

Я н *(здзіўлена)*. Што робяць?

К а р п а. Гэта ў іх *бокс* называецца. Зараз паведамлю ім, што госці прыехалі. (*Ідзе абвясціць гаспадарам аб прыездзе госця.)*

Я н *(разглядаецца па пакоі)*. Як дзіўна ўкладаецца лёс! У гэтым доме я бываў з ранняга дзяцінства. Дзядзька працаваў аканомам у старога пана Марагоўскага, мы з Альбертам раслі як браты, а потым да нашай сябрыны далучалася Амелія. Дзіцячыя гульні, юнацкія мары. О, Амелія! Забылася ты пра нашыя мары... забылася, як у гэты куток зямлі мы хацелі перанесці ўсе дзівосы свету, тут была наша Новая Аркадыя!

Ян не заўважае, як у вітальні з'яўляецца А м е л і я.

А м е л і я. Ах, Яне! Ці памятаеш ты той дзіўны заход сонца, які мы назіралі калісь у гэтых ваколіцах? Памятаеш, агонь бліскавіцы прабег па небе, безупынна грымела на захадзе... мы схаваліся ад навальніцы ў шалашы пастуха. Гледзячы на неба, ты сказаў: "Будзе рабінавая ноч!"

Я н *(убачыўшы Амелію, усхвалявана)*. Ты таксама памятаеш тую ноч?! Я не чуў ні выцця вятроў, ні навальнічных грымотаў; мае вочы і думкі былі занятыя толькі табой; у душы было найяснейшае надвор'е, прамень тваіх вачэй пранікаў мне проста ў сэрца. Гэтая ноч была для мяне светлаю654 мараю, гэтыя пекныя вочы сніліся мне ўдалечыні ад бацькоўскае зямлі. У далёкіх краінах, сярод чужога народа твой тужлівы голас заўсёды гучаў у маіх вушах. Усюды ты была маёй адзінаю марай...

А м е л і я. Ян, мне трэба табе сказаць...

Я н *(перапыняе)*. Ты мне нават не напісала!

А м е л і я *(дрыжачым голасам)*. Давай больш не будзем успамінаць, што было некалі. Я мусіла выбраць кагосьці з вас дваіх.

Я н *(ускліквае)*. Але чаму ты выбрала яго?!

А м е л і я. Бо ты, Янка, – самотнік і летуценнік, такі самы? як і я. Мы і каханне сваё прыдумалі.

Я н. Прыдумалі?

А м е л і я. Так. А Альберт цвёрда стаіць на зямлі, ён робіць карысную для грамадства справу, і яму патрэбна мая падтрымка.

Я н. Я рады за вас.

А м е л і я *(прымірэнча)*. Сябры?

Я н. Сябры. *(Сумна ўсміхаецца)*. Пакуль смерць нас не разлучыць...

У вітальню ўваходзяць пан А л ь б е р т з доктарам Ш э л ь м е р а м, услед за імі з'яўляюцца К а р п а і А г а п к а. Альберт з Шэльмерам апранутыя так, як апраналіся ў XIX стагоддзі для заняткаў англійскім боксам, аддаюць Карпу баксёрскія пальчаткі. Агапка спрытна збірае на стол – піць гарбату.

А л ь б е р т. Вось ён, наш сталічны дэндзі!

Я н. Дзень добры!

А л ь б е р т. Ці да Пецярбурга ўжо дайшла мода на англійскі бокс?

Я н. Я больш цікаўлюся літаратурай.

А л ь б е р т. А мы з доктарам любім бокс. *(Прадстаўляе Яна Шэльмеру.)* Знаёмцеся, доктар: мой школьны прыяцель і лепшы сябра, Ян Баршчэўскі. Пасля заканчэння Полацкай езуіцкай акадэміі з'ехаў у Пецярбург, працуе ў Марскім міністэрстве, але больш за ўсё на свеце любіць літаратуру, сам піша і нават выдае альманах "Незабудка". *(З усмешкай.)* У якім друкуюцца раманы Амеліі.

Ш э л ь м е р *(схіляе галаву)*. Рады знаёмству.

А л ь б е р т. А гэта, Яне, той самы доктар Шэльмер, пра якога я табе надоечы распавядаў. Славуты еўрапейскі навукоўца, заўзяты рацыяналіст-матэрыяліст па перакананнях. Згадзіўся пагасціць у нас у маёнтку, пакуль піша кнігу пра ўплыў псіхічных захворанняў на містычныя ўяўленні чалавека.

Я н. Вельмі прыемна.

А л ь б е р т *(тлумачыць Яну)*. Пры нагодзе доктар апякуецца здароўем Амеліі. Як асоба з багатай фантазіяй яна, на жаль, мае слабыя нервы.

А м е л і я. Сядайце піць гарбату!

Усе сядаюць піць гарбату, Карпа і Агапка прыслужваюць за сталом.

Ш э л ь м е р *(да Яна)*. Часта наведваеце родныя мясціны?

Я н. Калі працаваў гувернёрам – наведваў часцей, а як перайшоў на службу ў Марское міністэрства – маю магчымасць прыязджаць толькі ўлетку.

А л ь б е р т. Ян у нас вельмі сціплы, не любіць хваліцца. А ён жа колькі разоў улетку хадзіў пешкі з Пецярбурга ў Полацк, збіраючы па дарозе паданні і казкі простага люду.

Ш э л ь м е р. О, вы фальклярыст! Як нашыя браты Грым. Я таксама цікаўлюся фальклорам, але з іншай перспектывы.

Я н *(усміхаецца)*. З якой**?**

Ш э л ь м е р. Як псіхіятр. З майго пункту гледжання ўсе гэтыя байкі пра нячысцікаў, чарнакніжнікаў, злых духаў – праявы псіхічных хваробаў. І надзвычай багаты фальклор таго ці іншага народа дрэнна сведчыць пра агульнае псіхічнае здароўе нацыі.

Я н *(іранічна)*. Мусіць, у нашым краі доктар знайшоў багаты матэрыял для пацвярджэння сваёй тэорыі.

Ш э л ь м е р. На жаль. Не трэба далёка хадзіць, возьмем двух прадстаўнікоў простага люду, якія прыслужваюць нам за гэтым сталом. Агапка, напрыклад, перакананая, што адзін з яе шматлікіх кавалераў ператварыўся ў ваўкалака і цяпер цікуе за ёй.

А г а п к а *(пакрыўджана)*. Пан доктар кпіць з мяне, а я магу пабажыцца, што гэта чыстая праўда. Нават сёння я бачыла ў вакне ваўчыную морду.

Ш э л ь м е р. У лёкая яшчэ цікавейшая гісторыя. На ўласныя вочы ён гэтага не бачыў, але яму распавядала маці. Карпа перакананы, што нарадзіўся рыбінай.

А м е л і я. Не трэба смяяцца з дзівака.

К а р п а. Але пан доктар кажа праўду. *(Пераканана.)* Маці расказвала, што калі я нарадзіўся, дык адразу сеў і закрычаў: "Дайце есці!" Перапалохаліся

ўсе, але адрэзалі паўбохана хлеба і далі мне. Вокамгненна ўсё з'еўшы, я падхапіўся і плюхнуўся ў кадзь з вадой. Бацька кінуўся мяне ратаваць, а выцягнуў... рыбіну. Пабеглі да святара, той ураз прыехаў і калі перажагнаў гэтую рыбіну, дык яна зноў ператварылася ў немаўля. То бок, у мяне.

Усе маўчаць, уражаныя дзіўнай гісторыяй.

Ш э л ь м е р *(да Яна, з'едліва)*. Што вы на гэта скажаце, пане фальклярыст?

Я н. Мой дзядзька, Завальня, лічыць, што цуды трэба разумець сэрцам, а не розумам. А я думаю, што ў народных казках і паданнях закладзена нейкая важная ісціна, якую мы, адукаваныя людзі, пакуль не можам зразумець і растлумачыць.

А л ь б е р т. А што ты думаеш на гэты конт, Амелія?

Ш э л ь м е р *(з усмешкай)*. О, пані Амелія ўдзячная мясцоваму люду за незлічоныя сюжэты для яе раманаў!

А м е л і я *(ціха)*. Усё, што ў іншых краінах апісваецца ў кнігах, у нашым краі можа здарыцца насамрэч. Чалавек сядзіць за сталом, п'е гарбату, размаўляе на модныя тэмы і не заўважае, як са слухача ператвараецца ў героя гісторыі...

Западае доўгая паўза. Потым Альберт з Шэльмерам устаюць з-за стала.

А л ь б е р т. У адрозненне ад Яна, мяне са школьных гадоў прываблівалі дакладныя навукі: фізіка, матэматыка. І я лічу, што кожны так званы "цуд" можна растлумачыць навукова. Напрыклад, як вынік аптычнага падману. Чаму розных там нячысцікаў, прывідаў, пачвараў бачаць звычайна ў прыцемках? Бо ў прыцемках чалавечае вока інакш успрымае памеры рэчаў і нават колеры. Чулі пра так званы эфект Пуркінэ? *(Да Агапкі.)* Агапка, дзе ты, кажаш, бачыла сёння ваўчыную морду?

А г а п к а. Вось у гэтым вакне, пане. *(Паказвае на вакно, за якім ужо згусцілася вечаровая цемра.)*

А л ь б е р т. Зараз правядзем невялікі вопыт. Карпа, патушы свечкі на хвіліну.

Карпа паслухмяна задзьмувае свечы. У пакоі западае змрок, а цемра за вакном паволі праясняецца. Выразна відаць морду Ваўкалака-Маркі з ашчэранымі зубамі.
Агапка крычаць ад страху. Усе астатнія губляюць мову.
Ваўкалак пагрозліва рычыць і ўцякае.

### З'ява 5.
### Маёнтак Дадэмухі. Змова

У маёнтку Дадэмухі. У невялікім пакоі гаспадар маёнтка – пан С к а м а р о х а, які відавочна некага чакае.

С к а м а р о х а *(глядзіць на гадзіннік, што на сцяне)*. Неўзабаве поўнач, а яго ўсё няма. Уладарка будзе незадаволеная. *(Нервова ходзіць уздоўж пакоя.)* Можа, сёння яна будзе больш шчодрая, чым мінулым разам?

У пакоі з'яўляецца доктар Ш э л ь м е р, падтрымлівае адной рукой другую.

Ш э л ь м е р *(крычыць ад болю)*. Каб яго чорт пабраў!

С к а м а р о х а. Што здарылася?

Ш э л ь м е р. Пракляты лёкай! Кінуў у мяне каменем.

С к а м а р о х а. Якое варварства!

Ш э л ь м е р. Няўдзячнае стварэнне! Ён дорага заплоціць за свой учынак! Будзе чым перавязаць руку?

Скамароха азіраецца, здымае з сябе пас і аддае Шэльмеру. Дапамагае доктару зрабіць павязку.

Ш э л ь м е р. А што чуваць у пана?

С к а м а р о х а *(наракае)*. Фартуна канчаткова адвярнулася ад мяне. Учора зноў прайграўся ў карты. Маёнтак закладзены, крэдыторы патрабуюць вярнуць пазыкі.

Ш э л ь м е р. Я не пра карты пытаюся. Пан выканаў даручэнні маёй гаспадыні?

С к а м а р о х а *(паспешліва)*. Так, ездзіў па суседзях, праводзіў размовы. Як мне пан і раіў, у першую чаргу наведваўся да тых, хто абмінае касцёл, а часцей наведвае карчму. Хто мае фінансавыя праблемы.

Ш э л ь м е р. І як?

С к а м а р о х а. Глеба спрыяльная. Усе будуць рады служыць нашай уладарцы. Вядома, калі ўзнагарода будзе шчодрая. *(Мнецца.)* Але я хацеў бы паразмаўляць з самой гаспадыняй.

Ш э л ь м е р. Добра. Кладзіся, пан Скамароха, на канапу. З дапамогай гіпнозу я ўвяду цябе ў транс, і ты зможаш убачыць уладарку і паразмаўляць з ёй.

Скамароха паслухмяна кладзецца на канапу і заплюшчвае вочы. Шэльмер нахіляецца над ім, робіць магічныя рухі здаровай рукой, мармыча нешта шэптам, а потым уголас.

Ш э л ь м е р *(гучна)*. Выклікаю дух найвялікшай уладаркі, наймагутнейшай чараўніцы, якая мудрасцю і прыгажосцю свет здзіўляе, якой падпарадкоўваюцца багацейшыя паны і князі, для якой старадаўнія духі здабываюць незлічоныя скарбы, а белыя мядзведзі пакорліва служаць ёй, як сабакі, і ляжаць ля падножжа яе трона. Пані Белая Сарока!

Пасярод пакоя з'яўляецца чараўніца Б е л а я С а р о к а.

Б е л а я С а р о к а. Приветствую тебя, мой верноподданый! Чем ты порадуешь свою госпожу?

С к а м а р о х а. Мая ўладарка, я старанна выканаў твае даручэнні. Змова шырыцца па нашым краі, шмат хто з маіх суседзяў хацеў бы прывітаць Пані ў сваім маёнтку, узняць у твой гонар келіх і пракрычаць: “Віват!”

Б е л а я С а р о к а. Я польщена. Пролетая сюда, я лицезрела густые леса и широкие луга, полноводные реки и синие озера. Мне весьма нравится ваш край. Весьма, весьма.

С к а м а р о х а. Наш край мае ўсё, што неабходнаа чалавеку для шчасця. Патрэбна нам толькі такая мудрая і пенкная ўладарка, як Пані.

Б е л а я С а р о к а. Вне всяких сомнений. Присоеденив ваш край к своей империи, я окажу вам большую честь. *(Задумваецца.)* А скажика мне, милок, нет ли среди твоих соотечественников противников моей власти, смутьянов да якобинцев?

С к а м а р о х а. Моладзь наша ўся на тваім баку, мая Пані. А вось

старыя людзі не хочуць зразумець свайго шчасця. Балбочуць нешта пра запаветы продкаў, пра Вялікае Княства, пра сваю старадаўнюю веру ўніяцкую.

Б е л а я  С а р о к а *(гнеўна)*. Какая отсталая страна, какие неблагодарные граждане! И что ты предпринял, дабы подорвать эту веру, дабы изничтожить их упорство?

С к а м а р о х а. Адпаведна з атрыманымі інструкцыямі, я намаўляў людзей на розныя ашуканствы, падбіваў на здраду і злачынствы!

Б е л а я  С а р о к а. Ты преданно служишь своей императрице, я довольна тобой. После нашей победы ты будешь щедро вознагражден. Весьма, весьма щедро...

С к а м а р о х а. А нельга атрымаць якую-небудзь узнагароду ўжо зараз?

Б е л а я  С а р о к а. Какой ты нетерпеливый, право... Что ж, жалую тебе титул... барона.

С к а м а р о х а *(расчаравана)*. Тытул барона я атрымаў мінулым разам, мая Пані.

Б е л а я  С а р о к а. Неужто? Ты делаешь блестящую карьеру, дружок. В таком случае, своим высочайшим указом жалую тебе титул графа.

С к а м а р о х а *(захоплена)*. Графа Таўрычаскага?!

Б е л а я  С а р о к а *(з пагардай зірнуўшы на Скамароху)*. Таврический у нас уже имеется – Григорий Александрович Потемкин. Ты, батенька, будешь графом... Полесским.

С к а м а р о х а *(схіляецца ў паклоне)*. Дзякуй, мая гаспадыня. *(Вельмі гучна.)* Няхай жыве Белая Сарока!

Спалоханая гучным крыкам Скамарохі, Белая Сарока знікае. Чуваць сарочае траскатанне, а на падлогу падае некалькі сарочых пёркаў.

Ш э л ь м е р. Цішэй, дурню! *(Узмахвае ў бок Скамарохі рукой, той паслухмяна кладзецца на канапу і адразу засынае.)* Здраднікі ёсць у кожным краі, але ў гэтым іх асабліва шмат. *(Выходзіць з пакоя.)*

Праз нейкі час Скамароха прачынаецца, у яго шчаслівы выраз твару.

С к а м а р о х а. Спачатку – віконт, потым – барон, сёння – граф, заўтра – князь, а потым... *(Голас зрываецца ад хвалявання.)* Яго вялікасць Скамароха!

**З'ява 6.**

**Маёнтак Мурагі. Забойства. Дух у целе чалавека**

У пакоі доктара Шэльмера ў маёнтку Мурагі. Доктар Ш э л ь м е р з перавязанай рукой сядзіць за сталом, перад ім раскрыта таўшчэзная кніга. Чуваць ціхі стук ці то пашкрабванне ў дзверы.

Ш э л ь м е р *(імкліва згортвае кнігу)*. Хто там?

Уваходзіць лёкай К а р п а, нясмела аглядаецца.

Ш э л ь м е р. Пан Альберт мяне клікаў?

К а р п а. Ды не. *(Мнецца.)* Я прыйшоў па ўласнай справе.

Ш э л ь м е р. Па ўласнай? *(Зацікаўлена.)* Слухаю цябе, Карпа.

К а р п а. Бачыў я шмат разоў, як з панскага вакна вылятаў вечарам вялізны кажан, а раніцай вяртаўся назад.

Ш э л ь м е р. О-о-о!

К а р п а. Учора я кінуў у кажана каменем і патрапіў у крыло.

Ш э л ь м е р. Варварскі ўчынак. А я тут пры чым?

К а р п а. А сёння ў пана лекара перавязана рука.

Ш э л ь м е р. І што?

К а р п а. Адсюль простая выснова. Якая не спадабаецца пану Альберту і пані Амеліі.

Ш э л ь м е р. Ці чуў ты калі такое слова: “шантаж”?

К а р п а. Не.

Ш э л ь м е р. Але ўласна цяпер ты мяне шантажуеш. І гэта пасля таго, што я для цябе зрабіў!

К а р п а *(не разумее)*. А што пан лекар для мяне зрабіў?

Ш э л ь м е р. Памятаеш вячоркі ў вясковай хаце? Твае словы: “Падзякаваў бы і д’яблу, толькі б Агапка пакахала мяне і стала маёй жонкай!”?

К а р п а. І потым Марка абярнуўся ваўкалакам? Дык вось яно што! *(Спалохана заціскае сабе рот рукой.)*

Ш э л ь м е р *(задумліва)*. Я мог бы жорстка пакараць цябе, лёкай. Але не зраблю гэтага, бо такія людзі, як ты, нам патрэбныя.

К а р п а. Заўсёды гатовы служыць пану! *(Схіляецца ў паклоне.)*

Ш э л ь м е р. Чаго ты хочаш?

К а р п а. Грошай. Хачу стаць багатым і ажаніцца з Агапкай.

Ш э л ь м е р. Добра, я памагу табе. *(Падыходзіць да шафы і дастае з шуфляды невялікі скрутачак.)* Вазьмі гэтыя чароўныя зярняты і накармі імі чорнага пеўня. *(Дае скрутачак лёкаю.)* Певень знясе яйка, з яйка вылупіцца цмок і будзе прыносіць табе золата і срэбра.

К а р п а *(з бояззю)*. А няма больш простага спосабу разбагацець?

Ш э л ь м е р. Калі ты такі баязлівы, аддавай зярняты назад! Агапка знойдзе сабе больш смелага жаніха.

К а р п а *(паспешліва)*. Я згодны! *(Хавае скрутачак з зярнятамі.)*

Ш э л ь м е р. За маю дабрыню будзеш мне верна служыць.

Чуваць крокі Альберта.

Ш э л ь м е р. Ты ведаеш дарогу да Замка Волатаў?

К а р п а. Так, пане.

Ш э л ь м е р. Хадзем, пакажаш. *(Нешта ўспомніўшы.)* Пачакай хвілінку. *(Разгортвае вялікую кнігу ў чорнай скуранай вокладцы, кладзе яе на стол.)* Вось неяк так.

Шэльмер з Карпам выходзяць з пакоя. Уваходзіць пан А л ь б е р т.

А л ь б е р т. Доктар, я зрабіў неверагоднае адкрыццё! *(Заўважае, што ў пакоі нікога няма.)* Куды ён падзеўся? *(Бачыць на стале вялікую разгорнутую кнігу.)* Што за дзіўная кніга! Напэўна, фаліянт альбо інкунабала. Здаецца, на лаціне. Цікава, ці памятаю я навуку айцоў-езуітаў? *(Чытае ўслых некалькі слоў на лацінскай мове.) Si sine domini concessione librum istum pandisti, mortem obibis.* “Калі ты без дазволу гаспадара адкрыў гэтую кнігу, цябе чакае смерць”.

Перад Альбертам узнікае дух Н і к і т р о н.

Н і к і т р о н. Навошта ты выклікаў мяне?!
А л ь б е р т. Ты хто?
Н і к і т р о н. Ці маеш ты права загадваць духам?

Альберт падыходзіць да Нікітрона і спрабуе дакрануцца да яго рукой. Нікітрон узносіцца ў паветра, а Альберт падае мёртвы на падлогу. Уваходзіць доктар Шэльмер, бачыць духа Нікітрона і мёртвага Альберта, нахіляецца і правярае пульс.

Ш э л ь м е р. Навошта ты забіў яго, Нікітрон?
Н і к і т р о н. Ён без дазволу адкрыў чароўную кнігу!
Ш э л ь м е р. Цяпер мяне абвінавацяць у забойстве і арыштуюць.
Н і к і т р о н. Я перанясу цябе ў любую частку зямлі, куды пажадаеш.
Ш э л ь м е р. Я не магу пакінуць гэты край, пакуль не скончу справу. Таму залазь у яго цела, Нікітрон. Ты цяпер будзеш Альбертам.
Н і к і т р о н. Не!
Ш э л ь м е р. Залазь, я сказаў!

Нікітрон з енкам уваходзіць у цела Альберта. Альберт ажывае, устае з падлогі, абмацвае цела.

Ш э л ь м е р. Цяпер гэта будзе тваё цела. Мусіш пакутваць у ім, пакуль не загладзіш сваю віну.
А л ь б е р т. Слухаюся, гаспадар.
Ш э л ь м е р. Заві мяне “пане доктар”. Хадзем, я пазнаёмлю цябе з тваёй жонкай.
А л ь б е р т. Не!
Ш э л ь м е р. Хадзем, я сказаў!

Выходзяць з пакоя.

### З’ява 7.

### Засценак Завальні. Калядоўшчыкі. Дрэнныя весткі

У доме Завальні. За сталом сядзяць шляхціц З а в а л ь н я і Я н, вядуць нетаропкую гаворку.

З а в а л ь н я. Дзіўная ў цябе тэорыя, пляменніча. Думаю, шмат каму яна не спадабаецца не толькі ў нашым краі, але і ў сталіцах.
Я н. Анягож. Русафілы кажуць, што мы хочам адарваць Беларусь ад Расіі, паланафілы – што ад Польшчы.
З а в а л ь н я. І ты верыш, што некалі наша краіна, нашая матухна Літва будзе называцца Беларуссю?
Я н. Я ў гэтым перакананы.
З а в а л ь н я. Ты мяне засмучаеш. А як жа наша даўняя гісторыя, шматвяковая слава? У хроніках напісана, што Літву заснаваў рымскі патрыцы Палемон, уцякаючы ад імператара Нерона. І што мы, шляхціцы-ліцвіны – прамыя нашчадкі рымлянаў. А твае беларусы чые нашчадкі? Непісьменнага мужыка Ахрэма?
Я н *(прымірэнча)*. Назвы краінаў змяняюцца, дзядзька.
З а в а л ь н я. Упарты ты, Янка. Увесь у свайго бацьку, зямля яму пухам. Але я цябе ўсё роўна люблю, пляменніча.
Я н. І я вас люблю, дзядзечка.

За вакном чуваць музыку, спевы. Уваходзіць М а л ь г р э т а, чырвоная ад марозу.

М а л ь г р э т а. Калядоўшчыкі прыйшлі!
З а в а л ь н я *(узрадавана)*. Запрашай, запрашай!

Мальгрэта выходзіць з пакоя і вяртаецца з калядоўшчыкамі. Калядоўшчыкі прыйшлі ўтрох: К а з а, В о ў к, М я д з в е д з ь. Каза і Мядзведзь спяваюць, Воўк – не.

К а л я д о ў ш ч ы к і *(спяваюць)*.

Ехала Каляда з Полацка
У маляваненькім вазочку,
На вараненькім канёчку,
Заехала да Завальні на двор.
Добры вечар, гаспадару!
Вынесь жа нам каўбас пару.
Ой, пахадзі каля печкі,
Пашукай жа нам перапечкі.
Ой, пахадзі каля каскі,
Пашукай жа нам каўбаскі.
Вынесь жа сала, не скупіся,
Каб твой ячмень урадзіўся,
Каб нажалі сто коп жыта,
Каб уся сям'я была сыта...

З а в а л ь н я. Слухай, Янка! У Пецярбурзе такога не пачуеш.
К а л я д о ў ш ч ы к і *(спяваюць)*.

Учора з вячора, учора з вячора
Засвяціла зора, засвяціла зора.
Зора засвяціла,
Свет узвесяліла.
Свет узвесяліўся,
Хрыстос нарадзіўся.
Хрыстова Раджэнне
Людзям на збаўленне
Людзі, прыбягайце,
Хрыста прывітайце
Здаровы бывайце,
Нам каляду дайце,
Здаровы святкуйце,
Дайце, не шкадуйце.

З а в а л ь н я. Мальгрэта, пачастунак для нашых гасцей!

Мальгрэта дае калядоўшчыкам узнагароду за іх песні: кольца кіўбасы, пірагі, падносіць кожнаму з калядоўшчыкаў па кілішку.

М а л ь г р э т а. Частуйцеся, даражэнькія!

Каза і Мядзведзь – два сялянскія хлопцы – скідаюць свае маскі і выпіваюць. Воўк застаецца ў масцы, не п'е.

М а л ь г р э т а *(здзіўлена)*. А ты чаму не п’еш? Нельга адмаўляць гаспадарам!

К а з а. Ён у нас дзіўны. Не размаўляе, не п’е, не спявае.

М я д з в е д з ь. Зараз мы яму дапаможам!

Каза з Мядзведзем спрабуюць сілком зняць маску з Ваўка, але ў іх нічога не атрымліваецца, бо гэта не маска, а сапраўдная ваўчыная морда. Ваўкалак-Марка пагрозліва рычыць і раскідвае калядоўшчыкаў у розныя бакі.

М а л ь г р э т а. А Божачкі, ён сапраўдны!

К а з а. Ратуйцеся, ваўкалак!

М я д з в е д з ь. Ваўкалак у хаце!

З а в а л ь н я *(працірае ад здзіўлення вочы)*. Да д’ябла!

Каза і Воўк уцякаюць, Завальня і Ян ад здзіўлення нерухомеюць. Толькі Мальгрэта не губляецца, спрытна хапае мятлу і выганяе Ваўкалаку-Марку на двор.

М а л ь г р э т а. Апсік! Прэч з хаты, нячыстая сіла!

Ваўкалак-Марк рычыць, але падпарадкоўваецца і пакідае дом.

М а л ь г р э т а *(зачыніўшы дзверы)*. Колькі жыву, такога не бачыла! Вось і запрашай у хату гасцей!

Я н. І я ніколі не бачыў ваўкалака на ўласныя вочы. Але шмат пра іх чуў.

З а в а л ь н я *(занепакоена)*. З’яўленне ваўкалака ў ваколіцы – дрэнны знак. Чакай бяду.

У дзверы нехта стукае, спрабуе адчыніць.

М а л ь г р э т а. Няўжо вярнуўся, пярэварацень? *(Хапаецца за мятлу.)*

Чуваць голас Амеліі: “Адчыніце, гэта я, Амелія”!

Я н. Амелія! *(Кідаецца да дзвярэй, адчыняе і ўпускае ў пакой А м е л і ю.)*

А м е л і я. Ян! *(Прытуляецца да Яна і плача)*. Ратуй мяне!

Я н. Што здарылася?

А м е л і я. Нешта з Альбертам. Ён зусім змяніўся! Амаль не размаўляе са мной, халодны, злы. Ходзіць як прывязаны за доктарам Шэльмерам. Ноччу ў маёнтак прыязджаюць дзіўныя госці, пра нешта шэпчуцца з мужам і доктарам і хуценька ад’язджаюць, не чакаючы раніцы. Альберт замыкае мяне на ключ у спачывальні, але неяк я падгледзела, што яны па начах займаюцца спірытычнымі сеансамі і выклікаюць духаў.

З а в а л ь н я *(да Мальгрэты і Яна)*. А не казаў я? Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе.

М а л ь г р э т а *(жагнаецца)*. Маці Божая, ратуй нас ад злога!

З а в а л ь н я *(занепакоена)*. А як тваё здароўе, дачушка?

А м е л і я. Ох, дзядзька Завальня, лепш не пытайцеся. *(У роспачы.)* Мне сняцца жахлівыя сны. Нібыта аграмадны кажан прылятае ноччу да мяне ў пакой і смокча з мяне кроў...

М а л ь г р э т а. Мая ты бядулька! *(Усхліпвае.)*

З а в а л ь н я *(пераглядваецца з Янам)*. А што кажа лекар?

Дзверы раптоўна адчыняюцца, уваходзяць доктар Ш э л ь м е р і пан А л ь б е р т.

Ш э л ь м е р. Вось яна, наша збеглая пацыентка. А мы па ўсёй ваколіцы яе шукаем, усіх суседзей паставілі на ногі!

А м е л і я. Не аддавайце мяне, я яго баюся! *(Хаваецца за Яна.)*

Я н *(супакойвае)*. Мы цябе нікому не аддамо, Амелія.

З а в а л ь н я. Растлумачце нам, даражэнькія, што адбываецца?

Ш э л ь м е р. Ах, у пані Амеліі зусім памутнеў розум!

З а в а л ь н я. У вас ёсць падставы так лічыць? *(Глядзіць на Альберта)*.

А л ь б е р т *(пахмурна)*. Доктар кажа праўду.

Ш э л ь м е р. Пані сцвярджае, нібыта аграмадны кажан прылятае ноччу да яе ў пакой і смокча кроў.

А м е л і я. Гэта так!

Ш э л ь м е р. Ёй здаецца, нібыта ў яе ложак забіраецца вялізны чорны кот, усю ноч муркоча, і ад яго мурkатання ў галаве пані Амеліі завёўся рой восаў.

А м е л і я. Бо гэта праўда!

Ш э л ь м е р. А самае жахлівае: валасы ў пані Амеліі нібыта ажываюць і крычаць на галаве жудаснымі галасамі.

А м е л і я. Я іх чую! *(Закрывае вушы рукамі.)*

Ш э л ь м е р. Вось бачыце. Відавочна захапленне гатычнымі раманамі зашкодзіла розуму пані Амеліі.

Я н. Альберт, ты ўпэўнены, што Амелія сапраўды хворая?

А л ь б е р т. Доктар кажа праўду. Яго трэба слухацца.

Ш э л ь м е р *(улезшы паміж Янам і Альбертам)*. Мусіць, пані Амелія паскардзілася вам, што яе зачыняюць у спачывальні на ключ і трымаюць там як у вязніцы? Але ведайце: гэта робіцца толькі дзеля яе здароўя, дзеля яе ўласнай бяспекі.

Я н *(да Завальні)*. Дзядзька, што скажаце?

З а в а л ь н я. Я не давяраю сучаснай медыцыне. *(Разводзіць рукамі.)* Але мы не маем права забраць жонку ад уласнага мужа.

Ш э л ь м е р *(мітуслíва)*. Я разумею ваш клопат. Вы можаце ў любы час наведаць Амелію. А цяпер, пані Амелія, трэба вяртацца дадому. Бывайце, панове!

Пан Альберт і доктар Шэльмер забіраюць Амелію.

М а л ь г р э т а. Чуе маё сэрца: нядобрае творыцца ў маёнтку Мараґоўскіх.

З а в а л ь н я. Маеш рацыю, кабета. Ты заўважыў, Янка, што Альберт сапраўды змяніўся?

Я н. Так. Слова з яго не выцягнеш!

З а в а л ь н я. Значыць, Амелія кажа праўду. Трэба даведацца, што там у іх адбываецца.

Я н. Як найхутчэй!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява 8.

### Возера Нешчарда. Рыбныя ловы

На заснежаным, пакрытым ільдом возеры. Змерзлы рыбак Р о д з ь к а ловіць рыбу ў палонцы і мармыча сабе пад нос песеньку.

Р о д з ь к а (*напявае*).

> Пацяраў я дуду, іх-вох,
> На паповым лугу, іх-вох,
> А не дудка была, іх-вох,
> Весяліла мяне, іх-вох,
> На чужой старане, іх-вох!

Нечакана Родзька выцягвае замест рыбы малога нячысціка, атарапела разглядае свой улоў.

Р о д з ь к а. Святыя ўгоднікі, што за ліха такое?

З палонкі вынырвае доктар Ш э л ь м е р, адбірае ў Родзькі малога нячысціка.

Ш э л ь м е р. Аддай, гэта маё!
Ф р а н ц і ш а к. Ратуйце, нячысцік! *(Уцякае.)*
Ш э л ь м е р. Праклятыя рыбакі! Швэндаюцца, перашкаджаюць у працы... *(Нечакана пачынае спяваць):*

> І Сітна маё,
> І Глыбокае маё,
> І Скобрыя маё,
> І Шэвіна маё,
> І Язна маё,
> І Нешчарда маё,
> І Няведра маё,
> І Невельскае маё,
> Як маё, дык маё і ўсё маё!

*(Знікае разам з малым нячысцікам у палонцы.)*

### З'ява 9.
### Маёнтак Мурагі. Белая Сарока. Здрада шляхты

У вітальні панскага дома пакаёка А г а п к а круціцца перад люстэркам, прымяраючы капялюшык пані Амеліі, потым бярэ яе шаль, пальчаткі і веер. Лёкай К а р п а моўчкі назірае за яе дзеяннямі.

А г а п к а *(любуецца сабой у люстэрку)*. І чым я не паненка?
К а р п а. Нішто сабе мамзэля. Але пані Амелія будзе незадаволена, калі даведаецца, што пакаёўка прымярае яе ўборы.
А г а п к а. Адчапіся ад мяне, Карпа! Я ад цябе стамілася.
К а р п а. Пачакай, хутка ты са мной загаворыш іначай, Агапка.
А г а п к а. А што такое здарыцца?
К а р п а. Здарыцца тое, што я стануся багатым і заможным.
А г а п к а *(з недаверам)*. Якім цудам? Ты знайшоў скарб?
К а р п а *(важна)*. Гэта таямніца.
А г а п к а *(з жаночай цікавасці)*. Таямніца ад мяне? *(Падыходзіць да Карпы і абдымае яго.)* Тваёй будучай жонцы?
К а р п а *(не вытрымлівае)*. Добра, я раскажу табе. Чорны певень знёс яйка, з яго вылупіцца Цмок, які будзе шукаць для мяне скарбы.

А г а п к а *(з недаверам)*. Цмок будзе шукаць для цябе скарбы? А адкуль у цябе яйка?

К а р п а. Гэта я раскажу табе пасля нашага вяселля.

А г а п к а *(з павагай)*. Не ведала, што ты ўмееш чараваць, Карпа.

К а р п а *(важна)*. Я шмат чаго ўмею, Агапка.

З'яўляецца пан А л ь б е р т.

А л ь б е р т. Карпа, усё падрыхтавана да прыезду гасцей?

К а р п а. Так, мой пане.

З'яўляецца пані А м е л і я. Агапка хуценька здымае з галавы капялюшык, адкладае пальчаткі і веер, але Амелія нават не заўважае яе.

А м е л і я. Альберт!

А л ь б е р т *(заўважыўшы Амелію, незадаволена)*. Чаму ты выйшла са свайго пакоя?

А м е л і я. Мне трэба пагаварыць з табой!

А л ь б е р т. У мяне няма часу.

А м е л і я. У цябе ніколі няма часу! Ты наўмысна пазбягаеш мяне!

А л ь б е р т *(разгублена)*. Калі цябе нешта непакоіць, скажы доктару.

А м е л і я. Ты мой муж, а не доктар!

А л ь б е р т *(да Карпы з Агапкай)*. Адвядзіце хворую ў яе пакой і зачыніце на ключ.

А м е л і я *(у адчаі)*. Я не магу жыць у вязніцы!

Карпа з Агапкай, пераглянуўшыся паміж сабой, выконваюць загад. Правёўшы іх позіркам, Альберт робіць некалькі глыбокіх удыхаў і нечакана падскоквае высока ўгору, потым яшчэ раз і яшчэ.

А л ь б е р т. Не ведаеш ты, што значыць жыць у вязніцы, кабета. *(Сыходзіць.)*

Званочак пры дзвярах абвяшчае прыезд гасцей. З'яўляецца Карпа, бяжыць адчыняць дзверы. У вітальню ўваходзяць пан С к а м а р о х а і некалькі ш л я х ц і ц а ў, за імі З а в а л ь н я і Я н. Да гасцей выходзяць доктар Ш э л ь м е р і пан А л ь б е р т.

Ш э л ь м е р. Вітаю вас, дарагія госці. Сядайце, калі ласка, за стол.

Госці рассаджваюцца за сталом.

Ш э л ь м е р. Спадзяюся, тут сабраліся нашыя аднадумцы і паплечнікі, альбо стануць імі пасля сённяшняй сустрэчы. Тыя ж, хто не прыехаў, горка пашкадуюць. Сёння нас ушануе сваім візітам найвялікшая ўладарка, наймагутнейшая чараўніца з поўначы Белая Сарока. Некаторыя з вас з ёй ужо знаёмыя. Праўда, граф Скамароха?

С к а м а р о х а *(ківае галавой, потым папраўляе Шэльмера)*. Князь Скамароха.

Ш э л ь м е р. Сёння ўсе вы зможаце прывітаць Белую Сароку і прысягнуць ёй на вернасць. Вы гатовыя гэта зрабіць?

Чуваць галасы: "Так! Няхай жыве Белая Сарока!" Ян хоча нешта сказаць, але шляхціц Завальня спыняе яго.

Ш э л ь м е р *(задаволена).* Я не сумняваўся ў вас, сябры. *(Гучным галасам.)* О, магутная ўладарка Белая Сарока! З'явіся, твае верныя падданыя чакаюць цябе!

Чуваць сарочае стракатанне, за вакном мільгае сілуэт сарокі, а пасярод пакоя з'яўляецца чараўніца Белая Сарока.

Б е л а я  С а р о к а. Приветствую вас, мои верные слуги! Я рада, что число моих сторнников множится, а наше правое дело торжествует.

Чуваць галасы: "Віват, імператрыца! Няхай жыве нашая ўладарка Белая Сарока!"

Б е л а я  С а р о к а. Согласны ли вы склонить головы пред моею властию и присоединить ваш край к моей империи? *(Усміхаецца.)* За щедрую награду, господа. Весьма, весьма щедрую...

Чуваць галасы: "Згодныя! Няхай нашай уладаркай будзе Белая Сарока!"

Б е л а я  С а р о к а. Так довершим начатое дело! Слушайте мое высочайшее императорское повеление! В одном из окрестных замков спрятан клад с древними реликвиями Великого Княжества Литовского. Приказываю отыскать его и доставить ко мне в Петербург!

Чуваць галасы: "А ўзнагарода? Што мы за гэта атрымаем?"

Б е л а я  С а р о к а. Вы хотите торговаться со мной? *(Усміхаецца.)* Что ж, отныне нарекаю вас торговицкой конфедерацией! За свою службу получите реквизированые земли моих противников!

Чуваць галасы: "Мы адшукаем скарб! Прывязем рэліквіі! Хочам землі!"
Завальня і Ян выступаюць на сярэдзіну пакоя.

Я н. Здрада!
З а в а л ь н я. Ганьба! Не дазволім гандляваць Бацькаўшчынай!
Б е л а я  С а р о к а *(абурана).* Бунтовщики! Смутьяны! Якобинцы! *(На вачах прысутных растварaецца ў паветры.)*
З а в а л ь н я. Дык вось што ў вас тут за зборышча! Вось *каго* вы запрасілі! Хочаце прадаць Радзіму?
Ш э л ь м е р. Выкіньце іх прэч, каб не псавалі нам свята!

Шляхта на чале са Скамарохам насоўваецца на Завальню, Ян становіцца побач з дзядзькам.

З а в а л ь н я. Рукі прэч! Самі пойдзем з гэтага ганебнага месца. Зляцеліся, як гурганы на падліну!

Завальня і Ян пакідаюць вітальню.

## З'ява 10.
## Полацк. Горад, якога няма

Успаміны Яна. Ва ўспамінах паўстае вобраз горада мяжы XVIII і XIX стст., якога сёння ўжо няма. Велічныя будынкі езуіцкай акадэміі, грацыёзныя сілуэты

касцёлаў і цэркваў. Гучыць песня на лацінскай мове, якую выконвалі студэнты Полацкай езуіцкай акадэміі.

Чуваць малітоўны спеў-харал:

Regina Cœli, laetare, alleluia:
quia quem meruisti portare, alleluia.
Resurrexit, sicut dixit, alleluia.
Ora pro nobis Deum, alleluia[1].

Я н. Радзіма мая! Полацак мой родны. Званы касцёла св. Стафана, на Замкавай гары – царква св. Сафіі, вежы святога для мяне будынка езуіцкай акадэміі, яго доўгія калідоры і мігаценне лямпаў у касцёле, хваласпевы і працяжны гук аргана, што напаўнялі пабожнасцю сэрца.

Памятаю нашых добрых настаўнікаў і адданых сяброў. Перад Калядамі былі іспыты і спаборніцтвы між вучнямі пачатковых класаў, калі яны на вачах бацькоў і апекуноў задавалі адзін аднаму пытанні па граматыцы лацінскае мовы, перад імі на стале былі раскладзены ўзнагароды для пераможцаў, і гэтае іх спаборніцтва заўсёды пачыналася памятнымі словамі:

Domine emule a quo incipiemus?
A signo Sancti Crucis?
Quid est signum Sancti Crucis?
Est munimentum corporis et animae.
Faciamus signum Sancti Crucis:
Faciamus.

Вакацыі пачыналіся з першага жніўня; вучняў пасля экзаменаў пераводзілі ў вышэйшыя класы; імёны выдатнікаў друкавалі ў кніжачках дзеля заахвочвання да далейшых поспехаў у навучанні.

У той дзень горад Полацак мог быць сталіцаю ўсёй Белай Русі; шум і грукат вазоў адзываўся па ўсім горадзе; з’язджаліся госці; адны — на ўрачыстасці ў дзень св. Ігнацыя Лаёлы; другія — каб падзякаваць за клопаты тым, хто вучыў і выхоўваў іхніх дзяцей; іншыя — каб пабыць у тэатры, бо вучні Полацкае акадэміі звычайна да гэтых дзён рыхтавалі пастаноўку; з’язджаліся гандляры з усіх бакоў і найвыгадней збывалі свае тавары.

Вось мураваны касцёл св. Ксаверыя; тут магілы, дзе спачывае прах манахаў езуіцкага ордэна, свецкае моладзі і старых, з якімі я некалі быў знаёмы, каму быў прыяцелем і сябрам; невыказнае пачуццё навявае на мяне гэты малюнак; душа пазірае на іх, як на анёлаў, што ляцяць на неба; старанна чытаю малітвы і доўга стаю задуменны, гледзячы на гэтае святое месца. О, шчаслівыя! Яны бачылі лепшыя часы, спяць у роднай зямлі, а я да якіх прыплыву берагоў, дзе знайду спачын пасля гэтага бурлівага плавання?

### З’ява 11.
### Засценак Завальні. Хвароба

У доме З а в а л ь н і. Хворы гаспадар ляжыць на тапчане. М а л ь г р э т а апякуецца ім, поіць сунічнай гарбатай. На лаве сядзяць рыбак Р о д з ь к а і дудар Ф р а н ц і ш а к.

[1] «Regina coeli...» – адзін з найбольш папулярных каталіцкіх спеваў.

Р о д з ь к а. І раптам вынырвае з палонкі якісь пан і выхоплівае ў мяне з рук нячысціка, якога я толькі што злавіў .

М а л ь г р э т а. Маці Божая! *(Жагнаецца.)*

Р о д з ь к а. Колькі рыбачу на Нешчардзе – упершыню такое са мной здарылася.

З а в а л ь н я. Гэта дрэнны знак. *(Кашляе.)*

Ф р а н ц і ш а к. Апошнім часам шмат нядобрых знакаў з’явілася на нашай зямлі. Спачатку – ваўкалак, потым – нячысцік у возеры, а на руінах Замка Волатаў сяляне бачылі Плачку.

Р о д з ь к а. А гэта хто такая?

Ф р а н ц і ш а к. Выглядае яна як кабета і плача так жаласна, нібыта гаротная маці па сваіх дзецях. Старыя людзі кажуць, што на месцы яе з’яўлення схаваныя старадаўнія скарбы і рэліквіі, а часам знаходзяць там чалавечыя косці і зброю.

З а в а л ь н я. У хроніках даводзілася мне чытаць, што Плачка з’яўляецца ў нашым краі перад разбуральнымі войнамі, перад голадам і паморкам, нібы хоча папярэдзіць сваіх дзяцей. І я разумею, аб якім няшчасці папярэджвае нас Плачка цяпер. Магутная ўладарка з поўначы, Белая Сарока, упадабала наш край і хоча далучыць яго да сваіх уладанняў. Збіраецца выслаць сюды сваё незлічонае войска, а сярод нашых паноў шмат хто патаемна падтрымлівае з ёй сувязь і за шчодрую ўзнагароду гатовы перайсці пад яе карону. Я як даведаўся пра змову, кінуўся збіраць навакольную шляхту, рыхтаваць зброю, але ніхто мне не паверыў. Толькі смяяліся з мяне, як са старога вар’ята.

М а л ь г р э т а. Толькі хваробы дабіліся, васпане! У вашыя гады трэба на печы сядзець, а не паспалітае рушанне склікаць.

З а в а л ь н я. Не ў час я захварэў, ой не ў час! Пляменнік мой, Янка, паехаў у Полацк, даведацца, што там чуваць і папытаць парады ў айцоў-езуітаў. *(Прыслухоўваецца.)* Ды вось, здаецца і ён.

Чуваць звон званочкаў, цокат капытоў, брэх сабак. Уваходзіць Ян.

З а в а л ь н я *(нецярпліва)*. Ну як, даведаўся нешта ў горадзе? Што сказалі айцы-езуіты?

Я н. Дзіўная справа, дзядзька. Проста містыка нейкая. У Полацку ніхто не чуў ні пра Белую Сароку, ні пра змову сярод шляхты. Айцы-езуіты паглядзелі на мяне як на вар’ята, параілі менш чытаць прыгодніцкіх раманаў і часцей маліцца.

З а в а л ь н я. Так я і ведаў. Нікога не турбуе лёс Бацькаўшыны! Эх, каб падняўся з магілы нехта з нашых прадзедаў і ўбачыў сваіх нашчадкаў, яму здалося б, што ён устаў з мёртвых у чужой краіне. Да якіх часоў дажывуць нашыя дзеці?

Я н. Не ведаю, ці змагу я ўратаваць Бацькаўшчыну, але я павінен уратаваць Амелію. Я еду ў Мурагі! *(Рашуча выходзіць.)*

М а л ь г р э т а. А паесці з дарогі? Для каго я гатавала пірагі?

З а в а л ь н я *(з дакорам)*. Эх, Мальгрэта, Айчына гіне, а ты пра свае пірагі!

### З’ява 12.
### Маёнтак Мурагі. Цмок. Уцёкі Агапкі

У вітальні панскага дома ў маёнтку Мурагі пакаёўка А г а п к а.

А г а п к а. Куды гэта яны выбраліся проці ночы? Узялі рыдлёўкі, мяхі. *(Усміхаецца.)* Карпа нават не паспеў схаваць ад мяне чароўнае яйка. *(Кладзе яйка на стол.)* Няўжо ад гэтага яйка сапраўды залежыць нашае шчасце? *(Уладкоўваецца ў фатэлі, але пры гэтым незнарок штурхае стол.)* Ой!

Чароўнае яйка падае са стала на падлогу, разбіваецца, узнімаецца слуп дыму. Калі дым рассейваецца, перад Агапкай стаіць Ц м о к - м а л о й ц а.

Ц м о к. Кланяюся маладой гаспадыні! Прыемна будзе выконваць жаданні такой прыгажуні.

А г а п к а. Ой, няўжо ты – той самы Цмок, які будзе прыносіць Карпу срэбра і золата?

Ц м о к. А хто такі Карпа?

А г а п к а. Лёкай пана Альберта і мой жаніх.

Ц м о к *(здзіўлена)*. Як, у такой шляхетнай паненкі жаніх – лёкай?

А г а п к а *(пакрыўджана)*. Але калі ты прынясеш яму золата, ён перастане быць лёкаем. Заплоціць гаспадару выкуп, стане вольным і багатым.

Ц м о к. Ну і што ён зробіць са сваім багаццем? Купіць зямлю, жывёліну і зоймецца гаспадаркай, калі працавіты. А калі лайдак – будзе дзень і ноч гуляць у карты ды піць гарэлку. Хіба ён здолее ацаніць пенкнасць паненкі і задаволіць усе яе патаемныя жаданні? Хіба ў яго хопіць фантазіі? *(Схіляецца ў паклоне як бы запрашаючы Агапку на танец.)*

А г а п к а *(прымае запрашэнне на танец)*. Ах, праўду ты кажаш, я і сама пра гэта думала.

Ц м о к. Дык навошта нам з табой нейкі лёкай Карпа? Я не толькі прыношу скарбы, я магу і цуды тварыць. Пабудую табе такі палац, пра які апавядаюць у казках, з багатымі пакоямі ў люстэрках і крышталі. *(Кружыць Агапку.)*

А г а п к а *(танчыць з Цмокам)*. Ах!

Ц м о к. Развяду сад, дзе будуць спець залатыя і срэбныя яблыкі, спяваць саладкагалосыя птушкі, расці прыгожыя кветкі, ярчэйшыя, чым зоркі на небе.

А г а п к а *(танчыць з Цмокам)*. Ах!

Ц м о к. Ты будзеш мець лепшыя на свеце ўборы і ўпрыгожанні, жыць лепш за каралеву. З’едуцца шмат знакамітых паноў паглядзець на тыя цуды.

А г а п к а *(танчыць з Цмокам)*. Спакуслівая твая прапанова і, прызнаюся, сэрца маё соладка замірае ад тваіх словаў!

Ц м о к. Ты маладая, прагожая, спадзяюся, што і разумная. Будзь маёй гаспадыняй і разам мы здзівім свет.

А г а п к а. Але гэта так нечакана!

Ц м о к *(спыняе танец)*. А, можа, цябе нешта трымае ў гэтым доме?

А г а п к а. Мяне? *(Паспешліва)*. Ды няхай ён згарыць, гэты дом!

Ц м о к. З радасцю выканаю твой загад! *(Дыхае агнём вакол сябе, у доме пачынаецца пажар.)*

А г а п к а. Што ты нарабіў!

Цмок падхоплівае Агапку і ўзнімаецца разам з ёй у паветра. У пакой убягае В а ў к а л а к-М а р к а, скача ўгору, спрабуе злавіць Агапку, але дарэмна. Цмок з Агапкай адлятаюць, Ваўкалак-Марка сядае на падлогу і самотна вые. Са спачывальні даносіцца голас А м е л і і: “Дапамажыце! Пажар! Дапамажыце!” Ваўкалак-Марка прыслухоўваецца і, хвіліну павагаўшыся, бяжыць на голас.

З’яўляецца ўстрывожаны Я н.

Я н. Амелія! Альберт! Дзе вы? Ці ёсць хто ў доме?

З боку спачывальні з'яўляецца Ваўкалак-Марка, які нясе на руках Амелію. Убачыўшы Яна, перадае яму Амелію і ўцякае прэч.

Я н. Амелія! Дзякуй Богу, ты жывая! Што тут адбываецца?

А м е л і я. Не ведаю. Яны зачынілі мяне ў спачывальні і адправіліся ў Замак Волатаў. Янка, родненькі! Трэба ратаваць Альберта!

Я н. Куды? Ты ледзь стаіш на нагах!

А м е л і я. Няма часу!

Выбягаюць з палаючага дома.

## З'ява 13.
## Замак Волатаў. Плачка

На руінах старога Замка Волатаў.

Доктар Ш э л ь м е р трымае ў руцэ ліхтар, пан А л ь б е р т і лёкай К а р п а ўзброеныя рыдлёўкамі. Непрыкметна сярод руінаў з'яўляюцца Я н і А м е л і я, назіраюць за тым, што адбываецца. Яшчэ далей хаваецца ў развалінах В а ў к а л а к а-М а р к а.

Ш э л ь м е р. Ну што вы марудзіце? Хвіліну назад я выразна чуў, як рыдлёўка шкрабнула па жалезу. Мусіць, гэта куфар са старадаўнімі рэліквіямі.

К а р п а. Не, гэта цяжкі жалезны панцыр прыкрывае грудзі шкілета, а побач ляжаць іржавы меч і шалом. Няма тут скарбу, а калі ёсць – дык зачараваны: колькі б мы не капалі, ён будзе ўсё глыбей апускацца ў зямлю.

Ш э л ь м е р. Што ты кажаш!

К а р п а *(баязліва)*. А яшчэ я чуў, што недзе дасталі з зямлі зачараваны скарб, і калі нейкі чалавек узяў адтуль толькі пенязь, невядомая хвароба скруціла яму абедзве рукі.

Ш э л ь м е р. Брыдка слухаць тую лухту, якую ты вярзеш, лёкай.

К а р п а. Бог не даруе нам здзек з магілаў.

Ш э л ь м е р. Даўно ты такі багабойны? Бярыся за рыдлёўку!

Нечакана грыміць гром, бліскаюць маланкі і асвятляць велічную постаць ж а н ч ы н ы ў белым адзенні, з агнявым мячом над галавой.

П л а ч к а. Шукаеце скарбаў у маім палацы? Нікчэмныя стварэнні! Золату і срэбру прадалі вы свае душы. Думаючы пра багацце і ўладу, вы зняважылі прах героя, які са славаю скончыў тут сваё жыццё. Прыйдзе час узняцца з магіл мёртвым і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!

Ш э л ь м е р. Знікні, прывід! Цябе няма на свеце!

Шэльмер замахваецца ў бок Плачкі ліхтаром, але Плачка ўзнімае над галавой агнявы меч. Цела Шэльмера працінае сутарга, твар перакошваецца ад злосці і бездапаможнасці. Ён ператвараецца ў кажана і спрабуе адляцець, але маланка трапляе ў чарнакніжніка-кажана і спапяляе яго.

К а р п а *(жагнаецца)*. Божая кара нарэшце напаткала чарнакніжніка і варажбіта.

П л а ч к а *(узнімае меч над панам Альбертам)*. Выйдзі, злы дух, пакінь чужое цела.

Альберт мёртвы падае на зямлю, дух Нікітрон з енкам узносіцца над замчышчам і знікае ў паветры. З воклічам “Альберт!” Амелія выбягае са свайго сховішча, за ёю – Ян, падбягаюць да нерухомага Альберта і нахіляюцца над ім.

П л а ч к а. Кожны будзе пакараны за свае грахі!

К а р п а *(падае на калені перад Плачкай)*. Прабач мне, пані! Не па сваёй волі я прыйшоў шукаць скрабы.

П л а ч к а. Хлусіш, лёкай! Ты хацеў купіць каханне за грошы і таму пайшоў на службу да чарнакніжніка. Вяртайся ж дадому і даведайся, што ўчыніла ганарлівая дзяўчына, дзеля якой ты загубіў сваю душу.

Спалоханы Карпа ўцякае з замчыша.

П л а ч к а *(не звяртаючы ўвагі на Амелію і Яна, у бок Ваўкалака-Маркі)*. Выйдзі са свайго сховішча, няшчаснае стварэнне!

Ваўкалак-Марка выходзіць са сваёй хованкі.

П л а ч к а. Ты даволі адпакутваў за свае грэшныя думкі і злыя жаданні, а зрабіўшы добры ўчынак, заслужыў на міласэрнасць. Станься ж чалавекам!

Ваўкалак-Марка ператвараецца ў чалавека.

В а ў к а л а к-М а р к а. Дзякуй, заступніца! *(Кланяецца ў ногі Плачцы і сыходзіць)*.

П л а ч к а *(павярнуўшыся да Яна і Амеліі)*. Не плачце па ім. Гэты чалавек памёр даўно, таму і дух Нікітрон пасяліўся ў ягоным целе. Цяпер злы дух выгнаны, можаце пахаваць нябожчыка і памаліцца за ягоную душу. Ты вольная, Амелія. *(Прамаўляе не да Яна з Амеліяй, а некуды ў далячынь.)* Шмат наш край зазнаў розных пераменаў шчасця і няшчасця. Але знікнуць чорныя хмары, закрасуе вясна, прыйдзе радасць на нашыя лугі і палеткі. Вось толькі ці дажывеце вы да таго часу, ці вашыя дзеці, ці ўнукі – не ведаю... *(Знікае.)*

### З’ява 14.
### Засценак Завальні. Труна. Вадохрышча

У доме Завальні. На стале стаіць труна, у якой ляжыць шляхціц З а в а л ь н я. М а л ь г р э т а сядзіць на лаве і роспачна галосіць.

З а в а л ь н я *(прыўзняўшыся з труны)*. Мальгрэта, маю ангельскую стрэльбу аддасі Янку, індыйскую люльку – дудару Францішку, а кнігі хай забярэ Амелія, каб мышы не з’елі.

М а л ь г р э т а *(з надзеяй)*. А, можа, васпане, перадумаеце паміраць?

З а в а л ь н я *(рашуча)*. Не, мой час скончыўся. Чым бачыць гэтую ганьбу, лепей спачываць у магіле побач са шляхетнымі продкамі. *(Кладзецца ў труну.)*

М а л ь г р э т а. Сэрца ў вас няма. *(Галосіць)*.

А мой ты гаспадар, а мой ты кармілец,
Чаго ж ты ляжыш, не падымаешся?
Можа ты не чуеш, як я спяваю?
Можа ты не чуеш, як я гарую?
А чым жа я цябе ўгнявіла,

Няўжо ў хаце не рабіла?
Куды ж гэта ты сабраўся,
У якую дарожаньку?
Ці ж табе хата была малая,
Ці ж я цябе не даглядала?
Чаму ты перайшоў у іншую хатку,
Хатку цёмную, безваконную?

З а в а л ь н я *(зноў прыўзнімаецца з труны)*. Мальгрэта, і не забывайся пасля маёй смерці ставіць свечку на вакно і даваць прытулак вандроўнікам, што збіліся з дарогі.

М а л ь г р э т а *(злосна)*. А вось гэтага не дачакаецеся! Як толькі васпан памрэ, ніводнага валацугі больш не будзе ў доме. Клянуся!

З а в а л ь н я *(абурана)*. Ды як ты можаш! Не выканаць просьбу нябожчыка?

М а л ь г р э т а. Няма чаго паміраць без прычыны!

З а в а л ь н я *(гнеўна)*. Не твайго розуму справа, кабета!

На двары чуваць цокат капытаў, звон званочкаў, галасы. Нехта прыехаў.

З а в а л ь н я. Спявай! Я памёр! *(Кладзецца ў труну.)*

М а л ь г р э т а *(галосіць)*.

А гаспадарык мой,
А родны мой,
А на каго ж ты нас пакінуў?
Ці ж ты нашых слёзаў не чуеш,
Што мы бедныя гаруем,
Што мы бедныя працуем.
Няма цябе каму замяніці,
Няма каму памагаці.
А чаму ж ты надумаўся
Так нам зрабіці –
Так нас пакідаці?

Уваходзяць Я н і А м е л і я. Зляканыя, глядзяць на труну.

Я н. Ісусе-Хрысце! Дзядзька!

А м е л і я. Пане Завальня!

Ян кідаецца было да труны, але Мальгрэта паказвае яму на мігах, што гэта толькі “тэатр” старога дзівака. Здзіўлены Ян на дыбачках адступае назад, пераглядваецца з Амеліяй.

Я н *(голасна)*. Эх, памёр дзядзька. Так і не даведаўся, чым скончылася наша фантастычная гісторыя.

Завальня не адгукаецца.

А м е л і я *(голасна)*. Не пачуў, што сталася з доктарам Шэльмерам...

Завальня не адгукаецца.

Я н. Пра ваўкалака, які ператварыўся ў чалавека...

Завальня не адгукаецца.

А м е л і я. Пра цмока, які праляцеў над вёскай...

Завальня не адгукаецца. Здзіўлены Ян пераглядваецца з Амеліяй і Мальгрэтай. Мальгрэта падыходзіць да Яна і нешта шэпча яму на вуха. Ян усміхаецца, зразумеўшы.

Я н (*голасна*). Дарэчы, мы тут сустрэлі карчмара Іцку: ён сказаў, што нарэшце прывёз з Рыгі каланіяльныя тавары, якія летась замаўляў яму дзядзька: бенгальскія агні, табакерку са слановай косці, індыйскі тытунь для люлькі...

З а в а л ь н я. Што? *(Усхопліваецца з труны.)* Прывёз, нягоднік! Другі год чакаю!

Я н. Нарэшце! Дзядзька ўваскрос. Цётухна Мальгрэта, нясі палёнку! Будзем святкаваць Вадохрышча!

М а л ь г р э т а *(усплёсквае рукамі)*. Сёння ж Вадохрышча! *(Узрадаваная бяжыць па палёнку.)*

З а в а л ь н я *(з недаверам)*. Не можа быць! *(Нецярпліва.)* Вы маніце!

А м е л і я. Усё, што ў іншых краінах апісваецца ў кнігах, у нашым краі можа здарыцца насамрэч!

З а с л о н а

Адам Глобус



...мастак –

апошняя свабодная прафесія...

# Цой

## *Словы пра рок-зорку*

### Колеры

Цой – мастак. Таму выбар колераў быў у яго невыпадковым. Віктар Цой свядома апрануў на сябе чорны, праўдзіва-чорны, радыкальна-чорны, рэвалюцыйна-чорны колер. Ён выбраў колер баявой анархіі, колер сцягоў, што ўздымаюцца над галовамі вольных анархістаў, колер рэвалюцыі.

Аскетычна-чорны Цой працаваў качагарам. Ён закідваў вугаль у агніста-чырвоную пашчу чорнай печы. Чорны Віктар Цой з гуртом «Кіно» супрацьстаяў ружова-блакітнаму «Ласкаваму маю» з салістам Юрам Шатуновым, які спяваў пра ружовыя і белыя ружы. Рокер Цой спяваў пра іншае, спяваў па-бунтарску, спяваў: «Маці – анархія!!! Бацька – глыток партвейну!» Чорнагаловаму Цою верылі, як вераць прарокам.

## Кіно

Вялікі акцёр павінен мець малапрыкметную знешнасць, каб на сцэне або перад камерай стварыць шмат самых розных і запамінальных вобразаў. Знешнасць акцёра мусіць быць нулявой, каб была магчымасць ад таго нуля сыходзіць у мінус ступень – да адмоўных герояў – і ў плюс ступень – да герояў станоўчых. Так лічыцца, і гэта правільнае меркаванне. У Віктара Цоя ж была зусім іншая прырода акцёрскага майстэрства, бо ў кіно, на рок-сцэне і ў качагарцы ён заставаўся Віктарам Цоем.

Яго найлепшая роля здарылася і адбылася ў фільме «АССА» Сяргея Салаўёва. У фінале кінакарціны Цой праспяваў хіт «Перамен» і стаў кумірам мільёнаў. Адзін эпізод у фільме зрабіў з Віктара культавую постаць. Роля змагара з наркамафіяй у кінастужцы «Іголка» дадала Цою папулярнасці. Кранальна да слёз была зроблена сцэна з забойствам героя, у якой персанаж Віктара Цоя атрымаў удар нажом і ўкленчыў на снезе, сціскаючы ў руцэ запальнічку з кволым агеньчыкам, які праз імгненне мусіў згаснуць.

Дзве ролі, дзве фінальныя сцэны ў фільмах Віктар Цой выканаў так, што я магу напісаць: ён – выбітны кінаакцёр.

## Мастакоўскія майстэрні

Рускі рок, як і беларускі, дарэчы, быў створаны ў мастакоўскіх майстэрнях. Пэўна, там самае вольнае паветра. Водары алейнай фарбы, пінену, лаку, сырой гліны, льнянога палатна ствараюць непараўнальны ні з чым дух свабоды. Мастак – апошняя свабодная прафесія. Аголеныя натуршчыцы, палітычныя показкі, гучны магнітафон заўсёды ў мастакоўскай майстэрні пачуваліся натуральна. Мастакам дазвалялася і дазваляецца значна больш, чым усім астатнім. Чаму? З-за таленту. У мастаках без таленту не затрымаешся.

Дух свабоды, што лунаў у мастакоўскіх майстэрнях, сканцэнтраваўся ў рок-кампазіцыях. Ігар Варашкевіч і Лявон Вольскі, Іван Маркаў і Міхал Анемпадыстаў у мастакоўскіх майстэрнях стварылі наш беларускі рок. Тое самае адбылося і ў Расіі. Юрый Шаўчук і Віктар Цой, Вячаслаў Бутусаў і Андрэй Макарэвіч пісалі свае першыя і лепшыя кампазіцыі ў мастакоўскіх майстэрнях...

Калі я чую голас Цоя, дык згадваю піцерскае мастацкае вучылішча, куды ездзіў разам са студэнтамі і выкладчыкамі мінскага мастацкага вучылішча. Мы два тыдні начавалі там, спалі на спартыўных матах, пілі віно і спявалі пад гітару песняроўскія хіты. У піцерскім вучылішчы выдатна пілося і спявалася. Там і выспеў талент найвыдатнейшага рускага рокера – Цоя. Там было самае смачнае і самае свабоднае паветра ў Расіі. Кажу так, бо сам там быў, там дыхаў і там спяваў разам з Алесем Ласём, Жанай Башук і Уладзімірам Сцяпанам.

## Распраналка

У дзяцей ёсць такое традыцыйнае выхвалянне, якое пачынаецца з «я бачыў...». Нехта пабачыў жыўцом касманаўта, а нехта – прэзідэнта. Зоркі кіно і сцэны маюць высокі рэйтынг у падобных выхваляннях. Горшыя кацiроўкі ў міністраў і генералаў, але сустрэчамі з імі гэтаксама хваляцца. Рок-зоркі далёка не на апошніх месцах, яны нездарма дзеляць арэны з зоркамі спорту.

Каб я вярнуўся ў школьнае дзяцінства, дык мог бы выхваляцца тым, што зблізку пабачыў Міка Джагера на барселонскім алімпійскім стадыёне. Віктара Цоя я пабачыў на мінскім стадыёне «Дынама», калі разам з рок-гуртом «Фарпост» стаяў у распраналцы. Туды зайшоў Цой... Ён быў значна вышэйшы, чым я яго

ўяўляў, калі бачыў на экране. Ён гаварыў больш мяккім голасам, чым той, якім спяваў. У яго будзённым голасе не было шурпатасці. «А дзе нашы?» – спытаў крыху разгублены Цой, аглядаючы вялізную распраналку. «Вашых тут няма!» – неяк занадта катэгарычна і паспешліва адказаў прадзюсер з «Фарпоста». «Ясна», – кінуў нам Цой і выйшаў з распраналкі. Дзверы ён зачыніў акуратна. Ён быў не з тых, хто бразгае дзвярыма.



Яшчэ я пастаяў каля самай сцэны і зблізу паразглядаў усіх музыкаў з цоеўскага гурта «Кіно». Была вялікая спакуса дачакацца заканчэння канцэрта і паехаць павесяліцца з «кіношнікамі», але я пераадолеў яе. Не шкадую, бо і таго, што пачуў і пабачыў, мне было больш чым дастаткова.

## Круглянскі

У творчасці журналістаў і літаратараў шмат што трымаецца на моднай тэме і актуальных героях. Сёння гаворыцца, пішацца і фільмуецца пра адных, а заўтра – пра другіх. Адмоўных персанажаў на старонках выданняў і на экранах не менш за станоўчых. Кіраўнікі тэлебачання і рэдактары газет пільна сочаць за модай і пасылаюць падначаленых распрацоўваць тэмы, запатрабаваныя публікай. Нечакана для многіх напрыканцы 1980-х гадоў у самыя топавыя прафесіі выбіліся прастытуткі і псіхіятры. У паводзінах валютных прастытутак людзям убачыліся свабода нораваў і вольны дух, а ў псіхіятрычных лячэбніцах ім прымроіліся катоўні савецкай рэпрэсіўнай машыны. Зразумела, што самі прастытуткі і псіхіятры занялі кругавую абарону, яны адмаўляліся сустракацца і размаўляць з журналістамі.

Тэлерэжысёра Сяргея Равункова, які спрабаваў зняць сюжэт пра «дактароў-катаў», выгналі з псіхбальніцы і сказалі, што больш ніводзін журналіст не пераступіць яе парог, а калі і пераступіць, дык толькі ў якасці пацыента. Тады Равункоў папрасіў мяне арганізаваць інтэрв'ю з псіхіятрам. Мой знаёмы доктар Круглянскі пагадзіўся паразважаць пра мастакоў, хваробы і нармальныя паводзіны.

У народзе існуе памылковая думка, што ўсе псіхіятрычныя лячэбніцы перапоўнены паэтамі ды мастакамі. Насамрэч там працэнт мастакоў і літаратараў роўна такі ж, як і на волі. Рабочых і сялян у псіхіятрычных бальніцах значна больш, чым інтэлігентаў. Проста да знакамітых і выбітных асоб мы праяўляем большую цікавасць. Каго зацікавіць ціхі вар'ят з прыбіральшчыкаў смецця? Хіба што сваякоў. Калі ж ад п'янства вар'яцее вядомы пісьменнік, накшталт Уладзіміра Караткевіча, такое хвалюе многіх.

Таму я і спытаў у Круглянскага, у каго з сучасных зорак мастацкага кіно ён бачыць сур'ёзныя адхіленні ад нормы. Доктар назваў Віктара Цоя. На думку

Круглянскага, у рокера назіралася шмат адхіленняў ад нормы тагачасных паводзін. Трэба сказаць, што ў тыя часы нават самая просценькая шэра-блакітная татуіроўка лічылася прыкметай вар'яцтва. Спрачацца з паважаным доктарам я не стаў. Хто гэта будзе спрачацца з псіхіятрам у ягонай псіхіятрычнай бальніцы? Вар'ят, не інакш, і нават вар'ят не стане.

Вядома, сам я лічыў Віктара Цоя цалкам нармальным і здаровым чалавекам. Праўда, калі я пачуў навіну пра аўтаварыю, у якой Цой загінуў, дык адразу згадаў дыягназ Круглянскага. Але ўсё адно я перакананы, што ён быў памылковым.

## Філармонія

Пасля стадыённых канцэртаў рокеру Юрыю Шаўчуку раптам зладзілі выступленне ў мінскай філармоніі. Канцэрт праходзіў вяла. Публіка, што любіла гучны і агністы рок-н-рол, пачувалася няўтульна ў сценах акадэмічнай філармоніі. Гук быў кепскі. Але найгоршым на тым канцэрце сталі разглагольстваванні Шаўчука пра жыццё-быццё. Ён адразу сказаў, што як музыка не дацягвае да выступлення на філарманічнай сцэне, і гэта было горкай праўдай. Але такое самапрыніжэнне крыху ратавала сітуацыю. Калі чалавек сам сябе крытыкуе, сам сябе падае значна меншым, чым ёсць на самай справе, гэта выклікае нават замілаванне. Так і хочацца сказаць: «Ну што ты, Юра... Мы цябе і такога недасканалага любім, цэнім і паважаем... Хопіць прыніжацца!»

Так і было, ажно пакуль з залы не кінулі на сцэну запіску з пытаннем: «Як вы ставіцеся да смерці Віктара Цоя?» Шаўчук прачытаў пытанне ў мікрафон, вытрымаў жалобную паўзу і выдаў: «Не пашанцавала Віцю...» Зала цяжка ўздыхнула. Так цяжка ўздыхаюць толькі побач з нябожчыкам. Гэта быў правал Шаўчука. Не было ў тым халодным «не пашанцавала» болю, не было жалю, не было праўды. Фамільярнае «Віця» замест «Віктар» канчаткова сапсавала настрой публікі.

Шаўчук спяваў далей. Жартаваў. Выходзіў граць на біс. Здавалася, што ён зараз спыніцца і ўшануе памяць Цоя хвілінай цішыні. Не спыніўся, не змоўк, не ўшанаваў... Не стану казаць за астатніх, але на тым канцэрце я ўбачыў, пачуў і адчуў, наколькі вышэй постаць Цоя стаіць за ўсю астатнюю стракатую тусоўку рускіх рокераў.

## Вайна

У дзяржавы могуць быць такія пазначэнні часу, як «да вайны» і «пасля вайны». У імперыі такіх пазначэнняў не існуе, калі ж такія пазначэнні і ўжываюцца, дык яны выкарыстоўваюцца памылкова. У лепшым варыянце – з-за недасведчанасці, а ў горшым – каб падмануць. Імперыя заўсёды знаходзіцца ў стане вайны. Таму любімыя паэты імперый – найперш паэты вайны і крыві.



Віктар Цой пачынаў як паэт-анархіст:

Мае сябры заўсёды класна маршыруюць.
Прыпынкі ў іх адно каля піўных ларкоў.

Пазней Цой ператварыўся ў кананічнага імперскага паэта з сонечным пафасам і зорным шляхам:

Зямля. Неба.
А між Зямлёй і Небам – Вайна!
І дзе б ты ні жыў-быў,
Што б ты ні думаў –
Паміж Зямлёй і Небам – Вайна!

Кроў і вайна былі асноўнымі тэмамі апошняга героя з савецкіх рок-н-рольных часоў.

Віктар Цой такім і застаецца – любімым рок-паэтам з разбуранай і зніклай імперыі, паэтам, які патрабуе перамен.

## Аварыя

Цой разбіўся на машыне. Той, хто трапляў у аўтакатастрофу, можа сабе ўявіць, як пачыналася гэтае трагічнае здарэнне...

Сам я быў у аўтааварыі. Машыну вынесла на сустрэчную паласу. Бо на асфальце ляжаў роўны і празрысты, як шкло, лёд. Дарога выглядала чорнай, роўнай і сухой. Нашу машыну панесла проста на іншую машыну, якая ехала насустрач. Здавалася, што лабавога ўдара не пазбегнуць. Час замарудзіўся. Небяспека запаволіла час так, што я добра памятаю кожны свой рух у той момант. Я ўвесь згрупаваўся і сціснуўся. Абхапіў рукамі ногі ніжэй кален. Паклаў лоб на калені. Пачуў страшэнны ўдар чужога аўтамабіля ў наш багажнік. Наша машына зляцела з дарогі і перакулілася ў паветры. Шкло растрэскалася і пасыпалася градам. Наша машына стала на колы. Нам пашанцавала...

Віктар Цой, напэўна, таксама адчуў, як замаруджваецца час. Ён таксама згрупаваўся, сцяўся, каб прыняць удар. Шкло трэскалася. Метал гнуўся і карабаціўся. Кажуць, што перад смерцю чалавек паспявае пабачыць сваё жыццё ў скарочаным пераказе. Веру. У аўтааварыі неверагодна доўгі час. Машына з Віктарам Цоем разбілася, ён загінуў. Удар быў такі моцны, што страсянуў усю савецкую імперыю, страсянуў ад падмуркаў да шпіляў.

Пачуўшы пра смерць Віктара Цоя, я вырашыў, што зраблю газету пра рускага рокера. Чаму газету? Чаму не кнігу, не фільм, не канцэрт памяці? Усё проста... Я рабіў музычную газету «Ласкавы май», кожны нумар якой выходзіў накладам у трынаццаць мільёнаў асобнікаў. Зрабіць нумар газеты, прысвечаны Цою, было проста і натуральна.

Газету «Віктар Цой» я зрабіў, і яна выйшла. Для аднаго з матэрыялаў гэтай газеты я нават прыдумаў новы літаратурны жанр – рок-некралог. Сам прыдумаў і сам напісаў яго, прысвяціўшы Цою.

## Падземныя пераходы

У мінскіх падземных пераходах больш як трыццаць гадоў выконваюцца песні Цоя. Аматары падземных спеваў маюць даволі разнастайны рэпертуар. Ад іх можна пачуць песні Джона Ленана і Лявона Вольскага, Уладзіміра Высоцкага і Андрэя Макарэвіча... Гучыць там і музыка з кінафільмаў ды тэлесерыялаў. Ёсць і народныя беларускія песні, і мелодыі «Песняроў». Нешта з’яўляецца новае ў нашым падземным музычным жыцці, нешта сціхае і забываецца. Словы ж Цоя паўтараюцца ўвесь час. Іх спяваюць, бо за іх плоцяць. За іх плоцяць, бо іх любяць.

Леанід Дранько-Майсюк



…угаворвай не ўгаворвай,
сварыся не сварыся –
толку ніякага…

# Апошні красавік

***Старонкі з "Памятнай кніжкі"***

*6 красавіка 2009 г., панядзелак.*

Зранку прыкрае думанне: "Калі ехаць у Давыд-Гарадок? Сёння ці заўтра? А мо ў сераду, паслязаўтра?!"

Заўсёды ж ад такіх думак холад бяжыць па душы!

Нічога не выгадаю: трэба ехаць сёння...

І от збіраюся, купляю ўсё, што трэба, а найперш – сем вялізных боханаў нарачанскага хлеба, мяняю 1320 злотых на 950400 нашых, плачу за аўтобусны квіток 40530 рублёў...

Грошы, грошы...

Ужо гадоў пяць, збіраючыся дадому, заўсёды кладу ў кішэню ладную гатоўку, бо апаноўвае мяне самае страшнае: а раптам з бацькамі што́...

Паміж Менскам і Слуцкам, як і паміж Слуцкам і Мікашэвічамі, сам сябе супакойваю, імкнуся разважыць сябе тым, што згадваю давыд-гарадоцкія выразы і асобныя словы, якія мне падабаюц-

ца – напрыклад, хлопчык зробіўса, як гічына (гэта пра дзіця, якое захварэла, ці якому хочацца спаць); Бог малому подушку сцэле (пра дзіця, якое ўпала з печы і не скалечылася); стаць на во́спінкі (значыць, стаць на дыбачкі); "От, унадзаўса!" (так гавораць пра чалавека, які часта да каго-небудзь, ці куды-небудзь ходзіць); анідгем (аніяк); шыздзеліна (вельмі мала чаго-небудзь); спэпшыць, зглуміць (сапсаваць); "Ні воруш!" (не чапай!)...

Перад Жыткавічамі на маю філалагічную радасць наплыла хмара: турбота пра гарод.

Што з ім рабіць?

Зноў капаць і сеяць?!

А гарод ужо, можна сказаць, і не патрэбны, бацькі на яго слабыя, і я лішняга часу не маю.

Можна ж той бульбы, скажам, купіць гатовай, не рваць на градах жылы, але ж не, дзе там – і бацька злуецца, і маці нервуецца, калі пачынаю пра куплёную бульбу гаварыць.

"Гэто ву там, у Мінску, на ўсім готовом!"

Вось так.

Таму зноў давядзецца лезці ў грады і жалезняком падняць коўзкую глебу, пяць мяшкоў бульбы пасадзіць (ці, як кажуць у Давыд-Гарадку, *кінуць*), каб восенню роўна столькі ж, тыя ж пяць мяшкоў, выкапаць (без гною, на прыкапаным леташнім яблыневым лісці больш бульбы не расце!) – і ўсё гэта дзеля таго, каб мае родныя былі спакойныя, не сердавалі, бо дагледжаны гарод для іх – ікона!

За Туравам дагнаў мяне званок, школьнік Яўген Казанцаў спытаўся, што значыць у маім даўнім вершы "Багдановіч, ратуй..." сам гэты заклік.

Як умеў, так адказаў, смеючыся ў душы з самога сябе, бо некалі прыкладна такія ж пытанні задаваў Лідзіі Абухавай...

І гэтым разам прыехаў, абвешаны торбамі, таму й гэтым разам Іван і Сашко сустрэлі мяне на аўтобуснай з вазком на гумавым ходу.

Можна сказаць, прыбыў я ў пару, угадаў і вельмі ўгадаў, калі прыехаць, бо дома бяда – маці падняцца амаль што не можа і бацька ледзьве ходзіць.

*7 красавіка 2009 г., аўторак.*

Сёння якраз Дабравесце, вялікае свята, але настрой мой зусім несвяточны.

Аднак нешта ж трэба рабіць, таму й пазваніў у Столін З., папрасіў прывезці дровы; пагаварылі добра...

Як і заўсёды, у першы дзень прыезду, рушыў да аптэкі і там падаў аптэкарцы доўгі спіс таго, што трэба для маці: німесулід-фарма, метапралол (ад сэрца), цынарызін, аспаркам, німепрыл, аладзін (ад крывянога ціску), фурасемід, індаметацын, флуцынар (гель), хандраксід (мазь).

Бацьку ж узяў аспірын, пяць флаконаў сіропу "Амбраксол" і чатыры альмагелі А (гефал).

Выдаўшы ўсё да апошняй пушачкі, аптэкарка папрасіла мяне перапісаць для яе верш "Песня пра Давыд-Гарадок", што я тут жа ў аптэцы й зрабіў:

Свет шырокі і вялікі,
Не кароткі – доўгі шлях...
Йшлі вандроўныя музыкі
Па гарынскіх берагах.
І як толькі завіталі
У Давыдаў Гарадок, –
Заспявалі, заігралі
Хто на скрыпцы, хто ў ражок... і г.д.

Аптэкарка чула, як гэты верш я чытаў у Давыд-Гарадку, выступаючы з аркестрам М. Фінберга ў 2000 годзе...

З аптэкі накіраваўся ў гарсавет па даведку для газавай канторы; гарсавецкая сакратарка Ніна Падубная, убачыўшы маю торбу з усялякімі лекамі, ахнула:

– Гэта столькі вашым бацькам трэба!

– Так ужо пяты год! – адказаў.

Параіла напісаць заяву ад імя маці ў раён на дапамогу і тут жа прыкінула:

– Звычайна даюць 35000 рублёў, адну базавую, але вам дадуць 70000!

Не мог аднымі вачыма не ўсміхнуцца: “Гэта таму, што я пісьменнік!”

Пакуль пісаў заяву, сакратарка па тэлефоне даведалася пра пенсіі на гэты месяц і накрэсліла на паперцы, што бацьку налічылі 247880, а маці 158080.

От як усё добра пакуль складаецца!

З гарсавета завярнуў на пошту, заплаціў за электрычнасць 8170 рублёў і дадому вярнуўся толькі па абедзе.

А тут на табе – бацька садзіў рэдзьку і не дасадзіў, найшло замарачэнне; упаў, аднак жа сам падняўся, неяк улез у хату, неяк дацягся да ложка.

Выйшаў у гарод, амаль не маючы здароўя...

І дзе сілу ўзяў...

Увечары на ровары прыехаў Іван, спісаў дадзеныя з пашпартаў – гэта трэба для дроў...

*8 красавіка 2009 г., серада.*

Учора звечара парадкаваў свае запісы:

“... – Васіль тут?

– Не, Васіль тут буў упэ́рэд...”

“Упэ́рэд” – значыць, быў раней.

А вось незразумелая, але цікавая і запамінальная прымаўка: увераваў, як жыд у гузіка!

Згадалася й некалі падслуханае:

“– У Опанаса хлопэц страховэла! У яго кулак, як у звоне язык!”

“Страховэла” – адначасова і вялікі, і страшны, і непрыгожы.

Пра дзяўчат чуў такое:

“... – А дзеўка й напраўду бэз уроку! Дзеўка, як хвоя, стой ды дзівіса!..”

Так, гэта з больш-менш спакойнага вечара, а потым была вельмі нядобрая ноч – крычала-звала мяне (я моцна заснуў) маці, клікаў бацька, чамусьці прасілі знайсці свечку-лаёўку.

Я здзіўляўся, шукаючы: навошта ім лаёўка, калі ўсе лямпачкі ў хаце спраўныя?!

Стаўшы на калені, знайшоў пад бацькавым ложкам у зарослай пылам кардоннай пушцы пук жоўтых царкоўных тонкіх свечачак.

А раніцай, каб трохі паганяць па хаце холад, запаліў у грубе, і пакуль гарэла, пагаварыў па далькажыку спачатку з Вольгай, а тады ўжо і з Ільёй Лазейкам.

Звычайна ў такую пару (у тыя разы!) бацька ўжо быў на нагах, сядзеў ля печы, кашляў, курыў, глядзеў у акно, а тут не падняўся, адно сказаў, лежачы, што я багата ўсунуў у грубу загнету[1].

І сапраўды ж, багата, не пашкадаваў дробных смаловых трэсак – мусіць, загаварыўся.

Гаманіў жа не толькі з Вольгай і Лазейкам, якраз Іван падышоў, і на ганку, каб нас не чулі, талкавалі пра гарод (што рабіць з гэтымі цяпер ужо непад’ёмнымі 18-цю соткамі?!), але ніякага скутку не дабіліся...

---

[1] Загнет – трэскі, часцей сасновыя; лучына.

Іван пайшоў, я вярнуўся ў хату, бацька папрасіў прывязаць да біла ложка вяроўку, каб самому падымацца.

Галава ягоная гарачая – аж гарыць, і тады я сказаў, што хай прыедзе хуткая дапамога.

– Не трэба! – бацька адразу адкінуў маю думку пра доктара.

Я даў яму аспірыну і зноў сказаў пра хуткую.

Тут ужо і маці не ўмоўчала:

– У хаце не прыбрана!

О, Божа мой, доктара нельга выклікаць, бо ў хаце не прыбрана – гэта, канечне, вялікая прычына!

Я пазваніў лекарцы Дзіне Канстанцінаўне, а па яе парадзе і ў хуткую дапамогу, а далей Івану, і пачаў у навейшае пераапранаць бацьку; гэта, як выявілася, няпроста было зрабіць, – рукі і ногі ў яго слаба варушыліся.

Добра, што прыбег Іван, а за ім і Сашко – памаглі, а тут неўзабаве бліснула каля хорткі і карэта з чырвоным крыжам.

Медсястра зрабіла ўкол, увяла літычную сумесь – папаверын з анальгінам.

Прыйшла і Дзіна Канстанцінаўна.

– Васіль Мікалаевіч ніколі не лячыўся, таму аслаблі ўсе яго рэсурсы! – гэтак сказала.

І я згадзіўся – так, бацька, можна сказаць, ніколі не хадзіў да лекараў; чалавек яркі ў працы і надзіва цярплівы, лячыў, як умеў, сам сябе.

Шафёр хуткай, Іван, Сашко і я на санітарных насілках вынеслі яго з хаты, – маці засталася адна.

Прыехалі ў "тэрапію" (гэта цэнтр Давыд-Гарадка), і Дзіна Канстанцінаўна паклапацілася, каб у нас была ветэранская (самая лепшая) палата, што значыла: я буду начаваць не ў калідоры, а разам з бацькам.

Тым часам немаладая санітарка, мыючы ў калідоры падлогу, расказала, што міліцыя шукае цыганоў, якія залезлі ў хату да 90-гадовай гарадчанкі.

Пешкі вярнуўся дадому, расказаў маці, як урыхтавалі бацьку, сабраў тое, што трэ было, і пайшоў берагам Гарыні начаваць у бальніцу.

Цяжка было дыхаць ад смаловага дыму, гарадчукі палілі ў цяпліцах печы, і скрозь – у любой сажалцы, у любой яме, поўнай веснавой вады, на ўсе галасы крумкалі вясёлыя жабы.

*9 красавіка 2009 г., чацвер.*

Ноч была трывожная, бацька, калі што хацеў, то не клікаў мяне, намагаўся зрабіць сам, але я ўсё адно падхопліваўся і, здаралася, упустую – і гэта часцей было тады, калі ён проста моўчкі варочаўся з боку на бок, а мне здавалася, што яму патрэбна дапамога.

Не могучы заснуць, я згадваў: першы раз на маёй памяці ў бальніцу бацька трапіў у лютым 1965 года.

У Альшанах перакулілася калгасная машына, у кузаве якой разам з брыгадай цесляроў ён ехаў на работу.

Ніхто з брыгады не пацярпеў, а яму не пашанцавала – прыціснула бортам, і ён, кажуць, доўга ляжаў на марозе, крычаў, а з прабітага бака цёк на грудзі бензін.

Ягоныя брыгаднікі былі занятыя сабой, а магчыма знаходзіліся ў шоку: хто расціраў ударанае калена, хто шукаў шапку, хто проста звыкла чухаў патыліцу – словам, у першыя хвіліны бяды ніхто не здагадаўся падпілаваць борт і выцягнуць з-пад машыны чалавека.

Добра, што неўзабаве пад'ехаў рэйсавы аўтобус, і пасажыры закрычалі:

– Ратуйце мужчыну!

Тады бацьку ледзьве адратавалі ад смерці – сам не мог дыхаць (давалі кіслародную падушку); былі сціснуты рэбры, зламаны сківіцы...

Другі раз апынуўся на доўгім бальнічным лячэнні ў 1989 годзе – пасярод Гарыні, якраз насупраць нашага двара, вудзіў рыбу і адчуў, што пачынае мярцвець левая нага і левая рука.

Прыкінуўся інсульт.

Аднак жа зматаў усе вуды, прывеславаў да берага, усё, што было ў лодцы, занёс у адрыну, зайшоў у хату і толькі тады ўжо, калі вярнулася з базара маці, рушыў у бальніцу, без ніякай машыны хуткай дапамогі...

Ноч гэта з такімі неспакойнымі ўспамінамі нарэшце мінула, раніцай паставілі кропельніцу, і я трымаў бацьку за руку (з непрывычкі ён мог бы неасцярожна зварухнуць локцем убок, і тады б з вены вылецела голка); калі ж кропельніцу знялі, я пабег дадому.

Але таксама ж бяда – не здолеў адразу ўвайсці ў хату.

Нанач маці замкнулася і от, пачуўшы мяне, што я на ганку, усё ніяк не магла падняцца з ложка, каб у сенцах павярнуць у замку ключ.

Маё стаянне пад дзявярыма заняло ці не з доўгіх дзесяць хвілін, і пакуль збалелая маці, адольваючы сваю немач, нарэшце адамкнула дзверы, я здранцвела глядзеў на голы красавіцкі гарод, у якім сіроча толькі чырванела прымула і зелянелі кусцікі зімовай ляўконіі...

Апынуўшыся ў хаце, прапаліў у грубе, зварыў бульбы, памыў у халоднай вадзе бальнічнае (грэць ваду не было часу), накарміў маці, даў ёй прыняць усе яе таблеткі і да дванаццаці гадзін паспеў вярнуцца ў “тэрапію”.

Гэтым разам хату замкнуў сам, а ключ павесіў на цвік на верандзе пад старымі нажніцамі – Іван, Таня і Грыцкова Рая ведалі маю схованку...

Бацькі ж у палаце не было, яго павезлі ў “хірургію” (гэта ўсходні край Давыд-Гарадка) на прасвятленне – так у нас называюць рэнтген.

Тым часам жанчыны на кухні папрасілі мяне пачытаць вершы, і я звыкла завёў:

Свет шырокі і вялікі,
Не кароткі – доўгі шлях...
Йшлі вандроўныя музыкі
Па гарынскіх берагах.
І як толькі завіталі
У Давыдаў Гарадок, –
Заспявалі, заігралі
Хто на скрыпцы, хто ў ражок... і г.д.

– Васільевіч, а вы нам пра каханне лепей! – раптам пачулася просьба...

Адчытаўшы пра каханне, у калідоры ўбачыў суседа па Кадаку[1] Міхалку Харашуна – колішняга футбаліста, а найперш добрага краўца і наогул чалавека і сціплага, і разумнага; летась ён адкрыў мне цікавую звестку – аказваецца, лодачных майстроў у Давыд-Гарадку раней называлі дубовікамі.

– А ты чого тут?

– Покопаў грады, а послі жэлезняком почохрыў сціж’е[2], і от нешчо сэрцэ прыхопіло!

Я паспачуваў яму і для цікавасці даў адну менскую газетку, у якой паведамлялі, што месячны заробак рабочых давыд-гарадоцкага электрамеханічнага завода складае ўсяго толькі 280000 – 320000 рублёў, затое дырэктар мае зарплату ажно 2 мільёны 200 тысяч!

---

[1] Вуліца майго дзяцінства.

[2] *Чохры́ць сці́ж’е* – рассякаць жалезняком вялікія кавалкі зямлі.

Чакаючы, калі прывязуць бацьку, чытаў у ветэранскай палаце новую рэдакцыю рамана Алега Лойкі "Як агонь, як вада".

А тым часам у гэтым ільготным пакоі з'явіўся, даволі рухава ўвайшоў у палату сапраўдны ветэран Другой сусветнай – дзед К.; яму – дзевяноста; нягледзячы на шаноўныя гады, ён не толькі рухавы і спрытны, а яшчэ і гаваркі; адразу ж, калі пазнаёміліся, і я, каб задаволіць свой пісьменніцкі сверб, пачаў далікатна распытваць яго пра даваеннае жыццё, ён расказаў, што пры Польшчы шыў боты і за патэнт плаціў восем злотых.

*10 красавіка 2009 г., пятніца.*

Ранкам на снеданне пакарміў бацьку негустой, якую далі, кашыцкай, – і хуткай хадой дахаты, да маці, – як падалькажыў фотамастак Анатоль Клешчук; ён збіраецца прыехаць у вёску Альгомель, якая кіламетраў за дваццаць ад Давыд-Гарадка, – будзе там здымаць.

Маці ў сваёй зляжалай пасцелі не магла варухнуць нагамі.

Перасцілаючы ложак, думаў: чым тут паможаш?!

Выклікаў доктара Новака; той прыбыў не адразу (рабіў у сваёй цяпліцы!), аднак жа, дзякуй Богу, прыехаў.

Па яго парадзе купіў гель-бальзам шабельнік, цынкавую мазь, цэлестадэрм з гараміцынам, левамеколь і яшчэ нейкую трасцу.

Дома – хоць аптэку адчыняй, але нешта з гэтага павінна ж палегчыць боль?!

Кашляючы, вярнуўся ў бальніцу, пагаварыў пра бацьку з тэрапеўткай Р-ч і неўрапатолагам М-м, але што яны маглі сказаць, калі няма што пэўнага сказаць, таму нічога яснага не пачуў я.

Бацька тым часам па маёй просьбе прайшоўся ад свайго ложка да дзвярэй і вярнуўся да ложка, і ягоная хада мяне крыху суцешыла.

На нейкую хвіліну супакоены, я палюбаваўся з акна ветэранскай палаты на паглядны салатавы дамок з партальчыкам – нядаўна ўзведзенае аддзяленне "Беларусбанка".

На банкаўскім цэментавым ганку сядзелі тры цыганкі (для свайго клянчання занялі самае зручнае месца!), і хадзілі паблізу дзве авечкі, і такая ціхамірная карціна, здаецца, найбольш апраўдвала існаванне гэтай крэдытнай установы...

Паляжаўшы пад кропельніцай, дзед К. пажаліўся: ногі мерзнуць!

Я вывеў яго на гаворку пра польскі час, папытаў, якім чалавекам быў кіраўнік магістрата Беднарчык.

– А хто яго ведае, якім вон буў! – адказаў К. – Я яго слабо памятаю...

– А пачатак вайны памятаеце?

– Война грымнула ў пятніцу!

– У трыццаць дзявятым? – удакладніў я наўмысна.

– У трыццаць дзявятым...

Аднак сёння далей гаворка не пайшла, – абуўшыся ў цёплыя зімовыя чаравікі, К. пайшоў начаваць дадому, балазе жыў блізка.

Вечарам на кароткую гадзіну я забег да Івана і Тані, занёс ім увесь нарачанскі хлеб; тады, шостага красавіка, бацька склаў прывезеныя боханы ў палатняную торбу і ў сцёпцы[1] падвесіў да столі.

Калі ўлезеш у гарод рабіць работу, то ўжо няма ніякага часу бегаць па крамах, таму заўсёды прывожу багата хлеба, які доўга не чарсцвее, аднак жа, здаецца, ніякай работы ўжо не будзе, а хлеб у сцёпцы можа пацвісці!

Хоць плач, у нашай хаце няма каму гэты хлеб з'есці...

Сашко пачаставаў мяне смачным віном, якое зрабіў сам, і я вярнуўся ў бальніцу, – бацька ўжо спаў.

Выпіўшы палакард, і я бухнуўся ў ложак.

*11 красавіка 2009 г., субота.*

Гэтай ноччу бацька пракінуўся і раз, і другі, і трэці, – яму далягала, балела і нешта ўвесь час трэ было, таму я зноў і зноў зрываўся да яго.

Ранкам прыйшоў К. і пасля кропельніцы пачаў расказваць пра сябе...

Пры немцах тры дні быў у паліцыі, прымусілі, бо інакш паехаў бы ў Германію на работу, а ехаць не хацелася, таму яго бацька заплаціў лекару-паляку пяць залатых царскіх рублёў, і лекар "знайшоў" у хлопца "хваробу" – словам, напісаў патрэбную паперу.

Адчапіўшыся "па здароўі" і ад службы ў паліцыі, і ад работы ў Германіі, усю акупацыю з напарнікам хадзіў па вёсках паблізу Пінска, шыў людзям чобаты.

У 1944-м жа саветы забралі на фронт.

– А ведалі, што вы тры дні былі ў паліцыі? – спытаў я.

– Ведалі...

– І што?

– А нічога...

Перад адпраўкай на фронт праходзячы медкамісію, К. тады вельмі здзівіўся, што ўсе чыста дактары, які глядзелі яго, былі "жыдоўскага звання".

Ваяваў жа ў гаўбічным палку.

Цікава было слухаць старога, асабліва пра тое, што савецкія гарматы распаляліся дачырвана, таму доўга страляць не маглі, а вось нямецкія (пэўна ж, 88-міліметровыя флякі) гахалі, як заведзеныя, бесперапынку.

– Дык як жа ж тады перамаглі немцаў? – здзівіўся я.

К. адказаў, што немцам у канцы вайны ўжо бракавала зброі, на адну іхнюю гармату прыходзілася дваццаць нашых.

– Выходзіць, калі дзесяць нашых пераграваліся і змаўкалі, то другія дзесяць, з якіх не стралялі, халодныя пачыналі біць?!

Стары пацвердзіў мае словы.

Тут і бацька загаварыў, што мяне ўсцешыла, – успомніў свайго дзядзьку Сцяпана, які таксама ваяваў у артылерыі і меў на плячы толькі адзін пагон, таму калі блізка з'яўлялася морда якога-небудзь начальніка, дзядзька Сцяпан закрываў на гімнасцёрцы беспагоннае плячо лямкай плецака.

А яшчэ К. расказаў пра тыя жахі, якія выраблялі ў нямецкіх паселішчах пехацінцы – не проста гвалцілі жанчын, а /.../

Пехацінцы йшлі далей, а за імі ў гэтыя гарадкі ўваходзілі артылерысты і ўсё бачылі.

– Нас у 1945-м ледзьве вошы не заелі! – уздыхаў К. – Вошы асабліва любілі не ношанае споднае, таму салдаты стараліся насіць ужыванае нацельнае. На Берлін ішлі і вашывыя, і галодныя...

– Як галодныя? – не паверыў я. – Амерыканцы ж тушонку слалі!

– Тая тушонка больш даставалася начальнікам ды іхнім палюбоўніцам. а не салдатам! – падвёў напаследак К. і пайшоў дадому...

У сталоўцы, калі браў абед, маладзіцы зноў папрасілі прачытаць які-небудзь верш; прачытаў "Бульбу":

Дарагія госці,
Каб нам жыць удала,
Трэба бульбу есці
З салам і без сала;
З рэдзькай і цыбуляй
І алеем трэба;
Трэба есці бульбу
З хлебам і без хлеба... і г.д.

---

[1] Сцёпка – кладоўка.

– Навошта нам пра бульбу?! – зарагаталі маладзіцы. – Вы нам пра каханне давайце!

О, зноў пра каханне...

Карміў бацьку і глядзеў у акно: учора паблізу банкаўскага ганка хадзілі авечкі, а сёння бегаюць сабакі.

Цыганак няма.

Раптам бацька пажаліўся: спіна пячэ!

Я паглядзеў, а там – пролежань!

Тут жа памацаў пасцель – пад прасцінаю голыя дошкі!

Божа мой, увечары восьмага красавіка хворага палажылі не на матрац, а на нейкі драўляны шчыт!

Трое сутак гэтак ляжаў і цярпеў, а я, дурань, называецца добры сын, і не дадумаўся паглядзець, памацаць, праверыць ягоны ложак!

От жа ўважлівыя медычкі ўдружылі, і калі я накрычаў на іх, зараз жа набеглі, умомант прынеслі мяккі матрац і нечым сталі мазаць бацьку, а я ад злосці на іх падзіцячы не вытрымаў, выйшаў у калідор і па далькажыку расказаў пра ўсё Вользе...

Калі бацька заснуў, зноў узяўся за раман А. Лойкі, і тут чамусьці (ад псіхічнай стомленасці, напэўна!) выяўна ўбачыўся мне Уладзімір Самойла, які вёў грамадскі суд над Радаславам Астроўскім, а тады ўжо прымроіўся Купалаў сабака, і я згадаў нашага Хомку...

Вечарам выйшаў на вуліцу: бабулі, маладзіцы і дзяўчаты йшлі ў царкву з галінкамі вярбы.

Мужчын у гэтым шэсці не было.

Заўтра святы Вербіч.

*12 красавіка 2009 г., нядзеля.*

Сёння каталікі святкуюць Вялікдзень, а па нашай “тэрапіі” прабегла чутка, што міліцыя нарэшце знайшла цыгана і цыганку, якія залезлі ў хату да 90-гадовай гарадчанкі.

Навіна гэтая бацьку й не зачапіла; выдатны цясляр, майстар, дбайны гаспадар – зараз ён замаркочаны й слабы; з папраўкай мала што выходзіць – марнее на вачах.

– Усэ будзэ добрэ! – кашляючы, пашукаў я суцяшэння.

– Ніякого добра ўжэ ні будзэ! – гэтак адказаў мне.

Заходзіў паздароўкацца Міхалка Харашун; калі бацька адвярнуўся да акна, Міхалка пакруціў, спачуваючы мне, галавой...

– А маці як там? – спытаў бацька.

“Маці, – тут жа падумаў я, – умела і ў хаце, і ў гародзе любую работу зрабіць! Таксама ж дбайная гаспадыня, цудоўная апавядальніца, здатная на запамінальныя словы...”

Я расказаў, што ёй вельмі баляць, як і балелі, ногі, што трэба і ёй у бальніцу, але як я не ўмольваў яе, у бальніцу не хоча, хоць і заходзіцца ад болю.

Учора, калі адно заікнуўся пра “тэрапію“, адмахнулася:

– Лячы мяне сам!

– Я ж не доктар, мамо! – толькі й сказаў.

Адчуваю: з ёю клопату будзе больш, чым з бацькам!

Але нешта ж трэ было рабіць, таму і ўзяў у памочнікі Івана, настроіў яго, каб угаварыў згадзіцца легчы на лячэнне.

Малайчына Іван, бо не проста ўгаворваў, падшукваючы мяккія словы, а насварыўся, па-давыд-гарадоцку, як прынята ў нас казаць, даў па хвасту: як гэта мучыцца дома, калі трэба шукаць раду ў лякарні!

Але ўгаворвай не ўгаворвай, сварыся не сварыся – толку пакуль ніякага; маці бароніцца слязамі, не хоча пакідаць хату; ёй ужо здаецца, што яе ўсе забылі...

Пасля ўчарашняга няўдалага ўгаворвання пайшлі з Іванам разам да бацькі і даведаліся ад яго: толькі што ў палаце сядзеў Мікалай Паўлавіч Бразоўскі.

Іван расказаў, як па беразе Сешкі ехала машына з дровамі, і пад ёй правалілася дарога, і вінаваты ў гэтым андатры, бо нарылі ў беразе шмат нор.

На хвіліну ў палату зазірнула медсястра; Іван, знаўца ўсяго, раскрыў таямніцу, што ў "тэрапіі" амаль усе медсёстры з бліжэйшых вёсак – Туроў, Лядца, Альшан, бо нашы гарадчанкі ў медсёстры не вельмі йдуць.

Два разы на суткі бацьку ставяць кропельніцы, і ён ужо змучыўся ад іх, нягледзячы на сваю неверагодную цярплівасць, – у вену ўводзяць глюкозу, калій, карглікон (пазаўчора карглікон адмянілі), а яшчэ фізраствор з эмаксіпінам, а таксама ж – укол пірацэтам і нарэшце – фізраствор плюс антыбіётык цэфатаксім...

Правёўшы Івана, на хвіліну схаваўся на калідоры за разлапістым фікусам і, стоячы, зрабіў для адпачынку галавы занатоўку:

"...Ленін у маўзалеі, скрозь чарнеюць помнікі Леніну, і я жыву ў Менску на вуліцы Леніна... Сталіна ж вынеслі з маўзалея, помнікі разбурылі, імя ягонае з вулічных шыльдаў знікла даўно... І ўсё ж сталінізм перамог ленінізм, ён болей жывучы... Невыпадкова столькі фільмаў і кніжак за апошнія гады наляпілі пра Сталіна... Вось і лінію пад Менскам адкрылі..."

*13 красавіка 2009 г., панядзелак.*

Пакуль што гэта самая цяжкая ноч, – бацька прачынаўся разоў сем, але нічога не хацеў і нічога не прасіў, адно казаў: "Спіна горыць! Спіна горыць!"

Спіна не гоіцца, і мне параілі: ад пролежняў памагае пуховая хустка!

Прыйшоў стары К. і сказаў бацьку:

– Васіль, важко бульбу кідаць[1], мо лепш готовую купіць?

– А як нясмачную купіш?! Попоясі тады зімою!

Загаварылі пра дактароў.

Бацька не верыў ніякім дактарам:

– У нас няма прыродных урачоў. У нас адзін стаў урачом за свінню, а другі за грошы!

К. згадзіўся, выйшаў на калідор і пасадзіў у фікус, за якім я ўчора хаваўся з нататнікам, два кактусы...

А я сабраўся да маці, аднак мусіў быў зноў сесці на свой ложак – занылі раптам ногі; скінуў чаравікі – ого, дык у мяне апухлі падэшвы!

Як некалі ў арміі.

Ад нерваў хіба?!

Ажно балюча ступаць...

Тады, у войску (калі праслужыў нейкія два тыдні) новыя мае сябры-салдацікі параілі:

– Ідзі ў санчасць, і цябе камісуюць!

Я пасаромеўся ісці на медагляд, – а раптам і сапраўды камісуюць, і я вярнуся ў Давыд-Гарадок людзям на смех: "О, яго з арміі без пары вярнулі! Э-э, хлопец не варты!"

Дый перад бацькамі няёмка – атрымаўшы ваенкамацкую позву, я іх у страту ўвёў, такі стол багаты зрабілі, амаль усе сваякі і суседзі на праводзінах былі, адных здымкаў штук сорак зрабілі!..

Шануючы ногі, ужо не так хутка, як раней, рушыў-пашкандыбаў дахаты, і на гарынскім мосце пачуў ад Рыгора Сітніцы па далькажыку вестку: у Някляева толькі

[1] Садзіць.

што выйшла новая кніга, а ўслед за гэтай весткай прыйшла й сумная навіна – Эдуард Акулін паведаміў, што ў Барыса Пятровіча памёр бацька...

Вось так, сталыя пісьменнікі, па чарзе пачынаем сірацець...

Гэтым разам, дзякаваць Богу, маці маўчала; я памог ёй падняцца і даведаўся, што прыходзіла Таня (ключ, вядома, знайшла пад старымі нажніцамі), прынесла смачны суп, а я прынёс бальнічныя катлеты...

Зрабіўшы тое, што трэ было зрабіць у хаце, вярнуўся звыклай дарогай у "тэрапію", як пазваніў Іван: ён адправіў да нас машыну дроў!

Гэта добра, дзякуй З., аднак жа дровы (сем рэзаных і колатых метраў!) вывернуць з кузава на вуліцы каля хаты, і я адзін ці дамся рады, каб гэта да ночы перавезці іх у двор?!

Бацька параіў паклікаць на дапамогу Міколу Бразоўскага, і я з бальніцы пазваніў яму, але Мікола сеяў якраз у сваім гародзе і абяцаў прыйсці заўтра.

Ён супакоіў мяне тым, што дровы – не сена, могуць ноч паляжаць і на вуліцы, іх ніхто не забярэ, не ўкрадзе, а калі намочыць дождж, то хіба гэта бяда – складзеныя ў двары ў касцёр, высахнуць...

Я заплаціў шафёру 201690 рублёў і пачаў патрохі перавозіць у вазку за хату гэтае ў пару прывезенае багацце – альховыя, бярозавыя і зрэдку смаловыя палены.

Адпачываючы на ганку пасля шостага ці сёмага воза, падалькажыў Барысу Пятровічу, паспачуваў ягонай бядзе, а тут з'явіліся якраз Іван і Сашко, і работа пайшла спарней.

*(Працяг будзе.)*

згадкі

Валянцін Акудовіч



...праклянцце таго, хто абраны вяршыняй, –

яму няма куды рухацца далей...

# На рыштаваннях горада Сонца

## *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

*Заканчэнне. Пачатак у №№95-99, 101-108.*

***

**Міхася** (Міхаіла) **Баярына** не было з *намі* ні на будоўлі *Вавілонскай вежы*, ні на рыштаваннях *Горада Сонца*. Хаця пазней ён і дэкляраваў: "Уся мая дзейнасць ёсць ахвярай беларускай мове".

Зрэшты, падобнае мог сказаць шмат хто. Даволі згадаць хаця б вершы паэтаў ранейшай пары – ды і цяперашніх таксама. Толькі Міхася няма і побач з імі. Яму мала было мовы такой, якой яна ёсць. Таму ён уклаўся жыццём у стварэнне першамовы, таго, што называў (называе) беларускім санскрытам. Аднак пра гэта потым.

Міхась Баярын скончыў Беларускі ліцэй імя Якуба Коласа. Між іншым, разам з Іллёй Сінам. Неяк Ілля (ужо тады адзін з падставовых слупоў Бум-Бам-Літа) сказаў мне, што ў ліцэі ёсць яшчэ адзін таленавіты паэт – Міхась Баярын.

– Дык чаму Міхась не з вамі?

– Ён створаны дзеля адзіноты.

– То хай пакажа мне свае вершы.

Міхась паслухаўся, паказаў, і я надрукаваў яго вершы спачатку ў "ЗНО", а затым у "Крыніцы". Пазней былі яшчэ публікацыі ў некалькіх выданнях, зборнік вершаў "Шалёны ветраградар" у калекцыі "Фрагментаў", і пра хлопца неўзабаве загаварылі як пра маладога геніяльнага паэта. Толькі гаварылі нядоўга, бо Міхась кінуў пісаць вершы, патлумачыўшы мне, што сваю меру паэтычнай дасканаласці ён ужо асягнуў...

І стварыў часопіс "nihil" (2002).

***

Але перш чым казаць пра часопіс, колькі біяграфічных звестак пра Баярына, бо ў яго выпадку яны азначальныя. Міхась Баярын скончыў філфак БДУ (класічная філалогія), дзе вывучыў лаціну і старагрэцкую мову, а потым і выкладаў іх у розных месцах. Захапляўся ўсходнімі адзінаборствамі і нейкі час нават працаваў трэнерам. Палітыкай, здаецца, не асабліва цікавіўся, але падчас адной з віхурных маніфестацый быў арыштаваны і толькі цудам застаўся ва ўніверсітэце. Быў рэдактарам маёй першай кніжкі "Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека" і адначасна яе "перакладчыкам" з *наркамаўк*і на *тарашкевіцу*. Калі пасля выхаду кніжкі замест "смяротнай лажніцы" я ўбачыў у тэксце "смяротная лёжа", то канча ўзнелюбіў тарашкевіцу на ўсё пазасталае жыццё.

***

Аднак вернемся да часопіса. Перачытаўшы цяпер першы нумар (усяго іх будзе толькі чатыры), я наноў зразумеў, што гэта шэдэўр сярод перыядычных выданняў.

Чытач вольны не даваць мне веры на слове, аднак і кароткім пераказам тэкстаў упаасобку я наўрад ці каго пераканаю. Таму лепей адшкадую трохі болей месца для гаворкі з Міхасём, якую ён наперад запланаваў друкаваць у сваім будучым часопісе. Між іншым, мы таксама гутарылі ў *маім* склепе турысцкага начыння.

Паколькі сумоўе было не толькі канцэптуальным, але і ёмістым, дык вылучу з яго ўсяго адну тэму. Што праўда, і яна тут будзе выглядаць залішне вялікай, толькі інакш у мяне аніяк не атрымліваецца.

***"nihil"**: Ваша імя трывала звязваецца з радыкальнай нігілістычнай канстатацыяй: «мяне няма». Гэтыя два словы сталіся амаль сімвалам сучаснасці. Няма і nihil, як судачыняюцца гэтыя паняткі? Ці маглі б вы перакласці nihil як няма?*

– Няма і nihil – словы аднаго дыскурса, але яны не тоесныя адно аднаму, у кожнага з іх свая генеза, свая семантыка, свой наратар. Слова «няма» прамаўляе анталогія (быццё), слова «nihil» прамаўляе экзістэнцыя (бытнае).

Хаця, каб па добраму, дык перад тым, як разводзіць ці лучыць паняткі з «патойбочнага» свету (няма, нішто, nihil, адсутнасць, нежытво, дэканструкцыя, нябыт, негатыў, невараць і г.д., і да т.п.), трэба было б прарабіць вялікую працу па легітымізацыі статусу кожнай з падобных і блізкіх да іх лексемаў і дэмаркацыі іхніх межаў. Гэта значыць скласці слоўнік нігілізму, а пазней – грунтоўную энцыклапедыю. Бо пакуль тут спрэс анархія ды партызаншчына, і таму напэўна ніхто ніколі не ведае (я ў тым ліку), на якой прасторы дзе чыя ўлада.

***"nihil":** Акрамя згаданых слоўніка і энцыклапедыі, сярод вашых задумаў ёсць анталогія нігілізму. Якія постаці і тэксты вы мяркуеце ў яе ўлучыць?*

– Яе абрысы яшчэ не зусім выразныя, аднак у агульнай канфігурацыі яна ўжо склалася. Я нават ведаю той тэкст, якім будзе распачынацца энцыклапедыя нігілізму. Як гэта ні дзіўна, але яе запачаткуе радыкальна антынігілістычны тэкст – паэма Парменіда «Пра прыроду», дзе сцвярджаецца, што ёсць толькі тое, што ёсць, а ніякага няма – няма. Уласна, анталогія нігілізму найперш і патрэбная

дзеля таго, каб перасягнуць праклён Парменіда. Бо гэта толькі здаецца, што ён ужо даўно перасягнуты Кіркегарам, Бергсанам ці Гайдэгерам.

***“nihil”:*** *Вашая анталогія будзе складацца з герояў і тэкстаў толькі заходняй філасофскай традыцыі?*

– Так, і гэта пакуль прынцыпова. Бо нават калі б мысленне Усходу мела тэксты, што як бы вырашалі для еўрапейскай ментальнасці праблему Нішто, дык я б не ўлучыў іх у гэты збор.

***“nihil”:*** *Чаму? Магчыма, усходняя традыцыя ўжо мае адказ на вашае запытанне пра Няма. Ці не ўхіляецеся вы ад волі да праўды, ад волі не быць падманутым, адмаўляючыся ўспрымаць веды Усходу?*

– Ну, па-першае, гэта толькі нашае гіпатэтычнае меркаванне, быццам недзе ў спратах Усходу прыхаваны для нас суперкаштоўны філасофскі камень. Якраз наадварот. Нічога каштоўнага для сябе ў гэтым сэнсе мы хутчэй за ўсё там не знойдзем, бо хаця мысленне Усходу і мае сваіх філосафаў *адсутнасці*, але ў ментальнай парадыгме «жоўтага чалавека» праблема Няма ад пачатку была здэактуалізаваная шэрагам канцэптуальных збочванняў ад цэнтру гэтай праблемы, сярод якіх і любімая намі ідэя рэінкарнацыі. Ну, скажыце, як можна ўсур’ёз быць заклапочаным наяўнасцю Нішто, калі цябе наперадзе чакае столькі жыццяў у самых розных формах і станах? Не, калі па вялікім рахунку, дык гэта толькі наша праблема, у пэўным сэнсе сінанімічная выключна еўрапейскаму феномену пошуку Ісціны...

***“nihil”:*** *Якія постаці з традыцыі беларускага мыслення маглі б знайсці месца ў гэтай анталогіі? Найбліжэйшым да вашага мыслення падаецца атэістычны філасофскі трактат Казіміра Лышчынскага, аднаго з першых вялікіх нігілістаў Еўропы. Трактат «Пра неіснаванне Бога» ўжо сваёй назвай сугучны вашым «Дыялёгам з Богам». Ці з’яўляецца Казімір Лышчынскі заснавальнікам традыцыі беларускага нігілізму?*

– Анталогія нігілізму бачыцца мне своеасаблівым тунэлем пад акіянам Ёсць, спраектаваным праклясці (ці хаця б прамаркіраваць) праход ад выспы экзыстэнцыйнага «мяне няма» да мацерыка анталагічнага *Нішто*. І таму, як пакуль уяўляецца, вектар гэтага праекту не будзе скіраваны на ўласна «нігілістычныя» тэксты, на тэксты адмаўлення як прэзумпцыі. Але нігілістычнаму *тэракту* Казіміра Лышчынскага месца ў анталогіі абавязкова знойдзецца, бо гэта падзея не прафаннага, а сакральнага нігілізму, які адсоўвае ў бок Бацьку ўсіх сімулякраў (Бога), каб Той не засціў відарыс Няма...

На вялікі жаль, ад тэксту Казіміра Лышчынскага ацалелі адно абрыўкі, і таму мне цяжка меркаваць пра падабенствы ягонага супрацiву «хімеры» Бога (Лышчынскі) і майго кулачнага бою з ценем Слова. Дый увогуле, я тут хацеў бы пазбегнуць усялякіх параўнанняў, бо лічу атэістычны імператыў Казіміра Лышчынскага адной з самых буйных інтэлектуальных (і этычных) ініцыятываў еўрапейскага нігілізму, якая заўважна вылучалася з шматлікіх гарэзіяў і атэістычных авантураў як папярэдніх, гэтак і наступных эпохаў – да з’яўлення Ніцшэ. Пра надзвычайную nihil-актуальнасць гэтага тэксту сведчыць і лёс ягонага аўтара, якому ў 1689 годзе на Старым рынку Варшавы спачатку адсеклі галаву, а затым цела спалілі на вогнішчы.

Але звернемся яшчэ да Казіміра Лышчынскага, з фігурай якога мы гатовыя звязаць пачаткі еўрапейскага нігілізму. Пэўна, кожны, хто не палянуецца, зможа ў гэтым месцы папікнуць нас за квазіпатрыятычны валюнтарызм. Тае бяды. Давайце на нейкі момант унікнем і знаку «навуковай карэктнасці», каб заманіфеставаць прастору Беларусі як сакральны топас глабальных нігілістычных падзеяў ды рушэнняў і адначасна як бацькаўшчыну Вялікіх Нігілістаў, сярод якіх я далей найперш згадаю папярэдніка Лышчынскага – Мікалая Каперніка (існуе

версія, што некаторыя яго продкі паходзілі недзе з цяперашніх нашых земляў). Гэта сёння Мікалай Капернік уяўляецца толькі стваральнікам геліяцэнтрычнай сістэмы свету, насамрэч ён перадусім быў «паўночным ветрам для спелых пладоў» (Ніцшэ), бо змог разбурыць і перайначыць тагачасную ментальную парадыгму ўсяго еўрапейскага чалавецтва.

Вышэй я зусім невыпадкова працытаваў Ніцшэ, які паводле маці паходзіў з «польскага» (як ён сам сцвярджаў) рода Ніцкі. Але няхай «польскі род» Ніцшэ нас лішне не бянтэжыць, бо ў тую пару кожны, хто нейкім чынам быў завязаны на Рэч Паспалітую, лічыў сябе палякам, і таму адметны паэт Алег Мінкін, узяўшы псеўданім Хведара Ніцкі, магчыма, і не шмат памыліўся, стварыўшы алюзію паходжання Ніцшэ з беларускіх прастораў.

Беларускасць Фёдара Дастаеўскага, здаецца, няма патрэбы даводзіць, як і яго прыналежнасць да вялікіх нігілістаў – за гэта найлепей сведчыць створаны ім цэлы шэраг метанігілістычных персанажаў (Стаўрогін, Іван Карамазаў, Кірылаў, Нячаеў, Смердзякоў...). А ёсць жа яшчэ Казімір Малевіч з яго дамінантным для мастацтва ўсяго дваццатага стагоддзя «Чорным квадратам», Ігнат Абдзіраловіч (Канчэўскі) з «ліючайся формай» і канцавым слоганам «творачы зруйнуем», дамок 1-га зьезда РСДРП, скуль разгарнулася на ўсю зямную кулю Вялікая Рэвалюцыя, Чарнобыль, катэдж у Віскулях, дзе быў пастаўлены крыж на апошняй у свеце Імперыі... Урэшце, усяго тут не пералічыш, але каб не выглядаць залішне сціплымі, не прамінем «мяне няма» В. Акудовіча і часопіс «nihil»...

Дык ці не з’яўляецца ўся гісторыя прасторы Беларусі перманентным адмаўленнем усялякага Ёсць, своеасаблівай лабараторыяй і адначасна палігонам еўрапейскага нігілізму і ці не варта было б нам перагледзець сваю гісторыю ў мінусавым злічэнні, у злічэнні стратаў, паразаў, нігілістычных рушэнняў і канвенцыяў? Можа, калі-небудзь мы напішам такую гісторыю, каб прасачыць генезу нашага шляху да явы Няма, і тады ўвачавідкі пераканаемся, які гэта быў вялікі і плённы шлях і ў якім адметным топасе ён адбываўся (пра што трапна выславіўся Ігар Бабкоў: «Беларусь – гэта прастора анталагічнага непакою»).

**“nihil”:** *Вы згадалі прозвішча Абдзіраловіча, з якім сёння часта звязваюць вытокі сучаснага беларускага мыслення. Ці з’яўляецца Ігнат Абдзіраловіч для вас папярэднікам, кропкай адліку ўласнага руху?*

– Ігнат Абдзіраловіч – скраень рэтраспектывы сучаснага нацыянальнага мыслення. Далей углыб мы можам казаць ужо толькі пра беларускае мысленне ці проста мысленне, якое адбывалася ў прасторы, што пазней атрымала назву беларускай. Дык вось, у модусе нацыянальна заангажаванага, беларускамоўнага мыслення Ігнату Абдзіраловічу з яго бліскучым лірыка-філасофскім эсэ «Адвечным шляхам» наканавана для ўсіх ягоных наступнікаў заставацца «кропкай адліку», хаця мой уласны метафізічны светагляд складваўся без удзелу гэтага знакавага для беларусаў тэксту, прынамсі, без яго непасрэднага ўдзелу. Але з цягам гадоў я ўсё болей пачынаю цаніць ягоны геніяльны аксюмарон – «ліючаяся форма». У ім такі магутны патэнцыял, столькі разнастайных магчымасцяў (у самых супярэчлівых ракурсах) для нігілістычнага беларускага мыслення! Дарэчы, калі б я быў уладаром краіны Няма, дык за герб узяў бы «Чорны квадрат» Казіміра Малевіча, за дэвіз – словы Ігната Абдзіраловіча «творачы зруйнуем», а за ідэалогію – ягоную ж «ліючуюся форму». У прасторы Ёсць, бадай, ні праз што нельга бліжэй наблізіцца да Няма, чым праз «ліючуюся форму», гэта значыць праз тое, што прысутнічае ў сваёй адсутнасці і адсутнічае ў сваёй прысутнасці. Ды і сама Беларусь, як і ўвесь беларускі шлях, найбольш адэкватна апісваецца гэтай формулай – *ліючаяся форма...*

*P.S.* Міне шмат год, і аднойчы Міхась Баярын, як бы ў працяг нашай гаворкі, напіша:

“Часткай культуры з’яўляюцца запаветы – узоры будучыні. Айцы-пачынальнікі беларускага праекту ўяўлялі сабе розныя вобразы Беларусі. І калі накласці іх як трафарэты на сучаснасць, можна ўбачыць, што яны збольшага завершаныя, мэты дасягнутыя.

Гэта значыць, што беларускі час завяршаецца і патрабуе ўзнаўлення. Калі ж скончыцца эмоцыя самасці, з якой паўставаў беларускі праект, нас чакае нармалізацыя, еўрапейскі стандарт. І няма, мабыць, большага здзеку з еўрапейскай першаснасці і самасці, чым гэтая самакаланізацыя.

Нам належыць узнавіць беларускі час. Перастварыць мову, пераўявіць краіну. І тады мы ўзгадваем пра яшчэ адзін узор Беларусі, які здаваўся раней нямысным і немагчымым. Запавет ліючайся формы Ігната Абдзіраловіча – гэта ідэя, вартая быць марай нашага тысячагоддзя”.

***

Здаецца, гэта было пасля выхаду трэцяга нумара часопіса “nihil’.

Сустрэўшыся, Міхась сказаў, што пакідае часопіс.

Майму здзіўленню не было меры.

– Я даказаў сабе, што магу рабіць варты ўвагі часопіс, – патлумачыў. – І гэтага мне досыць.

Сказаў так і праз нейкі час з’ехаў у Індыю (Непал у дадатак). Спачатку вандраваць, а затым вучыцца ў Санскрыцкім універсітэце Сампурнанда (Варанасі, Індыя).

Як гэта ў нас зазвычай водзіцца, на яго досыць хутка ўсе забыліся. Зрэдзьчас нехта мімаходзь згадае, а потым зноў на гады моўча. (У беларусаў увогуле фенаменальная здольнасць забывацца на ўсіх і пра ўсё.)

Настала Міхась вярнууся на бацькаўшчыну недзе год праз 10-12. І вярнуўся, як любяць казаць рускія, на “белым кані” .

Першыя яго публічныя выступы па вяртанні сталіся культурным шокам. Скуль гэткі феерычны цуд у нашай нерушы? – пыталіся. І рэч зусім не ў тым, што Міхась вольна гуляўся з санскрытам. Зыходзячы з яго, ён заклікаў стварыць новую беларускую мову – **свамову**.

У 2014 годзе Міхась Баярын выдаў грунтоўную кнігу “Самабыццё”, якая не толькі тлумачыла сэнс моўнай рэвалюцыі, але і свамовай была напісаная. Далей я скарыстаюся тлумачэннямі аўтара.

“Доўгі час я лічыў пераклад з санскрыту справай амаль немагчымай і безнадзейнай. Настолькі далёкая сьвядомасьць і мова сучаснага чалавека ад сьвету Традыцыі. Але ў 2010 годзе адважыўся пачаць выконваць даўнюю мару – пераклад Бгагавад-Гіты, сьвятарнага тэксту індуізму. Я хутка зразумеў, што сучасная літаратурная мова вытрымаць зьмест такога перакладу ня зможа. Гэты пераклад магчымы адно тады, калі стварыць зь беларускай мовы яшчэ адзін Санскрыт, збудаваць яе граматыку нанова, паводле ўзораў граматыкі Паніні, зрабіўшы яе роўнай. Так нарадзілася ідэя Свамовы, ідэалу чыстай беларускай мовы, здольнай самастойна называць сьвет, зыходзячы з самой сябе. Гэта мае быць мова высокай паэзіі і філязофіі”.

“Пераклады, зьмешчаныя ў гэтай кнізе, зроблены на Свамову. І мысьленьне пра гэтыя творы адбываецца таксама на Свамове. Гэта патрабуе ад чытача засваеньня асаблівага, не канцэптуальнага, а этымалягічнага мысьленьня. І хаця гэта ў бальшыні тыя самыя, добра знаёмыя беларускія словы, тут яны маюць перадусім словаўтваральны, этымалягічны сэнс. З майго пункту гледжаньня, Свамова – гэта кульмінацыя традыцыі беларускага моўнага пурызму, найбольш вядомымі прадстаўнікам якога зьяўляюцца *Ян Станкевіч* і *Вацлаў Ластоўскі*”.

“Пурызм – гэта было імкненьне ачысьціць беларускую мову ад усяго чужога,

зрабіць яе максымальна асаблівай і непадобнай на мову суседніх народаў. У адрозьненьне ад пурызму, Свамова робіць ачышчэньне не па адзінках, а ўсяго адразу, зьмяняючы крытэрый прыналежнасьці да мовы. Беларускае ў Свамове – гэта тое, што ўтвараецца па беларускіх правілах, а ня тое, што найболыш адрозьніваецца ад польскага, расейскага і ўкраінскага. Беларускі пурызм – гэта трэцяя традыцыя, якую насьледуе «Самабыцьцё». А ідэя Свамовы – гэта тое, чым становіцца ідэя Самабыцьця, дастасаваная да беларускай мовы".

"Свамова не магла б зьявіцца ў іншай культуры, з устойлівай і доўгатрывалай літаратурнай нормай. З аднаго боку, Свамова адкрывае свабоду словаўтварэньня, а з другога боку – вяртае нарматыўнасьць неўнармаванай звышдыялектнай мове беларускага фальклёру. Парадаксальна, але мова беларускага фальклёру найбольш адэкватна перадае стыль Рыг-Веды. Пераклад Рыг-Веды на беларускую мову, які робіць цяпер выдатны паэт Ігар Кулікоў, – адзін з самых дакладных і паэтычна дасканалых перакладаў. І гэта пераклад на Свамову. (Той жа Ігар Кулікоў выдаў кніжку вершаў "Свамова", напісаную, натуральна, свамовай – *В.А.*)"

"Свамова не замяняе сабой сучасную беларускую мову, яна яе дапаўняе. Свамова становіцца на месца адсутнага ў нас высокага стылю, адпаведна пасоўваючы існую норму крыху ніжэй. І хаця ідэя Свамовы мае на ўвазе зварот да пачатковага і архаічнага, яе форма рэалізацыі вельмі сучасная. Для пачатку гэта будзе праграма-дэрыватар, даступная праз вэб-інтэрфэйс як дапаможнік па беларускім словаўтварэньні. Яна дазволіць, з аднаго боку, відавочна паказаць словаўтваральнае багацьце, якім мы карыстаемся занадта мала, а з другога боку, засвоіць канструктыўны, а не спажывецкі падыход да мовы".

"Гэтая кніга магла быць створаная такой толькі па-беларуску".

***

Ідэя "Свамовы" мела досыць шырокі розгалас сярод інтэлектуалаў. Прынамсі нейкі час. Адна паэтка, последам за Куліковым, нават паспрабавала ёю скарыстацца ў вершах. Хаця, можа, і не адна. І не толькі паэтка. Я ж усяго не ведаю. Але ў кожным разе гэта ўсё адзінкавыя выпадкі.

Мне не складана патлумачыць, чаму і гэты "шалёны ветраградар" Міхася чакае лёс папярэдніх. Але я і ў думках такога не маю. Бо быў і застаюся ў захапленні і ад яго паэзіі, і ад яго часопіса, і ад яго свамовы. Магутны дух абраў гэтае далікатнае цела дзеля высокіх парыванняў. Ну так, ён не Сізіф, доўга цягаць на гару адзін і той самы камень не будзе. Але кожны раз, калі падымаецца ўсё вышэй і вышэй, немагчыма не цешыцца з нашага чалавека, які жыве і дыхае такімі высокімі парываннямі.

***

Калі б я парадкаваў свае хронікі яшчэ да таго, як **Святлана Алексіевіч** атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, то ўжо ж, напэўна, абмінуў бы літаратарку ўвагай. Рэч у тым, што яе кнігі болю не мелі ніякага дачынення да гэтай маёй справы. Зрэшты, як і яна сама. Бачыце, Святлана толькі плаціла ў Мінску за кватэру, але яе астральнае цела без астачы месцілася ў разлогах рускай культуры. Мяркую, яна нават ніколі не марыла быць *беларускай* пісьменніцай. І тым болей – знакамітай *беларускай* пісьменніцай. Але, як любілі казаць нашыя продкі, лёс на кані не аб'едзеш...

Гэта па-першае. А па-другое, тут я не пішу пра літаратуру. Я апякуюся стваральнікамі дыскурсаў беларускага мыслення, і адно ў такім выпадку яны могуць цікавіць мяне і як літаратары...

Але потым здарыўся Нобель. І тады праз Святлану Алексіевіч пра Беларусь, як у нас смешна кажуць, даведаўся *ўвесь белы свет*.

Безумоўна, сам факт таго, што *беларусы* атрымалі Нобелеўскую прэмію па літаратуры, досыць істотны. Хаця тут я маю на ўвазе не толькі і нават не столькі літаратуру, колькі нацыянальную свядомасць як такую.

Так склалася, што цягам стагоддзяў і стагоддзяў еўрапейскай гісторыі беларусаў як бы нідзе і не было. Інакш кажучы, мы былі як не былі. І таму нам усё яшчэ цяжка прызвычаіцца да таго, што мы не проста ёсць, а маем яшчэ і значныя здабыткі ў самых розных сферах дзейнасці – і нават у высокай мастацкай творчасці. Карацей кажучы, нобель Святланы Алексіевіч – гэта значны ўнёсак у ментальную эвалюцыю беларусаў як нацыі. З чаго мы далей будзем пачувацца хоць на трохі больш упэўнена ў сваім адбыванні быцця.

А значыць, гэта ўжо зусім іншая гісторыя. І цяпер абыякава прамінаць літаратарку Алексіевіч увагай ніяк не выпадае, бо нават яе цень набыў магічны сэнс.

***

Калі я пачаў шукаць літаратурную працу, Міхась Стральцоў сказаў:

– Кудравец (галоўны рэдактар часопіса “Нёман” – *В.А.*) хоча звольніць Святлану Алексіевіч. Здольная дзеўка, толькі на працы амаль не бывае. Усё недзе гойсае са сваім дыктафонам... Я пагавару з Кудраўцом.

Стральцоў пагаварыў з Кудраўцом, і той звольніў Алексіевіч, але мяне на яе месца не ўладкаваў. Затое я праз нейкі час надрукаваў у “Нёмане” (чэрвень 1987) вялікае эсэ “Судьбы войны, судьбы мира”, фрагмент якога быў прысвечаны і першай кнізе Святланы Алексіевіч “У войны не женское лицо”.

Увогуле, маім уласным заданнем было напісаць *гісторыю вайны*, пачынаючы ад забойства Авеля і канцуючы сучаснай беларускай літаратурай пра вайну. Агулам я сваё заданне выканаў, хаця Міхась Лявонавіч большую частку матэрыялу, прысвечанага войнам, з сусветнага кантэксту павыкідаў.

– Для нашага часопіса будзе зашмат, – сарамліва патлумачыў.

Непасрэдна размове пра кнігу Святланы Алексіевіч папярэднічаў крытычны аналіз ваеннай літаратуры Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Час быў такі, што, нарэшце, беззаганных раней класікаў ужо можна было трэсці як грушу. І я добратакі патрос. Толькі не пра іх пакуль гаворка, а пра маладую аўтарку з нечакана магутным эмацыйным пасылам. Трохі працытую з тады напісанага.

“Эта книга построена и выполнена уже совершенно на иных основаниях, и наиболее существенное из них – авторское начало. Если о книге «Я из огненной деревни» можно в какой-то степени говорить как об «эпически-хоровой» прозе (термин А. Адамовича), где авторы вроде древнегреческого «бога из машины» появляются во весь рост лишь в конце повествования, чтобы совершить праведный суд, то в книге Светланы Алексиевич авторское «я» – центр, объединяющий вокруг себя материал и сознательно подчиняющий его своей личной, внутренней идее.

Эстетический, собственно художественный элемент у автора очень значителен, книга Светланы по-своему даже беллетристична”.

Гэты фрагмент патрапіў у цытату зусім невыпадкова. Рэч у тым, што ўсе прамінулыя гады творчасць Святланы Алексіевіч вызнавалі як дакументальную журналістыку, упэўнена блытаючы форму жанру з сэнсамі і паэтыкай тэксту. Адсюль і неспатольная крытыка аўтара за мову яе сведкаў, якія гавораць залішне *прыгожа*. Маўляў, у сапраўдным жыцці так людзі не кажуць. З гэтага ў Менску быў нават суд, на якім гераіні кнігі “Цынкавыя хлопчыкі” абвінавачвалі аўтара за скажэнні іх словаў і сэнсаў.

Для мяне ў гэтым сюжэце самае цікавае (і незразумелае), чаму за столькі творчых год сама Святлана не выпрацавала простую і ясную формулу адказаў сваім апанентам. Тым болей, што яны мелі рацыю і бясконца выкручвацца зблытанымі тлумачэннямі было не да гонару такой упэўненай у сабе жанчыне.

Як у кожнага таленавітага літаратара, у Святланы Алексіевіч ёсць свой стыль. Моцны, напяты, глыбокі, даастачы схоплены пякучай трывогай за чалавека. І, натуральна, уласны слоўнік, які толькі ўзбагачаўся мовай яе карэспандэнтаў, прынамсі, калі гэта была трапная і шчымлівая мова. Што я і меў на ўвазе, калі яшчэ ў 1987 годзе пісаў пра белетрыстычнасць прозы Святланы Алексіевіч, якая прынцыпова адрознівала яе ад стваральнікаў вялікай кнігі быцця “Я з вогненнай вёскі” (Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік).

***

Мая прыгода з кнігай “У вайны не жаночы твар” мела абсалютна нечаканы працяг. Недзе ў 2015 годзе выдавец Ігар Логвінаў вымудрыў надрукаваць і выдаць усе пяць кніг серыі Святланы Алексіевіч “Галасы ўтопіі” беларускай мовай. Я не пытаўся, як ён змог зацікавіць гэтым праектам нашага знакамітага мецэната-фінансіста Віктара Бабарыку, але той з свайго боку ў дадатак прапанаваў забяспечыць “пяцікніжжам” усе бібліятэкі краіны.

Была ў гэтага праекта яшчэ адна цікавостка. Перакладаць мусілі знаныя ў Беларусі літаратары, а не проста *прафесійныя* перакладчыкі. Досыць верагодна, што ў грунце гэтай задумы крыўся *палітычны* падтэкс. Як добра вядома, сярод нацыянальнай інтэлігенцыі ў Святланы даўно склаўся адмоўны імідж праз яе негатыўныя выказванні пра Беларусь ды беларусаў, і такім спосабам можна было хоць трохі змякчыць грамадскі антаганізм стасоўна “нобелеўкі”. Што было і натуральным.

Дзеля прыкладу працытую хаця б адну з яе радыкальных рэплік: “Проблема белорусской литературы в том, что нет белорусской литературы. Мы имеем сегодня растерянное, депрессивное общество и растерянных писателей. Некоторые молодые писатели ещё пытаются что-то сказать, но это больше похоже на литературные игры или на иллюстрацию национальных идей” (С. Алексіевіч).

Каля я атрымаў прапанову паўдзельнічаць у гэтым праекце, то мне моцна пашанцавала – на выбар заставалася адно кніга “У войны не женское лицо”. Дарэчы, для мяне і сёння самая любімая кніга Святланы Алексіевіч. А, можа, і адзіна любімая. Паколькі ўсе астатнія толькі яе дублявалі, хаця два разы ўдала дублявалі (“Чарнобыльская малітва” і “Час сэканд-хэнд”).

Да гэтага я шмат перакладаў з рускай мовы, хаця ў пераважнай бальшыні гэта былі філасофскія тэксты. А тут цэлая кніга мастацкай літаратуры ды яшчэ нобелеўскай лаўрэаткі! Гэта быў сур’ёзны выклік. Мяркуючы паводле водгукаў, я з ім справіўся, (што праўда, не без дапамогі рэдактара Андрэя Хадановіча).

Толькі зусім не пра тэхнічныя праблемы хацелася б сказаць яшчэ колькі словаў. Ладную частку кнігі я перакладаў з пігулкамі валідолу пад языком. Гэта мяне дзівіла, бо калі шмат гадоў таму чытаў яе ўпершыню, то ў грудзях вярэдзіла, аднак не пякло. Відаць, сэрца з гадамі моцна знасілася, – думаў. Хаця больш верагодна іншае. Старонняму чытачу можна мімаходзь праслізгваць ужо зусім гіблыя мясціны балючага аповеду, а рэдактару кожнае слоўка неабходна мацаць-перамацваць. І ніводнага енку не абмінеш.

Нейкая фабрыка болю, – буркатаў спачатку. Аднак пазней сфармулявалася іншае. Тое, што я ведаў і раней, але аб чым не задумваўся.

Яшчэ на пачатку кнігі аўтарка піша: “Услухоўваюся ў боль... Боль як сведчанне прамінулага жыцця. Іншых сведчанняў для мяне няма, бо я не маю да іх даверу. Словы не аднойчы ўводзілі ў зман.

Думаю пра пакуты як самую ёмістую форму інфармацыі, якая наўпрост злучае з таямніцай. З таемствам жыцця”.

Ёсць здавён вядомая максіма адносна сутвы пісьменніцкага кону: “Мы не

лекары, мы – боль”. У Святланы Алексіевіч боль дамінуе татальна. Без яго аўтар разгублена азіраецца...

“В боли есть всё: и мрак, и торжество”, – скажа яна потым.

Апошнія словы – урачысты гімн болю! І Святлана Алексіевіч спявае яго ўсё творчае жыццё. Яна яго жрыца. З роздуму над гэтым унікальным феноменам і ўзнікла не агучаная мною назва гэтага фрагмента: “Храм болю і зачараваная смерцю вясталка”. (Можа хто не ведае, *вясталка* – жрыца багіні Весты ў старажытных рымлян, бадай найлепш апісаная Плутархам.)

***

Кніга “Чарнобыльская малітва” была надрукаваная ў 1997 годзе. Недзе ў тую пару Святлана Алексіевіч запрасіла мяне ў госці. Тады я ўжо быў трохі вядомы праз кнігу “Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека” як беларускі філосаф, і яна нават падрыхтавала мне ў якасці прэзента невялічкі стос кніг знакамітых еўрапейскіх інтэлектуалаў (у памяці засталіся Хабермас і Попер). “Гэта не мая філасофія”, – патлумачыла абыякава.

Магла і не тлумачыць. Я ўжо даволі начытаўся Святланы, каб ясна ўсведамляць, што яе рэфлексіўны далягляд заблытаўся ў маральнай этыцы другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя і сацыяльна карэляваўся з расійскім народніцтвам.

Мы пілі гарбату, размаўлялі пра жыццё, беларускую літаратуру і філасофію быцця як вышэйшую праяву літаратуры. Відавочна, цяпер яе найбольш займала апошняе, сведчаннем чаго былі шматлікія філасофскія пасажы ў “Чарнобыльскай малітве”. Толькі найбольш мне запомнілася, як Святлана літаральна *накінулася* на мяне за тое, што беларускія філосафы не скарыстоўваюць у практыках свайго мыслення падзею Чарнобыля. “Вы ж маеце такі неверагодны шанец праз Чарнобыль звярнуць на сябе ўвагу ўсёй інтэлектуальнай Еўропы”, – ятрылася яна.

Я няўпэўнена тлумачыў, што філосафы не журналісты, каб кідацца на выбухі актуальнасці, шукаючы сабе вядомасці. А што да мяне асабіста, то еўрапейская знанасць мне ўвогуле да аднаго месца (гэтаксама і сёння).

Так не паразумеўшыся, але ветліва мы разышліся і больш ніколі сам-насам не сустракаліся. Хаця зрэдзьчас сустрэчы здараліся на розных публічных мерапрыемствах, і нават аднойчы мы жарсна палемізавалі міжсобку ў тэлепраграме партала TUT.by. Здаецца, тэма называлася “Ці патрэбныя нам інтэлектуалы?”

***

Дзіва, але, як і ў выпадку з першай кнігай, “Чарнобыльская малітва” Святланы Алексіевіч таксама займела зусім нечаканы для мяне працяг. Да дваццаць пятых угодкаў Чарнобыля адна швейцарская фундацыя запланавала выданне, у якім павінныя былі прысутнічаць самыя розныя аўтары з сваімі рэфлексіямі наконт чарнобыльскай трагедыі. Натуральна, самай галоўнай гераіняй тут бачылася Святлана Алексіевіч, але і я патрапіў у гэты хаўрус. Мой тэкст называўся “Апокалипсис, которого не было”. (Адразу заўважу, што пісаць мусова было на рускай мове – от дзе напакутаваўся!)

Яшчэ адна неабходная заўвага. Мой тэкст пісаўся як схаваная палеміка з пазіцыяй Святланы Алексіевіч (і безлічы падобных да яе інтэрпрэтатараў гэтай падзеі). Колькі важкіх фрагментаў з таго тэксту я тут скарыстаю.

“Безусловно,– пісаў я,– самым значительным произведением об ядерной катастрофе является книга Светланы Алексиевич «Чернобыльская молитва», в которой собраны свидетельства жертв трагедии. Именно Светлана Алексиевич окончательно узаконила апокалиптическое видение этого события: «Я – свидетель Чернобыля... Самого главного события двадцатого века, несмотря на страшные войны и революции, которыми будет памятен этот век... Я смотрю на Чернобыль

вым Райху, але і ў еўрапейскай Лізе Нацый. Формула дэтэктыва (расследаванне абставінаў смерці невядомага паэта) і сюррэалістычная вобразнасць ствараюць у гэтай частцы найбольш таямнічую атмасферу, праз якую, тым не менш, праступае постапакаліптычнае аблічча Заходняй Еўропы-2050. Тут бісэксуальнасць і цялесныя імпланты, віртуалізаванае інфантыльнае светаўспрыманне прывялі да дзікунства духоўнага і фізічнага. Вось чаму "дыстрафічныя чалавекападобныя" еўрапейцы нагадваюць жыхароў Белых Рос. І галоўнае – тут памерла культура (кнігарня стала папяровым "канцлягерам", вечары паэзіі – вытанчаным катаваннем), а належыць да літаратурнага працэсу значыць выракаць сябе на забыццё і знішчэнне. І ўсё ж у гэтай прасторы несвабоды, метафарай якой становіцца сабачы "брэх-выклік, брэх-кліч, брэх, які абазначаў прысутнасьць і гатовасьць" (с. 806), узнікае патрэба ва "ўнутраным" вызваленні Тэрэзіуса Скімы. Яго трансгрэсія – гэта крок да самаідэнтычнасці, што можна інтэрпрэтаваць і як далучэнне да нацыянальных каранёў.

Я апускаю шэраг найцікавейшых момантаў, якія тычацца стылю апавядання (разнастайная палітра адсылае да "неабарока", а інтымнасць і "прымітывізм" асобных вершаваных фрагментаў – да вершаў капітана Лябядкіна ў Дастаеўскага, мініяцюраў Хармса, гарадскога фальклору), літаратурных рэмінісцэнцый, алюзій (Дастаеўскі, Кафка, Джойс, Пруст і інш.) і нават містыфікацый (альбом Франсуазы Дарлон). Хочацца пакінуць свабоду – для новых прачытанняў і даследаванняў. Але аб творчай аўтарэфлексіі ў "Сабаках Эўропы" згадаю, паколькі да яе звяртаецца і З. Вішнёў у "антырамане".

Спроба асэнсаваць уласную творчасць адлюстравана не толькі ў ч. ІІІ (фрагмент аб незахаваным на камп'ютары тэксце), але і ў лінгваканструяванні разам з чытачом, які далучаецца да таямніцы мовы ("Слоўнік і граматыка мовы бальбута"), перакладае з бальбуты асобныя словы і выразы, а можа – і цэлы раздзел. Ёсць у рамане і рэфлексія металітаратурная: фігуры беларускіх пісьменнікаў (сярод іх – літаратурныя "маскі" самога Бахарэвіча і ягонай жонкі, паэткі і перакладчыцы Юліі Цімафеевай), развагі пра другаснасць "сучбелліта" і асабліва заключная частка, сканцэнтраваная на месцы літаратуры ў іерархіі сацыяльных каштоўнасцяў. Выцясненне яе на перыферыю можа прывесці да антрапалагічнай дэградацыі – вось выснова аўтара.

Што застаецца пасля прачытання рамана? Падзяка за су-творчасць, дыялог, мноства інтэрпрэтацый (у прыватнасці, Беларускі Свабодны тэатр зрабіў сацыяльна-палітычны акцэнт, стварыў спектакль "Сабакі Эўропы" як абсурдную брутальную феерыю з празмернай аголенай цялеснасцю, віртуознай харэаграфіяй[14]). Гэта выклік чытачу. І нават не так: іранічны і спакойны пісьменнік, які адкрыта разважае аб ўразлівасці духоўнай культуры (асабліва – беларускай, нацыянальнай), Альгерд Бахарэвіч прапануе свабоднае ўспрыманне – тэксту і свету, у якім можна заставацца самім сабой нават у антыкавіднай масцы, ва ўтопіі афіцыйных тэлеканалаў, нават у шолаху попелу згарэлых на плошчы ўлётак і кніг.

***

Які след у гісторыі пакіне найноўшая беларуская літаратура? Што дасць сусветнай культуры, будучы пакалечанай стагоддзямі няволі, калі іншадумства інтэлігенцыі жорстка падаўлялася, а "масавая" свядомасць была расколата і часткова дэмаралізавана? Вясна-лета-2020 змянілі многія ўстойлівыя ўяўленні: свет сутыкнуўся з пагрозай пандэміі, зачыніліся цэлыя кантыненты, традыцыйная сістэма еўрапейскіх каштоўнасцяў паказала сваё практычнае бяссілле і дэкларатыўнасць. А *Homo Confusus* застаўся (Т. Чарнігоўская) – разгублены чалавек з цяжарам несвабоды, з пачуццём няўстойлівасці і трывогі. Значыць, літаратура, якая ўзнікла як асэнсаванне і прыняцце яго становішча "на перыферыі", можа стаць новым словам пра яго і свет.

[1] Пра гэта шмат пішуць гісторыкі (У. Арлоў), філосафы (В. Акудовіч, І. Бабкоў, А. Анціпенка), культуролагі (Ю. Чарняўская, І. Дубянецкая), літаратуразнаўцы (Л. Сінькова, А. Рагуля).

[2] У пачатку 2009 г. ЮНЕСКА ўнесла беларускую мову ў спіс моў, якім пагражае знікненне. Паводле афіцыйнай статыстыкі 2011 г. 62% беларусаў не цікавяцца айчыннай літаратурай, а 13% зусім не ўмеюць чытаць па-беларуску (https://gomel.today/rus/news/belarus/17988).

[3] Гэтую асаблівасць беларускага менталітэту падрабязна апісалі Ю. Чарняўская (Пять парадоксов национального самосознания белорусов // http://index.org.ru/journal/15/15-chern.html), І. Бабкоў (Калі скончыцца беларуска-беларуская вайна? // Bramaby: http://bramaby.com/ls/blog/bel/1472.html).

[4] Яго прадстаўнікі былі фізічна знішчаны ў 1930-я гады, а іх набыткі засталіся на ўзбочыне літаратурнага працэсу.

[5] Напрыклад, у адной з радыёперадач удзельнікаў перформансу "На хвалях шкла", паказанага 10.04.1999 г. у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, абвінавацілі ў непавазе да нацыянальнай культуры і парнаграфіі (артысты былі ў плаўках).

[6] З. Вішнёў кіруе выдавецтвам "Галіяфы", каардынуе шэраг культурных мерапрыемстваў у Беларусі і за мяжой, яго творы перакладзены больш чым на 20 моў свету.

[7] Адам М. Пабачыць Марс і... зразумець // ЛіМ. – 2019. – 5.04; Жыбуль В. Я проста зьдзекуюся з паперы, альбо Каменныя прыступкі беларускага антыраману // Радыё Свабода (https://www.svaboda.org/a/29829621.html); Гарбацкі У. Сіні раман Вішнёва: ода Менску, якога больш няма // Новы час. – 2019. – 28.11. (https://novychas.by/kultura/sini-raman); Гапеева. В. Пінгвінячы трэш, або Шчырасць і трагізм авангарду: антырэцэнзія на антыраман // Дзеяслоў. – 2019. – №101.

[8] Тут і далей цыт. па: Вішнёў З. Калі прыглядзецца – Марс сіні. – Мінск: Выдавец А.М. Янушкевіч, 2018 з пазначэннем у дужках нумара старонкі.

[9] А. Бахарэвіча можна без перабольшання аднесці да лідараў меркаванняў у сучаснай культурнай прасторы Беларусі. Гл. інтэрв'ю і артыкулы на вядучых парталах: "Комсомольская правда", "Arche", "Наша Ніва", "Радыё Свабода" і інш.

[10] Слом иерархий: блогеры обживают реал // Дружба народов. – 2020. – №1,2.

[11] Мягков. А. Книжное старообрядчество: роман «Собаки Европы» Ольгерда Бахаревича // Год Литературы: https://godliteratury.ru/projects/knizhnoe-staroobryadchestvo-sobaki-ev.

[12] Гл. адзначаны літагляд у часопісе "Дружба народов".

[13] Тут і далей цыт. па: Бахарэвіч. А. Сабакі Эўропы. – Мінск: Логвінаў, 2017 з пазначэннем у дужках нумара старонкі.

[14] Прэм'ера спектакля адбылася ў Мінску 07.03.2020, еўрапейскія паказы былі адменены праз пандэмію каранавіруса.

Бэата Сівэк



...літаратура для мас
ніколі не пераможа класіку...

# Узровень праўды

## *Рэцэнзія на кнігу Людмілы Сіньковай*

***Людміла Сінькова. Беларуская “звышлітаратура”. Літаратуразнаўчыя і літаратурна-крытычныя артыкулы. – Кнігазбор, 2019. – 224 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў).***

Людміла Сінькова, прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, уваходзіць у кола найвыбітнейшых знаўцаў сучаснай беларускай літаратуры. Яе манаграфіі, у т. л. “Беларуская проза XX стагоддзя: дынаміка жанравых структур” (1996), “Цукровы пеўнік: літаратурна-крытычныя артыкулы” (1996), “Паміж тэкстам і дыскурсам: Беларуская літаратура XX і XXI стст.: гісторыя, кампаратывістыка і крытыка” (2013), дзясяткі артыкулаў, прысвечаных жанравым і эстэтычным зменам у сучаснай беларускай літаратуры, польска-беларускім літаратурным і культурным сувязям, гістарычнаму і нацыянальнаму дыскурсу ў літаратуры, дакументальнай мастацкай прозе і літаратуры *non-fiction*, а таксама шматлікія метадычныя працы і навучальныя праграмы займаюць важнае месца сярод літаратуразнаўчых публікацый па беларусістыцы.

*Пераклад з польскай Марыі ПУШКІНАЙ.*




Новая манаграфія Людмілы Сіньковай з'яўляецца зборнікам артыкулаў і нарысаў, напісаных даследчыцай цягам апошніх гадоў. Гэтыя працы, сабраныя ў адным томе пад шматзначнай назвай "Беларуская «звышлітаратура». Літаратуразнаўчыя і літаратурна-крытычныя артыкулы", аб'ядноўвае адно – новая даследчыцкая перспектыва ў поглядзе на беларускую літаратуру XX і XXI стагоддзя, новы дыскурс, які прэзентуе вядомую гістарычна-літаратурную праблематыку з дапамогай сучасных метадалогій і адпаведных ім інтэрпрэтацый.

Своеасаблівай прэлюдыяй да асноўнай часткі манаграфіі з'яўляецца ўступны раздзел пад назвай "Бэтман супраць Быкава (Замест прадмовы)", у якой аўтарка закранае праблему масавай літаратуры, ролі класікі і яе вытокаў, умоў развіцця і жанрава-стылістычных асаблівасцяў папулярнай літаратуры, звяртаючы ўвагу на моцна прысутныя ў ёй сацыякультурныя элементы і яе эстэтычнае вымярэнне. Даследчыца грунтуе свае рэфлексіі на багатым літаратурным матэрыяле. Вылучае такія тыпалагічныя дамінанты масавай літаратуры, як апавядальнасць, спрашчэнне сюжэтных, кампазіцыйных і моўна-стылістычных структур, выкарыстанне стэрэатыпаў і клішэ. Аналізуючы фактары, якія ляжаць у аснове станаўлення і папулярнасці масавай літаратуры, Л. Сінькова звяртае ўвагу на яе моцную ўнутраную дыферэнцыяцыю і неабходнасць выкарыстання розных даследчых інструментаў у працэсе яе расчытання. Л. Сінькова паўтарае таксама агульнае меркаванне пра тое, што асноўнай мэтай папулярнай літаратуры з'яўляецца прыцягненне як мага большай колькасці чытачоў, бо яна накіравана на фінансавы поспех (камерцыйны аспект), які магчымы толькі тады, калі літаратура ідзе насустрач чаканням масавага адрасата, калі яна задавальняе яго густы і прадстаўляе матэрыялы, з якімі гэты адрасат атаясамлівае сябе: "масавая літаратура актыўна і наўпрост звяртаецца да нашага ўнутранага жыцця – да нашых патаемных жаданняў, мар, нашай фантазіі, уяўленняў пра будучыню, нашай прагі незвычайных прыгод і асалод, яскравых эмоцый... Не толькі да свядомага, але і да падсвядомага, да інстынктаў, страхаў і комплексаў". Аўтарка звяртае ўвагу таксама на сувязь літаратуры масавай і літаратуры класічнай, або элітарнай, і пераканаўча канстатуе, што: "Літаратура для мас ніколі не пераможа класіку, не зможа заняць яе месца найперш таму, што кожнаму чалавеку наканавана расці і сталець".

Л. Сінькова шмат увагі надае пытанню літаратурнай рэцэпцыі, сталенню чытача для ўспрыняцця пэўнага тыпу літаратуры, пошукам і знаходжанню ў ёй тэм і праблем, блізкіх яму і здольных пашырыць яго веды аб духоўным свеце чалавека і яго існаванні ў акрэсленай сацыякультурнай рэчаіснасці.

Асноўную частку манаграфіі адкрывае раздзел "Беларуская «звышлітаратура»: Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Святлана Алексіевіч", у які ўваходзяць дзевяць кароткіх нарысаў, скіраваных на паказанне наватарства і каштоўнасцяў дзейнасці беларускіх празаікаў, чые творчыя намаганні канцэнтруюцца вакол праблематыкі вайны, савецкай і постсавецкай рэчаіснасці, вопыту траўмы і гвалту – Васіля Быкава, Алеся Адамовіча і Святланы Алексіевіч. Л. Сінькова праводзіць дэталёвы разгляд такіх прысутных у плоскасцях творчасці згаданых пісьменнікаў пытанняў, як метамарфозы "маленькага чалавека", нацыянальная праблематыка і спосабы актуалізацыі беларускай літаратурна-культурнай традыцыі, маркеры літаратуры факту, яе прынцыпы і спецыфіка, а таксама пытанне элітарнай літаратуры. Нямала месца аўтарка прысвячае тым тэкстам, у якіх выразна пазначаны посткаланіяльны дыскурс і якія закранаюць праблемы ментальнасці сучаснага чалавека, "што ра-

сце” з постсавецкай прасторы і з псіхалогіі траўмы. Адзін з такіх тэкстаў – твор лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч “Час сэканд-хэнд”, аналіз якога дапоўнены спасылкамі на іншыя значныя тэксты пісьменніцы, – прыводзіць аўтарку да наступнай канстатацыі: “[...] дыскурс С. Алексіевіч утрымлівае тыя спецыфічныя характарыстыкі паслясавецкай культурнай прасторы, што фармальна супалі з посткаланіяльным (таксама маргіналізаваным) стаўленнем сучаснага еўрапейца да нацыянальнага”.

Літаратурныя дасягненні С. Аляксеевіч Л. Сінькова вельмі часта паказвае ў перспектыве творчага вопыту Алеся Адамовіча, вядомага крытыка і гісторыка літаратуры, празаіка, суаўтара сцэнарыя для знакамітага фільма Элема Клімава “Ідзі і глядзі”, заснаванага на творах “Хатынская аповесць” і “Карнікі”. А. Адамовіч, творчасць якога так моцна паўплывала на С. Алексіевіч, быў адным з першых беларускіх празаікаў, які рэалізаваў свае мастацкія ідэі на аснове фактаў, дакументаў, успамінаў канкрэтных людзей: “Алесь Адамовіч распачынаў свае творчыя эксперыменты ў прасторы, дзе яшчэ нават не прадбачылася эпоха гарбачоўскай перабудовы і галоснасці. Але новы жанр галасоў меў на ўвазе, па словах А. Адамовіча, «менавіта іншы ўзровень праўды, новы, небывалы»”.

У наступным нарысе пад назвай “Прафесія – журналіст, пакліканне – мастак (жанравая спецыфіка дакументальна-мастацкай прозы пра вайну)” аўтарка звяртае ўвагу на паралелі паміж мастацкай літаратурай і журналісцкай творчасцю. Яна прадстаўляе таксама беларускія і расійскія ўзоры тэкстаў памежнага характару, дзе прадстаўлены лакальныя збройныя канфлікты: апавяданні Алеся Петрашкевіча, рэдактара і ініцыятара працы над калектыўным зборнікам “Памяць. Афганістан” (1991), кнігу Святланы Алексіевіч “Цынкавыя хлопчыкі” (1989), апавяданні Сяргея Дубовіка “Груз 200”, “Памінкі ў Сардобе”, “Негры”, “«Інтэрнацыянальнае» выхаванне”, “Крывавыя цюльпаны”, Генадзя Трошава “Мая вайна. Чачэнскі дзённік акопнага генерала”. Л. Сінькова адзначае, што тэма вайны належыць да найбольш папулярных і найлепш апрацаваных тэм беларускай літаратуры, яна часта падымаецца не толькі паэтамі, празаікамі і драматургамі, але таксама тымі, хто быў відавочцам ваеннай трагедыі і чый асабісты траўматычны вопыт стаў дастатковым пасылам для таго, каб паспрабаваць запісаць яго і падзяліцца ім з чытачом (як прыклад аўтарка прыводзіць тут кнігу ўспамінаў “Людзі асобага складу” генерал-маёра і Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова і кнігу “Цярновы шлях: Аповеды Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 г. у Франкфурце-на-Майне”, згадваючы пра тое, што В. Быкаў пэўны час як журналіст працаваў у абласной газеце “Гродзенская праўда”; або журналістамі з немалым літаратурным вопытам (напрыклад, Іван Новікаў і яго “Руіны страляюць ва ўпор”, “Дарогі скрыжаваліся ў Мінску”, “Да світання блізка”). Гэты тып пісьменства адзначаны адрознасцю ў плане выкарыстаных сродкаў мастацкай выразнасці, паэтыкай са схільнасцю да дакументалізму.

Гэтую праблематыку Л. Сінькова працягвае ў наступным нарысе – “Вайна вачыма беларуса: афганскія апавяданні Сяргея Дубовіка”. Аўтарка апісвае своеасаблівасць беларускага вопыту вайны, контраверсіі, якія ўзніклі вакол афганскай тэматыкі і яе літаратурнай трактоўкі. Беларусь – краіна, праз якую праходзілі шматлікія ваенныя франты, краіна з траўматычным вопытам. Кожны чацвёрты (па іншых звестках – трэці) беларус загінуў на вайне. І, як падкрэслівае даследчыца, “такі вопыт народа даў беларускім пісьменнікам асаблівую відушчасць, праніклівасць, інтэлектуальную глыбіню. І яшчэ – чуйнасць менавіта да болю асобнага чалавека”.

Аднак гэты вопыт не ўратаваў беларускі народ ад чарговых траўматычных перажыванняў, і гэта быў удзел салдат у ваенных дзеяннях у Афганістане. Адным з іх быў Сяргей Дубовік, аўтар цыклу тэкстаў, прысвечаных Афганскай вайне, яе

ўдзельнік і адначасова ваенны карэспандэнт, які, як адзначае аўтарка, адмовіўся ад сюжэтнай формы аповеду і паставіў на дакументальнасць, на факт, які прамаўляе не столькі сваёй пераканаўчасцю, колькі даслоўнасцю і дакладнасцю інфармацыі. У сваіх апавяданнях С. Дубовік засяроджваецца на духоўным вопыце вайны, на асобасным перажыванні не толькі ахвяр, але і катаў: “Яго герой-апавядальнік вяртаецца з вайны ў Афганістане са сваёй праўдай: з асуджэннем гвалту, абсурду, з цвярозай ацэнкай фарысейства. І яшчэ – з незабітай душой, сумленнем”.

Структурна-жанравая складанасць тэкстаў Сяргея Дубовіка, у якіх літаратурныя элементы пераплятаюцца і накладваюцца на элементы дакументальныя і фактаграфічныя, для Л. Сіньковай з’яўляецца важнай перадумовай для тэарэтычных разважанняў пра жанравую спецыфіку прозы такога кшталту, і гэтаму яна прысвячае наступны нарыс “Што можа азначаць тэрмін «дакументальна-мастацкая проза»”. У гэтай частцы манаграфіі аўтарка робіць спробу класіфікацыі прозы *fiction* і *non-fiction*, спасылаючыся на шматлікія прыклады з беларускай літаратуры, якія дазваляюць ёй прасачыць эвалюцыю наратыўных формаў і прыёмаў, пазіцыю суб’екта-апавядальніка, а таксама адрозненні ў стылістычна-моўнай плоскасці. Такі падыход дазваляе акрэсліць і ахарактарызаваць тыя элементы, якія ў выніку вырашаюць пытанне прыналежнасці дадзенага тэксту да дакументальнай мастацкай прозы – стварэнне персанажаў, ступень верагоднасці згаданых падзей, дакладнасць створаных вобразаў, аўтатэматызм, медыятызацыя.

Гістарычная тэматыка гучыць таксама ў наступным нарысе рэцэнзаванай манаграфіі – “Мець уласны погляд на сваю гісторыю (Проза пра Слуцкі збройны чын)”, у якім Л. Сінькова аналізуе літаратурныя тэксты, натхнёныя Слуцкім паўстаннем. Гэтая важная ў гісторыі беларусаў падзея 1920 г., якая сімвалізуе іх імкненне да незалежнасці, стала канвой многіх беларускіх тэкстаў, і кожнага разу прымала іншую літаратурную форму.

Яе рэха мы знаходзім у аповесці “На чорных лядах” Васіля Быкава, у дакументальным рамане “Пляц волі” Алеся Пашкевіча, аповесці “Нічые” Андрэя Федарэнкі. У гэтых творах фактаграфічная, дакументальная інфармацыя арганізуе выказванне, а адсылкі да складанасці палітычнай сітуацыі ў Беларусі, частай змены межаў і статусу зямель, змены палітычных структур, да ідэі незалежнасці, якая стаяла ля вытокаў стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., дапамагаюць паказаць драматызм гісторыі Беларусі і дазваляюць зразумець сучасны вобраз народа. У гэтых тэкстах няма недахопу і ў элементах белетрыстычнага характару, якія дынамізуюць сюжэтную арганізацыю і ўплываюць на эстэтычна-стылістычнае аблічча твораў.

Змены ў плоскасці эстэтыкі, напрамкі развіцця беларускай літаратуры, пачынаючы з яе вытокаў да найноўшых часоў, – гэта тыя праблемы, якія з’яўляюцца прадметам разважанняў Л. Сіньковай у раздзеле “Дыскрэтным або бесперапынным было развіццё беларускай літаратуры?”. Выкарыстанне на ўзроўні загалоўка пытальнай формы не пакідае сумненняў у тым, што аўтарка будзе вельмі пільна прыглядацца да працэсаў, якія адбываюцца ў беларускай літаратуры, з вялікай асцярожнасцю і належнай дыстанцыяй фармулюючы тэзісы свайго даследавання. Цікава прадстаўляе Л. Сінькова самыя раннія этапы ў развіцці беларускай літаратуры – сярэднявечны перыяд, барока і класіцызм, звязаныя са з’явай гетэрагеннай, шматмоўнай літаратуры, развіццё якой раз-пораз перапынялася перыядамі застою[1]. Даследчыцу турбуе таксама факт літаратурных мод, гібрыдызацыі літаратурных формаў і жанраў, замена адных метадалогій іншымі, не заўсёды кампетэнтнымі ў

[1] Гэтай ключавой для разумення складанасці працэсаў у беларускай літаратуры праблематыцы прысвечаная манаграфія: Каваленка, *Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX-XX стагоддзяў.*

дадзеным кантэксце, а не пранікненне ў сутнасць тэксту, у тое, што вызначае яго каштоўнасць і ўніверсальнасць. Усё гэта, на думку аўтаркі, кіруе інтэрпрэтацыю няправільным шляхам: "Наша размаітае гісторыка-культурнае мінулае пачало падавацца менавіта не адэкватна, а рамантызавана, міфалагізавана – і ўжо комплексам нацыянальнай непаўнавартасці пачала называцца элементарная навуковая этыка, якая патрабуе як мага больш дэталёвага асэнсавання аб'екта вывучэння...".

Метадалагічныя праблемы ў даследаванні літаратуры Л. Сінькова разглядае таксама ў наступных нарысах: "Карэляцыя як метад у параўнальным вывучэнні літаратур" і "Метадалогія кампаратывістыкі паводле Евы Лявонавай". У гэтых працах дамінуе ўпэўненасць у вышэйшасці традыцыйных падыходаў і метадалогіі ў кампаратыўных даследаваннях, якія дазваляюць вывучэнне тэксту на розных узроўнях яго пабудовы. Такім чынам рашуча адхіляючы вульгарную карэляцыю як адзін з метадаў параўнальнага літаратуразнаўства, які вельмі часта зводзіцца да пошуку падабенстваў у фармальнай і структурна-жанравай плоскасці, пакідаючы па-за межамі навуковых інтарэсаў фундаментальную сутнасць праблем, што разглядаюцца ў аналізаваных тэкстах. Гэта прыводзіць да звужэння даследчага поля, а нярэдка кіруе інтэрпрэтацыю няправільным шляхам: "[...] адмаўленне ад традыцыйнай метадалогіі ў кампаратыўных даследаваннях на карысць карэляцыі рознажанравых, рознавідавых, рознастылёвых, розначасавых і рознакультурных з'яў шляхам спекулятыўнага (разумовага) збліжэння фармальных, маргінальных, вонкавых прыкмет вядзе да дэвальвацыі літаратуразнаўства як навукі". Спраўнае выкарыстанне інструментаў літаратурнай кампаратывістыкі дазваляе, у сваю чаргу, выйсці за рамкі традыцыйных інтэрпрэтацыйных схем, унесці новыя элементы ў тэарэтычныя разважанні над тэкстам ці групай тэкстаў. Кампаратыўная рэфлексія ўводзіць у арбіту даследаванняў пытанні міждысцыплінарнасці, адносін паміж літаратурай і мастацтвам, філасофіяй, рэлігіяй, грамадскімі навукамі, гісторыяй і інш., ставіць пытанні і ўвесь час спрабуе адказаць на іх. Гэта дазваляе пераходзіць межы традыцыйных прачытанняў, што нярэдка прыводзіць да нечаканых інтэрпрэтацыйных вынікаў.

Тры наступныя нарысы ў зборніку прысвечаны выбітным гісторыкам беларускай літаратуры – Івану Навуменку, Ігару Жуку і Аляксандру Баршчэўскаму, аўтарам шматлікіх значных манаграфій і навуковых артыкулаў на тэмы фундаментальных праблем беларускай літаратуры ў розныя этапы яе гістарычнага развіцця, з асаблівым акцэнтам на літаратуры XX стагоддзя. У першай працы "У творчай лабараторыі акадэмічнага літаратуразнаўства (Да 90-годдзя з дня нараджэння акадэміка Івана Навуменкі)" Л. Сінькова расказвае пра філалагічныя захапленні Івана Навуменкі, даследчыка беларускай літаратуры XX стагоддзя, акадэміка незвычайнай культуры слова, літаратурнага крытыка і пісьменніка: "90-годдзе з дня нараджэння акадэміка І. Навуменкі – гэта добрая нагода яшчэ раз перачытаць яго літаратуразнаўчыя працы і звярнуць увагу на тую метадалогію, паводле якой яны пісаліся. Прычым не столькі на нейкія прыёмы і аналітычныя алгарытмы, колькі перадусім на філалагічную культуру: успрымання, тлумачэння і інтэрпрэтацыі той беларускай літаратурнай класікі, якую даследаваў пісьменнік і навукоўца Іван Навуменка".

Праблемы, якія ўздымаў беларускі літаратуразнаўца, канцэнтраваліся, галоўным чынам, вакол творчасці класікаў беларускай літаратуры: Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Уладзіміра Жылкі, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, творчасць якіх ён аналізуе ў шырокім літаратурным кантэксце на літаратурным фоне спадчыны А. Пушкіна, А. Чэхава, М. Горкага, А. Купрына, У. Рэйманта, К. Гамсуна, С. Лагерлёф, Наваліса, В. Гётэ, Г. Сянкевіча, Т. Мана і інш. На думку Л. Сіньковай, гэтыя працы валодаюць выключнай, універсальнай навуковай каштоўнасцю, гэтаксама як і выкарыстаная

ў іх метадалогія, аналітычныя стратэгіі, філалагічная культура ў падыходзе да матэрыялу даследаванняў, а значыць, яны павінны быць вытокам натхнення для маладога пакалення літаратуразнаўцаў.

У падобнай канвенцыі ўтрымана наступная частка манаграфіі, прысвечаная гродзенскаму гісторыку літаратуры, выбітнаму знаўцу літаратурнай спадчыны Івана Навуменкі Ігару Жуку – "Навуковы стыль прафесара Ігара Жука. Жук, аўтар выдатных манаграфій: "Сустрэчны рух: літаратуразнаўчыя эцюды" (1998), "Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання" (2003) і "Прыхінуцца да крыніцы" (2017) – знаўца заходніх літаратуразнаўчых метадалогій, якія ён цаніў, але заўсёды ўжываў з вялікай асцярожнасцю, распрацаваў свой уласны стыль навуковага дыскурсу, смелы, заснаваны на пабудове шматлікіх гіпотэз і іх доказах, нярэдка метафарызаваны, але разам з тым празрысты ў паказанні ўзнятай праблемы: "[...] у адрозненне ад пазіцыі эсэіста, у І. Жука спрэс дамінуе суб'ектнасць, акадэмічная, прафесарская ацэначнасць, гіпотэза і яе абавязковая верыфікацыя, доказ. Найвыразная пазіцыя наратара, яго манапольны пункт гледжання на прадмет разваг". Л. Сінькова цэніць уменне гродзенскага літаратуразнаўцы выйсці па-за ўсталяваныя інтэрпрэтацыйныя схемы, трапнасць падбору цытат з аналізаваных тэкстаў для дакументацыі пастаўленых даследчыцкіх гіпотэз, няспынны пошук новай мовы выказвання.

Навуковая рэфлексія варшаўскага беларусіста, шматгадовага загадчыка кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта Аляксандра Баршчэўскага з'яўляецца тэмай наступнай часткі, якая носіць назву "Пазіцыя Аляксандра Баршчэўскага ў трактоўках біяграфіі і творчай спадчыны Уладзіміра Жылкі". А. Баршчэўскі, аўтар шматлікіх навуковых манаграфій і дзясяткаў артыкулаў, прысвечаных выбраным аспектам беларускай літаратуры, належыць да найбольш значных даследчыкаў літаратурнай спадчыны эміграцыйнага паэта У. Жылкі. Л. Сінькова падкрэслівае наватарства прац варшаўскага беларусіста, даследчую дапытлівасць, зварот да праблем, якія дагэтуль не прагучалі ў беларускім дыскурсе, выдатнае веданне архіўных матэрыялаў, дзякуючы якім літаратуразнаўца больш поўна прадстаўляе постаці беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: "Гэтая пазіцыя вельмі слушна актуалізуе, ставіць у новы кантэкст менш вядомыя факты з гісторыі нашай літаратуры – тыя, якія яшчэ не паспелі зрабіцца хрэстаматыйнымі ці ўвогуле былі ўведзены ва ўжытак адносна нядаўна".

У сферы навуковых зацікаўленняў Л. Сіньковай, закранутых у рэцэнзаванай манаграфіі, апынулася таксама літаратурная творчасць паэтаў і пісьменнікаў, згуртаваных у Беларускім літаратурным аб'яднанні "Белавежа", гісторыя якога сягае ў 1956 г. У нарысе "Пафас творчасці «белавежцаў» у сітуацыі беларуска-польскага памежжа" аўтарка спрабуе паразважаць над праблематыкай культурнага памежжа, уплыву гістарычных падзей на асобу, пытаннямі ідэнтычнасці, якія фарміруюцца на стыку "свой-чужы". Спасылаючыся на паэтычныя тэксты самых вядомых паэтаў і пісьменнікаў "Белавежы" (Віктара Шведа, Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Надзеі Артымовіч, Галіны Тварановіч), яна даказвае, што іх унёсак у развіццё беларускай літаратуры ўнікальны, а закранутыя ў іх творчасці гістарычныя і нацыянальныя праблемы з'яўляюцца неад'емнай часткай надзвычай патрэбнага беларусам дыскурсу ідэнтычнасці, які фарміруецца ў гэты самы момант.

Манаграфію завяршаюць працы, прысвечаныя лірыцы беларускіх эміграцыйных паэтаў: Янкі Юхнаўца і Макса Шчура, вобразу маці ў творчасці Максіма Багдановіча, архітэкстуальнаму аспекту прозы Сяргея Дубаўца, праблематыцы рэалізму і мастацкай умоўнасці ў прозе Васіля Быкава, а таксама перспектывам развіцця літаратуры ("Интеллектуальная лирика старшего (Янка Юхнавец) и младшего (Макс Щур) поколений белорусской эмиграции"; "«...І мела дзеўча выгляд маці... » (Вобраз маці ў творчасці Максіма Багдановіча)"; "Сюжэт з прозы Максіма Гарэцкага ў мастацкай рэцэпцыі Сяргея Дубаўца"; "Рэалізм і мастацкая ўмоўнасць у прозе Васіля Быкава (па апавяданні "Мурашкі", (2002); "Што будзе пасля "World of Tanks"?).

Сваю манаграфію Л. Сінькова завяршае роздумам пра пераўтварэнні, гібрыдызацыю і трансгрэсію жанраў, што прыводзіць яе да пытанняў: “Што будзе з літаратурай далей? Якая будучыня яе чакае?” Моцна тэарэтызаваная фінальная частка працы не пакідае сумненняў у тым, што аўтарка ўпэўненая: напрамкі развіцця літаратуры прадказаць немагчыма, а пастаяннае імкненне мастакоў выходзіць па-за межы, эксперыментаваць у плоскасці мовы, стылю, жанру можа прынесці не адзін здзіўляльны, хоць і не заўсёды жаданы вынік: “А ў прозе, а ў паэзіі колькі канцэптаў, тэкстаў ствараецца (хоць бы комікс “Дзікае паляванне” А. Глобуса паводле У. Караткевіча), але не разгортваецца ў дыскурсы – пакуль яшчэ... Але ж, як казаў Джэк Лондан, «Час-не-чакае»”!

Рэцэнзаваная манаграфія можа здзіўляць, а некаторых, магчыма, нават стамляць мноствам закранутых пытанняў і аспектаў. Але тое, што сведчыць пра яе каштоўнасць, – гэта, безумоўна, даследчая праніклівасць аўтаркі, метадалагічнае адзінства дыскурсу, зварот да шматлікіх крыніц і багатая бібліяграфія прадмета. Гэта зварот да новых праблем, дагэтуль слаба прысутных у плоскасці літаратуразнаўчых даследаванняў. Гэта новая мова: дыстансаваная, аб’ектыўная, яна дазваляе захаваць і апісаць змены, якія адбываюцца ў сучаснай літаратуры, дазваляе рэінтэрпрэтаваць многія з’явы, звязаныя з развіццём беларускай літаратуры XX і XXI стагоддзяў.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (104-109) за 2020 год


***Паэзія***

**Валянціна Аксак.** Евіны дочкі. *Вершы.* №106, 58

**Уладзімер Арлоў.** Каралева пінгвінаў. *Балада.* №106, 58

**Уладзімер Арлоў.** Апоўначы ў лонданскім доме. *Балада.* №108, 5

**Марыя Бадзей.** Мінуцыя. *Вершы.* №108, 109

**Міхал Бараноўскі.** Ахова птушак Бацькаўшчыны. *Вершы.* №105, 154

**Фелікс Баторын.** Падчас духоўнае зімы. *Вершы.* №108, 59

**Анатоль Брусевіч.** Слядамі Энея. *Вершы.* №104, 126

**Сяргей Ваганаў.** З "Нарачанскага сшытка". *Вершы.* №105, 127

**Мікола Гілевіч.** Як сон пра сон. Як верш пра верш. Як лёс пра лёс. *Вершы.* №107, 90

**Мікола Гіль.** Непазбежнасць. *З кніжкі ламентацый восеньска-зімовых суцемак.* №104, 106

**Аксана Данільчык.** Ціхія фарбы, ціхія гукі. *Вершы.* №106, 58

**Леанід Дранько-Майсюк.** Давыд-Гарадок–Менск. *З кнігі "Полька беларуская".* №105, 5

**Васіль Жуковіч.** Над кнігаю лёсаў. *Вершы.* №107, 27

**Васіль Жуковіч.** Лірыка жніўня. *Вершы.* №109, 105

**Сяргей Законнікаў.** Піке. *Паэма.* №107, 5

**Васіль Зуёнак.** Неба пасею... *Вершы.* №106, 5

**Артур Камароўскі.** Называй маё цела. *Вершы.* №108, 151

**Мікола Кандратаў.** На Божай далані. *Вершы.* №107, 58

**Андрэй Козел.** Пошук. *Версэты.* №109, 164

**Вадзім Корань.** Леташні сон. *Вершы.* №104, 146

**Валярына Кустава.** Беларуская Галгофа. *Вершы.* №105, 142

**Уладзімір Някляеў.** Вавукі. *Паэма.* №104, 5

**Уладзімір Някляеў.** Кніга лёсаў. *Паэма.* №105, 65

**Уладзімір Някляеў.** Ягайла. *Драматычная паэма ў дзвюх дзеях.* №109, 5

**Людміла Паўлікава-Хейдарава.** Спеў здарожанай душы. *Вершы.* №104, 65

**Анхела Эспіноса Руіс.** З Сатурнавай кішэні. *Вершы.* №107, 79

**Віктар Слінка.** Друзачкі адзор'яў. *Вершы.* №108, 88

**Аксана Спрынчан.** Цвік. *Вершы.* №105, 94

**Генадзь Тумаш.** Мы – Пагонічы. *Вершы.* №107, 44

**Антаніна Хатэнка.** Лучво. *Вершы.* №109, 68

**Віктар Ярац.** Дыхнуць чысцінёю. *Вершы.* №106, 45

**Віктар Ярац.** Уверцюра прадвесня. *Вершы.* №109, 142

***Проза***

**Людміла Андзілеўка.** Разводдзе. *Фантасмагорыя.* №106, 79

**Алена Брава.** Міра і Міранда. *Апавяданне.* №107, 35

**Анатоль Бутэвіч.** Ноч без сонца. *Апавяданне.* №108, 103

**Алесь Бычкоўскі.** Час разумнікаў. *Апавяданне.* №109, 152

**Віктар Варанец.** Сэкс, кнігі і каханне. *Аповесць.* №109, 48

**Алена Васілевіч.** Групавы партрэт з Мамлакат Нахангавай. *Апавяданне.* №105, 135

**Янка Вольская.** Празмернае ўжыванне алкаголю шкодзіць вашаму здароўю. *Пераднавагодняя аповесць.* №109, 112

**Адам Глобус.** Не спраўдзілася. *Апавяданне.* №105, 149

**Генрых Далідовіч.** Каранацыя. *Раздзел з другой часткі рамана "Кліч роднага звона".* №105, 14; №106, 65

**Міхась Зізюк.** Вясковыя гісторыі. №104, 115

**Віктар Казько.** Нашчадкі казённага лёсу. *Аповесць.* №104, 72; №105, 100

**Сяргей Календа.** Браты Галівуд. *Апавяданне.* №107, 95

**Павал Каспяровіч.** Соль. *Тры апавяданні.* №107, 67

**Паліна Качаткова.** Орша. Вуліца Караткевіча. *Апавяданне.* №107, 84

**Артур Клінаў.** Локісаў. *Фрагмент з рамана.* №105, 71

**Леанід Левановіч.** Пчаліная вернасць. *Апавяданне.* №104, 130

**Аляксандар Лукашук.** Маскарад. *Апавяданне.* №107, 22

**Барыс Пятровіч.** Пуцявіна. *Аповесць.* №104, 10

**Барыс Пятровіч.** Наіўны дэтэктыў. *Гісторыя аднаго забойства.* №108, 18

**Сяргей Рублеўскі.** Дзень першы, дзень святочны... *Два апавяданні.* №108, 115

**Уладзімір Садоўскі.** Менск 1937. *Урывак з рамана.* №109, 80

**Павел Севярынец.** Беларусалім. Сэрца святла. *Фрагменты з рамана.* №106, 53

**Франц Сіўко.** Месяц-месячыку ясны. *Апавяданне.* №107, 48

**Іна Снарская.** Бабуліна пуховая хустка з падпалінамі. *Аповесць з аповедаў.* №108, 64

**Уладзімір Сцяпан.** Тры яблыкі. *Навелы.* №106, 13

**Вітаўт Чаропка.** Чалавек без імя. *Апавяданне.* №105, 162

***Дэбют***

**Мікіта Волкаў.** Дзедава калыханка. *Урывак з радаводнай аповесці.* №108, 159

**Яніна Грыцкевіч.** Сублімацыя. *Вершы.* №108, 170

**Кася Іофе.** Акварэль у клетачку. *Вершы.* №109, 168

**Ксенія Калашнікава.** Гонка. *Навела.* №107, 99

**Ксенія Крывецкая.** Нарадзіцца нанова. *Апавяданне.* №104, 152

**Павел Любецкі.** Паспрабуй выжыць, Ганоцры. *Вершы.* №105, 168

**Анастасія Макоўская.** Канцэпцыя Вялікага злодзея. *Новае прачытанне раманаў «Злачынства і пакаранне» Фёдара Дастаеўскага і «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага.* №107, 102

**Віталь Шыёнак.** Нязломак. *Аповед.* №106, 94

***Пераклады***

**Эліза Ажэшка.** Гекуба. *Навела. Пераклад Анатоля Бутэвіча.* №106, 128

**Інгер Бротвайт.** Гэта таксама вада. *Эсэ. Пераклад з ангельскай Ганны Комар.* №108, 177

**Дзіцячыя татуіроўкі. *Сучасная руская паэзія.*** Наталля Саннікава – 113; Фёдар Свароўскі – 117; Андрэй Сэн-Сэнькоў – 123. *Пераклад Андрэя Хадановіча.* №107

**Вячаслаў Казакевіч.** Цені на пагорку. *Два апавяданні. Пераклад Веры Лойка.* №107, 129

**Вячаслаў Лявіцкі.** Каштанавая элегія. *З «Менскага цыклу». Пераклад Сержа Мінскевіча.* №104, 164

**Дзмітро Паўлычка.** Аняменне айкумены. *Вершы. Пераклад Міхася Скоблы.* №104, 157

**Дзмітры Плакс.** «Прывітанне, раскажыце пра шведаў...» *Пераклады сучаснай шведскай паэзіі.* №106, 122

**Ільма Ракуза.** Мастацтва складанай простасці. *Водгукі на кнігі Алеся Разанава, што выходзілі па-нямецку. Пераклад Ірыны Герасімовіч.* №107, 141

**Міхайла Слабашпіцкі.** Ваш і наш Быкаў. *Пераклад Таццяны Кабржыцкай.* №106, 141

**Аўром Суцкевер.** Дзіцячыя далонькі. *Апавяданні. Пераклад Фелікса Баторына.* №109, 176

**Оскар Ўайлд.** Балада Рэдынгскай турмы. *Фрагменты. Пераклад з ангельскай Галіны Дубянецкай.* №108, 183

**Валтс Эрнштрэйтс.** Старажытная зямля. *Вершы. Пераклад Андрэя Хадановіча.* №105, 172

**Кірылс Эціс.** Прыгажосць – не проста з'ява. *Вершы. Пераклад Уладзя Лянкевіча.* №105, 179

***Тэатр***

**Сяргей Кавалёў.** Шляхціц Завальня, або Беларусь Яна Баршчэўскага. *П'еса ў 2-х дзеях паводле твораў Яна Баршчэўскага.* №109, 185

***Юбілеі. Памяць. Спадчына. Архівы***

**Уладзімір Караткевіч.** Дарагі Валодзя, Уладзімір, Ладысь, Ладымер... *Невядомыя лісты Уладзіміра Караткевіча да Уладзіміра Лучука. Прадмова, падрыхтоўка да друку і каментар Вячаслава Рагойшы.* №108, 188

**Вера Міхно.** «Журнал». *Памяці Уладзіміра Міхно.* №107, 183

**Юрась Свірка.** Янчуры. *Аўтэнтычная паэма роду.* №106, 146

**Са слязьмі на вачах і болем у сэрцы.** *Згадваючы Пятра Васючэнку.* Лявон Баршчэўскі – 152; Ніна Здановіч – 159; Сяргей Кавалёў – 164; Уладзімір Сіўчыкаў – 169; Алесь Усеня – 177. №107

**Кастусь Тарасаў.** Ветах. *Малюнкі з дзяцінства.* №104, 201

***Дзённікі. Запісы. Згадкі***

**Валянцін Акудовіч.** «Фрагменты». *З новай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)». (Працяг).* №104, 184

**Валянцін Акудовіч.** Мы сустрэліся на будоўлі Вавілонскай вежы. *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)". (Працяг).* №105-106; 205, 181

**Валянцін Акудовіч.** На рыштаваннях горада Сонца. *З новай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)». (Працяг).* №107-109; 199, 233, 230

**Вольга Бабкова.** Старыя нататнікі. №108, 218

**Леанід Дранько-Майсюк.** Апошні красавік. *Старонкі з «Памятнай кніжкі».* №109, 220

**Уладзімір Караткевіч.** Калі змаўкаюць зязюлі... *З запісных кніжак – 1984.* №108, 202

**Альжбета Кеда.** Антанёва. *Старонкі з новай кнігі.* №104, 194

**Уладзімір Ліпскі.** Усякі дзень апошні. *Дзённік.* №106, 146

**Уладзімір Мароз.** Кантрабандыст. *З аповедаў жыцця.* №105, 185

**Уладзімір Сіўчыкаў.** Новыя крыніцы. *З нізкі «Уладзевы гісторыі».* №105, 192

***Словы***

**Альда Анараці.** Слава – гэта дым, што хутка развейваецца. *Гутарка пра італьянскую літаратуру і не толькі.* №104, 171

***Эсэ***

**Адам Глобус.** Цой. *Словы пра рок-зорку.* №109, 215

***Мастацтва***

**Галіна Багданава.** Сем грахоў – сем прыступак да ўратавання. *Штрыхі да творчага партрэта Івана Арцімовіча.* №107, 196

**Адам Глобус.** Яня. *Словы пра мастачку Яню Зельскую.* №107, 191

**Адам Глобус.** Валодзя. *Словы пра жывапісца Уладзіміра Ісачанку.* №108, 212

**Уладзімір Сіўчыкаў.** Пацалаваны сонцам. *Штрыхі да творчага партрэта Алеся Ксёндзава.* №104, 218

***Кантэкст***

**Вялікае Княства паэзіі Алеся Разанава.** *Галасы з Літвы. Пераклад Галіны Лінкевіч.* №104, 177

***Прачытанне***

**Марыя Антанас.** З душы матулі. *Словы пра Ніну Мацяш.* №108, 251

**Васіль Дранько-Майсюк.** Пятрусь Броўка і яго пошук страчанага спакою. №106, 170

**Алена Лепішава.** Terra Incognita беларускай літаратуры. *Рэфлексія на новыя кнігі Змітра Вішнёва і Альгерда Бахарэвіча.* №109, 246

**Ева Лявонава.** «Душа ўсё яшчэ расце...» *Семантыка біблейскіх алюзій у кнігах Леаніда Галубовіча «З гэтага свету» і «Поўня».* №107, 218

***Кнігапіс***

**Леанід Галубовіч.** «Жыццё ў нетрах літаратуры». *Рэцэнзія на кнігу Паўла Абрамовіча «Мой способ чытання». №104,* 234

**Леанід Галубовіч.** Святло высокай поўні. *Рэцэнзія на кнігу Міхася Андрасюка "Поўня".* №105, 228

**Эдуард Дубянецкі.** Выратавальны паэтычны сад. *Рэцэнзія на кнігу Святланы Явар «Дзівосны сад».* №104, 229

**Сяргей Кураш.** Нябеснае ў зямным. *Рэцэнзія на кнігу Генадзя Лапаціна «Поделиться небом».* №106, 243

**Марыя Новік.** «Нябёсы зямлю не пакінуць...» *Пра кнігу Дануты Бічэль «Гускі вяртаюцца».* №107, 232

**Зміцер Паўлавец.** Пра Скарыну пановаму і нечакана. *Рэцэнзія на кнігу Сяргея Абламейкі «Нечаканы Скарына».* №105, 222

**Бэата Сівэк.** Узровень праўды. *Рэцэнзія на кнігу Людмілы Сіньковай.* №109, 255

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бычкоўскі Алесь** – празаік. Аўтар кніг «Горад за 101-м кіламетрам», «У пошуку шчасця», «Анамалія», «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры», «Ахвяры натхнення» і інш. Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Беразіно на Міншчыне, дзе і жыве.

**Варанец Віктар** – празаік. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі «Рамізнік». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Вольская Янка** – празаік, паэтка. Студэнтка ўнівэрсітэта Вітаўта Вялікага (Літва). Лаўрэатка конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтру да 100-годдзя Л.Геніюш (2010). Выпускніца Школы маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне.

**Іофе Кася (Кацярына Навінскі)** – паэтка, празаік. Выпускніца Ліцэя БДУ (філалогія), дыпламаваны медыцынскі псіхолаг (БДУ), арт-тэрапеўт. Апошнія тыдні, з канца ліпеня, занятая валанцёрскай дапамогай ахвярам гвалту і катаванняў у Беларусі. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Козел Андрэй** – паэт. Скончыў «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка». Творы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», газеце «ЛіМ», пераклады ў газеце «Рэспубліка». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў пасёлку Навагарадзейскі на Нясвіжчыне. Жыве ў Нясвіжы.

**Мікіта Віктар** – мастак. Працуе пераважна ў кніжнай, станкавай графіцы, камбінаванай тэхніцы, а таксама ў жывапісе. Аформіў шэраг кніг беларускіх і замежных аўтараў. Творы знаходзяццца ў Нацыянальным мастацкім музее, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага мастацтва, літаратурных музеях Я. Коласа, Я. Купалы, А. Міцкевіча, у Расійскай акадэміі мастацтваў, а таксама ў прыватных калекцыях у Германіі, Швейцарыі, Кітаі, Фінляндыі, Эстоніі, Расіі. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Садоўскі Уладзімір** – празаік. Аўтар кніг «1813», «Проста фантастыка». Апавяданні друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Дзеяслоў», газеце «ЛіМ». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Куйбышаве (цяпер Самара) у Расіі. Жыве ў Маладэчне.

**Сівэк Бэата** – літаратуразнаўца. Доктарка хабілітаваная, загадчыца Кафедры рускай, украінскай і беларускай літаратур Каталіцкага люблінскага ўніверсітэта Яна Паўла ІІ. Аўтарка кніг: «Ojczyzna duża i mała. Poeci Białoruskiego Stowarzyszenia "Białowieża" wobec problematyki ojczyźnianej», «Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze». Нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Краснэ Поле на Апольшчыне (Польшча). Жыве ў Любліне.

**Суцкевер Аўром** – габрэйскі пісьменнік. Вершы пачынаў складаць на мове іўрыт, але ў 1930 годзе ўступіў у моладзевую габрэйскую арганізацыю скаўтаў «Бін», у якой панавала мова ідыш, што і стала галоўнай творчай мовай пісьменніка. Аўтар кніг паэзіі «Лідэр» («Вершы»), «Валдыкс» («Лясное»). У часе Другой сусветнай, трапіўшы ў Віленскае гета, актыўна ўключыўся ў рух Супраціўлення. Выступаў як сведка гітлераўскіх злачынстваў на Нюрнбергскім працэсе. Удзельнічаў у вайне за незалежнасць Ізраіля. Лаўрэат прэміі імя І. Мангера за лепшы твор на ідыш (1969), прэміі Галавы ўрада дзяржавы Ізраіль (1976), Дзяржаўнай прэміі Ізраіля (1985) і інш. Нарадзіўся ў 1913 годзе ў Смаргоні. Памёр у 2010 годзе ў Тэль-Авіве.

**Хатэнка Антаніна** – паэтка, культуролаг. Аўтарка кніг «Здзічэлае рэха вясны», «Зніч крыжовых дарог», «Чалавек на далоні Сусвету», «Тры грацыі» і інш. Нарадзілася ў 1956 годзе ў вёсцы Зенькаўцы на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Ярац Віктар** — паэт, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен», «Зямныя эцюды» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Красны мост на Рэчыччыне. Жыве ў Гомелі.

# Contents

***POETRY***

**Uładzimir Niaklajeŭ.** Jogaila. *A dramatic poem in two acts.*
**Antanina Khatenka.** Luchvo. *Poems.*
**Vasil Žukovič.** The Lyric of August. *Poems.*
**Viktar Jarac.** Overture of the Spring Eve. *Poems.*
**Andrej Kozel.** The Search. *Versets.*

***PROSE***

**Viktar Varaniec.** Sex, books and Love. *A story.*
**Uładzimir Sadoŭski.** Miensk 1937. *An excerpt from the novel.*
**Janka Volskaja.** Alcohol Abuse Is Dangerous for Your Health. *A New Year Eve story.*
**Aleś Byčkoŭski.** The Time of the Smart Ones. *A short story.*

***DEBUT***

**Kasia Iofe.** Checkered Watercolor. *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**Abraham Sutzkever.** Children's Hands. *Short stories. Translated by Fieliks Batoryn.*

***THEATRE***

**Siarhiej Kavaloŭ.** Nobleman Zawalnia, of Belarus of Jan Barszczewski.
*A play in two acts based on the works by Jan Barszczewski.*

***ESSAY***

**Adam Hłobus.** Tsoi. *Words about the rock star.*

***NOTES***

**Leanid Drańko-Majsiuk.** The Last April. *Pages from the «Memory Book».*

***MEMORIES***

**Valancin Akudovič.** On Scaffolds of the Sun City. *From the new book «One Must Imagine Sisyphus Happy». (The Chronicles of a Belarusian Intellectual). (Ending).*

***PERUSAL***

**Alena Lepišava.** Terra Incognita of the Belarusian Literature.
*A reflection to the new books by Zmicier Višnioŭ and Alhierd Bakharevič.*

***BOOKRONCLE***

**Beata Sivek.** The Level of Truth. *A review of the book by Ludmila Sińkova.*

***DZIEJASŁOŬ'S STOCK***

*New books on **DZIEJASŁOŬ's** shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.